ЗАВОЧНІК БЕЛАРУСІ

сэрыя

# ЗАВОЧНЫ КОМВУЗ

ШТОМЕСЯЧНАЯ
ЧАСОПІСЬ
ІНСТЫТУТУ
МАСАВАГА
ЗАВОЧНАГА
НАВУЧАНЬНЯ
ПАРТАКТЫВУ
пры ЦК КП(б)Б

ВЫДАНЬНЕ II-е
ПЕРААПРАЦАВАНАЕ

КУРС
ПАДРЫХТОЎЧЫ
і ПЕРШЫ



БЕЛАРУСКАЕ
ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА

№ 1

ІНСТЫТУТ МАСАВАГА ЗАВОЧНАГА НАВУЧАНЬНЯ
ПАРТАКТЫВУ пры ЦК КП(б)Б




ЗАВОЧНІК БЕЛАРУСІ

СЭРЫЯ

# ЗАВОЧНЫ КОМВУЗ

ВЫДАНЬНЕ II-е
ПЕРААПРАЦАВАНАЕ

КУРС ПАДРЫХТОЎЧЫ І ПЕРШЫ

№ 1
ЧЭРВЕНЬ



МЕНСК
БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА 1931

## АД РЭДАКЦЫІ.

У пастанове ЦК партыі ад 16/V-27 г. было адзначана, што „пры ўсіх дасягненьнях у галіне політасьветы ў партыі і комсамоле сучаснае яго становішча яшчэ далёка ад здавальненьня ўзросшых запатрабаваньняў, якія прад'яўляюцца як складанасьцю пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР і міжнароднай рэволюцыйнай барацьбы, так і агульным падвышэньнем політычнага і культурнага ўзроўню ўсёй масы членаў і кандыдатаў партыі і комсамолу“.

З таго часу была праведзена партыяй і комсамолам досыць значная работа па політычнай асьвеце і марксыцка-ленінскім выхаваньні комуністаў і комсамольцаў. У выніку гэтага мы маем цяпер значнае імкненьне да павышаных форм марксыцка-ленінскае вучобы.

Складаныя задачы комуністычнага кіраваньня патрабуюць, каб сотні і тысячы рабочых і сялян, якія толькі 2—3 гады таму назад далучыліся да політычнага жыцьця, уступілі ў шэрагі комуністычнае партыі, цяпер былі ўцягнуты ў вышэйшую партыйную асьвету. Вывучаць марксызм-ленінізм яны жадаюць ужо не на падставе элемэнтарных падручнікаў і брошур, а шляхам самастойнай прапрацоўкі твораў Маркса, Энгельса і Леніна.

Побач з гэтым асноўным пластом партыйцаў, якія налічваюцца тысячамі, імкнуцца да паглыбленага вывучэньня грамадзка-політычных дысцыплін пропагандысты, масавікі-агітатары, політасьветнікі і ўсе тыя таварышы, якія складаюць так званы нізавы і сярэдні ячэйкавы і раённы партактыў.

Шматлікія кадры кіруючага актыву партыйных і комсамольскіх організацый, профактыў і кіраўнікі ўстаноў таксама імкнуцца падвесьці пад сваю практыку базу марксыцка-ленінскай тэорыі. Але гэта імкненьне да вышэйшай політычнай асьветы ня можа здаволіць існуючая школьна-курсавая сетка партасьветы. З кожным годам павялічваецца колькасьць жадаючых папасьці на вучобу ў комвузы, а тут прыходзіцца натыкацца на параўнальна нязначную колькасьць месц, якія даюцца комвузамі па разьвёрстцы.

Не спадзяючыся быць камандыраванымі на вучобу ў Комвуз, шмат таварышоў зусім не падымаюць пытаньня перад організацыяй аб сваёй камандыроўцы.

Пры тым вялізарным культурным росьце, які наглядаецца сярод шырокіх мас працоўных і які прымушае больш грунтоўна працаваць

над аўладаньнем марксыцка-ленінскай тэорыяй асноўныя масы партактыву, з асабліваю вострасьцю ставіцца пытаньне аб тэорэтычнай падрыхтоўцы кіруючага партактыву.

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 1 кастрычніка 1930 г., „адзначаючы нездавальняючае становішча тэорэтычнай вучобы кіруючага партактыву, зварочвае ўвагу ўсіх організацый на задачу 100% ахопу марксыцка-ленінскай вучобай актыву, захоўваючы добраахвотнасьць выбару форм вучобы.

ЦК лічыць неабходным прадаставіць для заняткаў актыву, апрача поўнага выкарыстаньня дзён адпачынку, яшчэ да 5 вечароў у месяц“.

Неабходнасьць добрай тэорэтычнай падрыхтоўкі для шырокіх кадраў партыйнага актыву выклікаецца таксама і тэй рашучай барацьбой, якая вядзецца з праявамі опортуністычных ухілаў на практыцы.

Але як вырашыць пытаньне аб тэорэтычнай вучобе парткадраў, калі штодзенная барацьба за пабудову соцыялізму не дазваляе адрываць ад вытворчасьці і практычнай работы значнай большасьці комуністаў?

Пры гэтых умовах завочнакурсавое навучаньне па комвузаўскай програме і зьяўляецца тэй формай, якая найбольш поўна можа задаволіць важнейшыя запатрабаваньні ў тэорэтычнай вучобе ня толькі самых шырокіх пластоў партыйцаў, комсамольцаў, але і кіруючага партактыву.

Вось чаму Цэнтральны камітэт партыі даў дырэктыву комвузам шырэй, чым да гэтага часу, разгортваць завочнае навучаньне.

Выходзячы з гэтае дырэктывы, кіраўніцтва Ком. унівэрсытэту Беларусі правяло адпаведную рэорганізацыю ЗКУ ў Завочнакурсавы сэктар КУБ'а і з 1 лістапада 1930 году прыступіла да выданьня часопісі „Завочны Комвузавец“.

Гэта выданьне аналёгічна „Завочнаму Ком. унівэрсытэту“ які, выдаецца Маскоўскім і Ленінградзкім комвузамі.

Рэдакцыя спадзяецца, што ў будаўніцтве завочнага навучаньня актыўны ўдзел прымуць праз гэтую часопісь ня толькі пэдагогічныя кадры Комвузу, але і самі студэнты Завочнакурсавога сэктару праз аддзел „Перапіска з завочнікамі“, і што супольнымі сіламі слухачоў і выкладчыкаў будзе выканана пастаўленая партыяй задача—узброеньня марксыцка-ленінскай тэорыяй шырокіх партыйных кадраў.

Другое выданьне першага нумару „Завочнік Беларусі“, сэрыя „Завочны Комвуз“, зьяўляецца пераапрацаваным у параўнаньні з выданьнем 1930 г. і адрозьніваецца ад апошняга ўключэньнем вучэбнадапаможнага матэрыялу па гісторыі рэволюцыйнага руху, географіі і програм па асноўных прадметах падрыхтоўчага аддзяленьня.

# СЫСТЭМА І МЭТОД ЗАВОЧНАГА НАВУЧАНЬНЯ ПА КОМВУЗАЎСКАЙ ПРОГРАМЕ.

## Роль часопісі „Завочнік Беларусі“.

Завочна-курсавы сэктар Комвузу Беларусі імя Леніна праводзіць завочнае навучаньне праз часопіс „Завочны Комвуз“, якая выдаецца Інститутам масавага завочнага навучаньня партактыву пры ЦК КП(б)Б.

У мінулым ЗКС праводзіў навучаньне па часопісі на расійскай мове, выданьне АПА ЦК УсеКП(б), Сьвярдлоўскага і Ленінградзкага ЗКУ. Выданьне ўласнай часопісі на белмове выклікаецца неабходнасьцю ўключыць у програму ЗКС матэрыял аб гістарычным разьвіцьці і будаўніцтве Савецкае Беларусі, гісторыі компартыі на Беларусі і г. д.

Часопісь—гэта асноўны падважнік, праз які ЗКС кіруе самастойнай працай завочнікаў. У часопісі зьмяшчаюцца ўсе заданьні і мэтодычнае кіраўніцтва завочным навучаньнем. Часопісь „Завочнік Беларусі“ будзе грунтавацца на вопыце старэйшых часопісяй ЗКУ іншых рэспублік, прыстасоўваючыся да ўмоў Беларусі. Да выпрацоўкі заданьняў і мэтодычнага кіраўніцтва прыцягваюцца лепшыя кваліфікаваныя выкладчыцкія сілы Комвузу Беларусі імя Леніна і іншых вышэйшых навучальных устаноў г. Менску.

Часопісь „Завочнік Беларусі“ друкуе на сваіх старонках ня толькі заданьні для самастойнай прапрацоўкі, але і лекцыі па цэлым шэрагу тэм.

Акрамя таго ў часопісі будзе зьмяшчацца матэрыял організацыйна-мэтодычнага характару: артыкулы на тэму аб мэтодзе работы над кнігай і г. д.

Праз часопісь мае весьціся праца і па консультацыі завочнікаў, Комвуз адказвае, звычайна, лістамі, але адказы на пытаньні, якія могуць выклікаць агульную зацікаўленасьць, друкуюцца ў часопісі.

Кожны завочнік у абавязковым парадку павінен падпісацца на часопісь „Завочнік Беларусі“, дзе зьмешчаны нашы заданьні і паказан парадак іх распрацоўкі.

Часопісь „Завочнік Беларусі“ выходзіць у 2 сэрыях:

Першая сэрыя—„Завочны Комвуз“, другая сэрыя—„Завочная СПШ і Завочны Комсамольскі Унівэрсытэт“.

Сэрыі часопісі выходзяць штомесячна, а на працягу ўсяго навучальнага году выйдзе 10 нумароў.

*Пры падпісцы неабходна паказаць, на якую вы падпісваецеся сэрыю.*

Падпіска прымаецца як Менскай, так і мясцовай паштовымі канторамі, штатнымі і няштатнымі агенцтвамі, лістаносцамі-кальцавікамі і ўпоўнаважанымі на гэта поштай асобамі.

Кошт усяго выданьня 7 р. 50 к., але гэта сума можа быць растэрмінована.

Пры падпісцы з паказаньнем свайго дакладнага адрасу даецца задатак у суме 1 руб. 50 к., аб чым паштовымі організацыямі выдаецца квіток. Кожны нумар часопісі каштуе 75 к. плюс паштовыя выдаткі. Часопісі высылаюцца накладным плацяжом, прычым апошнія два нумары дасылаюцца бясплатна за кошт задатку.

З усімі скаргамі на ненормальнае атрыманьне часопісі трэба зварочвацца непасрэдна на пошту па месцы падпіскі або ў Цэнтральную Менскую паштовую кантору (Менск, Ленінская, 34, Газэтнае бюро).

## Віды завочнакурсавой вучобы.

Завочнакурсавы сэктар падзяляецца на 3 аддзяленьні:

а) падрыхтоўчае,—

б) завочна-курсавыя, якія працуюць па програмах дзённага КУБ'а,—

в) прадметнага навучаньня.

### Аддзяленьне падрыхтоўчае.

Звычайна недастатковы агульнаадукацыйны ўзровень паступаючых на завочна курсавы сэктар КУБ'а перашкаджае завочнікам пасьпяхова ахапіць і ўсвоіць вучэбны матэрыял па грамадзкіх дысцыплінах. Выкладаньне агульнаадукацыйных дысцыплін на першым курсе перагружае вучэбны плян КУБ'а шматпрадметнасьцю, якая таксама ня спрыяе пасьпяховай вучобе завочнікаў. З гэтаю мэтаю таварышы, якія паступаюць у Завочны комвуз і ня маюць агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі, у абавязковым парадку праходзяць курс падрыхтоўчага аддзяленьня Комвузу *).

*) Па програме гэтага курсу праводзіцца, як падрыхтоўка завочнікаў, якія маюць недастатковую агульнаадукацыйную падрыхтоўку, так і дакомвузьнікаў.

Выключэньне робіцца толькі для скончыўшых саўпартшколу другой ступені.

Курс падрыхтоўчага аддзяленьня разьлічаны на 8 мес. завочнай вучобы па 60 гадз. у месяц і на 3 дэкады клясных заняткаў.

Навучальны плян падрыхтоўчага аддзяленьня мае наступны выгляд:

| №№ п/ч. | НАЗВА ПРАДМЕТАЎ | Завочнае | | Курсавое | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Заданьне і лекц. мат. | Па радыё | Установ. конфэр. | Вынікі конфэр. | |
| 1 | Беларуская мова | 100 | 16 | 26 | 24 | 166 |
| 2 | Расійская мова | 96 | — | — | 24 | 120 |
| 3 | Фізычная і палітычн. географія | 84 | 16 | 20 | 32 | 152 |
| 4 | Матэматыка | 92 | 16 | 20 | 36 | 164 |
| 5 | Бягучая палітыка | — | 10[1]) | 4 | 16 | 30 |
| 6 | Мэтодыка самастойнай работы | — | 10[1]) | 10 | — | 20 |
| | Усяго | 412 | 68 | 80 | 152 | 712 |

## Завочнакурсавое аддзяленьне.

Ёсьць два завочна-курсавыя аддзяленьні, партбудаўніцтва — для падрыхтоўкі кіруючых працаўнікоў райкомаў, гаркомаў і буйных партколектываў—і пропагандыцкае з двума цыклямі—гістарычным і эканомічным—для падрыхтоўкі пропагандыстаў—выкладчыкаў грамадазнаўчых прадметаў.

Поўны курс гэтых аддзяленьняў разьлічаны на 3 гады. Навучальны плян будуецца такім чынам, каб скончыўшыя першы курс завочна-курсавога навучаньня маглі-б бяз іспытаў перайсьці на другі курс асноўнага аддзяленьня комвузу, скончыўшыя другі—таксама бяз іспытаў перайсьці на трэці курс.

Навучальны год на завочна-курсавых аддзяленьнях роўны 11 месяцам, з іх 10 месяцаў адводзіцца завочнаму навучаньню, а месяц—курсавому навучаньню пры КУБ'е.

Скончыўшыя аддзяленьні ЗКС прыроўніваюцца да скончыўшых аддзяленьні дзённага Комвузу.

1) „Бягучая палітыка" і „мэтодыка самастойнай работы" перадаюцца па радыё па аднолькавай програме як для падрыхтоўчага, так і для першага курсаў.

**Па завочна-курсавых аддзяленьнях вызначан наступны навучальны плян:**

**Першы курс.**

| №№ п/ч. | НАЗВА ПРАДМЕТАЎ | Завочнае: Задан. і лекцыйны мат. | Завочнае: Па радыё | Курсавое: Установ. конфэр. | Курсавое: Вынік. конфэр. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Гісторыя кляс. бар. на Зах., Усх. і ПАЗШ . . . . . . . . . | 150 | 20 | 24 | 38 | 232 |
| 2 | Гіст. народ. СССР . . . . . . | 120 | 10 | 18 | 26 | 174 |
| 3 | Палітэканомія. . . . . . . . | 164 | 10 | 30 | 46 | 250 |
| 4 | Бягучая палітыка . . . . . . | 20 | 10 | 4 | 8 | 42 |
| 5 | Мэтод самаст. работы . . . . . | — | 10 | 4 | — | 14 |
| 6 | Прыродазнаўства з вытворчым ухілам | 86 | — | — | 24 | 110 |
| 7 | Устаноўка для работы на 2 курсе . | — | — | — | 10 | 10 |
| | Усяго . . . | 540 | 60 | 80 | 152 | 832 |

**Другі курс.**

| №№ п/ч. | НАЗВА ПРАДМЕТАЎ | Завочнае: Задан. і лекцыйны мат. | Завочнае: Па радыё | Курс.: 3 дэкады | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Тэорыя саўгас. і эконом-палітыка . | 88 | 10 | 54 | 152 |
| 2 | Гіст. УсеКП(б) і КП(б)Б . . . . | 196 | 16 | 60 | 272 |
| 3 | Асновы тэхнікі . . . . . . . | 60 | 10 | 30 | 100 |
| 4 | Гісторыя Беларусі . . . . . . | 40 | 10 | 20 | 70 |
| 5 | Спэц. падрыхтоўка . . . . . . | 34 | — | 16 | 50 |
| 6 | Дыялект. матэрыялізм . . . . . | 118 | 10 | 32 | 160 |
| 7 | Бягучая палітыка . . . . . . | — | 8 | 10 | 18 |
| 8 | Устаноўка для работы на 3 курсе | — | — | 10 | 10 |
| | Усяго . . . | 536 | 64 | 232 | 832 |

**Трэці курс.**

| №№ п/ч. | НАЗВА ПРАДМЕТАЎ | Завочнае | | Курс. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Зада-ньне і лекц. мат. | Па радыё | 3 дэкады | |
| 1 | Экономгеографія (агульная і Беларусі) | 110 | 10 | 30 | 150 |
| 2 | Гісторыя Комінтэрну . . . . . | 80 | 6 | 20 | 106 |
| 3 | Рэконструкц. с. г. СССР і БССР. . | 60 | 10 | 34 | 104 |
| 4 | Ленінізм . . . . . . . . . | 154 | 10 | 36 | 200 |
| 5 | Парт. і сав. будаўніцтва . . . . | 70 | 10 | 44 | 124 |
| 6 | Спэцпадрыхтоўка і практ. . . . . | 60 | 10 | 50 | 120 |
| 7 | Бягучая політыка . . . . . . | — | 10 | 18 | 28 |
| | Усяго . . . | 534 | 66 | 232 | 832 |

Чым адрозьніваюцца вышэйпрыведзеныя пляны ад ранейшых вучэбных плянаў.

Па-першае, трэба адзначыць, што ў новых вучэбных плянах адбіўся паварот „тварам да тэхнікі“. Ужо на падрыхтоўчым курсе адводзіцца 60 гадзін для тэхнічнага мінімуму. У програму 1 курсу ўводзіцца „прыродазнаўства з вытворчым ухілам“. На 2 курсе на „асновы тэхнікі“ адводзіцца 100 г.

Калі ўлічыць, што такія дысцыпліны, як: „рэконструкцыя сельскае гаспадаркі СССР і БССР“, якой адводзіцца 104 гадзіны, і „спэц. падрыхтоўка“ (170 гадзін) таксама будуць у некаторай ступені датыкацца пытаньняў тэхнікі, дык становіцца яскравым, які рашучы паварот зроблены ў напрамку большай політэхнізацыі і спэцыялізацыі вучэбнага пляну ЗКУ.

У сувязі з перабудовай сыстэмы завочнага навучаньня значна пашыраецца ахоп гэтай сыстэмай партыйна-комсамольскага актыву. Гэта выклікае ня толькі некаторыя зьмены ў навучальным пляне, але таксама і ва ўмовах прыёму ў Завочны Комуністычны Унівэрсытэт.

Акрамя членаў КП(б)Б з 3 гадовым партыйным стажам і 2 гадовым стажам кіруючай партыйнай або пропагандыцкай работы, у ЗКУ прымаюцца таксама комсамольцы—кандыдаты партыі, якія маюць ня менш 4 год комсамольскага стажу. Гэта значна палягчае задачу комплектаваньня ЗКУ.

### Аддзяленьне прадметнага навучаньня.

Пры вывучэньні поўнага курсу Завочнага ком. унівэрсытэту завочнік павінен траціць на самастойныя заняткі ў сярэднім 60 гадзін у мес. Такой колькасьці часу для заняткаў не знаходзяць значныя пласты партактыву (з-за перагрузак, сямейных абставін і інш.).



З другога боку, некаторыя таварышы ня маюць патрэбы ў вывучэньні ўсіх дысцыплін комвузаўскага курсу. Так, напрыклад, частка скончыўшых двохгадовыя саўпартшколы, якія прапрацавалі эконом-геаграфію, лічаць атрыманыя веды з гэтага прадмету выстарчальнымі. Але яны хацелі-б больш стала прапрацаваць, напрыклад, гісторыю Расіі і гісторыю Захаду, таму што на вывучэньне гэтых дысцыплін програмы СПШ адводзяць нязначную колькасьць вучэбных гадзін. Шмат якія таварышы з пропагандыстаў і старых членаў партыі лічаць, што яны стала знаёмы з гісторыяй УсеКП(б), але ў той-жа час, займаючыся сыстэматычна політэкономіяй і дыялектычным матэрыялізмам, яны хацелі-б цяпер згрупаваць сваю ўвагу і час на вывучэньні гэтых іменна прадметаў.

Улічваючы гэтыя акалічнасьці, Завочнакурсавы сэктар разам з навучаньнем па *поўнай 4-гадовай програме* праводзіць навучаньне і па асобных дысцыплінах. У залежнасьці ад бюджэту вольнага часу, а таксама ў залежнасьці ад нахілу і зацікаўленасьці да вывучэньня тэй ці іншай дысцыпліны, кожны завочнік можа выбраць сабе для прапрацоўкі адзін або некалькі з наступных прадметаў:

1. Політэкономію.
2. Гісторыю ЎсеКП(б) і КП(б)Б.
3. Усеагульную гісторыю клясавай барацьбы.
4. Экономгеографію.
5. Дыялектычны матэрыялізм.

На прапрацоўку аднэй дысцыпліны прыдзецца траціць у месяц каля 15—20 гадзін.

Такая гібкасьць сыстэмы навучаньня і вольнасьць выбару прадметаў можа ахапляць вучобай нават і надта перагружаных таварышоў. Калі каму не пад сілу траціць на заняткі 60 гадзін у мес., дык, вядома, што 30 або 15 гадзін знойдзе кожны.

Пры выбары асобных дысцыплін для вывучэньня кожны павінен зьвярнуць увагу на паступовасьць і ўзаемную сувязь аднэй дысцыпліны з другой. Так, напрыклад, бяз сталага знаёмства з політэкономіяй нельга прымацца за прапрацоўку курсу экономічнай політыкі СССР; бяз сталага знаёмства з гісторыяй УсеКП(б) нельга прапрацоўваць курс ленінізму, а без некаторага знаёмства з гістарычнымі дысцыплінамі і політэкономіяй, малапродукцыйнымі, а ў большасьці выпадкаў і немэтазгоднымі будуць заняткі і па курсу дыялектычнага матэрыялізму.

Выбраўшыя для вывучэньня адзін або некалькі прадметаў атрымліваюць асобныя сшыткі заданьняў ад ЗКС. Гэтыя сшыткі-брошуры па зьместу нічым не адрозьніваюцца ад матэрыялу, які надрукаваны ў часопісе з тае прычыны, што яны зьяўляюцца перадрукам з апошняй. Завочнікі-прадметнікі, пасьля прапрацоўкі кожнага прадмету, атрымліваюць ад Комвузу пасьведчаньні з паказаньнем аб прапрацоўцы завочным шляхам данага прадмету з ацэнкай ступені яго ўсваеньня.

# СЫСТЭМА КІРАЎНІЦТВА САМАСТОИНАЙ РАБОТАЙ ЗАВОЧНІКАЎ.

Ва ўсякай рабоце пытаньне аб кіраўніцтве займае вялікае месца. Правільнае кіраўніцтва зьяўляецца гарантыяй посьпеху. Таксама яно мае вялізнае значэньне і ў вучэбнай рабоце, асабліва пры завочным навучаньні. Завочнікам неабходна ведаць усю сыстэму кіраўніцтва, каб лепш яе выкарыстаць. А то бывалі такія выпадкі: завочніку незразумела першае заданьне, альбо ён ня ведае, як за яго ўзяцца, і ён кідае працу. Некаторыя віды кіраўніцтва недастаткова выкарыстаны і толькі таму, што аб іх мала ведалі завочнікі. У даны момант аднэй з асноўных задач зьяўляецца барацьба за якасьць працы. У завочнай вучобе пытаньне аб якасьці адыгрывае таксама вялікую ролю. Правільнае кіраўніцтва, актыўнае выкарыстоўваньне завочнікамі ўсёй сыстэмы парткіраўніцтва дапамогуць узьняць якасьць вучобы на належную вышыню. Якая-ж гэта сыстэма, якім чынам, якімі шляхамі намечана кіраўніцтва завочнай партыйнай асьветай? Па спосабах кіраўніцтва можна падзяліць на наступныя віды: вуснае, пісьмовае і па радыё.

Парадак кіраўніцтва намечаны наступны:

1. Установачныя конфэрэнцыі.
2. Заданьні.
3. Радыёлекцыі.
4. Вусная, пісьмовая і радыёконсультацыя.
5. Рэцэнзаваньне.
6. Заключная конфэрэнцыя.

Сутнасьць, асаблівасьць кожнага віду мы зараз разьбярэм.

## Установачныя конфэрэнцыі.

Установачнаю конфэрэнцыяй пачынаецца работа завочніка. Гэтая конфэрэнцыя павінна праводзіцца ў раённым цэнтры. Працягваецца яна ад 5 да 10 дзён. Задача ўстановачнай конфэрэнцыі—дапамагчы завочніку прыступіць да работы. Завочная асьвета—справа досыць складаная. У асаблівасьці яна здаецца цяжкай у пачатку. Навыкі і ўменьне самастойна працаваць у нас яшчэ мала распаўсюджаны. Нярэдкі выпадкі, калі завочнікі ня ведаюць, як узяцца за працу, калі таварыш

ніяк ня можа прыстасавацца да работы, а з-за гэтага праца не прасоўваецца наперад. Вось установачная конфэрэнцыя і павінна даць гэтую першую дапамогу завочніку.

На ўстановачнай конфэрэнцыі таварышы павінны пазнаёміцца з тым, што азначае працаваць самастойна і як гэтаму навучыцца.

Мы ўсе чытаем. Многія з завочнікаў мабыць шмат чытаюць. Але чытаньне кніжак, газэт яшчэ ня ёсьць самастойная работа. Колькі разоў бывае, што чытаў нешта на тэму, якая табе патрэбна зараз для работы, а дзе, у якой кніжцы, ніяк ня ўспомніш.

Патрэбны лічбы для дакладу, і добра ведаеш, што зусім нядаўна гэтыя лічбы ў такой-та газэце былі зьмешчаны, а дзе, у якой—вылецела з галавы. Дый немагчыма ўтрымаць усё ў галаве.

Трэба так арганізаваць сваю працу, каб ўсякая каштоўная кніжка, каб усякая праробленая праца пакідала-б пэўны сьлед. Яшчэ важней гэтае ўменьне пры сыстэматычнай вучобе.

*Установачныя конфэрэнцыі павінны даць прасьцейшыя звычкі самастойнай працы.* Але гэта яшчэ ня ўсё. Часта таварышы, чытаючы нашыя конспэкты, вучэбныя пляны, програмы, ня зусім уясьняюць сабе поўнасьцю зьмест і аб'ём работы. Установачная конфэрэнцыя павінна разабраць програмы і растлумачыць іх. Але галоўнае, з чым конфэрэнцыі павінны азнаёміць завочнікаў—гэта з мэтодамі самастойнай працы па заданьнях ЗКС. Большаю часткаю першыя заняткі здаюцца вельмі цяжкімі. Назіраецца нейкая нязручнасьць, няўменьне ўзяцца адразу, схапіць галоўнае.

Вось установачная конфэрэнцыя гэтую нязручнасьць павінна рассеяць.

На конфэрэнцыі ў прысутнасьці кіраўніка, больш вопытнага таварыша прапрацоўваюцца першыя заданьні па програмах ЗКС КУБ'а і складаецца рабочая запісь. Тут-жа даюцца асноўныя ўказаньні, як трэба далей працаваць па асноўных разьдзелах програмы, паказваецца якім чынам павінна праводзіцца ўвязка тэорыі з практыкай. Такім чынам, установачная конфэрэнцыя павінна: а) пазнаёміць завочнікаў з лепшымі прыёмамі самастойнай работы; б) паказаць, як прапрацоўваць матэрыял заданьняў; в) навучыць увязваць марксыцка-ленінскую тэорыю з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва і г) даць асноўныя паказаньні для вашай далейшай самастойнай працы па програме ЗКС.

Калі ў вас праводзілася ўстановачная конфэрэнцыя, паведаміце ЗКС КУБ'а, ці задаволіла яна ўсім гэтым запатрабаваньням, у чым былі яе недахопы?

Гэткім чынам, шляхам самакрытыкі, пры актыўным удзеле завочнікаў мы даб'емся таго, што наша работа будзе паляпшацца. Калі ў вас толькі яшчэ будуць праводзіцца ўстановачныя конфэрэнцыі, прасачэце за тым, каб яны адпавядалі тым запатрабаваньням, якія да іх прад'яўляюцца.

## Заданьні і парадак іх распрацоўкі.

Завочнае навучэньне праводзіцца па заданьнях, якія зьмяшчаюцца ў часопісі „Завочнік Беларусі“. Заданьне складаецца з наступных частак: тэма заданьня, уводзіны, плян тэмы, літаратура, мэтодычныя заўвагі, тэма і плян для самастойнай пісьмовай працы і, нарэшце, вучэбна-дапаможны матэрыял.

Як прапрацоўваць гэтыя заданьні?

У першую чаргу неабходна ўважліва прачытаць усё заданьне і яскрава высьветліць мэтавую ўстаноўку яго. Пасьля гэтага можна прыступіць ужо і да сапраўднай работы. Спачатку трэба ўважліва прачытаць уводзіны, адзначыць для сябе самыя важныя моманты ў заданьні, выдзеліць тое, што вам лепей ужо знаёма, і тое, на што трэба будзе зьвярнуць больш увагі пры прапрацоўцы матэрыялу. Пасьля таго, як уводзіны ўсвоены, трэба разабраць мэтодычныя ўказаньні да матэрыялу і плян прапрацоўкі. Толькі пасьля гэтага можна ўзяцца за рабочы матэрыял. Такая прапрацоўка дасьць магчымасьць зьвярнуць увагу на самыя важныя моманты, выдзеліць вузлавыя пытаньні ў рабочым матэрыяле і папярэдзіць магчымае расьсейваньне ўвагі на менш важных і менш значных разьдзелах і частках рабочага матэрыялу. Толькі пасьля прапрацоўкі і ўсваеньня рабочага матэрыялу можна ўзяцца за адказы на контрольныя пытаньні. Калі вы рабочы матэрыял прачыталі, праверылі, што вы можаце адказаць на ўсе пастаўленыя контрольныя пытаньні, вярнецеся назад да пляну заданьня а ў самым канцы да ўводзін. Высьветляйце, ці ўсё, што сказана ва ўводзінах, вы з заданьня ўсвоілі, ці не засталося якое-небудзь месца незразумелым, недапрацаваным, недастаткова ўсвоеным. У апошнім выпадку ў няясным пытаньні трэба яшчэ раз разабрацца, яшчэ раз перачытаць, дадаткова перапрацаваць, а калі тэкст усё-ж такі будзе незразумелы, запрасіць тлумачэньня.

Трэба памятаць, што заданьні зьяўляюцца асноўным сродкам вашае работы. Чым лепш будзе ўсвоена заданьне, тым вышэй будзе якасьць работы. Добра ўсвоенае першае заданьне палегчыць праходжаньне наступных. Не сьпяшайцеся, каб хутчэй скончыць і адаслаць контрольную работу. Працуйце з алоўкам у руцэ, адзначайце кожнае незразумелае месца. Незразумелае слова адшукайце ў слоўніку, незразумелае месца прачытайце яшчэ раз. Час, патрачаны на гэта, патрачаны недарма.

Ён акупіцца сапраўдным усваеньнем прадмета.

Надзвычайна важна, каб вы даслалі ацэнку нашых заданьняў. Як напісана заданьне? Ці ўсё ў ім зразумела? Ці не пападаецца шмат незразумелых слоў? Ці няма фраз альбо цэлых адрыўкаў, недастаткова выразных? Паведаміце, ці памаглі вам у рабоце ўводзіны? Ці зразумелы контрольныя пытаньні? На падставе гэтых меркаваньняў можна будзе ўносіць у наступнае заданьне адпаведныя зьмены і дадаткі.

Складаньне контрольнай пісьмовай работы зьяўляецца апошнім этапам у распрацоўцы заданьня. Праз контрольную работу выяўляецца „твар“ завочніка, яго тэорэтычная падрыхтоўка, разьвіцьцё, якасьць прапрацаванага матэрыялу і інш.

### Контрольна-пісьмовая работа выконвае ролю залікаў.

Пры завочнай сыстэме, пабудаванай на індывідуальнай праверцы ўсваеньня кожнай прапрацаванай тэмы, залікі здаюцца ў самым процэсе вучобы праз контрольную пісьмовую работу.

Ацэнкі рэцэнзэнтаў аб ступені ўсваеньня апрацаванай тэмы апаратам ЗКС выпісваюцца на спэцыяльныя асабовыя карткі завочніка. Па гэтых картках заўсёды можна бачыць, які прадмет прапрацоўвае той ці іншы таварыш, колькі тэм прапрацавана, ці добрая якасьць усваеньня, ці „расьце“ завочнік. Таксама ў іх робіцца адзнака аб звароце для перапрацоўкі з заўвагамі рэцэнзэнта і г. д.

Пры пераводзе з аднаго курсу на другі будзе мець значэньне ня тэрмін вучобы, г. зн. ня тое, колькі часу завочнік лічыцца на тым ці іншым курсе, а тое, колькі заданьняў адпаведнага курсу прапрацавана ім і якасьць іх. Посьпехі завочнай вучобы да таго-ж можна будзе бачыць і з вынікаў курсаў-конфэрэнцый, што будуць склікацца пры унівэрсытэце.

На падставе ўліку колькасьці і якасьці выкананых работ, іх ацэнкі і адзнак курсаў пры у-це, ЗКС выдае пасьведчаньні аб завочнай прапрацоўцы програм адпаведнага курсу, г. зн., што таварыш пераводзіцца на наступны год навучаньня.

З усяго сказанага відаць, якую ролю адыгрывае і якое значэньне мае контрольна-пісьмовая работа. Да ўкладаньня іх завочнікі павінны аднесьціся з належнай увагай.

### Як складаць пісьмовую працу.

Таварышы, якія ня маюць яшчэ навыку ўкладаць свае думкі ў пісьмовай форме, часта трацяць на складаньне контрольных работ занадта многа часу. Некаторыя пасьпяваюць прапрацоўваць заданы матэрыял у 10—12 гадз., але на складаньне работы трацяць часам 15 і больш гадзін. Гэта паказвае, што такія таварышы добра ўмеюць чытаць кнігі, але яшчэ ня ўмеюць укладаць сваіх думак у пісьмовай форме.

Трэба адзначыць, што ўменьне правільна і лёгка пісаць не заўсёды даецца нават тым, хто добра ведае тэорыю мовы. Практычная праца над пісьмом, а адгэтуль і навык маюць тут часта рашучае значэньне. Дасьледваньне завочнай вучобы паказвае, што тыя таварышы, якім за час грамадзкай працы часта прыходзілася складаць тэзісы, рэзолюцыі, даклады, якія, значыць „наламалі ўжо руку“ ў пісьмовым укладаньні, што гэтыя таварышы даволі лёгка выкладаюць свае думкі ў літаратурнай форме.

Трэба прызнаць, што сама сыстэма завочнай вучобы дапамагае набыцьцю гэтых практычных звычак лёгка і хутка пісаць. Толькі ў першы час шмат якія завочнікі будуць „вымучваць“ свае пісьмовыя работы, трацячы на іх многа часу. Але-ж з падняцьцем агульнага і тэорэтычнага ўзроўню, з набыцьцём практычных звычак, пры вядзеньні запісаў прачытанага і г. д., пісьмовае ўкладаньне контрольных работ павінна прайсьці гладка.

Звычайна ўжо праз 5—6 месяцаў завочнай вучобы складаньне пісьмовых работ ня будзе ўжо зьяўляцца для завочніка цяжкай справай; наадварот, большасьць з іх пачынае знаходзіць вялікую задаволенасьць у тым, што па распрацаваным матэрыяле прыходзіцца самастойна рабіць тыя ці іншыя вынікі, і гэтым самым замацоўваць у памяці ўсвоенае.

### Перад тым, як пісаць работу, правер свае веды.

Пасьля прапрацоўкі матэрыялу па зьместу тэмы і дасканалага ўяўленьня патрабаваньняў яе, належыць заняцца самаправеркай сваіх ведаў.

Гэтая самаправерка дасягаецца новым разглядам заданьня для пісьмовай работы, разумовай мобілізацыяй сваіх ведаў, разумовымі адказамі на пытаньні. Калі па некаторых пытаньнях і момантах тэмы веды недастаткова ясныя, трэба зьвярнуцца да дадатковай прапрацоўкі матэрыялу. Неабавязкова, а часьцей і зусім непатрэбна зноў перачытваць усю літаратуру: дадаткова прапрацаваць прыдзецца можа ўсяго некалькі старонак. Для гэтага пры першым пераглядзе матэрыялу неабходна запісваць старонкі, на якіх маюцца адказы на той ці іншы пункт пляну.

### *Не адкладай на доўгі час складаньне работы з-за няяснасьці аднаго-двух пытаньняў.*

У тых выпадках, калі пасьля паўторнай прапрацоўкі будзе здавацца, што тое ці іншае пытаньне не паддаецца ўсваеньню або калі ў рэкомэндаванай літаратуры тое ці іншае пытаньне высьветлена слаба, можна напісаць работу з пропускам гэтага незразумелага моманту, адзначыўшы абавязкова ў прыпісцы да працы, што гэтага не зразумеў і г. д.

Рэцэнзэнт дасьць тлумачэньне па гэтых незразумелых пытаньнях. або пакажа, якія старонкі матэрыялу трэба прапрацаваць дадаткова. Магчыма, што дашлецца і дадатковы матэрыял.

Лепш пасылаць у Комвуз контрольную работу з пропускам асобных пытаньняў, чымся на доўгі час спыняцца на адным заданьні і гэтым зацягнуць прапрацоўку наступных заданьняў.

**Пішы, не саромячыся ортографічных памылак, стылю і складу пісьма.**

Завочны Комвуз, па пісьмовых работах ацэньваючы ўзровень падрыхтоўкі завочніка і яго здольнасьці пісьмова ўкладаць усвоены зьмест тэмы, імкнецца атрымаць гэтыя пісьмовыя работы такімі, „якія яны ёсьць“. Таму ня трэба занадта саромецца сваіх ортографічных памылак, стылю і г. д. Пытаньні, якія закранаюцца ў працы, павінны быць высьветлены „сваімі словамі“. Таму ня трэба зварочвацца да каго-небудзь за папярэдняй „падчысткай“ і „выпраўленьнем“ работы. Пісьмовыя работы павінны зьяўляцца тым матэрыялам, які будзе адбіваць сапраўдны малюнак падрыхтоўкі завочнікаў, цяжкасьцяй, якія сустракаюцца ў іх працы і г. д. Гэтыя работы павінны вызначаць агульную ўстаноўку програм і мэтодычныя паказаньні да наступных заданьняў. Але з вышэйсказанага ні ў якім разе нельга думаць, што Комвуз узаконьвае малапісьменнасьць.

Пры праверцы контрольных пісьмовых прац рэцэнзэнт, вядома, будзе зварочваць увагу на ортографічныя і стылістычныя памылкі, а таксама на набыцьцё звычак яснага і дакладнага формуляваньня думак.

**Прыступай да складаньня наступнай працы, не чакаючы рэцэнзіі на пасланую раней работу.**

Паслаўшы ў Комвуз на рэцэнзію работу па апрацаваным заданьні, прыступай да прапрацоўкі наступнага заданьня і складаньня па ім работы, таму што паміж момантам адсылкі работы ў Комвуз і зваротам яе праходзіць часта даволі доўгі тэрмін, а за гэты час можна пасьпець прапрацаваць чарговае заданьне.

Парадак прапрацоўкі прадметаў устанаўляецца самім завочнікам, гэта значыць, што выбар прадмету, па якім завочнік будзе працаваць, у першую чаргу залежыць выключна ад яго. Але кожны таварыш, працуючы на програмах ЗКС, павінен мець на ўвазе, што на працягу аднаго месяца ад яго патрабуецца выкананьне чатырох заданьняў. Напрыклад: двох на матэматыцы і двох на белмове.

**Памер работы формальна неабмежаваны, але імкніся пісаць карацей.**

Памер работы залежыць ад шэрагу абставін: ад характару тэмы, ад пабудовы плян-схэмы альбо контрольных пытаньняў, якія даюцца ў заданьні для пісьмовай працы, часьцей-жа за ўсё ад уменьня завочніка выкладаць свае думкі ў пісьмовай форме, ад стылю і формы пісьма.

У першую чаргу рэкомэндуецца не захапляцца „пісьменствам“. Трэба імкнуцца ўкласьціся, напрыклад, у 8, ня больш 10—12 старонках звычайнай пісьмовай паперы. Часта нават па занадта кароткай паводле памеру рабоце можна меркаваць, ці прапрацаваў завочнік тэму, ці зрабіў ён правільныя вывады.

Таварышом, якія ня прывыклі ўкладаць свае думкі ў пісьмовай форме, для якіх укладаньне пісьмовай работы зьяўляецца большаю цяжкасьцю, чым прапрацоўка і ўсваеньне самага матэрыялу, рэкомэндуецца пісаць на першых часах адказы не па ўсіх пунктах або пытаньнях заданьня, а толькі па асноўных, прычым па сваім уласным выбары. У сваю чаргу Завочны Комвуз патрабуе толькі мінімум пісьмовых работ і толькі па галоўных, асноўных пытаньнях, каб не перагружаць студэнтаў залішняю пісанінаю.

## Радыёлекцыі.

Заданьні зьяўляюцца асноўным матэрыялам для завочнікаў, але не адзіным. Частка матэрыялу вам будзе перадавацца па радыё. Гэта радыёлекцыі. Радыёлекцыі ў некаторых выпадках будуць прадстаўляць уводныя лекцыі, як, напрыклад, па гісторыі клясавай барацьбы програма пачынаецца з узьнікненьня капіталістычнай грамады, а па радыё будзе перадана ўводная лекцыя на тэму: „Ленін і гісторыя“. Па радыё будуць перадавацца дадатковыя матэрыялы, будуць дапрацоўвацца асабліва цяжкія месцы і разьдзелы програмы. Таксама, як і заданьні, радыёлекцыі трэба слухаць з алоўкам у руцэ. Адразу-ж запісваць на шматках паперы незразумелае, нявыразнае. Добра завесьці сабе сшытак спэцыяльна для радыёлекцый і ўносіць у яго найбольш цікавыя месцы. У радыёлекцыі лектар паказвае, якія месцы *трэба запісваць*. Абавязкова выканайце дакладна гэтыя паказаньні.

Зараз-жа пасьля радыёлекцыі дашлеце ўсе вашы заўвагі адносна заслуханай лекцыі. Зварочвайце ўвагу на выразнасьць радыёперадачы, ці добра было чуваць, ці ўсё зразумела, ці дастаткова разабрана і асьветлена пытаньне, якія засталіся няясныя пытаньні?

Усе вашы меркаваньні аб заданьнях і радыёлекцыях пасылайце ў ЗКС КУБ'а. Заданьні і вучэбная літаратура рассылаюцца завочнікам па іхнім адрасе. У бягучым годзе заданьні некалькі позьняцца. Пачынайце работу па часопісі „У дапамогу партвучобе“. Нумары часопісяй і заданьняў будуць вам аб'яўлены ў радыёлекцыі.

## Формы жывога кіраўніцтва вучобай завочніка.

*(Вусная, пісьмовая і радыёконсультацыя).*

Сыстэма і мэтоды завочнага навучаньня будуюцца так, каб даць усё неабходнае для самастойнае вучобы. Кіраўніцтва гэтай вучобай таксама ажыцьцяўляецца завочным шляхам. Але-ж, ня гледзячы на гэта, пры распрацоўцы комвузаўскай програмы завочнік сустракаецца з такімі цяжкасьцямі, якія яму самастойна перамагчы часта бывае немагчыма. І наогул, вопыт паказаў, што вельмі вялікае значэньне мае хаця-б і нядоўгая, непасрэдная вусная дапамога завочніку. У завочніка часта сустракаюцца шэраг дробных непаразуменьняў, якія затрымліваюць апрацоўку матэрыялу. Па ўсякім непаразуменьні можна зварочвацца

ў ЗКС, але-ж гэта для большай часткі завочнікаў, якія ня жывуць у Менску, цяжка. Пакуль ліст завочніка дойдзе да Комвузу і пакуль ён атрымае на яго адказ, пройдзе ня менш тыдню. А за гэты час можна было-б апрацаваць увесь матэрыял па данай тэме. Па гэтай прычыне большасьць завочнікаў рэдка зварочваецца ў Комвуз за парадай і спраўкамі.

Для палягчэньня ўмоў працы завочніку ў больш буйных гарадох Беларусі, як, напрыклад, у Віцебску, Гомелі, Магілеве, Воршы, Бабруйску, Полацку, Мозыры, Барысаве, Лепелі, арганізуюцца сталыя консультацыйныя пункты Завочна-курсавога сэктару Комвузу. На гэтых курсах даецца слухачам ЗКС консультацыя, у першую чаргу, па наступных прадметах: белмове, матэматыцы, усеагульнай гісторыі, політэкономіі, экономічнай і фізычнай географіі і гісторыі разьвіцьця грамадзкіх форм. Кожны завочнік мае магчымасьць па паасобным прадмеце ў гэтых пунктах атрымліваць консультацыю два разы ў месяц.

Акрамя таго, консультацыйная дапамога завочнікам ЗКС павінна аказвацца мэтадычнымі габінэтамі, якія існуюць пры кожным райкоме КП(б)Б.

У шмат якіх організацыях ёсьць таварышы, скончыўшыя комвузы, тэорэтычна добра падрыхтаваныя пропагандысты. Іх неабходна прыцягваць для консультацыі завочнікаў.

Зразумела, завочнікі, што пражываюць у Менску ці наведваюць Менск, могуць і павінны зварочвацца ў Комвуз, ЗКС, за дапамогай, якую яны заўсёды будуць атрымліваць.

Па агульнаадукацыйных прадметах усе пытаньні можна будзе вырашаць у мясцовай школе. Настаўнік вясковай школы, альбо ШКМ зможа разабраць незразумелыя пытаньні ў нашых заданьнях па расійскай мове, па матэматыцы, фізычнай географіі і г. д. Гэта і будзе вусная консультацыя. Калі ў вёсцы маецца некалькі завочнікаў, дык мэтазгодней усяго сабрацца разам, у пэўны час (дзень і гадзіну) і, прыкладна, раз у пяцідзёнку наладжваць у школе вусную консультацыю. Гэта будзе зручна і для настаўніка, патрабуе ад яго менш часу, будзе зручна і для завочнікаў.

Пры вуснай консультацыі ў школе магчыма карыстацца і дошкай і крэйдай, а калі трэба, дык і географічнай картай і іншымі школьнымі вучэбнымі прыладамі.

Усё-ж не па ўсіх пытаньнях удаецца атрымаць вусную консультацыю. Гэта ня значыць, што такія пытаньні павінны застацца нявырашанымі. Такія пытаньні неабходна вырашыць шляхам пісьмовай консультацыі.

Калі на месцы вам ніхто ня можа даць вуснай консультацыі, напішэце выразнае пытаньне і пашлеце яго ў ЗКС КУБ'а. Адказ на ваша запытаньне атрымаеце ў пісьмовай форме. Акрамя гэтага, будзе праводзіцца таксама час-ад-часу і радыёконсультацыя. Гэта значыць, што па радыё будуць даны тлумачэньні, указаньні, дадатковы матэрыял па тых пытаньнях, якія задаваліся некалькімі таварышамі. Сачэце за

радыё консультацыяй, не прапускайце яе. Па радыё вы атрымаеце адказ і на свае запытаньні і шмат каштоўных указаньняў па запытаньнях іншых таварышоў.

Карыстайцеся вуснай і пісьмовай консультацыяй. Адзначайце ўсё незразумелае, нявыразнае ў заданьнях, у радыёлекцыях, у дадатковай літаратуры. Організуйце ў сябе на месцы пры школе, пры ШКМ, у хаце-чытальні вусную консультацыю, зварочвайцеся ў ЗКС КУБ'а за пісьмовай консультацыяй. Тут патрэбна ў першую чаргу ваша актыўнасьць. Памятайце, што ад гэтага залежыць якасьць вашае работы і хуткасьць яе выкананьня.

## Рэцэнзаваньне.

Задача рэцэнзэнта — кіраваць вашай працай, дапамагаць вам хутчэй, лягчэй аўладаць марксыцка-ленінскай тэорыяй. Навучыць вас гэтую тэорыю ператвараць у жыцьцё, у практыку соцыялістычнага будаўніцтва. У гэтых мэтах рэцэнзэнт выпраўляе вашу работу, адзначае заўважаныя недахопы, паказвае шляхі і спосабы далейшай работы. Рэцэнзэнт—ваш старэйшы, больш сьвядомы, больш практычны таварыш. Рэцэнзія павінна вам паказаць, якія месцы вамі недастаткова ўсвоены, над чым трэба яшчэ папрацаваць. Кожная рэцэнзія павінна даваць штуршок да новай работы, да новых посьпехаў.

Каб рэцэнзія была добрая, рэцэнзэнт павінен ведаць, у якіх умовах завочнік працуе. Таму надзвычайна важна, каб вы з рэцэнзэнтам завялі таварыскую перапіску. Пішэце яму аб усім, што вас непакоіць: аб сваёй рабоце, аб свім жыцьці і, вядома, аб сваёй вучобе. На падставе гэтай перапіскі яму і работу лягчэй будзе зразумець, і ўказаньні яго будуць больш каштоўныя. Памятайце, што рэцэнзэнт мае перад вачыма вашу пісьмовую работу. Ён можа меркаваць аб вашых ведах толькі па гэтай рабоце. Таму трэба старацца, каб работа гэтая была напісана выразна і чытэльна, каб можна было разабраць у ёй кожнае слова. Рэцэнзія для вас вельмі каштоўны дакумант. Атрымаўшы яе, спачатку бегла праглядзеце ўсю, а потым перачытайце ўважліва кожную заўвагу.

Зьверце ўсе ўказаньні з вашай работай, з заданьнем. Абавязкова выканайце ўсе запатрабаваньні рэцэнзэнта. Не бяда, калі ўсю работу альбо частку яе прыдзецца прарабіць яшчэ раз, калі па якім-небудзь пытаньні пачытаць дадаткова тую ці іншую кніжку. Вынікі работы будуць затое шмат большыя, чымся пры павярхоўнай, хуткай, недастаткова праведзенай рабоце. Рэцэнзіі, таксама, як і пісьмовыя работы, пажадана захаваць.

Завядзеце сабе невялікую папку і кладзеце туды і работы і рэцэнзіі, адзначаючы дату пасылкі работы і атрыманьня рэцэнзіі. Калі адказ на вашу работу затрымліваецца, паведамеце аб гэтым ЗКС, таму што вельмі важна, каб работа ваша прасоўвалася як мага хутчэй, і каб у свой час прымаліся меры да нормальнага праходжаньня вучобы.



## Заключная конфэрэнцыя.

Рэцэнзаваньне займае вельмі вялікае месца ў рабоце па завочным навучаньні. Але яно ўсё-ж не зьяўляецца адзіным спосабам для высьвятленьня пасьпяховасьці работы.

*Пасьля прапрацоўкі цэлай дысцыпліны альбо групы дысцыплін* да канца першага году праводзяцца конфэрэнцыі з завочнікамі. На гэтых конфэрэнцыях падводзяцца вынікі ўсёй рабоце, прапрацоўваюцца дадаткова тыя пытаньні, якія недастаткова былі асьветлены ў заданьнях альбо зусім не закраналіся ў заданьнях, і даюцца ўстаноўкі для работы на другі год навучаньня.

Вось асноўныя формы кіраўніцтва работай завочнікаў. Ад вашай актыўнасьці залежыць поўнае, шырокае, усебаковае разьвіцьцё і выкарыстоўваньне ўсіх форм.

## Выконвай дамаганьні, прад'яўленыя завочнікам.

1) Пісаць чытэльна, каб рэцэнзэнт меў магчымасьць лёгка чытаць рукапіс. Ня трэба пісаць занадта дробным пісьмом, калі адзін радок набягае на другі. Рэцэнзэнт павінен мець магчымасьць уставіць сказ у тэксьце рукапісу, выправіць ортографічную памылку і г. д.

2) Пісаць трэба атрамантам. Работа, як правіла, дасылаецца напісанай ад рукі.

3) Пакідаць з левага боку невялікія, прыкладна ў 8—10 сантым. (каля 4 пальцаў) чыстыя палі для заўваг і адзнак рэцэнзэнта.

4) На кожнай рабоце чытэльна пісаць прозьвішча і імя, дзень і месяц адсылкі работы ў Комвуз, *дакладны адрас* для звароту і свой нумар (шыфр).

5) У прыпісках да работы паказваць: колькі старонак і з якіх кніг прачытана па данай тэме, колькі патрачана гадзін (прыблізна) на прапрацоўку матэрыялу і колькі на складаньне пісьмовай работы (гэтыя весткі зьяўляюцца асноўным матэрыялам для вывадаў, ці не занадта вялікія заданьні, ці ня трэба іх скарачіць у будучым па аб'ёму і г. д).

6) Пісьмовую работу дасылаць па пошце ў конвэртах, з адрэзанымі куткамі, паказаньнем дасыльніка і з надпісам на конвэртах: „Перасылаецца на падставе абежніку НКПТ. ад 12-XII-27 г. за № 37|433“. У гэтых выпадках аплата паштовых перасылак адбываецца па ільготным тарыфе: на мясцовыя вагою да 50 грам клеіцца марка ў 2 кап., па іншых 5 кап.

7) Усякія пытаньні ў ЗКС і да рэцэнзэнта павінны пісацца на асобных лістох паперы, а ня разам з тэкстам пісьмовай работы.

8) У кожным выпадку зьмены адрасу зараз-жа абавязкова паведамляй ЗКС.

9) Пры немагчымасьці па цэлым шэрагу прычын (хвароба, камандыроўка, правядзеньне кампаній, адсутнасьць літаратуры, затрымка ў атрыманьні часопісі і г. д.) даслаць заданьне ў адпаведны тэрмін завочнік пісьмова паведамляе аб тым ЗКС.

10) Пры адмове ад заняткаў на ЗКС студэнт завочнік пасылае паведамленьне з тлумачэньнем, прычым паведамляе як ЗКС, так і партарганізацыю, у якой ён лічыцца. Адначасова з паведамленьнем аб адмове ў ЗКС зварочваецца і пасьведчаньне, выданае апошнім.

11) Студэнты-завочнікі, якія не дасылаюць на працягу доўгага часу ў ЗКС пісьмовых работ або вестак аб прычынах затрыманьня іх дасылкі, будуць мэханічна выключацца з ліку студэнтаў з паведамленьнем аб гэтым парторганізацыі, якая іх камандыравала або рэкомэндавала.

Як правіла, выкананьню заданьня павінна быць адведзена 10 дзён.

Па залічэньні ў ЗКС завочнік павінен дагаварыцца на месцы з парткомам і ячэйкай аб дачы яму рэальнай магчымасьці выконваць заданьні ЗКС і абвясьціць аб гэтым Комвуз. Зусім немагчыма дапусьціць такое становішча, пры якім той альбо другі партыец будзе толькі „лічыцца“ студэнтам-завочнікам Комвузу, але *ня будзе* рэгулярна працаваць па програмах завочнага навучаньня.

ЗКС аддае асобную ўвагу мэтодычнаму боку працы і ў першую чаргу пытаньню аб тыпе, характары і аб‘ёме заданьняў, якія друкуюцца ў часопісі, потым—пытаньню аб рэцэнзіях (ці задавальняюць яны завочніка, ці растлумачваюць яго непаразуменьні і памылкі і г. д.), пытаньню аб цяжкасьцях завочніка пры прапрацоўцы заданьняў і г. д. Па ўсіх гэтых пытаньнях неабходна завочнікам пісаць артыкулы ў сваю часопісь.

Толькі прыслухоўваючыся да голасу завочніка, магчыма ўдасканаліць работу завочнага навучаньня і хутка зжываць тыя недахопы, якія часта можна спаткаць у гэтай справе.

# Беларуская Мова

Аддзяленьне надрыхтоўчае.

*Курс вядзе І. Ю. МІЦКЕВІЧ.*

## УСТУП

Усіх заданьняў з белмовы мае быць дзевяць. У кожным заданьні— два асноўныя разьдзелы: першы „Граматыка і правапіс", другі— „Разьвіцьцё моўных навыкаў". У гэтых двух разьдзелах і будзе зьмяшчацца ў пэўнай пасьлядоўнасьці ўвесь той вучэбны матэрыял па мове, над якім завочніку прыдзецца працаваць.

Як-жа працаваць па заданьнях?

1. Па атрыманьні заданьня перш-на-перш патрэбна з ім азнаёміцца ў цэлым, г. зн. уважліва пераглядзець яго з пачатку да канца, каб уявіць, што і ў якім парадку належыць у ім прапрацоўваць.

З асаблівую ўвагаю прыпыняцца на ўводных артыкулах і на мэтодычных парадках, калі яны ёсьць у заданьні, прычым іх патрэбна ня толькі прачытваць, а і ўсвойваць.

2. Маючы на ўвазе, што заданьне патрэбна ня толькі чытаць, але і распрацоўваць (г. зн. загатоўваць на паперы і ў памяці асноўныя палажэньні і вывады), завочнік павінен заўсёды мець пад рукамі належныя для таго прылады—спэцыяльны рабочы сшытак і аловак, а лепей—атрамант і пяро.

У рабочы сшытак заносіць ня толькі тыя практыкаваньні і задачкі, пісьмовае выканьне якіх будзе вымагацца заданьнем, а і тыя тэорэтычныя вывады і ісьціны, якія зьявяцца вывадам прапрацоўкі тэорэтычнага матэрыялу. Словам, у сшытак павінна заносіцца ўсё тое, што карысна замацаваць у памяці, што можа калі-небудзь спатрэбіцца для паўтарэньня ці спраўкі.

3. Заданьне прапрацоўваць абавязкова ў тым парадку, у якім яно складзена, пачынаючы іменна з 1-га разьдзелу і з чарговага параграфу. Толькі мастацкія творы, для чытаньня якіх патрабуецца, звычайна, шмат часу, можна чытаць і распрацоўваць паралельна астатняй працы на заданьні.

Парадак строгай пасьлядоўнасьці ў распрацоўцы разьдзелаў і асабліва параграфаў вымагаецца тэй акалічнасьцю, што кожны наступны пункт заданьня часьцей усяго грунтуецца на вывадах папярэдняга, чаму бяз сталага ўсваеньня папярэдняга нельга дасканала ўсвоіць далейшага.

4. Катэгорычна ня раіцца чэрпаць свае веды толькі з гатовых вывадаў, з гатовых правіл. Да іх трэба самастойна даходзіць шляхам уважлівай працы над тым дасьледчым матэрыялам, якім звычайна папярэджваецца амаль кожны вывад, кожнае правіла. Тут трэба заўсёды помніць, што ў навучальнай справе ня так каштоўны веды, як той шлях, той мэтод, якімі веды здабываюцца. Дасьледчы мэтод здабываньня ведаў найдасканалейшы і ўхіляцца ад яго няма ніякае падставы дый шкодна.

5. Неабходна зьвярнуць належную ўвагу на выкананьне пісьмовых прац па правапісу, якія будуць складацца, галоўным чынам, з сьпісваньня тэксту. Справа ў тым, што тут можа мець месца няправільны падыход да работы, няправільныя прыёмы яе выкананьня.

Праца над сьпісваньнем задач ні ў якім разе не павінна насіць характар мэханічнасьці, мэханічнага пераводу слоў з кніжкі ў сшытак, што вядзе бадай да дарэмнай траты часу. Гэта праца павінна зьяўляцца сьвядомым укладаньнем пэўных думак пэўнымі словамі, сэнс і напісаньне якіх ясна сабе ўяўляеш. Адгэтуль пры сьпісваньні неабходна строга трымацца такіх асноўных правіл:

а) *Не прачытаўшы ўсяе фразы, не ўявіўшы сабе ўсяе думкі, якую маеш запісаць, нарэшце, не заўважыўшы цьвёрда, як пішацца тое ці іншае слова ў фразе, пісаць не пачынай.*

б) *Пісаць патрэбна ўсю фразу цалкам на памяць, не выбіраючы па слову з кнігі; толькі пасьля напісаньня праверыць па кніжцы, ці ўсё правільна запісана.*

в) *Пры сьпісваньні тэксту задач, акрамя таго, патрэбна раней устанавіць, якую літаратуру ці які знак прыпынку трэба паставіць замест наўмысных пропускаў у тэксьце.*

Такім чынам, сьпісваньне з кнігі павінна адбывацца, прыкладна, у такім парадку: 1) чытаецца тэкст усяе фразы, 2) уясьняецца сэнс прачытанага, 3) вывучаецца напісаньне слоў, запамінаецца іх парадак у тэксьце і толькі пасьля гэтага фраза запісваецца ў сшытак.

6. Належную ўвагу трэба зварочваць на тыя пытаньні, якія будуць мець месца ў разьдзелах і параграфах заданьняў.

Галоўнае іх значэньне—даць магчымасьць самому завочніку ўпэўніцца, наколькі грунтоўна прапрацавана заданьне, наколькі грунтоўна ўсвоены вучэбны матэрыял. Лёгкасьць адказаў будзе сьведчыць аб сталасьці ведаў, а маруднасьць адказаў ці неразуменьне часам самога пытаньня будзе выразнай адзнакай, што праца мае прабелы, якія неабходна зьнішчыць паўторнай прапрацоўкай ня ясных месц.

Важна і неабходна даваць адказы ў пісьмовай форме. Паміма таго, што запіс—найлепшы контроль яснасьці нашага разуменьня, пісьмовыя

адказы маюць самі па сабе вялікую каштоўнасьць: яны прывучаюць да дасканалай формулёўкі сваёй думкі і, такім чынам, уводзяць нас у ланцуг прац над разьвіцьцём вуснай і пісьмовай мовы.

7. Контрольныя працы, якія будуць сьведчыць аб дасягненьнях завочніка, павінны быць сапраўды паказальнымі. Яны павінны быць выкананы ў поўнай меры самастойна, без староньняй дапамогі і таварыскай выпраўкі. Яны павінны пісацца з усёю стараннасьцю і акуратнасьцю, на асобных сшытках і абавязкова атрамантам. *Сшытак павінен мець з левага боку чыстае поле для рэцэнзэнцкіх заўваг, шырынёю ня менш дзесяці сантымэтраў.*

8. Рэцэнзіі, што будуць прысылацца завочнікам на іх работы, павінны ўважліва разглядацца, а памылкі, у рэцэнзіі адзначаныя, выпраўляцца.

9. Значнае месца ў курсе будзе адведзена чытаньню і разгляду навукова-публіцыстычнай, а часткова і мастацкай літаратуры. Аб тым, як праводзіць гэтага віду работы, якія патрэбна ўжываць прыёмы для правільнага яе выкананьня, будзе належна высьвятляцца ў разьдзеле 2 кожнага заданьня па мове.

---

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

## на Завочна-курсавым сэктары КУБ'а

## на 1931—32 акад. год.

*(Аб'ясьняльная запіска да праграмы).*

У аснову праграмы па беларускай мове паложана праграма дзённага Комвузу. Але-ж характар завочнага навучаньня і значна меншы лік гадзін, што прызначан на белмову для завочнікаў (166 гадзін супроць 226 і 262) прымушаюць у значанай меры звузіць праграму, зьменшыць лік некаторых прац і іх аб'ём, а некаторыя віды прац (тэзаваньне, праца па некалькіх крыніцах і інш.) цалкам перанесьці з завочных на курсавыя заняткі.

Сама праграма, як і на дзённым К-зе, складаецца з трох асноўных разьдзелаў: з невялікага курсу беларускае граматыкі, з практыкаваньняў і задачак па правапісу і пунктуацыі і, нарэшце, з шэрагу прац дзеля разьвіцьця мыслі і слова.

Граматычны курс хоць сам па сабе мае сталае агульна-адукацыйнае значэньне, у нашай праграме не зьяўляецца самамэтным і адыгрывае выключна падсобную роль. Вось чаму курс граматыкі ў нас абмежаваны толькі самым неабходным, што канечна патрэбна для азнаямленьня з асаблівасьцямі беларускае мовы і для мэт стылістычна-ортографічных.

Разьдзел правапісу і пунктуацыі ўгрунтаваны на граматычным матэрыяле, з мэтодычнага боку шчыльна з ім увязаны і складаецца з практыкаваньняў і задачак, пасьлядоўнае выкананьне якіх павінна даць сталыя навыкі ў ортографічна і стылістычна правільным пісьме.

Трэці разьдзел праграмы—„разьвіцьцё моўных навыкаў"—уключае шэраг прац над літаратурным тэкстам, пачынаючы з самых прымітыўных, як выразьлівае чытаньне, і канчаючы пісаньнем конспэктаў, конспэктыўных перакладаў з расійскай мовы і ўласных укладаньняў на вольныя тэмы.

Праграма ўкладзена з орыентацыяй на сярэдняга па сваёй падрыхтаванасьці завочніка, гэта значыць такога, які больш-менш ужо ўмее чытаць, пісаць і гаварыць па-беларуску, які нават ужо спатыкаўся з беларускім правапісам і граматыкаю.

Тымчасам практыка прыёму ў дзённы Комвуз і дакомвузаўская падрыхтоўка мінулага году паказваюць, што значная колькасьць

завочнікаў будзе складацца з асоб, агульна-адукацыйная падрыхтаванасьць якіх будзе значна слабейшаю, а, з другога боку, будзе нейкі процант завочнікаў з больш высокаю падрыхтоўкаю.

Гэтая акалічнасьць прымушае глядзець на даную програму толькі як на орыентоўчую. Корэктывы да яе маюць уносіцца пры распрацоўцы спэцыяльных заданьняў, якія і будуць прыстасоўвацца да пэўных па сваёй падрыхтаванасьці груп.

Програма ўкладзена з разьлікам на 180 гадз. вучэбных заняткаў, з іх 144 гадзіны прыпадаюць выключна на завочнае абучэньне і 36 гадзін на курсавое.

Мяркуецца, што асноўная маса завочнікаў усю програму выканае за час завочнага навучаньня, і што 36 гадзін курсавых заняткаў будуць скарыстаны на паўтарэньне і паглыбленьне ўжо пройдзенага, а часткова на пашырэньне програмы, галоўным чынам, у галіне працы над літаратурным тэкстам (тэзаваньне, праца па некалькіх крыніцах, рэфэраваньне і інш.).

На курсавы час адносіцца і азнаямленьне завочнікаў з станам сучаснай беларускай літаратуры, невялікі курс якое мае месца ў програме дзённага Комвузу.

Сталая програма курсавых заняткаў па мове і літаратуры мае быць укладзена дадаткова, калі ў выстарчальнай меры высьветліцца ступень узросту завочнікаў у галіне моўных ведаў за час іх завочнага навучаньня.

---

# ПРОГРАМА БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ

## для Завочна-курсавога сэктару Беларускага комуністычнага унівэрсытэту імя У. І. Леніна

*(На 1930-31 акадэмічны год).*

### *ЗАДАНЬНЕ 1. (10 гадз.)*

#### Граматыка.

1. Агульнае разуменьне аб мове. Літаратурная мова як прадмет школьнага вывучэньня. Віды навучальнае працы над моваю.

2. Агульнае разуменьне аб лёгічнай сувязі слоў у мове. Інтонацыя і лёгічны націск. Знакі прыпынку і іх значэньне. Сказ як інтонацыйна закончанае цэлае. Сказы апавядальныя, клічныя і пытальныя; іх інтонацыя. Знакі прыпынку ў канцы апавядальных, клічных і пытальных сказаў.

#### Правапіс і пунктуацыя.

1. Сьпісваньне тэксту з апавядальнымі, клічнымі і пытальнымі сказамі.

2. Практыкаваньне ў падзеле тэксту на сказы і расстаноўка кропак, клічнікаў і пытальнікаў.

3. Ужываньне вялікіх літар.

#### Разьвіцьцё моўных навыкаў.

1. Агульнае разуменьне аб тэхніцы чытаньня літаратурных твораў (уводная лекцыя).

2. Практыкаваньне ў выразьлівым чытаньні ўрыўкаў з мастацкае прозы.

3. Выпіска з прачытанага твору незразумелых слоў і ўкладаньне тлумачальнага слоўніку.

4. Тэхніка карыстаньня слоўнікам.

### *ЗАДАНЬНЕ 2. (14 гадз.).*

#### Граматыка.

1. Сказ як граматычна арганізаваны рад слоў. Словы называльныя дапаможныя. Асноўныя і дададзеныя члены сказу.

2. Сказы простыя і іх віды. Сказы з аднароднымі паўторным членамі (зьлітыя сказы). Інтонацыя коскі, двукроп'я і працяжнік ў зьлітым сказе.

#### Правапіс і пунктуацыя.

1. Сьпісваньне тэксту з простымі і зьлітымі сказамі.

2. Практыкаваньне ў падзеле тэксту на сказы і ў расстаноўцы знакаў прыпынку пры простых і зьлітых сказах.

#### Разьвіцьцё моўных навыкаў.

1. Выразьлівае чытаньне ўрыўку з мастацкае прозы.

2. Укладаньне тлумачальнага слоўніку.

3. Выяўленьне галоўных палажэньняў прачытанага твору (адчыркваньне і выпіска цытат).

### *ЗАДАНЬНЕ 3. (12 гадз.).*

#### Граматыка.

1. Гукавы склад мовы. Гукі беларускае мовы і іх падзел на галосныя і зычныя. Літары і беларускі альфабэт. Літары *я, е, ё, ю, і, ь.* Літары *дз, дж, ў, й.*

Склад і гукавы націск. Зьмена галосных *о*(*ё*), *э*(*е*) у залежнасьці ад націску (аканьне).

2. Сказ просты і зьліты (паўторна).

#### Правапіс і пунктуацыя.

1. Практыкаваньне ў пераносе слоў. Ужываньне пры пісьме *ь* і літар *ў, й, дз, дж.* Правапіс ненаціскнога *о*(*ё*), *э*(*е*).

2. Практыкаваньне ў расстаноўцы знакаў прыпынку пры простых і зьлітых сказах (паўторна).

#### Разьвіцьцё моўных навыкаў.

Разьмеркаваньне тэксту на абзацы і вылучэньне асноўных палажэньняў артыкулу (паўторна).

### *ЗАДАНЬНЕ 4. (14 гадз.).*

#### Граматыка.

1. Зычныя цьвёрдыя, мяккія і зацьвярдзелыя. Мяккасьць *дзь* і *ць.* Зычныя звонкія, глухія і плаўныя. Асыміляцыя ў мяккасьці. Чаргаваньне *У* і *В*, *У* і *Л*. *В*—прыдыханьне. Падваеньне зычных.

2. Агульнае разуменьне аб складаных сказах. Складана-злучаныя і складана-залежныя сказы. Злучнікавае і бяззлучнікавае злучэньне ў складана-злучаных складах.

### Правапіс і пунктуацыя.

1. Галосныя пасьля зацьвярдзелых. Правапіс звонкіх і глухіх пры асыміляцыі. *З-с* у пpыстаўках і прыназоўніках. *З-с, дз-ц* перад мяккім зычнымі. Правапіс падвойных зычных і некаторых гуказлучэньняў.
2. Пунктуацыя ў складана-злучаных сказах.

### Разьвіцьцё моўных навыкаў.

Разьмеркаваньне тэксту на абзацы і ўкладаньне простага пляну.

## *ЗАДАНЬНЕ 5.*

### Граматыка.

1. Граматычны склад слова: корань, канчатак, суфікс і прыстаўка Словы карэнныя і вытворныя. Словы простыя і складаныя.
2. Складана-залежныя сказы.

### Правапіс і пунктуацыя.

1. Практыкаваньні ў падзеле слоў на іх граматычныя часткі.
2. Пунктуацыя ў складана-залежных сказах.

### Разьвіцьцё моўных навыкаў.

Укладаньне простага пляну.

## *ЗАДАНЬНЕ 6. (18 гадз.).*

### Граматыка.

1. Словы зьменныя і нязьменныя. Падзел зьменных слоў паводле іх формальных асаблівасьцяў. Падзел нязьменных слоў паводле іх значэньня. Граматычнае злучэньне слоў у сказе: дапасаваньне, кіраваньне і прымыканьне.
2. Дзеяслоў. Асабовыя і лікавыя яго формы. Станы, трываньні, часы і лады. I і II спражэньне. Спражэньне дзеясловаў *есьці, даць* і *быць.* Неспрагальныя формы дзеясловаў.
3. Дзеяслоў-выказьнік і формы дапасаваньня яго да дзейніка.

### Правапіс і пунктуацыя.

1. Правапіс прыназоўнікаў і адмоўных дапаможнікаў *не* і *ні.*
2. Знакі прыпынку пры адасобленых выклічніках і дапаможніках.
3. Правапіс дзеясловаў I і II спражэньня ў абвесным і загадным ладзе.

**Разьвіцьцё моўных навыкаў.**

Складаны плян.

*ЗАДАНЬНЕ 7. (18 гадзін).*

**Граматыка.**

1. Назоўнікі і іх формальныя адзнакі. Падзел назоўнікаў паводле іх значэньня. Род іменьнікаў і радавыя іх канчаткі. Скланеньне іменьнікаў мужчынскага і ніякага роду. Скланеньне іменьнікаў жаночага і мужчынскага роду на *а*(*я*); іменьнікаў жаночага роду з чыстаю асноваю. Назоўнікі займенныя і лічэбныя і іх скланеньне.

2. Назоўнік у сказе. Дзейнік і формы граматычнае яго сувязі. Сустаўная частка складанага выказьніка. Дапаўненьне і формы яго залежнасьці ад іншых членаў сказу. Прыдатак. Зваротак. Адасобленыя дапаўненьні.

**Правапіс і пунктуацыя.**

1. Правапіс іменьнікаў мужчынскага і ніякага роду ў родным склоне адзіночнага і множнага ліку і ў месным склоне адзіночнага. Аканьне ў склонавых канчатках іменьнікаў мужчынскага і ніякага роду.

Правапіс іменьнікаў жаноч. роду ў давальным, месным і творным склоне адзіночнага ліку, у родным, давальным, месным і творным скл. множн. л. Правапіс лічэбнікаў.

2. Пунктуацыя пры прыдатках, зв617ротках і адасобленых дапаўненьнях.

**Разьвіцьцё моўных навыкаў.**

Складаны плян, сьціслы зьмест (конспэкт).

*ЗАДАНЬНЕ 8. (14 гадз.).*

**Граматыка.**

1. Прыметнікі і іх падзел. Займеньнікі, іх падзел і скланеньне Прыметнікі якасныя і ступені прыраўнаваньня. Дзеяпрыметнікі і іх асаблівасьці. Прыметнікі поўныя і няпоўныя. Скланеньне прыметнікаў.

2. Роль прыметнікаў у сказе. Азначэньне і формы граматычнае яго сувязі. Адасабленьне азначэньняў і дзеяпрыметных словазлучэньняў.

**Правапіс і пунктуацыя.**

1. Правапіс займеньнікаў (адмоўных і неазначальных) і прыметнікаў (вінавальным і творны скл. адз. ліку жаноч. р., аканьне ў канчатках прыметнікаў і інш.).

2. Пунктуацыя пры адасобленых азначэньнях і дзеяпрыметных словазлучэньнях.

**Разьвіцьцё моўных навыкаў.**

Складаны плян, конспэкт.

*ЗАДАНЬНЕ 9. (10 гадз.).*

**Граматыка.**

1. Прыслоўе. Прыслоўі якасныя і іх ступеняваньне. Дзеяпрыслоўе.
2. Стан прыслоўяў у сказе. Прымыканьне. Адасабленьне дзеяпрыслоўяў і дзеяпрыслоўных словазлучэньняў.
3. Пабочныя і чужаслоўныя сказы.

**Правапіс і пунктуацыя.**

1. Правапіс прыслоўяў з прыстаўкамі і адмоўямі.
2. Пунктуацыя пры дзеяпрыслоўях і дзеяпрыслоўных словазлучэньнях. Пунктуацыя ў пабочных і чужаслоўных сказах.

---

# ЗАДАНЬНЕ ПЕРШАЕ.

## РАЗЬДЗЕЛ ПЕРШЫ.

**(Граматыка і правапіс).**

### § 1. Падзел мовы на фразы ці сказы.

Паспрабуйце прачытаць голасна і ўважліва тэкст:

Пачалася асушка балот тысячы гектараў раней непралазнай дрыгвы становяцца квяцістым полем а вось вам першая баразна заіржаў на былым балоце сталёвы конь гулкае рэха прарэзала лясны гушчар і аддалося ў вёсцы адна за аднэй зьяўляюцца на „балота“ сялянскія фурманкі адны верылі і проста з цікавасьцю прыехалі паглядзець другія ня верылі і з некаю прыемнасьцю чакалі няўдачы вось сталёвы конь пайшоў ззаду засталася шырокая чорная баразна.

Цяпер той самы тэкст голасна і з тэй-жа ўважлівасьцю прачытайце далей:

Пачалася асушка балот. Тысячы гектараў раней непралазнай дрыгвы становяцца квяцістым полем. А вось вам першая баразна. Заіржаў на былым балоце сталёвы конь. Гулкае рэха прарэзала лясны гушчар аддалося ў вёсцы. Адна за аднэй зьяўляюцца на „балота“ сялянскія фурманкі. Адны верылі і проста з цікавасьцю прыехалі паглядзець. Другія ня верылі і з некаю прыемнасьцю чакалі няўдачы. Вось сталёвы конь пайшоў. Ззаду засталася шырокая чорная баразна. (*В. Сташэўскі*).

Пытаньні:

1. Чым розьняцца паміж сабою абодвы тэксты?
2. Які тэкст лягчэй чытаецца і чаму лягчэй?
   (Адказы запішэце, ня чытаючы далейшага).

Адказы:

1. Першы тэкст ня мае ніякага відавочнага падзелу на тыя паасобныя думкі, з якіх ён складаецца, а ў другім тэксьце гэты падзел відавочан: кожная думка аддзелена ад другое асобным знакам—*кропкаю* (.).

2. Другі тэкст чытаецца лягчэй і таму іменна, што там стаяць паміж думкамі *кропкі*. Гэтыя кропкі якраз адпавядаюць тым перарывам ці *паўзам* у голасе, якія мы абавязкова робім пры вуснай гаворцы пасьля кожнае закончанае думкі, паніжаючы адначасова і тон свайго голасу: Пачалася асушка балот↘ Тысячы гектараў непралазнай дрыгвы становяцца квяцістым полем↘ Вось сталёвы конь пайшоў↘/// Ззаду засталася шырокая паласа↘ ///) *).

Калі-ж у тэксьце няма адзначанага падзелу на думкі, калі няма паміж думкамі *кропак*, гэта значыць знакаў прыпынку, дык мы, чытаючы тэкст, ня можам правільна разьмяркоўваць у ім паўз, ня можам рабіць сваячасовых паніжэньняў у канцы сказаў, ня *можам толкам прымяніць да тэксту належную інтонацыю.* Адгэтуль наша чытаньне робіцца нязручным, цяжкім, бесталковым. Гэтым і тлумачыцца цяжкасьць, нязручнасьць чытаньня першага тэксту.

*ВЫВАД:*

1. Наша мова расчляняецца на асобныя больш ці менш дробныя ўрыўкі, якія называюцца *фразамі*, або *сказамі.*

2. У кожным сказе заключаецца адна якая-небудзь пэўная думка.

3. Пры вусным вымаўленьні кожны закончаны сказ канчаецца выразным паніжэньнем у голасе і пэўнаю паўзаю, якія і адмяжоўваюць адзін сказ ад другога.

4. Пэўнае паніжэньне (часам і павышэньне) голасу пры вымаўленьні сказаў называецца *інтонацыяй.*

5. Для абазначэньня *інтонацыі* паніжэньня і паўз, пасьля кожнага закончанага сказу пры пісьме ставіцца кропка (.).

6. Сказы, што пры вымаўленьні канчаюцца спакойным паніжэньнем голасу, а на пісьме аддзяляюцца кропкамі, называюцца *апавядальнымі* сказамі.

7. Пасьля кропкі, як і з пачатку пісьма, заўсёды пішацца вялікая літара.

*ЗАДАЧА 1-я.*

Прачытайце зьмешчаныя ніжэй урыўкі, мысьлена расчляняючы іх на паасобныя сказы; уясьнеце сабе сэнс усіх незразумелых слоў, калі яны спаткаюцца, і агульны зьмест кожнага ўрыўку; нарэшце, сьпішэце іх у сшыткі, расстаўляючы ў належных мясцох патрэбныя кропкі. Не забываць вялікіх літар.

1. Ідзе вясна гудуць на балоце сталёвыя коні чарнаватымі палоскамі пакрываюцца балотныя прасторы заблішчэлі ў праменьнях сонца дыскавыя бароны пайшлі яны рэзаць доўгія палоскі на дробныя ку-

*) Тут і ў далейшым стрэлкі ўніз азначаюць паніжэньне голасу, а стрэлкі ўверх — павышэньне яго; рысы—прыпынкі пры чытаньні: тры рыскі (///)—доўгая паўза, дзьве (//)—паўза сярэдняй даўжыні, адна (/)—кароткая паўза.

сочкі яшчэ адна-другая прылада—і пад нагамі мяккая мучная глеба будзе хлеб ідзе першая вясна у зялёны аксаміт убіраецца балота але-ж гэты новы аксаміт—аўсяны ды ячменны ідзе лета абапал канавы высокія аўсяныя сьцены праходзяць людзі авёс прыветна ківае ім мільярдамі галовак-каласоў.

(В. Сташэўскі).

2. Хуткі тэмп індустрыялізацыі стварыў базу для социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі збожжавыя саўгасы ўжо ў гэтым годзе павінны даць болей ста мільёнаў пудоў таварнага хлеба колгасная пяцігодка перавыканана ўжо ў гэтым годзе колгасы павінны даць ужо ў гэтым годзе больш мільярду пудоў таварнага хлеба пасеўная плошча пад хлебнымі культурамі ў гэтым годзе ўпяршыню перавысіла даваенныя памеры дасягнута значнае павялічэньне плошчы тэхнічных сельскагаспадарчых культур партыя ўжо прыступіла да вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы гіганцкі тэмп соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны справодзіцца значным колькасным ростам рабочае клясы („Правда", рэз. XVI партзьезду).

3. Гарачы дзень на полі душна прыціх той ветрык непаслушны а жнейкі жнуць у моры збожжа мільгае постаць іх прыгожа.

(Я. Колас).

## § 2. Сказы пытальныя.

Прачытайце голасна паданы ніжэй тэкст і ўважліва прасачэце, як ён чытаецца, і якімі знакамі прыпынку адзначан кожны закончаны сказ.

### РАБОЧЫЯ.

Хто ў кузьні куе? Хто здабывае торф сярод балот? Хто днём і ноччу вугаль і граніт няўтомна дзяўбе на жудаснай глыбіні? Хто ня сьпіць у начную цемру пры апальнях паравозаў? Хто будуе гарады? Хто праводзіць чыгункі?

Усё ствараем мы. Нас мноства. Нішто ня ўтрымаецца перад нашымі нязьлічонымі шэрагамі.

Пытаньне:

Што-ж дае наш досьлед? Папрабуйце, ня чытаючы далей, адказаць і адказы запісаць, а потым параўнаць іх з ніжэйпрыведзенымі адказамі.

Адказы:

1. Як папярэднія артыкулы, што мы разгледжвалі і сьпісвалі, гэты артыкул складаецца з невялічкіх фраз-сказаў.

2. Апавядальныя сказы тут маюць месца толькі ў канцы артыкулу: іх толькі тры.

3. Першыя-ж 6 сказаў чытаюцца з выразна выяўленым запытаньнем: у іх выразна чуецца пытальная інтонацыя.

4. Пытальная інтонацыя можа выражацца паніжэньнем голасу ў канцы сказаў, калі адно з прадапошніх слоў будзе вымаўляцца галасьней іншых—з націскам запытаньня (*Хто* будуе гарады↘? *Хто ў* кузьні куе↘?), а можа выражацца і павышэньнем, калі запытальны націск прыпадзе на апошняе слова сказу (Хто будуе *гарады*↗? Хто ў кузьні *куе*↗?).

5. У канцы пытальных сказаў стаіць ня кропка, а асобны знак, які называецца **пытальнікам** (?).

6. Пасьля пытальніка, як і пасьля кропкі, напісана вялікая літара.

*ВЫВАД*:

1. Акрамя апавядальных сказаў, у мове ёсьць сказы, што вымаўляюцца пытальнай інтонацыяй. Такія сказы называюцца **пытальнымі**.

2. У пытальных сказах могуць быць асобныя пытальныя словы (*хто, дзе, куды, як і інш.*), а можа іх і ня быць (*Ты дзе гуляў? Кнігу прынёс?*).

3. На пісьме пытальныя сказы адзначаюцца асобным значком (?), які называецца **пытальнікам**.

4. Пасьля пытальніка, як і пасьля кропкі, пішацца вялікая літара.

*ЗАДАЧА 2-я.*

Сьпісаць тэкст, устаўляючы замест пунктыру адпаведныя пытаньні паводле ўзору першага пытальнага сказу.

1. Каму належалі раней фабрыкі і заводы?
Фабрыкі і заводы належалі раней капіталістам.

2. ..............................
Раней зямля знаходзілася ў руках памешчыкаў.

3. ..............................
Улада памешчыкаў і капіталістаў была зьнішчана ў Кастрычніку 1917 г.

4. ..............................
Цяпер фабрыкі і заводы належаць усім рабочым.

5. ..............................
Савецкая ўлада перадала ўсю зямлю бядняцка-серадняцкаму сялянству.

*ЗАДАЧА 3-я.*

Сьпісаць тэкст і наставіць замест шматкроп'я пытальнік ці кропку. Не забываць вялікіх літар.

1. РАБОТНІЦЫ.

Ну, чаго раней мы былі варты...
Вечна сьлёзы, вечна грызьня.
Жыцьцё. . . . . . . А хто яго бычыў...
Дванаццаць гадзін за станком.
Прыдзем дамоў—і заплачам:
Голад скача пад акном.
Работніцы. Хто нас слухаў...
Фабрыкант. . . . . Ён нам памагаў...
Скажам проста: заедзе па вуху,
Ну, і душыць, як толькі мага

(Александровіч).

2. Што нам мяцеліца . . . што нам завіруха . . . што нашу маладасьць можа стрымаць . . . . сьнег весяліцца ліхой пацярухай . . . няхай весяліцца—на тое зіма . . . .

(Александровіч)

3. Дзеля чаго вясной рунее поле . . . . дзеля чаго, скажы, бурлівіць лета . . . . палаць агнём—такая наша доля . . . . палаць агнём—ці-ж прыкра гэта . . . .

(Моркаўка).

4. О, зоры, што вы напрарочылі . . . . калі ўнімецца сьмерці разгул . . . ці хутка загасьне ўзьняты вайной непатрэбнаю пажар . . . ці хутка дні хмурыя зьменяцца яснымі . . . . .

(Бядуля, поэма „Ленін").

5. На якога роду кніжкі і брошуры наглядаецца асаблівы попыт . . . якіх кніжок асабліва нехапае ў нашых рабочых бібліотэках . . . . ці чытаюць рабочыя бэлетрыстыку . . . . . якія аўтары зьяўляюцца найбольш папулярнымі . . . ці ёсьць выстарчальная колькасьць неабходнае бэлетрыстыкі . . . . якія з нашых газэт рабочыя чытаюць найахвотней . . . што іменна чытаюць рабочыя ў першую чаргу . . . . якія разьдзелы ў нашых газэтах патрэбна разьвіваць і пашырыць . . . . як шырока распаўсюджаны профэсыйны друк . . . . ці чытаецца ён рабочымі.

6. — Ты сьлесар . . . .
— Так, сьлесар . . . . .
— Дзе працаваў . . . .
— На Бальтыцкім . . . .
— Доўга . . . . . . . .
— Адзін год . . . . .

— Чаму адышоў . . . .
— Да прызыву стрэбаван . . . .
— Ухвальная атэстацыя ёсьць . . .
— У мяне ліст да вас . . . . .

## § 3. Сказы клічныя.

**Выразьліва прачытайце тэкст 2 урыўкаў, зварочваючы ўвагу на інтонацыю і на знакі прыпынку ў канцы сказаў.**

1. Стотысячная дэмонстрацыя. Гэй, прэч вайну! Нам хлеба! Ня будзем з братам-немцам біцца мы! Багатай своры на карысьць ня будзем беднага мы грызьць!

2. Гэй, ладзьце сьвята, усе сустрэчныя! Сьпявайце песьні, папярэчныя! Загінуў цар на векі вечныя і праваліўся царскі трон.

(З. Бядуля).

Пытаньні:

Дасьледуйце тэкст і адкажэце, што можна сказаць пра даныя ўрыўкі з боку іх сказаў? (Адказы запішэце ў сшытак, ня гледзячы на далейшае).

Адказ:

1. У абодвух урыўках зусім няма сказаў пытальных.

2. У першым урыўку першы сказ, а ў другім апошні—сказы *апавядальныя*.

3. Астатнія сказы і ня пытальныя і не апавядальныя. Усе яны— новы тып сказаў, у інтонацыі якіх адчуваецца ці заклік (*Гэй, прэч вайну!*) ці няўмольнае патрабаваньне (*Нам хлеба!*), ці няўмольная воля (*Ня будзем з братам-немцам біцца мы!*), ці, агулам кажучы, узвышаныя пачуцьці, узвышаныя эмоцыі. Такія сказы заўсёды вымаўляюцца з узьнятым настроем і інтонацыяй, якая завецца клічнаю інтонацыяй, чаму і сказы называюцца клічнымі.

4. Пры двух сказах ёсьць асобнае клічнае слоўца *„гэй“*, якое прыдае сказу вышэйшую ступень эмоцыянальнасьці.

5. Клічная інтонацыя мае ў канцы сказу, як і апавядальная, паніжэньне тону, чаму клічныя сказы розьняцца ад апавядальных толькі сваёю эмоцыянальнасьцю,—узвышанасьцю настрою і пачуцьця.

6. Пасьля кожнага клічнага сказу заўсёды стаіць асобны знак— *клічнік* (*!*).

7. Пасьля клічніка, як і пасьля пытальніка ці кропкі, новы сказ пачынаецца з вялікае літары.

Вывад:

1. Акрамя сказаў апавядальных і пытальных у мове ёсьць сказы, у якіх адчуваюцца павышаныя пачуцьці: заклік, няўмольнае патрабаваньне, страх, радасьць, роспач і г. д.

2. Такія сказы вымаўляюцца так званаю **клічнаю інтонацыяй**, чаму яны завуцца **клічнымі сказамі**.

3. Пры клічных сказах могуць быць асобныя клічныя словы (гэй, эх, ах, ох, няхай і т. п.), пасьля якіх часта ставіцца коска.

4. Пасьля клічных сказаў заўсёды ставіцца асобны знак прыпынку, які называецца *клічнікам* (*!*).

5. Пасьля клічніку новы сказ пачынаецца з вялікай літары.

*ЗАДАЧА 4.*

Сьпішэце і расстаўце знакі прыпынку. Не забываць вялікіх літар.

1. Не здавайце тэмпаў не паслабляйце барацьбы за ідэйную цытадэль партыйных радоў па-бальшавіцку зьдзейсьніць пастаўленую перад краінаю задачу вышэй тэмпы будаўніцтва падняць усю рабочую масу на змаганьне за контрольныя лічбы.

2. Сьмялей, Заход ня плачце, нашы землі, пад кіпцюром ачумленых паноў у хуткі час мы пад чырвоным вэлюмам разлучаны край у цэлы злучым зноў.

(Бяд.).

3. Як добра так жыць як добра спазнаваць вялікае шчасьце гадоў глядзі: адбудоўваюць хісткую гаць пад поле шумлівых аўсоў.

(Куляшоў, „Роскв. зямлі").

4. ... Толькі няспынна з імкненьнем вытворчасьці ногу трымайце раўняйцеся з сучаснасьцю ў муках сьмяротных старое ўжо корчыцца нашыя-ж вочы адзначаны яснасьцю куйце-ж жалеза індустрыі коўкае гучным ударам статоннага молата рэжце рыдлёўкамі чорнае золата.

(Хведаровіч, „Торф").

5. Сьмялей зару спаткаем, сябры, у барацьбе карцечай і штыкамі праб'ем мы шлях сабе шчыльней рады на новы шлях вышэй юнацкі вольны сьцяг.

6. Што рабіць дзе воі нашыя дзе нашыя чырвоныя сокалы з полымем штандараў на штыкох дзе воі Леніна тут мы адваюем край ён вольным быць павінен вінтоўкі ўсё з заховаў павымаем ідзем гуляць у жыцьце і сьмерць.

1. Пралетары ўсіх краін пакажэце першага Мая вашу рашучасьць спаткаць ворага тварам к твару дэманструйце пад першамайскім лёзунгамі прэч наступ капітала далоў белы тэрор далоў фашызм прэч нясупынную прадажнасьць другога інтэрнацыяналу далоў мілітарызм далоў падрыхтоўку новых войн далоў новыя падкопы супроць Саюзу ССР за адзіны пролетарскі фронт за міжнароднае профсаюзнае адзінства за баявы саюз пролетарыяту з сялянствам за вызваленьне прыгнечаных нацыянальнасьцяй за вызваленьне зьняволеных перадавых змагароў рабочае клясы за Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік за комуністычны Інтэрнацыянал.

(„Правда").

## § 4. Інтонацыя і знакі прыпынку.

Адзін і той-жа сказ, выказаны рознай інтонацыяй, часта зусім мяняе свой сэнс. Гэта значыць, што аднымі і тымі-ж словамі мы можам выказаць зусім розныя думкі, ужываючы для гэтага розную інтонацыю.

Прачытайма сказ рознай інтонацыяй і дасьледуйма розьніцу ў яго сэнсе:

1. *Гэта нашы браты.*

Гэтым сказам мы спакойна і ўпэўнена констатуем факт аб людзях, хто яны такія ёсьць у сапраўднасьці.

2. *Гэта нашы браты?*

Тут сэнс сказу зусім іншы. Тут няма ранейшае ўпэўненасьці аб людзях, хто яны такія. Тут інтонацыяй пытаньня мы, наадварот, можам выказваць нават сумненьне, што вось *гэтыя людзі ёсьць нашы браты.* Ва ўсякім выпадку мы зусім ня ўпэўнены, што яны нашы браты.

3. *Гэта нашы браты!*

Тут не адчуваецца сумненьня сказу другога, тут няма спакойнага сьцьверджаньня факту, што бачна ў сказе першым; тут можна ўлавіць у інтонацыі і зьдзіўлена-радаснае выкрыцьцё ісьціны, што людзі ня ворагі, як нам мо' думалася, *а браты нашы*, і жаданьне другіх упэўніць, ш т о г э т а т а к, а н я і н а к ш.

З сказанага, такім чынам, бачна, што для дасканалага выражэньня думкі адных сказаў, аднаго выказваньня мала. Неабходна яшчэ ўлічваць і тое, як сказаць, я к у ю і н т о н а ц ы ю п р ы д а ц ь с к а з у. „Тон музыку робіць“, гавораць часта і гавораць слушна. Гэта патрэбна мець на ўвазе ўсякаму, хто хоча, каб яго правільна разумелі другія. Гэта значыць, што далёка ня досыць выгаворваць адны словы для выражэньня думкі; патрэбна да гэтага ўжыць яшчэ і правільную інтонацыю.

Але-ж мы выказваемся ня толькі вусна, калі інтонацыя ўлаўліваецца слыхам. Ня менш, калі ня больш, людзі выказваюцца пісьмова ў лістох і кніжках. Выдатнейшыя мысьлі выдатнейшых людзей іменна занатаваны ў іх няўмiручых пісаных творах.

Якім-жа чынам захаваць у пісанай мове інтонацыю, так каштоўную для поўнай яснасьці выказанага?

Вось на дапамогу тут і зьяўляюцца тыя значкі, якія пры пісьме ўжываюцца абавязкова ў канцы кожнага сказу, а часта і ў сярэдзіне сказу. Значкі гэтыя называюцца **знакамі прыпынку**, бо абавязкова патрабуюць пры чытаньні, апроч адпаведнага павышэньня ці паніжэньня ў голасе, большага ці меншага перарыву ў чытаньні, г. зн. прыпынку— п а ў з ы.

Тры знакі прыпынку—к р о п к а (.), п ы т а л ь н і к (?) і к л і ч н і к (!)— нам ужо вядомы, як вядома да некаторай ступені і тая інтонацыя, якую

яны патрабуюць. Апроч іх ёсьць яшчэ наступныя знакі прыпынку: шматкроп'е (...), двукроп'е (:), кропка з коскаю (;), коска (,), працяжнік (—), дужкі (), (*дужкі можна замяняць працяжнікамі*). Спатыкаюцца і комбінаваныя знакі прыпынку: пытальнік і клічнік (?!), клічнік і пытальнік (!?), некалькі клічнікаў (!!!).

Ёсьць яшчэ злучок (-), што ставіцца часам паміж двума словамі, злучаючы іх у адно слова, і двукосьсе („ "). Аднак злучок і двукосьсе—ня знакі прыпынку, хоць для інтонацыі і маюць сваё значэньне.

Каб выразьней уявіць залежнасьць інтонацыі ад знакаў прыпынку, прачытайма ўважліва ніжэй паданыя ўрыўкі так, як будзе паказана ўмоўнымі знакамі—стрэлкамі і рыскамі. Стрэлка ўверх будзе азначаць павышэньне, а стрэлка ўніз—паніжэньне ў голасе; тры рыскі азначаюць найдаўжэйшую паўзу (*раз, два, тры*), дзьве—сярэднюю (*раз, два*) і адна—найменшую (*раз*).

## 1. ГУДКІ.

Калі гудуць ранішнія гудкі на рабочых ускраінах ↗, / гэта зусім ня заклік к няволі ↘: // гэта песьня будучага ↘. /// Мы калісь працавалі ва ўбогіх майстэрнях ↗ / і пачыналі працаваць раньнем у розны час ↘. ///

А цяпер раніцаю ↗, / а восьмай гадзіне ↗, / крычаць гудкі для цэлага мільёну ↘. ///

Цяпер мы хвіліна ў хвіліну пачынаем разам ↘. ///
Першыя нашы ўдары грымяць разам ↘. ///
Аб чым-жа сьпяваюць ↘? ///
— Гэта ранішні гімн адзінству ↘! ///

(Госьцеў).

*ЗАДАЧА 5-я.*

Ніжэйпаданы артыкул прачытаць голасна некалькі раз, строга выконваючы ўмоўныя знакі інтонацыі, нарэшце, сьпісаць.

## КАЙДАНЫ.

У крайняга стругальнага станка ↗, / вакол Мацьвея з кайданамі ↗, / рос натоўп ↘. /// Усе цягнуліся к кайданам ↗, / датыкаліся іх ↗, / аглядалі ↗, / званілі ў зьвеньні ↗, / вызначалі ↗, / з чаго яны выкаваны ↗, / дзівіліся таму ↗, / што яны так адшліфаваны на нагах ↘.

/// Натоўп рос хутка ↗ і бурліў ↘. /// Ззаду хтось крыкнуў ↘: //

— Эй ↘! /// Стань на станок ↗ / і пакажы ўсім ↘! ///

Токар ↗, / што трымаў кайданы ↗, / зараз-жа аказаўся на станку ↗, / як бы з кадзілам ↗, / узмахнуў кайданамі ↗ / і выразна сказаў ↘: //

— Вось ↘! /// Кайданы токара нашага цэху ↗, / Ляксея Аніканава ↘. /// На катарзе насіў ён за рабочую справу ↘. /// На пасяленьні зараз ↘. /// Можа ↗, / вернецца хутка ↘... /// Вернецца ↗, / зразумелі ↗? ///

Яшчэ раз страсянуў кайданамі ↗ / і скокнуў у натоўп ↘. /// У паветры перакачваліся гулы гаворкі ↘. /// Ад дырэктара ↗, што размахваў рукамі ↗, / аддзяліўся загадчык праходнаю кантораю ↗ / і рынуўся да станкоў ↘. //

— Пастаранецеся ↘! /// Хто гаварыў ↘? /// Што паказваў ↘! /// Кайданы ↗? /// Якія кайданы ↘? /// Што яшчэ за д'ябальшчына ↘? /// Якога Аніканава ↘ ///

Токар вырваў з рук Мацея кайданы ↗ / і перадаў іх суседу ↘: //

— Далей ↗, / сваім ↘... ///

Яны шархнулі з рук у рукі ↗, / сьлізганулі пад сінюю косакаўнерку ↗, / да палкага маладога цела ↗ / і замоўклі ↘. ///

(Ляшко „Кайданы").

Увага. Дасканалае тлумачэньне інтонацыі кожнага знаку прыпынку будзе давацца ў пэўных месцах курсу пры падрабязным азнаямленьні з ужываньнем таго ці іншага знаку прыпынку на пісьме.

## § 5. Вялікія ці прапісныя літары.

З вялікімі або прапіснымі літарамі нам прышлося спаткацца з першых-жа пісаных радкоў, і мы ведаем, што на пачатку пісьма, пасьля кропкі, пытальніка і клічніка заўсёды пішацца вялікая літара.

Вялікія ці прапісныя літары пішуцца яшчэ і ў іншых выпадках, незалежна ад таго ці іншага знаку прыпынку, у чым упэўніцца можна будзе з наступных прац.

*ЗАДАЧА 6.*

Сьпішэце арткулы, падкрэсьліваючы вялікія літары.

## УСЕРАСІЙСКІ СТАРАСТА.

Першым старшынёю Ўсерасійскага цэнтральнага выканаўчага камітэту быў рэволюцыянэр Якаў Міхайлавіч Сьвярдлоў, а пасьля яго сьмерці, у 1919 годзе, на гэтую вышэйшую пасаду ў дзяржаве быў выбраны селянін Цьвярской губэрні, Карачаўскага павету, Якаўлеўскай воласьці, вёскі Верхняя Троіца, былы піцерскі рабочы, таксама стары рэволюцыянэр і бальшавік, Міхайла Іванавіч Калінін. Яго часта называюць—усерасійскі староста.

( *Усьцінаў*).

**Вывад:**

1. а) З вялікае літары, незалежна ад месца, пішуцца: імя, імя па бацьку і прозьвішчы людзей; б) назвы мясцовасьцяў; в) назвы важнейшых дзяржаўных установ.

2. Складаныя назвы ўстаноў маюць вялікую літару толькі для першага слова (*Усерасійскі цэнтральны выканаўчы камітэт).*

*ЗАДАЧА 7.*

Сьпішэце тэкст, і словы з вялікімі літарамі падкрэсьлеце).

## МЕНСК.

Менск—чырвоная сталіца Беларускай савецкай социялістычнай рэспублікі. У ёй знаходзяцца ўсе вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы: Усебеларускі цэнтральны выканаўчы камітэт, Савет народных камісараў і ўсе наркаматы.

Цераз Менск праходзяць дзьве чыгуначныя лініі—Маскоўска-Бальтыцка-Беларуская (МББ) і Заходняя. Цераз Менск працякае рэчка Сьвіслач—прыток ракі Бярэзіны.

У Менску ёсьць шмат фабрык і заводаў: завод імя „Варашылава", „Комунар", „Полымя рэволюцыі", „Бальшавік", „Кастрычнік", „Беларуска", „Комунарка", „Чырвоны тэкстыльшчык" і інш. У Менску выдаецца цэлы рад газэт і часопісаў: „Зьвязда", „Савецкая Беларусь", „Рабочы", „Колгасьнік Беларусі", „Маладняк", „Полымя", „Узвышша" і інш.

У Менску досыць шумна і кіпуча, асабліва па Савецкай і Ленінскай вуліцах.

**Вывад.**

1) З вялікай літары пішуцца: назвы гарадоў, вуліц, рэк, уласныя назвы фабрык, заводаў, газэт, часопісай і г. д.

2) Уласныя назвы газэт, фабрык, заводаў, караблёў і да т. пад. бяруцца яшчэ ў двукосьсе.

*ЗАДАЧА 8.*

Сьпішэце артыкул, падкрэсьліце словы з вялікай літарай і растлумачце іх правапіс.

## РСФСР і СССР.

Расійская социялістычная фэдэрацыйная рэспубліка—першая краіна саветаў. Вышэйшая ўлада ў краіне належыць Усерасійскаму зьезду саветаў. Ён зьбіраецца звычайна адзін раз у два гады. Рабочыя і сяляне з усіх гарадоў і раёнаў рэспублікі пасылаюць сваіх прадстаўнікоў на Ўсерасійскі зьезд саветаў.

У Саюз савецкіх соцыялістычных рэспублік уваходзяць сем незалежных рэспублік: Расійская соцыялістычная фэдырацыйная савецкая рэспубліка (РСФСР), Украінская ССР, Закаўкаская СФСР, Беларуская ССР, Туркмэнская ССР, нарэшце Узбэкская ССР і Таджыкская ССР. Галоўныя гарады гэтых рэспублік: Масква, Харкаў, Тыфліс, Менск, Ашхабат, Самарканд і Сталінабад.

**Вывад.**

У назвах устаноў, што складаюцца з некалькіх слоў, з вялікае літары пішацца толькі першае слова, калі рабіцца поўны запіс; калі-ж назва запісваецца толькі пачатковымі літарамі, дык усе яны прапісныя: *СССР*, *ЦВК*, *ЦК КП(б)Б*.

Увага 1. Словы *Вы*, *Ваш*, *Вамі* і іншыя у асабістых лістох пішуцца з вялікай літары.

2. Назвы месяцаў, дзён, народнасьці (*рускі*, *беларус*, *немец*) складана-скарочаныя словы—(*райком*, *partком*, *палітграмата*) пішуцца з малое літары.

*ЗАДАЧА 9.*

*Адкажэце пісьмова на пытаньні.*

1. З якіх частак складаецца наша мова і як гэтыя часткі называюцца?
2. Якія віды сказаў ў гэтым заданьні мы вывучылі?
3. Якія знакі прыпынку ўжываюцца пры вядомых вам сказах і якая розьніца ў іх інтонацыі?
4. Запішэце некалькі вядомых вам важнейшых дзяржаўных устаноў поўнымі і скарочанымі іх найменаваньнямі; некалькі ўласных імёнаў, фабрык і заводаў, газэт, мастацкіх твораў.

*ЗАДАЧА 10.*

Сьпішэце ўрывак, *замест шматкроп'я пастаўце ці кропку, ці пытальнік, ці клічнік і адзначце стрэлкамі інтонацыю ўсіх знакаў прыпынку (гл. § 4 задача 5).*

Павал увайшоў, як хмельны.... На твары ўсьмешка зьбянтэжаная і вочы, як п'яныя.... Вірка зьдзівіўся.... Месяц дажываў бок а бок з ім, ні разу п'яным ня бачыла.... І ад людзей чуў: ня п'юшчы...

— Ты што, Павал.... Выпіў ці што ў каго....

— Стараста з воласьці весткі такія прывёз, што сяляне, хто чуў, чыста—п'яныя.... Цара адмянілі....

— Адмянілі-лі.... Як-жа-ж.... Другі ці што які....

— Зусім адмянілі.... Зусім без цара жывом....

Вірка апусьціўся на лаўку...

— А станавы як.... Астанецца.... Нашынскае начальства ранейшае будзе....

— Да не.... Станавы ўцёк.... Вураднiка ў пограб згрэблі....

— Лжэ-эш.... Ну, вось гэта дзіва.... Павал, як-жа ж.... Дзе-ж хустачка мая.... На сходцы калі вычытваць пачнуць....

Народу ў школе столькі сабралася, як ніколі яшчэ ня было... Маладзенькая настаўніца слабым і дрыжачым ад хваляваньня голасам чытала:

— Прызналі мы за дабро адракціся ад прастолу дзяржавы Расійскае....

(Сейфуліна).

---

## РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ.

### (Разьвіцьцё моўных навыкаў).

### § 6. Аб тэхніцы чытаньня.

Кніга мае для нас выключнае па сваёй важнасьці значэньне.

Праз кнігу мы атрымліваем патрэбныя для нас веды пра сусьвет, пра карысныя і шкодныя зьявы прыроды, пра карысныя і шкодныя зьявы грамадзкага жыцьця. Кніга зьяўляецца для нас тым спадарожнікам-кіраўнiком, які дае магчымасьць кожнаму з нас стаць сьвядомым і ўмелым удзельнікам вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, стаць сьвядомым і ўмелым барацьбітом у тэй жорсткай і ўпартай клясавай барацьбе, якую падняў і пераможна вядзе пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі наш пролетарыят.

Але-ж карысьць ад кніжкі будзе толькі ў тым выпадку, калі мы будзем умець чытаць яе; калі мы будзем умець разьбірацца, што ў кніжках ёсьць сапраўды карыснага для нашае пролетарскае справы, а што ёсьць у іх для нас зусім няцікавага ці проста шкоднага. Уменьне-ж чытаць кнігу, уменьне разьбірацца ў кніжным матэрыяле — рэч далёка ня простая. Гэтае ўменьне даецца толькі доўгаю і ўпартаю працаю над кнігаю ды ўмелым падыходам да яе.

Увесь разьдзел II нашых заданьняў і прызначан на тое, каб даць таварышом-завочнікам паказ, як іменна патрэбна чытаць кнігу, каб разумець напісанае ў ёй, каб мець ад кніжкі максымум карысьці.

Першым крокам у гэтым напрамку зьяўляецца правільная тэхніка чытаньня.

Якія-ж адзнакі правільнае тэхнікі чытаньня?

1. Цьвёрдасьць і ўпэўненасьць. Трэба іменна быць упэўненым, што ты ўжо ўмееш чытаць належна, што няправільнасьць у сваім чытаньні ты не дапусьціш.

2. Уменьне чытаць голасна і ціха. Трэба ўмець чытаць як голасна, так і пра сябе, аднымі вачыма. Гэтага вымагае само жыцьцё. Голасам нам прыходзіцца часта чытаць для другіх. Чытаньне-ж бязгучнае, чытаньне вачыма нам на кожным кроку патрэбна пры нашых уласных занятках над кнігаю.

3. Належны тэмп чытаньня. Пры чытаньні тэмп мае вельмі важнае значэньне. Разумеецца, патрэбна выпрацаваць уменьне чытаць правільна любым тэмпам: і хуткім, і памяркоўна-павольным. Хуткае чытаньне, чытаньне іменна аднымі вачыма, чытаньне цэлымі сказамі і нават цэлымі балонкамі, літаральна-балонкамі, нам патрэбна калі мы знаёмімся толькі з творам, знаёмімся дзеля ацэнкі, ці варта ў далейшым уважліва чытаць гэты твор, ці ёсьць у ім што-небудзь для нас каштоўнае.

Пры паглыбленай-жа распрацоўцы тэксту, а таксама пры галосным чытаньні патрэбен тэмп, як мы сказалі, памяркоўна-павольны, гледзячы па патрэбе, па характару тэксту, па мэце, якая ставіцца чытаньнем, па слухачох і г. д.

Але-ж заўсёды будзе дрэнна, калі чытач уладае толькі ці надта-хапатлівым тэмпам, ці надта павольным. А на практыцы такая зьява часта спатыкаецца. Такі стан трэба зжываць, трэбя дабівацца і дабіцца ў чытаньні вольнага тэмпу, г. зн. такога тэмпу, які цалкам залежыць ад добрае волі самога чытача.

4. Правільнае вымаўленьне слоў. Правільнае зусім беспамылковае вымаўленьне слоў пры чытаньні мае выключнае значэньне На гэты бок справы патрэбна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу, бо хібы няправільнага вымаўленьня слоў пры чытаньні значна пашыраны. А думкі, укладзеныя ў тэксьце, строга адпавядаюць тым іменна словам, якімі яны запісаны. Вось чаму самая малая няправільнасьць у вымаўленьні слова вядзе да скажэньня думкі і да няправільнага ўяўленьня таго, што мае даць тэкст.

5. Разуменьне слоў правільна прачытаных. Кніжная мова вызначаецца, паміж іншым, тым, што ўключае ў сабе многа слоў, мала або зусім не пашыраных сярод шырокае чытацкае масы. А зноўжа незразумелае слова ці няправільна зразумелае заўсёды павядзе да парушэньня сэнсу чытанага і да фальшывага яго разуменьня.

Каб ухіліцца ад такое бяды, раіцца шырока карыстацца слоўнікамі, спэцыяльна для таго прызначанымі.

Пры карыстаньні слоўнікам трэба мець на ўвазе, што ўсе словы ў слоўніку зьмешчаны ў тым парадку, у якім яны стаяць у альфабэце (а, б, в, г, д, е, ж і г. д.). Аднак, месца поўнага слова вызначаецца ня толькі першай яго літарай, а і другою, трэцяю і г. д. Напрыклад слова „Ніцы" (нахілены да зямлі) будзе зьмешчана ў слоўніку пад

літараю „н" не з пачатку, а бліжэй да сярэдзіны, дзе ёсьць месца літары „і", а там таксама не з пачатку, а далей да канца раду літары „і", дзе знойдзецца ў альфабэце месца літары „ц".

Апроч таго, адно і тое-ж слова можа мець не адно, а некалькі значэньняў. Напрыклад, слова „*курс*" можа абазначыць: 1) курс вучэбнага прадмету (курс гісторыі, курс матэматыкі), 2) год абучэньня (1 курс, 2 курс), 3) каштоўнасьць грошай (курс рубля, курс чырвонца курс даляра), нарэшце, 4) накіраванасьць карабля, аэроплянy (дырыжабль трымае курс на Маскву) і г. д.

Пры спраўках у такіх выпадках патрэбна выбіраць тое тлумачэньне, якое ў поўнай меры адпавядае агульнаму сэнсу данага тэксту.

Раіцца аднак прыбягаць за дапамогаю да гатовага слоўніка напасьледак. Спачатку-ж пры спатканьні з незразумелым словам варта прыкласьці стараннасьць самастойна выясьніць яго значэньне, арыентуючыся на агульным сэнсе фразы, а да слоўніка зварачацца толькі за праверкаю правільнасьці ўласнага тлумачэньня.

Нарэшце, нязвычайна карысна, нават патрэбна, укладаць уласны слоўнік незразумелых слоў. Дзеля гэтага абавязкова мець спэцыяльны сшытак-альфабэт, куды і заносіць незразумелыя словы з іх тлумачэньнямі.

6. Правільная інтонацыя. Якое значэньне мае дзеля разуменьня чытанага інтонацыя, аб гэтым было гаворана ў першым разьдзеле гэтага заданьня (гл. разьдз. 1 § 4). Тут толькі належыць яшчэ раз падкрэсьліць залежнасьць інтонацыі ад знакаў прыпынку, на якія пры чытаньні і разглядзе тэксту неабходна зварочваць найсур'ёзьнейшую ўвагу.

7. Лёгічны націск. Што такое лёгічны ці цэнсавы націск? Якое ён мае значэньне ў мове і для разуменьня чытанага?

Справа ў тым, што ў сказе, які складаецца з двух і больш слоў, ня ўсе словы вымаўляюцца з аднолькаваю сілаю, разумеецца, пры нормальнай гаворцы і пры правільным чытаньні. Адно з усіх слоў сказу заўсёды вымаўляецца з большай сілаю, з большім націскам у голасе. Вось гэты націск, што прыпадае на адно пэўнае слова ў сказе, і носіць назву „лёгічнага націску".

Значэньне ў мове лёгічнага націску, як і інтонацыі, нязвычайна вялікае. Пераносячы лёгічны націск з аднаго слова на другое, мы ў значнай меры будзем мяняць агульны сэнс аднаго і таго-ж сказу. Возьмем, напрыклад, сказ: „*чалавек ідзе*", уклаўшы лёгічны націск у слова „чалавек". Што мы тут выказваем? Тое, што ня конь, ня вол, не мядзьведзь ідзе, а іменна „*чалавек*". Другое слова ў даным выпадку нас мала цікавіць, бо сэнс яго ўжо вядомы. Мы ўжо да выказваньня бачылі хто „*ідзе*". Толькі спачатку мо' было невядома, хто іменна. А выкрыўшы гэта, мы і говорым: „*чалавéк ідзе*".

Цяпер перанясем лёгічны націск на другое слова—„*ідзе*". Атрымаецца сказ: „*Чалавек ідзé*".

Які-ж цяпер сэнс сказу? А той, што нам няцікава, хто ідзе, бо гэта і без таго мы ведаем. Нам спачатку толькі было невядома, што чалавек робіць: ці стаіць, ці ідзе, ці едзе. І вось, упэўніўшыся ў факце, што чалавек ня едзе і не стаіць, мы гаворым: *„чалавек ідзé“*, націскаючы на слова *„ідзé“*.

Вазьмеце сказ з трох, чатырох і больш слоў, спрабуйце пераносіць лёгічны націск з першага слова на другое, трэцяе і г. д., і вы пераканаецеся, што сэнс сказу зьменіцца столькі раз, колькі ў ім слоў. А калі гэта так, калі сэнс сказу залежыць ад лёгічнага націску, дык пры чытаньні неабходна ведаць, на якое слова ў тэксьце ён павінен прыпадаць. На жаль, тут нельга вывесьці якіх-небудзь пэўных правіл. Для лёгічнага націску няма спэцыяльных адзнак, падобных знакам прыпынку. Часам аўтары, імкнучыся да пэўнага паразуменьня, падкрэсьліваюць тыя слова, на якія яны самі пераносяць лёгічны націск. Звычайна-ж лёгічны націск чытач сам павінен знайсьці, мяркуючыся з агульным сэнсам чытанага.

Усе адзначаныя вышэй прыёмы чытаньня складаюць тое, што называецца тэхнікаю чытаньня. Без належна выпрацаванай тэхнікі ў тым сэнсе, аб якім тут гаварылася, сур'ёзна працаваць над сур'ёзнаю кнігаю нельга. Вось чаму ўсякі, хто імкнецца да ўладаньня сур'ёзнаю кнігаю, а цераз яе і сур'ёзнымі ведамі, павінен у першую чаргу выпрацаваць правільную тэхніку чытаньня, што даецца толькі спэцыяльным і ўважлівым практыкаваньнем над рознага роду тэкстамі.

Маючы гэта на ўвазе, у праграму па мове, уведзен рад спэцыяльных заняткаў па тэхніцы чытаньня пад назваю **„Выразьлівае чытаньне“**.

Настойліва раіцца пры чытаньні артыкулаў, асабліва мастацкіх твораў, мець на ўвазе вышэйпаданыя парады.

### *ЗАДАЧА 11-ая.*

1. З збору твораў П. Галавача „Хочацца жыць“ прачытаць апавяданьне „Уцякач“.
2. У сшытках запісаць поўныя, абдумана-сформуляваныя адказы на пытаньні:

а) Да якога часу адносіцца апавяданьне?

б) Хто зьяўляецца героем апавяданьня (яго соцыяльны стан і асноўныя рысы характару)?

в) Чым адрозьніваецца Голуб ад сваіх суседзяў—таварышоў па акопу?

г) Якое злачынства ўчыніў Голуб і як яго судзіў рэўтрыбунал?

### *ЗАДАЧА 12-я.*

Сьпісаць артыкул, выпісаць у альфабэтным парадку ўсе вылучаныя курсівам словы і даць ім належнае тлумачэньне.

*Радыкальны* перагляд усіх спраў гэтага *коопэратыву* даў магчымасьць *констатаваць* поўны парадак у справаводзтве. На чарзе стаіць *проблема* павялічэньня зарплаты. Дзякуючы апошнім *экспэрымэнтам* ранейшыя меркаваньні, угрунтаваныя на *абстрактных* разважаньнях, былі адхі-

лены. Сёньня са мною адбыўся няпрыемны *інцыдэнт*. *Контраст* у жыльлёвых умовах фабрыканта і рабочага быў нязвычайны. Падымаючыся на гору, *турысты* забясьпечыліся *провіянтам*. Дрэнна *індыфэрэнтна* адносіцца да асьветы мас. Доктар *констатаваў сымптомы* хваробы, небясьпечнай для чалавека слабай *комплекцыі*. *Дэфіцытныя* тавары коопэрацыя адпушчае толькі пайшчыкам. *Кардынальнаю* задачаю нашага атраду было выбіць супраціўніка з лесу. На заводзе „Энэргія“ да прагульшчыкаў прымянілі самыя *радыкальныя рэпрэсыўныя* меры. Ухвала *акадэмічнае сэкцыі* была *санкцыявана прэзыдыумам* Комвузу. Наша *эпоха*—гэта эпоха *эмансыпацыі* жанчын.

**Контрольная праца № 1.**

Выслаць для прагляду і ацэнкі ў асобным сшытку такія работы:

1) З задачы 1-е пункт 2 і 3.
2) „ 3-е „ 1, 3, 6 і 7.
3) „ 4-е „ 1 і 6.
4) Задачкі: 9, 10, 11 і 12 (цалкам).

---




**Аддзяленьне падрыхтоўчае.**

*Курс вядзе Г. Н. САГАЛОВІЧ.*

## Матэматыка на Завочнакурсавым сэктары КУБ'а.

Шпаркія тэмпы індустрыялізацыі краіны, колектывізацыя сельскае гаспадаркі, соцыялістычная рэконструкцыя і рацыяналізацыя вытворчасьці патрабуюць ад кожнага сьвядомага будаўніка соцыялізму ня толькі агульна-політычнай адукацыі, а і пэўнага мінімума агульна-адукацыйных ведаў. Задачы аўладаньня тэхнікай таксама патрабуюць павялічэньня адноснай вагі дысцыплін з тэхнічным ухілам у комвузаўскіх програмах.

Сярод гэтых дысцыплін на падрыхтоўчым аддзяленьні значнае месца адводзіцца матэматыцы, для якой вызначана па навучальным пляне 164 гадзіны, якія ў сваю чаргу падзяляюцца на дзьве часткі: большая—для завочнага і меншая—для курсавога навучаньня.

Матэматыка мае сваёй мэтаю даць завочніку неабходнае ўменьне, ў карыстаньні лікам і мераю (тэхніка дзесятковых і простых дробаў процантныя вылічэньні, разуменьне ідэй пропорцыянальнасьці і разьвязваньне задач пры дапамозе пропорцый, разуменьне матэматычнае сымболікі, з якою сустракаюцца пры чытаньні розных навуковых кніжак, разуменьне графічнага мэтоду, уменьне карыстацца раўнаньнем пры разьвязваньні розных пытаньняў экономікі і тэхнікі, вылічваньне квадратур і кубатур розных фігур).

Увесь курс разаб'ецца на 8 заданьняў з разьліку па 15 гадзін на кожнае. У кожным заданьні будуць закрануты наступныя моманты: кароткія тэорэтычныя тлумачэньні, мэтодычныя заўвагі і рабочы матэрыял.

Акрамя гэтага, у кожным заданьні ёсьць контрольная частка, якую завочнікі павінны выканаць і пераслаць у Комвуз для таго, каб бачыць, наколькі студэнт усвойвае вучэбны матэрыял.

Контрольная частка будзе праглядацца ў Комвузе і з падрабязнай рэцэнзіяй і неабходнымі тлумачэньнямі перасылацца назад студэнту.

Каб навучыць студэнта атрыманыя веды прыкладваць да розных пытаньняў жыцьця—экономікі, тэхнікі, і г. д., — па меры магчымасьці ў кожным заданьні будзе адпаведны матэрыял (вылічэньне сельскагаспадарчага падатку, разьмеркаваньне прыбыткаў колгасаў паміж членамі яго, пытаньне зарплаты, пытаньне 5-цігадовага пляну, складаньне невялічкіх каштарысаў, чытаньне і разуменьне лёгкіх балянсаў і г. д.).

Курсавыя 40 гадзін маюць сваёй мэтаю, з аднаго боку, замацаваць тое, што студэнты апрацавалі завочным шляхам, і разабраць шэраг пытаньняў альгебры, геомэтрыі, якія, паводле нашага разуменьня, будзе цяжка завочным шляхам прайсьці.

# ПРОГРАМА ПА МАТЭМАТЫЦЫ.

## Завочная частка програмы.

### *ЗАДАНЬНЕ № 1.*

**Дзесятковыя дробы.** (*12 гадз.*).

Мэтрычная сыстэма мер. Нумарацыя дзесятковых дробаў. Паралічэньне і памяншэньне дзесятковых дробаў у 10, 100, 1000 і г. д. разоў. Дзеяньні над дзесятковымі дробамі. Дзяленьне канечнае і бесканечнае. Акругленьне лікаў з пэўнаю дакладнасьцю.

Практыкаваньні:

Практыка запісу лікаў, як прынята ў статыстыцы.
Вылічэньне зарплаты рабочых і служачых.
Азнаямленьне з тарыфнаю сеткаю.
Вылічэньне адзінага сельскагаспадарчага падатку (новы закон аб сельскагаспадарчым падатку).

**Процантныя вылічэньні.** (*6 гадз.*).

Паняцьце аб процанце. Знаходжаньне ад ліку некалькі процантаў. Знаходжаньне ліку па процантах. Выражэньне стасунку лікаў у процантах. Задачы тыпаў на сто і ў сто. Паняцьце аб праміле (тысячная частка).

Практыкаваньні:

Вылічэньне адлікаў ад зарплаты.
Вылічэньне тары, бруто, нэто.
Вылічэньне амортызацыі.
Пазыка індустрыялізацыі.
Каса ашчаднасьці.
Пытаньне пяцігодкі ў задачах.

### *ЗАДАНЬНЕ № 2.*

**Простыя дробы.** (*10 гадз.*).

Просты дроб і яго ўласьцівасьці. Дзеяньні над простымі дробамі. Перавод простых дробаў у дзесятковыя. Пераважнасьць дзесятковых дробаў перад простымі. Сярэдні арытмэтычны лік. Сярэдні ўзважаны лік.

**Стасункі і пропорцыі.** (*8 гадз.*)

Стасунак лікаў. Процантны стасунак лікаў. Пропорцыя і яе разьвязаньне. Пропорцыянальнасьць простая і адваротная. Пропорцыянальны падзел.

Практыкаваньні:

Статычны і дынамічны коэфіцыенты ў статыстыцы.
Вылічэньне органічнай пабудовы капіталу.
Вылічэньне норм эксплёатацыі і прыбытку.
Разьмеркаваньне прыбыткаў у колгасе паміж членамі яго.
Організацыя працы ў калгасе.

## *ЗАДАНЬНЕ № 3.*

**Геомэтрычная лінія і пункт.** (*2 гадз.*)

Лінія і пункт. Куты, іх віды і мераньні. Карыстаньне лінейкаю і транспортырам. Лініі пэрпэндыкулярныя і паралельныя.

**Фігуры.** (*10 гадз.*).

Геомэтрычныя фігуры: квадрат, простакутнік, паралелёграм, ромб, трыкутнік, трапэцыя. Уласьцівасьць элемэнтаў пералічаных фігур, Вылічэньні пэрымэтраў і плошчаў пералічаных фігур. Многакутнік, яго куты і плошча.

Практыкаваньні:

Практыка чырчэньня дыяграм.
Вылічэньне розных квадратур.
Вылічэньне плошчаў зямельных вучасткаў.
Вылічэньне плошчаў у будаўнічай справе.
Складаньне нескладаных каштарысаў на невялікі рамонт.

**Акружына і круг.** (*6 гадз.*).

Акружына і яе даўжыня. Круг і яго плошча. Сэктар, сэгмэнт, кругавое колца і яго плошча. Куты ў кругу: цэнтральны, упісаны і апісаны. Правільныя многакутнікі і іх чырчэньне.

Чырчэньне пяціканцовай зоркі.

Практыкаваньні:

Практыка чырчэньня кругавых дыяграм.
Разьметка правільных многакутнікаў пры выпілоўваньні і вычэсваньні з бярвеньняў розных кантовых слупоў.
Акружына і круг у тэхніцы (шківы, зубчаткі, трансмісіі і г. д.).

## *ЗАДАНЬНЕ № 4.*

**Альгебраічная сымболіка. Адносныя лікі.** (*6 гадз.*).

Літарная сымболіка ў матэматыцы. Коэфіцыент і паказальнік ступені. Альгебраічны выраз. Формуля і карыстаньне ёю. Адносныя лікі і дзеяньні над імі.

Практыкаваньні:

Практыка карыстаньня рознымі формулямі з фізыкі і экономікі.

Практыка карыстаньня формулямі з геомэтрыі.

Формулі вытворчасьці с.-г. машын, вагі каровы, кармавых дач жывёле і інш.

**Адначлен і многачлен.** *(12 гадз.).*

Паняцьце аб адначлене і многачлене. Падобныя адначлены і іх прывядзеньне. Дзеяньні з адначленамі і многачленамі (больш простыя выпадкі). Скарочанае множаньне і дзяленьне па формулях. Расклад многачлена на самножнікі (больш простыя выпадкі).

Практыкаваньні:

Скарыстаньне формуль скарочанага множаньня для палягчэньня некаторых вылічэньняў.

*ЗАДАНЬНЕ № 5.*

**Альгебраічныя дробы.** *(18 гадз.).*

Альгебраічны дроб, яго скарачэньне; дзеяньні з альгебраічнымі дробамі (больш простыя выпадкі).

*ЗАДАНЬНЕ № 6.*

**Раўнаньне.** *(18 гадз.).*

Тожсамасьць і раўнаньне. Раўнаньне і яго разьвязваньне. Раўнаньне I ступені з адным невядомым. Практыка карыстаньня раўнаньнямі пры разьвязваньні розных пытаньняў геомэтрычнага, тэхнічнага і экономічнага зьместу. Формулі простых працантаў і амортызацыі.

*ЗАДАНЬНЕ № 7.*

**Падобныя фігуры.** *(18 гадз.).*

Роўныя і падобныя фігуры. Прызнакі роўнасьці трыкутнікаў. Прызнакі падобнасьці трыкутнікаў. Плян і маштаб. Лікавы і лінейны маштаб. Практыка карыстаньня маштабам пры чытаньні ляндкарты. Падобнасьць фігур у каморніцкай справе. Залежнасьць паміж элемэнтамі простакутнага трыкутніка. Уласьцівасьць пэрпэндыкуляра, апушчанага з вяршыні простага кута на гіпотэнузу. Тэорэма Пітагора.

Практыкаваньні:

Тэорэма Пітагора ў тэхніцы і ў каморніцкай справе.

Павялічэньне квадратаў і кругоў у некалькі разоў.

## *ЗАДАНЬНЕ № 8.*

### Геомэтрычныя целы. *(18 гадз.).*

Геомэтрычныя целы: куб, паралелепіпэд, прызма, піраміда, цыліндр, конус і шар. Вылічэньні іх паверхні і аб'ёмаў. Паняцьце аб міжнародным часе.

Практыкаваньні:

Пытаньні з тэхнікі, зьвязаныя з вылічэньнем паверхні і аб'ёмаў розных цел.
Вылічэньне вагі розных цел.
Вылічэньне ёмістасьці рознай пасудзіны.

---

## Курсавая частка праграмы.

Сыстэматызацыя ведаў аб разьвязваньні раўнаньняў I ступені з адным невядомым.

Сыстэма двох раўнаньняў з двума невядомымі і яе разьвязваньне.

Графічны мэтод у матэматыцы. Практыка чырчэньня функцый па пунктах.

Практыка разьвязваньня задач графічным шляхам.

Задачы на рух. Практыка карыстаньня чыгуначнымі графікамі.

Квадратовае раўнаньне і яго разьвязваньне. Залаты падзел у прыродзе і тэхніцы.

Прогрэсіі арытмэтычная і геомэтрычная. Элемэнты прогрэсіі. Сума членаў прогрэсіі. Устаўка лікаў (інтэрполіраваньне) паміж данымі. Пабудова тарыфных сетак.

Паняцьце аб трыгономэтрычных функцыях. Табліца натуральных трыгономэтрычных функцый. Разьвязваньне трыкутнікаў пры дапамозе табліц трыгономэтрычных функцый. Разьвязваньне шэрагу практычных пытаньняў каморніцкага і вайсковага характару пры дапамозе трыгономэтрычных фунцый.

---

# ЗАДАНЬНЕ ПЕРШАЕ.

*(Разьлічана на 18 гадзін самастойнай працы).*

## Дзесятковыя дробы і процантныя вылічэньні.

Заданьне № 1 мае сваёй мэтай навучыць вас, як рабіць розныя дзеяньні над дзесятковымі дробамі і таксама як рабіць процантныя вылічэньні. Матэрыял для прапрацоўкі гэтага заданьня вы знойдзеце ў рабочай кнізе па матэматыцы Бэркута, Госьцева і інш. Гэта кніга перакладзена з дванаццатага расійскага выданьня на беларускую мову і яна ёсьць у продажы.

Кнігу па матэматыцы належыць чытаць з алоўкам у руках, маючы рабочы сшытак з правага боку рабочай кнігі. Практыкаваньні і задачы, якія паказаны ў заданьні, належыць заносіць у сшытак. Правілы і вызначэньні, якія таксама прыводзяцца ў кнізе, належыць зачытваць, уразумець, але не завучваць напамяць. Калі ў вас сустрэнуцца незразумелыя месцы ў працы, дык зьвярнецеся за дапамогай да больш падрыхтаванага таварыша альбо ў мэтодбюро, якое ёсьць пры РК, у крайнім выпадку запытайце комвуз адкрыткай.

У канцы заданьня ёсьць контрольная частка, выканайце гэту контрольную частку акуратна і перашлеце яе ў Комвуз для праверкі і рэцэнзаваньня.

## § 1.

Лік ёсьць злучнасьць некалькіх адзінак альбо некалькіх частак адзінак, напрыклад, $5=1+1+1+1+1$; $^3/_4={}^1/_4+{}^1/_4+{}^1/_4$, а таму лікі бываюць цэлыя і дробавыя. Цэлы лік ёсьць злучнасьць цэлых адзінак, а дробавы лік ёсьць злучнасьць частак адзінак. Мы думаем, што запісваць цэлыя лікі, іх чытаць і выконваць над імі розныя арытмэтычныя дзеяньні вы ўмееце, а таму наш курс мы пачнем з дробаў.

Прапрацуйце па Рабочай кнізе § 11 і дайце адказ у вуснай форме на наступныя пытаньні:

што такое дроб?
што паказвае назоўнік дробу?
што паказвае лічнік дробу?
які дроб завецца правільным?

які дроб завецца няправільным?
як мешаны лік зварочваюць у няправільны дроб?
як з няправільнага дробу выключаецца цэлая частка?

## § 2.

Дробы бываюць звычайныя і дзесятковыя. Калі ў дробу назоўнік ёсьць адзінка з нулямі, то такі дроб завецца дзесятковым, напр: $^3/_{10}$, $^3/_{100}$, $^7/_{1000}$ і г. д.

У сучасны момант, у сувязі з тым, што наша краіна перайшла на мэтрычныя меры, дзесятковы дроб выцясьняе звычайны, а таму мы ў нашай працы больш увагі ўдзяляем дзесятковаму дробу.

Прапрацуйце па Рабочай кн. § 12 і ўсвойце мэтрычныя меркі даўжыні. Карысна будзе для вас, калі вы гэтую табліцу мерак занясеце ў ваш сшытак.

Зьвярнеце ўвагу на скарочаны запіс мерак даўжыні:

кілёмэтр—*км*, мэтр—*м*, дэцымэтр—*дм*, сантымэтр—*см*, мілімэтр—*мм*.

Карысна запомніць, што даўжыня двух каморак у сшытку роўна = = 1 *см*., даўжыня запалкі роўна=$4^1/_2$ *см*, таўшчыня запалкі роўна=2 *мм*

## § 3.

Прапрацуйце па Раб. кн. § 13 і засвойце наступнае:

як дзесятковы дроб запісваюць, як дзесятковы дроб зачытваюць, як дзесятковы дроб павялічваюць у 10, 100 і 1000 разоў і як дзесятковы дроб памяншаюць у 10, 100, 1000 разоў.

*Увага*. Добра засвойце тэхніку павялічэньня і памяншэньня дзесятковага дробу ў 10, 100 і 1000 разоў. Памятайце, што тыя цяжкасьці, якія бываюць у пачынаючых вучыцца матэматыцы пры выконваньні множаньня і дзяленьня дзесятковых дробаў, залежаць ад таго, як ён засвоіў павялічэньне і памяншэньне дзесятковага дробу пры дапамозе пераносу коскі.

## § 4.

Калі вы без асаблівых цяжкасьцяй робіце складаньне і адыманьне цэлых лікаў, то лёгка навучыцеся рабіць тыя самыя дзеяньні над дзесятковымі дробамі. Прапрацуйце па Раб. кн. § 15 і засвойце тэхніку складаньня і адыманьня дзесятковых дробаў.

Дайце адказы на наступныя пытаньні:
як называюцца лікі пры складаньні?
як называюцца лікі пры адыманьні?
як правяраюць складаньне?
як правяраюць адыманьне?

## § 5.

Калі вы без асаблівых цяжкасьцяй робіце множаньне і дзяленьне цэлых лікаў і калі вы навучыліся раней павялічваць і памяншаць

дзесятковы дроб у 10, 100, 1000 і г. д. разоў, дык вы без асаблівых цяжкасьцяй навучыцеся рабіць множаньне і дзяленьне дзесятковых дробаў.

Прапрацуйце па Раб. кн. §§ 20, 21, 22 і навучэцеся множаньню і дзяленьню дзесятковых дробаў.

Яшчэ раз напамінаем, што тыя правілы, якія даны ў гэтых параграфах наконт множаньня і дзяленьня дробаў, трэба ўразумець, але не завучваць напамяць.

Дайце адказы на наступныя пытаньні:
як называюцца лікі пры множаньні?
як называюцца лікі пры дзяленьні?
як робіцца праверка дзеяньняў множаньня і дзяленьня?

## § 6.

Над дзесятковымі дробамі розныя арытмэтычныя дзеяньні выконваюцца куды прасьцей, чым над звычайнымі, а таму вельмі часта пры рознага роду разьліках замяняюць простыя дробы адпаведнымі дзесятковымі.

Прапрацуйце па Раб. кнізе §§ 23, 24, 25 і вы навучыцеся замяняць просты дроб адпаведным дзесятковым.

*Увага.* Калі вы замяняеце просты дроб дзесятковым, дык вазьмеце дзесятковы дроб з дакладнасьцю да сотых ці да тысячных частак; браць дзесятковы дроб з большай дакладнасьцю няварта. Неабходныя тлумачэньні па даным пытаньні вы знойдзеце ў Раб. кн. у паказаных параграфах.

## § 7.

У друку вы часта сустракаецеся з так званым сярэднім лікам, напрыклад, сярэдняя зарплата рабочага, сярэдняя нагрузка рабочага, сярэдняя выпрацоўка заводу і г. д. З тым, каб уразумець, што такое сярэдні лік і як ён вылічваецца, апрацуйце па Рабочай кн. § 26 і 27; дайце адказ на наступныя пытаньні:
што ёсьць сярэдняе арытмэтычнае некалькіх лікаў?
як вылічваецца сярэдняе арытмэтычнае некалькіх лікаў і
адхіленьне ад сярэдняга арытмэтычнага ліку?

## § 8.

Калі вы навучыліся рабіць розныя дзеяньні над дзесятковымі дробамі, то можаце пачаць вучыцца рабіць процантныя вылічэньні.

Вы напэўна ведаеце, што процант гэта ёсьць адна сотая частка ад ліку, 2%—0,02, 3%—0,03 ад ліку і г. д. Прапрацуйце па Рабочай кн. § 21 і вы навучыцеся знаходзіць ад лікаў адзін альбо некалькі процантаў. Пры разьвязваньні задач на проценты трэба разлічаць наступныя 3 выпадкі:

Першы выпадак: знаходжаньне ад ліку некалькіх процантаў.

**Задача.** На зьезьдзе было 840 дэлегатаў, з іх 75% карысталіся рашаючым голасам, а астатнія дарадчым. Колькі было тых і іншых?

Разьвязаньне:

| I спосаб. | II спосаб. |
|---|---|
| 840 : 100 = 8,4 | 840 × 0,75 = 630 |
| 8,4 × 75 = 630 | |

Другі выпадак: вызначэньне невядомага ліку, калі вядомы некалькі процантаў ад яго.

**Задача.** 4% свайго месячнага заробку рабочы адлічвае ў прof-саюз і ў касу ўзаемадапамогі і гэта складае 6 руб. Вылічыць яго месячны заробак.

Разьвязаньне:

| I спосаб. | II спосаб. |
|---|---|
| 6 : 4 = 1,5 | 6 : 0,04 = 150 |
| 1,5 × 100 = 150 | |

Трэці выпадак: вылічыць, колькі процантаў складае адзін лік ад другога ліку, альбо, як інакш кажуць, выразіць стасунак 2-х лікаў у процантах.

**Задача** На рабфаку вучацца 640 студэнтаў, з іх 160 жанчын. Колькі процантаў жанчын вучацца на Рабфаку?

Разьвязаньне:

| I спосаб. | II спосаб. |
|---|---|
| 640 : 100 = 6,4 | 160 : 640 = 0,25 = 25% |
| 160 : 6,4 = 25 (проц.) | |

Апрацуйце па Раб. кн. § 28 і вы навучыцеся разьвязваць розныя задачы на процанты.

Пры некаторай практыцы ёсьць магчымасьць іншы раз рабіць некаторыя процантныя вылічэньні вусна, для гэтага раім вам усвоіць наступнае:

| | |
|---|---|
| 50% = $^1/_2$ | 75% = $^3/_4$ |
| 25% = $^1/_4$ | 10% = $^1/_{10}$ |
| 12,5% = $^1/_8$ | 20% = $^1/_5$ |

**Вусныя практыкаваньні.**

I. Знайсьці 51% ад 800
50% ад 800 = 400
1% ад 800 = 8
51% ад 800 = 408

Знайсьці 49% ад 600
50% ад 600 = 300
1% ад 600 = 6
49% ад 600 = 294

Знайсьці 99% ад 8000

1% ад 8000 = 80

99% ад 8000 = 7920

II. Колькі процантаў складаюць:

3 ад 50, што 6 ад 100 = 6%

4 ад 25, што 16 ад 100 = 16%

9 ад 20, што 45 ад 100 = 45%

8 ад 300, што 4 ад 100 = 4%

## Контрольная частка.

З тым, каб высьветліць, наколькі вы ўсвоілі дзеяньні над дзесятковымі дробамі і процантныя вылічэньні, выканайце наступныя задачы і перашлеце ў Комвуз для рэцэнзаваньня.

**Задача № 1.** Каля Масквы будуецца самая вялізарная ў СССР малочная гаспадарка; у сучасны момант яна мае 2000 кароў; да канца пяцігодкі гэтая колькасьць павінна павялічыцца ў 2,5 разы. Калі лічыць, што адна карова ў дзень дае 14 *л* малака і што норма малака на 1 дзіця ў дзень складае 0,5 *л*, вылічыць якую колькасьць дзяцей у дзень задаволіць гэтая гаспадарка ў канцы пяцігодкі?

**Задача № 2.** Складзеце каштарыс на афарбоўку падлогі памяшканьня, разьмеры якога 48 *м* × 36 *м*, калі на 1 *кв. м* патрэбна:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пакосту | 0,23 *кг* | па 97 | кап. | за 1 | *кг* |
| Вохры | 0,11 „ | „ 16 | „ | „ | „ |
| Замазкі | 0,03 „ | „ 18 | „ | „ | „ |
| Пэмзы | 0,001 „ | „ 40 | „ | „ | „ |

Зрабеце неабходныя вылічэньні і запоўніце наступную ведамасьць

| Назва матэрыялу | Матэрыял на 1 *кв. м* | Матэрыял на ўсю падлогу | Цана 1 кілёграму | Кошт усяго матэрыялу |
|---|---|---|---|---|
| Пакост . . . . | 0,23 *кг* | | 97 кап. | |
| Вохра . . . . | | | | |
| Замазка . . . . | | | | |
| Пэмза . . . . | | | | |

**Задача № 3.** Мэталісты, у залежнасьці ад кваліфікацыі, падзяляюцца на 8 катэгорый па наступнай тарыфнай сетцы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 катэгорыя | —1 | 5 катэгорыя | —1,9 |
| 2 „ | —1,1 | 6 „ | —2,2 |
| 3 „ | —1,5 | 7 „ | —2,5 |
| 4 „ | —1,7 | 8 „ | —2,8 |

Колькі грошай патрэбна дырэктару фабрыкі на выплату рабочым за м-ц, калі на фабрыцы рабочых:

| | |
|---|---|
| 1 катэгорыі—124 чал. | 5 катэгорыі—116 чал. |
| 2 „ —440 „ | 6 „ —114 „ |
| 3 „ —260 „ | 7 „ —112 „ |
| 4 „ —112 „ | 8 „ —100 „ |

Месячны аклад рабочага 1-й катэгорыі складае 60 руб.

Зрабеце неабходныя вылічэньні і занясеце ўсе вылічэньні ў наступную ведамасьць:

| Катэгорыя | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасьць рабочых . | | | | | | | | |
| Аклад рабочых . . . | | | | | | | | |
| Сума . . . . . . | | | | | | | | |

**Задача № 4.** Колгас пасьля году працы атрымаў 9.600 руб. чыстага прыбытку. З гэтых сродкаў ён выдзеліў у непадзельны капітал 10%, у падзельны капітал 50%, у запасны капітал 20%, а астатнія ў спэцыяльны капітал. Колькі грошай колгас выдзеліў у кожны з пайменаваных капіталаў?

**Задача № 5.** Колгас атрымаў пазыку ў 11.500 руб. на набыцьцё машын на 5 год, з разьліку 5% гадавых. Гэтыя грошы колгас павінен выплаціць у 3 тэрміны наступным чынам:

у канцы 3 году—25% пазыкі,
у канцы 4 „ 25% „
у канцы 5 „ 50% „

Вылічце сумы, якія колгас павінен выплачваць у кожны з паказаных тэрмінаў.

**Задача № 6.** У колгасе налічваецца 1370 едакоў; крыніцы іх прыбытку наступныя:

| | | | |
|---|---|---|---|
| засеву . . . . . | 1400 *га* | гароду . . . . . | 20 *га* |
| сенажаці. . . . | 110 *га* | коняй . . . . . | 265 гал. |
| ільну . . . . . | 65 *га* | кароў . . . . . | 63 гал. |

Для раёну, дзе знаходзіцца колгас, вызначаны наступныя нормы прыбыткаў у год:

| | |
|---|---|
| 1 *га* засеву —52 р. | 1 га гароду—160 р. |
| 1 *га* сенажаці—18 р. | 1 конь — 24 р. |
| 1 *га* ільну —52 р. | 1 карова — 18 р. |

Вылічце ўвесь гадавы прыбытак колгасу.

З якой сумы колгас павінен плаціць сельскагаспадарчы падатак, калі:

а) коні і каровы вызваляюцца ад падатку,

б) прыбытак ад гароду і ільну вызваляецца на 50% ад абкладаньня,

в) 165 *га*, на якія колгас павялічыў сваю пасеўную плошчу, вызваляюцца ад падаткаў,

г) 980 *га*, якія ў мінулым належалі бедняком, вызваляюцца ад падатку на 75%.

Колькі падатку прылічваецца з колгасу, калі мінімум у 30 руб. на едака зусім вызваляецца ад падаткаў, а з астатняй сумы падатак бярэцца ў разьмеры 5%.

Зрабеце неабходныя вылічэньні і запоўніце ведамасьць:

| Прыбытак | Сума |
|---|---|
| Засеў . . . . . | |
| Сенажаць . . . . | |
| Лён . . . . . . | |
| Гарод . . . . . | |
| Коні. . . . . . | |
| Каровы. . . . . | |
| Усяго . . . | |

| Ільготы | Сума |
|---|---|
| Гарод . . . . . | |
| Лён . . . . . . | |
| Коні. . . . . . | |
| Каровы. . . . . | |
| Засеў . . . . . | |
| Неабкладаны мінімум | |
| Усяго . . . | |

## *ЗАДАНЬНЕ ДРУГОЕ.*

### Простыя дробы. Стасункі і пропорцыі.

### § 1.

Прапрацуйце па Рабочай кн. §§ 16 і 17 і зьвярнеце ўвагу, як робіцца складаньне і адыманьне звычайных дробаў з аднолькавымі назоўнікамі.

### § 2.

Прапрацуйце па Рабочай кн. §§ 18 і 19 і дайце адказ на пытаньні:

што робіцца з дробам, калі мы яго лічнік павялічым у некалькі разоў?

калі мы яго назоўнік павялічым у некалькі разоў?

калі мы яго лічнік паменшым у некалькі разоў?

калі мы яго назоўнік паменшым у некалькі разоў?

як звычайны дроб павялічваюць у некалькі разоў?

як звычайны дроб памяншаюць у некалькі разоў?

як звычайны дроб скарачаюць?

Калі вы зразумелі, як павялічваюць і як памяншаюць звычайны дроб у некалькі разоў, дык вам ня цяжка будзе зразумець, як звы-

чайны дроб множаць ці дзеляць на цэлы лік і тыя задачы, якія даны ў § 19, вы выканаеце без асаблівых цяжкасьцяй.

## § 3.

Як складаць і адымаць звычайныя дробы з аднолькавымі назоўнікамі вы ўжо зразумелі, апрацаваўшы § 16 і 17, цяпер апрацуйце §§ 40 і 41, каб навучыцца рабіць складаньне і адыманьне звычайных дробаў з рознымі назоўнікамі.

Дайце адказы на наступныя пытаньні:

што азначае прывядзеньне дробаў да аднаго назоўніку?

як робіцца складаньне і адыманьне дробаў з рознымі назоўнікамі?

## § 4.

Прапрацуйце §§ 42 і 43 і ўсвойце, як рабіць множаньне і дзяленьне звычайных дробаў. Калі вы ўважліва апрацавалі тыя параграфы, якія паказаны ў заданьні, дык ёсьць упэўненасьць у тым, што ў вас ёсьць досыць ведаў аб звычайных дробах.

## § 5.

Прапрацуйце па Рабочай кн. § 83 і зьвярнеце ўвагу на тое, што ёсьць стасунак 2-х лікаў і як называюцца лікі, якія складаюць стасунак.

Як стасунак дробных лікаў замяніць стасункам цэлых лікаў?

## § 6.

Прапрацуйце па рабочай кн. § 84 і дайце адказы на наступныя пытаньні:

што завецца пропорцыяй?

якая ўласьцівасьць членаў пропорцыі?

як вызначаецца невядомы член пропорцыі крайні ці сярэдні, калі вядомы астатнія члены пропорцыі?

## § 7.

Прапрацуйце §§ 85 і 86 і навучэцеся разьвязваць задачы пры мозе пропорцыі.

Пры разьвязваньні задач пры дапамозе пропорцый зьвярнеце асаблівую ўвагу на наступныя 3 этапы ў раскладаньні матэрыялу:

а) запіс умовы,

б) укладаньне пропорцый,

в) разьвязваньне пропорцый.

Наконт сутнасьці кожнага этапу ёсьць неабходныя тлумачэньні ў Рабочай кніжцы.

Зьвярнеце ўвагу на тое, якія дзьве велічыні называюцца проста пропорцыянальнымі і калі адваротна пропорцыянальнымі?

Увага. З § 85 задачы №№ 2 і 3 і з § 86 задачу № 1 можаце выкінуць.

## § 8.

Прапрацуйце па Рабочай кн. § 88 і навучэся дзяліць лік пропорцыянальна некалькім даным лікам.

Зьвярнеце ўвагу, што калі патрэбна які-небудзь лік падзяліць пропорцыянальна дробавым лікам, дык заўсёды, раней чым дзяліць, замяняюць стасункі дробавых лікаў стасункамі адпаведных цэлых лікаў. Неабходныя тлумачэньні вы знойдзеце ў Рабочай кн.

### Контрольная частка.

Выканайце наступныя задачы і перашлеце ў Комвуз.

*ЗАДАЧА № 1.*

У лесе загатоўлена $45^3/_4$ куб. мэтраў бярозавых дроў, $28^1/_2$ куб. мэтраў асінавых дроў, $47^1/_3$ куб. мэтраў мешаніны. З гэтых дроў на месцы было адпушчана $51^1/_4$ куб. мэтраў. Колькі дроў застаецца вывезьці?

*ЗАДАЧА № 2.*

Колгас мае 33 кані, 164 каровы, 159 сьвіней. Ад іх у год атрымліваецца гною: ад каня $5^3/_4$ тонны, ад каровы $4^9/_{10}$ тонны, ад сьвіньні $1^3/_{10}$ тонны. Колькі гектараў зямлі можна ўгнаіць гэтым гноем, калі на 1 *га* трэба 36 т. гною?

*ЗАДАЧА № 3.*

На Вашынгтонскай конфэрэнцыі ў 1922 г. быў установлен стасунак флётаў Японіі і ПАЗШ 3:5. Вылічыць тонаж Японскага флёту пры тонажы флёту ПАЗШ у 525 тыс. т.

Японія дамагаецца стасунку флётаў 7 : 10. Якога тонажу дамагаецца Японія?

*ЗАДАЧА № 4.*

Калі на фабрыцы працуюць 20 станкоў, дык яны выконваюць заказ у 12 дэкад. Колькі патрэбна новых станкоў, каб выканаць заказ у 8 дэк.?

*ЗАДАЧА № 5.*

Калі набіраць у хвіліну 15 літараў, дык наборшчык набярэ аркуш у 12 гадз. 48 хвілін. У які час ён набярэ аркуш, калі будзе набіраць у хвіліну 16 літараў? Якую экономію ў часе гэта дасьць друкарні ў год, калі яе лістаж у год = 3000 арк.?

*ЗАДАЧА № 6.*

Праўленьне коопэратыву свой прыбытак у 12.000 р. пастанавіла разьмеркаваць пропорцыянальна 3:2:1 на ўзмацненьне сродкаў коопэратыву, на палепшаньне харчаваньня і на культпатрэбы пайнікаў. Вылічыць, якая сума выдзелена на кожную патрэбу?

*ЗАДАЧА № 7.*

У кватэры жывуць 3 сям'і; адна з іх карыстаецца 2 лямпачкамі на пряцягу 5 гадзін у дзень; другая—3 лямпачкамі на працягу 6 гадз. у дзень, а трэцьця—2 *лямпачкамі на працягу 7 гадзін* у дзень. Колькі павінна заплаціць за электрычнасьць кожная сям'я, калі ўся кватэра павінна заплаціць за месяц 10 р. 08 к. і калі вядома, што 1-я і 2-я сям'я карыстаюцца лямпачкамі ў 25 сьвечак, 3-я карыстаецца лямпачкамі ў 50 сьвечак?

**Правільная організацыя працы калгасніка — важнейшае зьвяно ўзмацненьня і далейшага росту колгаснага руху.**

*ЗАДАЧА № 8.*

Работы колгасьнікаў у залежнасьці ад іх складанасьці падзяляюцца на 4 групы: лёгкія, сярэднія, цяжкія і кваліфікаваныя.

Дзень лёгкай работы ацэньваецца ў 0,75 працадня, дзень сярэдняй работы ацэньваецца ў 1 працадзень, 1 дзень цяжкай работы — 1,25 працадня, 1 дзень кваліфікаванай работы — 1,5 працадня.

1) Колгасьнік працаваў на ворыве 6 дзён, па норме яму патрэбна даць у дзень 0,75 *га*, але ён даў у дзень 1 *га*. Колькі працадзён яму залічаць за гэтыя 6 дзён работы, калі ворыва аднесена да групы сярэдніх работ?

Паказаньне:

1) $1 \times 6 = 6$ (колькі *га* ён даў за 6 дзён).
2) $1 : 0,75 = 1,30$ (у колькі працадзён ацэньваецца 1 *га*).
3) $1,30 \times 6 = 7,80$ (колькі працадзён яму залічаць).

2) Колгасьнік баранаваў на працягу 5 дзён, у сярэднім ён даваў у дзень 5 *га*. Колькі яму залічаць працадзён, калі па норме яму патрэбна даць у дзень 4 *га?* Работа яго ідзе па групе лёгкіх.

3) Колгасьнік працаваў сявяркай 6 дзён і засеяў 26 *га*. Колькі яму залічаць працадзён, калі па норме яму патрэбна засяваць у дзень 3,75 *га?* Яго работа аднесена да групы сярэдніх.

Колькі працадзён залічаць пагоншчыку, які працаваў пры гэтай сявярцы, калі яго работа аднесена да групы лёгкіх? Норма выпрацоўкі для пагоншчыка такая-ж самая, як для сяўца.

4) Касец працаваў на лобагрэйцы на працягу 6 дзён і за гэты час ён скасіў 24 *га*. Колькі яму залічаць працадзён, калі па норме яму патрэбна скасіць у дзень 3,5 *га*? Яго работа аднесена да групы цяжкіх.

5) Касец працаваў 4 дні і за гэты час скасіў 18 *га*. Колькі яму залічаць працадзён, калі па норме яму патрэбна скасіць у дзень 4 *га*? Яго работа аднесена да групы цяжкіх.

6) Колгасьнік вязаў на снопавязалцы 4 дні і за гэты час апрацаваў 24 *га*. Колькі яму залічаць працадзён, калі па норме яму паложана апрацаваць у дзень 5 *га*? Яго работа аднесена да групы кваліфікаваных.

Колькі залічаць працадзён пагоншчыку пры снопавязалцы, калі яго работа аднесена да групы сярэдніх? Норма выпрацоўкі для пагоншчыка такая-ж самая, як для снопавязальшчыка.

## *ЗАДАЧА 9.*

Брыгада з 5 чалавек выканала працу, за якую ёй выдаюць 394 р. Як яны павінны разьмеркаваць паміж сабой гэтыя грошы, калі вядома, што першы член брыгады працаваў 12 дзён.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| другі | „ | „ | „ | 10 | „ |
| трэці | „ | „ | „ | 12 | „ |
| чацьверты | | „ | „ | 14 | „ |
| пяты | „ | „ | „ | 10 | „ |

і калі яшчэ вядома, што першы брыгадзір па кваліфікацыі 8 катэгорыі, другі—7 катэгорыі, трэці—6 катэгорыі, чацьверты—5 катэгорыі, і пяты—4 катэгорыі.

**Даведка. Тарыфная сетка:**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | катэгорыя | 1 | 5 | катэгорыя | 1,9 |
| 2 | „ | 1,2 | 6 | „ | 2,2 |
| 3 | „ | 1,5 | 7 | „ | 2,5 |
| 4 | „ | 1,7 | 8 | „ | 2,8 |

Зрабеце неабходныя вылічэньні і занясеце іх у наступную ведамасьць.

| Прозьвішча | Катэгорыя | Коэфіцыент па сетцы | Лік працоўн. дзён | СУМА |
|---|---|---|---|---|
| А | VIII | 2,8 | 11 | |
| Б | VII | 2,5 | 16 | |
| В | VI | 2,2 | 9 | |
| Г | V | 1,9 | 9 | |
| Д | IV | 1,7 | 10 | |

*ЗАДАЧА № 10.*

Адна брыгада можа выканаць рамонт за 2 дні, другая за 3 дні, трэцяя за 4 дні. Як разьмеркаваць паміж імі плату за рамонт у 390 р., калі яны працавалі па рамонце разам?




# ГІСТОРЫЯ РЭВОЛЮЦЫЙНАГА РУХУ

## ЗАХОДНЯЙ ЭЎРОПЫ, УСХОДУ І ПАЎНОЧНА-АМЭРЫКАНСКІХ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ

**Аддзяленьні:** завочна-курсавыя.

*Курс вядзе В. А. ВАСЮЦІНСКІ.*

### Програма і літаратура.

Курсу гісторыі рэволюцыйнага руху Заходняй Эўропы, Усходу і Паўночнаамэрыканскіх злучаных штатаў паводле навучальнага пляну ЗКУ адводзіцца 232 гадзіны.

Програма па гэтай дысцыпліне ўключае 10 заданьняў і 10 лекцый. Пісьмовыя працы павінны прадстаўляцца выключна па заданьнях. Програма пабудавана так, што галоўная ўвага зьвернута на вывучэньне эпохі імпэрыялізму і ў асаблівасьці пасьляваеннага пэрыоду: лёгічным працягам яе зьяўляецца курс па гісторыі Комінтэрну, які завочнікі павінны будуць прапрацоўваць на трэцім годзе навучаньня ўсьлед за курсамі гісторыі ЎсеКП(б) і КП(б)Б і ленінізму.

Асноўнымі падручнікамі для гэтага курсу зьяўляюцца наступныя: хрэстоматыя *Фрыдлянда* і *Слуцкага* „Гісторыя рэволюцыйных рухаў у Заходняй Эўропе", падручнік *Фрыдлянда*—„Гісторыя Заходняй Эўропы", ч. II; *Арк. А-н*—„Гісторыя Заходняй Эўропы і Паўночнаамэрыканскіх злучаных штатаў"; *Монасаў* „Гісторыя рэвалюцыйных рухаў"; *Маркс* і *Энгельс* „Гістарычныя работы" і паасобныя творы Леніна.

---

# ПРОГРАМА ПА ГІСТОРЫІ РЭВОЛЮЦЫЙНАГА РУХУ Ў ЗАХОДНЯЙ ЭЎРОПЕ І АМЭРЫЦЫ.

*1-ая ЛЕКЦЫЯ.* (2 гадзіны).

**Задачы гісторыі.**

Гісторыя як навука, яе месца сярод іншых грамадзкіх навук, політычнае значэньне гісторыі; пэрыодызацыя гістарычнага працэсу; паняцьце аб грамадзкіх формацыях; конкрэтны разгляд фэўдалізму як формацыі ў яго характарных рысах, сапраўдны сэнс эпохі гандлёвага капіталізму, яго характарныя рысы, прамысловы капіталізм як формацыя і яго характарныя рысы.

*ЗАДАНЬНЕ № 1.*

**Вялікая Француская рэволюцыя.** (20 г.).

І ч. а) Экономічны лад Францыі да рэволюцыі 1789 г.

б) Соцыяльна-політычная структура Францыі да рэволюцыі 1789 г.

в) Ідэолёгія францускай буржуазіі ў XVIII ст.

г) Прычыны Вялікай францускай рэволюцыі.

ІІ ч. а) Генэральныя Штаты.

б) Політыка буйной буржуазіі ў час яе панаваньня (аграрная рэформа, закон Ля-Шапэльe, Констытуцыя 1791 г.). Барацьба клясаў у пэрыод панаваньня буйной буржуазіі.

в) Рэволюцыя 10 жніўня 1792 г. і яе прычыны.

г) Гара і Жыронда.

д) Політыка якобінскай дыктатуры і барацьба клясаў у гэты час.

е) Барацьба плыняў сярод якобінцаў.

ж) Прычыны гібелі якобінскай дыктатуры.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н*, „История Зап. Европы и САСШ“. 2) *Лукін*, „Новейшая история Зап. Европы“. 3) *Кунов*, „Борьба партий и классов в эпоху Великой французской революции“. 4) *Матьез*, „История Великой французской революции“, тэмы І—ІІІ. 5) *Каутскій*, „Классовые противоречия во Франции в 1789 г.“.

*2-ая ЛЕКЦЫЯ.* (2 гадзіны).

**Буржуазная рэакцыя ў Францыі.**

а) Тэрмідорыянская рэакцыя.
б) Дырэкторыя.

в) Консулат і імпэрыя. Соцыяльны сэнс бонапартызму.

г) Экономічнае і соцыяльна-політычнае становішча Францыі ў палове XIX ст.

д) Рэволюцыйны рух у эпоху Рэстаўрацыі.

е) Ліпнёўская рэволюцыя 1830 г.

ж) *Ліпнёўская монархія і барацьба клясаў у гэту эпоху. Ліонскае* паўстаньне. Тайныя таварыствы. Буржуазная арыстократыя ў пэрыод поўнага свайго панаваньня.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н*, пак. твор. 2) *Лукін*, пак. твор. 3) *Моносов*, „Лионское восстание". 4) *Щеголев*, „Заговор Бабефа".

## *ЗАДАНЬНЕ № 2.*

### Клясавая барацьба ў першай палове XIX ст. у Англіі. (16 гадзін).

а) Прамысловы пераварот у Англіі; перамога машынізму ў прамысловасьці.

б) Парляманцкая рэформа 1832 г.

в) Барацьба за хартыю: першы пэрыод чартызму.

г) Другі пэрыод чартызму і забастовачны рух.

д) Фрытрэдэрскі рух.

е) Трэці пэрыод чартызму.

ж) Зьняпад чартызму і яго вынікі.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н*, пак. твор. 2) *Лукін*, пак. твор. 3) *Васютинский*, „Разрушители машин в Англии". 4) *Ротштейн*, „Очерки по истории английского рабочего движения". 5) *Энгельс*, „Положение рабочего класса в Англии". 6) *Маркс*, „Капитал", том I, разьдзел 24.

## *ЗАДАНЬНЕ № 3.*

### Рэволюцыя 1848 г. у Францыі і Германіі. (26 г.).

а) Лютаўская рэволюцыя.

б) Люіблянаўшчына.

в) Чэрвеньскія дні.

г) Буржуазная рэакцыя і пераварот 2 сьнежня 1851 г.

д) Экономічнае і політычнае становішча Германіі да 1848 г.

е) Політычныя ідэі буржуазіі ў Германіі да 1848 г. Соцыялізм і рабочы рух у гэту эпоху. Вэйтлінг. Маркс.

ж) Сакавікоўская рэволюцыя ў Германіі.

з) Рабочы рух у эпоху 1848 г. у Германіі. Маркс і Энгельс у рэволюцыі.

і) Значэньне германскай рэволюцыі 1848 г.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н,* пак. твор. 2) *Рязанов,* „Маркс и Энгельс. 3) *Ленин,* збор твораў, томы XI—XIV. 4) *Маркс* и *Энгельс,* збор твораў, III.

## *3-я ЛЕКЦЫЯ.*

### Утопічны соцыялізм. (2 г.).

а) Сэн Сымон.
б) Фур'е.
в) Оўэн.
г) Кабэ.
д) Блянкі і блянкізм.
е) Прудон.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н,* пак. твор. 2) *Лукін,* пак. твор. 3) *Горев,* „История социализма", том I 4) *Энгельс* „Анти-Дюринг".

## *4-я ЛЕКЦЫЯ.*

### Грамадзянская вайна ў ПАЗШ. (2 г.).

а) Вайна за незалежнасьць.
б) Прамысловае разьвіцьцё ПАЗШ і іх экономічныя асаблівасьці Прыгоньніцтва.
в) Супярэчнасьці Поўначы і Поўдня. Аболіцыянізм.
г) Рабочы рух і соцыялізм у ПАЗШ.
д) Прычыны грамадзянскай вайны 1861-65 г.
е) Клясавая барацьба ў грамадзянскай вайне 1861-65 г.
ж) Вынікі грамадзянскай вайны.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н,* пак. твор. 2) *Заславский,* „Гражданская война в САСШ". 3) *Маркс и Энгельс,* „Переписка".

## *ЗАДАНЬНЕ 4.*

### Навуковы соцыялізм і І Інтэрнацыянал. (14 г.).

а) Папярэднікі І Інтэрнацыяналу.
б) Організацыйныя і програмныя прынцыпы І Інтэрнацыяналу.
в) Прудонізм і Лясальянства.
г) Маркс і Бакунін.
д) Навуковы соцыялізм і І Інтэрнацыянал. Гістарычнае значэньне і прычыны гібелі І Інтэрнацыяналу.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н,* пак. твор. 2) *Рязанов,* пак. твор. 3) *Стеклов,* „I Интернационал" 4) *Маркс и Энгельс,* „Переписка". 5) *Маркс и Энгельс* „Коммунистический манифест".

## *5-ая ЛЕКЦЫЯ.*

### Консолідацыя нацыянальна-буржуазных дзяржаў у Зах. Эўропе. (2 гадзіны).

а) Рэволюцыя ў Італіі і яе прычыны.

б) Аб'яднаньне Італіі.

в) Палітычная барацьба ў Германіі пасьля рэволюцый 1848 г.

г) Аб'яднаньне Германіі.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н,* пак. твор. 2) *Рязанов,* „Маркс і Энгельс". 3) *Меринг,* „История Германии". 4) Перапіска Лясаля з Марксам і Энгельсам. 5) *Энгельс,* „Сила и экономика в создании Германской империи".

## *ЗАДАНЬНЕ 5.*

### Парыская Комуна 1871 г. (20 гадзін).

а) Соцыяльна-экономічны стан I імпэрыі.

б) Рабочы і рэволюцыйны рух у эпоху II імпэрыі.

в) Франка-пруская вайна.

г) Пераварот 4 верасьня і часовы ўрад.

д) Паўстаньне блянкістаў.

е) Рэволюцыя 18 сакавіка 1871 г.

ж) Палітыка ЦК нац. гвардыі.

з) Барацьба партый у Комуне.

і) Соцыяльна-палітычная дзейнасьць Комуны.

к) Прычына падзеньня Комуны. Яе памылкі і гістарычнае значэньне.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н,* пак. твор. 2) *Степанов,* „Парижская коммуна". 3) *Ленин,* „Государство и революция" 4) *Маркс,* „Гражданская война во Франции".

## *ЗАДАНЬНЕ 6.*

### Англія ў эпоху імпэрыялізму. (16 гадзін).

а) Гаспадарка Англіі 1880—1914 г. г.

б) Палітычны лад і партыі буржуазіі ў Англіі 1880—1914.

в) Эволюцыя ангельскага рабочага руху ў эпоху імпэрыялізму.

г) Ангельскі соцыялізм у эпоху імпэрыялізму: с.-д. фэдэрацыя. Фабіянцы. Гільдзейскі соцыялізм.

д) Рабочая партыя і яе дзейнасьць.

е) Клясавыя баі ў Англіі XX стагодзьдзя.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н,* „История рабочего движения". 2) *Ротштейн,* „Очерки истории рабочего движения в Англии". 3) *Ленин,* сбор твораў тамы $XI_2$ і $XII_2$.

### *6-ая ЛЕКЦЫЯ.*

**Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты ў пэрыод імпэрыялізму. (2 гадзіны).**

а) Экономічнае і політычнае разьвіцьцё ПАЗШ пасьля 1865 г.
б) Рабочы рух у ПАЗШ: Рыцары працы. АФТ. Прамысловыя рабочыя сьвету.
в) Амэрыканскі соцыялізм: Соц. партыя. Група дэ-Ліона. Сындыкалісты і анархісты.
г) Клясавыя баі ў ПАЗШ у эпоху імпэрыялізму.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Райский*, „Новейшая история Америки". 2) *Бимба*, „История рабочего движения САСШ". 3) *Ленін*, збор твораў, IX.

### *7 ЗАДАНЬНЕ.*

**Германія ў эпоху імпэрыялізму. (20 г.).**

а) Экономічнае разьвіцьцё Германіі 1880—1914 г. г.
б) Політычнае разьвіцьцё Германіі 1880—1914 г. г.
в) Эволюцыя нямецкай соц.-дэмократыі.
г) Профэсыйны рух у Германіі. 1880—1914 г. г.
д) Корані опортунізму нямецкай соц.-дэмократыі.

ЛІТАРАТУРА.

*Арк. А-н*, пак. твор. 2) *Лукін*, „Очерки по истории Германии". 3) *Ленін*, збор твораў т. XI2.

### *8 ЗАДАНЬНЕ.*

**Францыя ў эпоху імпэрыялізму. (12 г.).**

а) Гаспадарка і політычнае жыцьцё Францыі 1880—1914 г. г.
б) Францускі соцыялізм (Гэдзісты. Жорэсісты. Франц. соц. партыя).
в) Сындыкалісты.
г) Эволюцыя соц. і рабочага руху ў Францыі 1880—1914 г. г.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н*, пак. твор. 2) *Паскаль и Сандомирский* „Французская социалистическая партия". 3) *Ленин*, збор твораў, том XI2.

### *7-ая ЛЕКЦЫЯ.*

**Нацыянальна-рэволюцыйны рух на Ўсходзе да 1914 г. (2 гадзіны).**

а) Экономічны і політычны лад Турцыі.
б) Клясавая барацьба ў Турцыі і младатурэцкая рэволюцыя.
в) Міжнароднае значэньне Турцыі. Вайна і падзел Турцыі.
г) Экономічны і політычны лад Кітая.

д) Кітайская рэволюцыя 1911 г. Барацьба клясаў пасьля рэволюцыі.

е) Замежны капітал і вызваленчы рух у Кітаі.

ж) Экономічны і політычны лад Пэрсіі.

з) Пэрсыдзкая рэволюцыя.

і) Сусьветная вайна і Пэрсія. Барацьба з ангельскім імпэрыялізмам.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Рэйснэр*, „Рев. движение в Индии". 2) *Крэйнин*, „Рев. движение на Ближнем Востоке". 3) *Виленский*, „Китай". 4) *Ленин*, збор твораў, том XII.

## *9 ЗАДАНЬНЕ.*

### **II Інтэрнацыянал. (20 гадз.).**

а) Організацыйныя прынцыпы II Інтэрнацыяналу.

б) Барацьба плыняў у II Інтэрнацыянале.

в) Тактыка і дзейнасьць II Інтэрнацыяналу.

г) Прычыны загніваньня і банкруцтва II Інтэрнацыяналу.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Зайдель*, „II Интернационал". 2) *Эссен*, „Три Интернационала". 3) *Ленін*, артыкулы аб II Інтэрнацыянале.

## *8-ая ЛЕКЦЫЯ.*

### **Вайна і заняпад II Інтэрнацыяналу. (2 гадзіны).**

а) Траісты саюз і траістая згода. Англія і Германія перад вайной.

б) Падрыхтоўка і прычыны сусьветнай вайны. Асноўныя этапы вайны.

в) Сусьветная вайна і заняпад II Інтэрнацыяналу.

г) Рабочы рух у час вайны.

д) Бальшавізм у годы вайны і спробы стварэньня III Інтэрнацыяналу.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Яроцкий*, „Эпоха войн и революций". 2) *Арк. А-н*, „История рабочего движения". 3) *Зиновьев*, „Германская социал-демократия во время войны". 4) *Ленін*, артыкул аб II Інтэрнацыянале.

## *10 ЗАДАНЬНЕ.*

### **Рэволюцыйны рух пасьля вайны ў Заходняй Эўропе. (22 гадзіны).**

а) Рэволюцыя ў Германіі.

б) Савецкая рэспубліка ў Бавары.

в) Вэнгерская Савецкая Рэспубліка.

г) Захоп фабрык у Італіі.

д) Забастоўкі і рабочы рух у Францыі.

е) Рабочы рух у Англіі.

ж) Заснаваньне Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Арк. А-н*, пак. твор. 2) *Браун*, „Рабочее движение в Англи". 3) *Бела Кун*, „Советская Венгрия" (БСЭ X). 4) *Зиновьев*, пак. твор. 5) *Шелавин*, „Авангардные бои западно-европейского пролетариата". 6) *Паскаль и Сандоморский*, пак. твор. 7) *Ленин*, „Международная революция" (збор твораў, XV том).

## *9-ая ЛЕКЦЫЯ.*

**Нацыянальна-рэволюцыйны рух на Ўсходзе пасьля вайны. (2 гадзіны).**

а) Гаспадарка і палітычны лад сучаснага Кітая. Клясы ў Кітаі.

б) Сун-ят-сэнізм і Гоміндан.

в) Кітайская компартыя. Разьвіцьцё Кітайскай рэволюцыі. Саветы ў Кітаі.

г) Соцыяльна-экономічнае становішча Індыі.

д) Ангельскі імпэрыялізм і індыйская буржуазія.

е) Буржуазія і народныя масы ў нацыянальнай рэволюцыі.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Сталин*, „Возможна ли кемалистская революция в Китае". 2) *П. Датт*, „Вопрос индийской революции". 3) *П. Миф*, „Китайская революция". 4) Резолюции VI Конгресса Коминтерна.

## *10-ая ЛЕКЦЫЯ.*

**Фашызм. (2 гадзіны).**

а) Характарныя рысы фашызму—спадарожнік паміраючага капіталізму.

б) Умовы панаваньня фашызму.

в) Парлямантарызм і фашызм.

г) Соцыял-дэмократыя і фашызм. Соцыял-фашызм.

д) Програма Комінтэрну аб фашызьме.

ЛІТАРАТУРА.

1) *Мартынов*, „Современный Интернационал". 2) *Сандомирский*, „Фашизм". 3) Программа Коминтерна. 4) *Минский*, „Социал-фашисты у власти".

---

## Ленін і гісторыя.

*(Стэнограма-лекцыя, якую чытаў тав. Фрыдлянд 10 сакавіка 1931 г. па радыё).*

Пачынаючы вывучаць гісторыю рэволюцыйнага руху Заходняй Эўропы і Амэрыкі XIX—XX стагодзьдзяў, нам трэба раней за ўсё вытлумачыць, якое значэньне мае вывучэньне гісторыі для той барацьбы, якую вядзе пролетарыят, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, за комунізм ва ўсім сьвеце, нам трэба вытлумачыць тое практычнае значэньне, якое мае вывучэньне гісторыі для нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Найлепшых вынікаў мы дасягнем, калі зьвернемся да вытлумачэньня таго, як Ленін усьлед за Марксам і Энгельсам ацэньваў ролю і значэньне гістарычнай навукі: „Для таго, каб перамагчы,—пісаў Ленін,—трэба разумець усю найглыбейшую гісторыю старога буржуазнага сьвету“. „Не разумець гэтага,—значыць не разумець лемантара дыялектычнага матэрыялізму“.

Сваю думку ён разгарнуў у цэлым шэрагу артыкулаў і выказваньняў. Так, у лекцыі, якую ён прачытаў сьвярдлоўцам аб дзяржаве ў 1919 г., мы чытаем: „Для таго, каб найбольш навуковым спосабам падыйсьці да гэтага пытаньня, трэба кінуць хоць-бы павярхоўны гістарычны погляд на тое, як дзяржава ўзьнікла і як яна разьвілася. Самае надзейнае ў пытаньні грамадзкай навукі, неабходнае для таго, каб сапраўды набыць навык падыходзіць правільна да гэтага пытаньня і ня даць загубіцца ў масе дробязі альбо вялізарнай featureразнавыгляднасьці думак, якія вядуць барацьбу,—самае важнае, каб падыйсьці да гэтага пытаньня з пункту гледжаньня навуковага,—гэта не забываць асноўнай гістарычнай сувязі, глядзець на кожнае пытаньне з пункту гледжаньня таго, як вядомае зьявішча ў гісторыі ўзьнікла, якія галоўныя этапы ў сваім разьвіцьці гэтая зьява праходзіла, і з пункту гледжаньня яго разьвіцьця глядзець, чым даная рэч стала цяпер“ (Новыя артыкулы і лісты, выпуск 1, стар. 94).

Гістарычная навука, паводле Леніна, такім чынам, прывучае нас да таго, каб разглядаць кожнае пытаньне ў яго конкрэтных асаблівасьцях, вытлумачваць пры вывучэньні кожнай эпохі тую асаблівасьць, што маецца ў ёй параўнаўча з папярэдняй эпохай, і на гэтай падставе сьцьвярджаць асноўныя палажэньні нашай практычнай дзейнасьці.

Яшчэ ў артыкуле „Як разважае тав. Плеханаў аб тактыцы соцыял-

дэмократыі“ (1906 г.) Уладзімер Ільліч высунуў наступнае абвінавачваньне супроць меншавікоў: „Рускія соцыял-дэмократы эпохі буржуазнай рэволюцыі ня ўмеюць нічога сказаць аб рускай буржуазіі розных колераў, акрамя таго, што гавораць эўропэйцы ўсіх краін, сто гадоў пасьля буржуазнай рэволюцыі“. Яны зусім ня ўлічваюць, па Леніну, скажам, ролі сялянства ў буржуазнай рэволюцыі, тое, што гэтая рэволюцыя адбываецца ў эпоху высока разьвітага капіталізму.

Ленін перасьцерагаў нас пры гэтым ад гульні ў гісторычныя аналёгіі. Успомнім толькі, як ён зьдзекваўся ў эпоху Брэсцкага міру над „левымі“ комуністамі, якія аргумэнтавалі неабходнасьць „рэволюцыйнай вайны“ традыцыямі Вялікай францускай рэволюцыі.

Увага, якую Ленін усьлед за Марксам і Энгельсам зьвяртаў на вывучэньне гісторыі, не зьяўляецца выпадковасьцю. Успомнім толькі тое, што пісалі асновапаложнікі навуковага соцыялізму ў „Нямецкай ідэолёгіі“ па пытаньні аб прыродзе гісторычных ведаў. „Людзі чым больш яны аддаляюцца ад жывёлін у цесным сэнсе гэтага слова, тым больш пачынаюць рабіць самі сьвядома сваю гісторыю і тым меншы становіцца ўплыў на гэтую гісторыю непрадбачаных фактараў, неконтраляваных сіл, і тым больш адпавядае вынік гісторычнай дэі устаноўленай зараней мэце“. Існуючая ў клясавай грамадзе дысгармонія між пастаўленымі мэтамі і дасягнутымі вынікамі, панаваньне неконтраляваных сіл над плянавымі спробамі людзей тлумачыць нам, чаму буржуазная грамада зараней ставіць вядомыя строга абмежаваныя прадзелы посьпехам гісторычных ведаў. Гістарычныя веды змогуць стаць навукай толькі ў руках тае клясы, якая ўсьвядоміць соцыяльныя супярэчнасьці, якія нарадзілі гэтую дысгармонію між пастаўленымі мэтамі і дасягнутымі вынікамі. Росквіт гісторычнай навукі, росквіт гісторызму мае на мэце грамадзтва, у якой на месца стыхійнасьці прыдуць плянавыя пачаткі. „Толькі сьвядомая організацыя грамадзкай вытворчасьці—чытаем мы ў „Нямецкай ідэолёгіі“, у якой адбываюцца плянавыя вытворчасьці і спажываньне, зможа падняць людзей над іншымі жывёлінамі ў грамадзкіх адносінах так, як іх падняла вытворчасьць наогул“. Тады толькі і пачынаецца новая гісторычная эпоха, калі людзі ў розных галінах ведаў, і раней усяго ў гісторыі, зробяць такія посьпехі, што ўсё зробленае да таго здасца толькі слабым ценем... Комуністычнае грамадзтва будзе эпохаю росквіту гісторычнай навукі. Пролетарыят у сваёй барацьбе за комунізм зьяўляецца адзінай клясай, якая нясе з сабою ўрачыстасьць навуковага гісторычнага значэньня. Эпоха пролетарскай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва,—час, калі закладваюцца стойкія высновы гэтых посьпехаў.

Гэтыя прынцыповыя палажэньні тлумачаць нам тую выключную цікавасьць да гісторычных фактаў, да конкрэтнага мінулага, да гісторыі клясавай барацьбы, тую выключна высокую ацэнку гісторыі як навукі, якую мы знаходзім у асновапаложнікаў навуковага комунізму—Маркса, Энгельса і Леніна. Агульным для іх зьяўляецца і другі момант.

гэта—клясавае тлумачэньне разуменьня „об‘ектыўнасьці“ ў гісторыі. Маркс, Энгельс і Ленін адмаўляюць „об‘ектыўнасьць“ гісторыі ня толькі таму, што кожная кляса нясе з сабой сваю „гісторычную праўду“, але і таму, „што так званае об‘ектыўнае пісаньне гісторыі ёсьць іменна ў тым, каб разглядаць гісторычныя адносіны асобна ад дзейнасьці людзей“. У адпаведным месцы „Нямецкай ідэолёгі“ мы знаходзім у гэтым месцы рэмарку: „рэакцыйны характар“. Гісторычны факт у яго конкрэтнасьці зьвязаны ня толькі ў мінулым, але і пры яго пазнаньні ў сучасным з практычнай дзейнасьцю людзей ня толькі тых, кім гэты факт „рабіўся“, але і тых, хто аб гэтым факце піша. Было-б грубейшай памылкай таму шукаць у ленінскай цікавасьці да гісторыі вузка практычнага сэнсу. Гэта была высока прынцыповая ацэнка гісторычных ведаў і гісторычнай навукі, партыйнай навукі, носьбітам якой зьяўляецца пролетарыят, які вядзе ўпартую рэвалюцыйную барацьбу за зьнішчэньне клясавага грамадзтва.

У „Ленінскіх зборніках“ сабраны багацейшы матэрыял для вывучэньня марксыцкай мэтодолёгіі гісторыі. Вялізарным недахопам з нашага боку зьяўляецца, скажам, той факт, што да гэтага часу ніводзін гісторык не заняўся аналізам нататак Леніна на кнігу Бухарына „Экономіка пераходнага часу“. Рашаючым момантам для гісторыкаў зьяўляецца крытыка Леніным бухарынскай пастаноўкі пытаньня аб суадносінах соцыялёгіі і конкрэтнай гісторыі.

Але падмена конкрэтнага гісторычнага аналізу „соцыялёгічным“ схэматызмам—грэх значнай часткі нашых гісторычных прац, вынік яшчэ нязжытага ўплыву бухарынска-багданаўскіх концэпцый. Нездарма ў тых-жа нататках на кнігу Бухарына Ленін асабліва падкрэсьліваў як „заслугу“ Бухарына тое, што ён у адным месцы ставіць слова „соцыялёгія“ ў двукосьсі. „Вось гэта добра,—піша Ленін,—што „соцыёлёг“ Бухарын нарэшце (на стар. 84) паставіў у іронічныя двукосьсі слова „соцыялёгія“! Брава“

У тых-жа нататках Ленін папраўляе і другую памылку Бухарына, і ня толькі Бухарына, але і шэрагу гісторыкаў, якія ўсьлед за ім уяўляюць сабе клясы як „групы асоб“, якія адрозьніваюцца адна ад другой становішчам у грамадзкім ладзе вытворчасьці, не адзначаючы пры гэтым, што гэта розьніца мае на ўвазе і іх адрозьніваньне ў тым, „што адна група можа прысвойваць сабе працу другой групы“ Ленін з асаблівай пільнасьцю падкрэсьлівае як недахоп бухарынскую гульню з тэрмінам „соцыяльныя адносіны“ там, дзе размова павінна ісьці аб клясавых адносінах. „Ня бывае клясавых несоцыяльных,—піша ён,—трэба сказаць прасьцей і правільней (тэорэтычна): забыў клясавую барацьбу“.

Гісторычны разгляд кожнага пытаньня мае на ўвазе дыялектычны аналіз гісторыі клясавай барацьбы. Менавіта гэта мае на ўвазе Ленін, калі ён з прычыны бухарынскага тэрміну „дыялектычна-гісторычны“ мэтод піша: „Дыялектыка ўключае гісторычнасьць“. Вось чаму яго ня можа задаволіць соцыялёгічны схэматызм Бухарына, які, гаворачы,

скажам, аб вайне, не адрозьнівае вайны 1914 г. ад вайны 1811—12 г. Ленін на заломах у гэтым месцы адзначае: „Акадэмік прапусьціў спэцыфічнае адрозьніваньне“. У гэтым-жа, нарэшце, сэнс той вялізарнай важнасьці нататак Леніна, якія ён супроцьстаўляе Бухарыну па пытаньні аб прычынах рускай рэволюцыі 1917 г. там, дзе Бухарын заяўляе, што крах сусьветнай капіталістычнай сыстэмы пачаўся з „найбольш слабых народнагаспадарчых сыстэм“. Ленін, папраўляючы яго, адзначае: „Няправільна: з сярэдня-слабых. Без вядомай вышыні капіталізму ў нас-бы нічога ня выйшла“. І ў разьвіцьцё гэтага палажэньня ён укладае наступную параду гісторыкам, якія аналізуюць асобныя этапы клясавай барацьбы: „Парушэньне“ дыялектычнага матэрыялізму ёсьць у лёгічным (не матэрыяльным) скачку праз некалькі конкрэтных стадый“.

Зьвернемся да яго нататак, якія прысьвечаны спэцыяльна „Філёзофіі-гісторыі“ Гегеля. З асаблівай пільнасьцю Ленін конспэктаваў найбольш каштоўную частку гэтай кнігі, яе мэтодолёгічныя ўводзіны. У самым падыходзе да гегелеўскай трактоўкі ў пытаньнях гісторыі і мэтодолёгіі Ленін паказаў нам, марксыстам, як трэба перамагаць ідэолістычны зьмест гегелеўскай концэпцыі, паказаў нам на тое, што рашаючым сродкам для гэтага перамаганьня зьяўляецца крытыка гегелеўскіх палажэньняў пад кутом погляду „рэальнай сапраўднасьці рэальных людзей“, пад кутом погляду клясавай барацьбы. Яго, раней за ўсё, прыцягнуў да гегелеўскай кнігі яскрава выяўлены гісторызм. Там, дзе Гегель піша: „Народы і ўрады народаў нічому не навучыліся з гісторыі: кожны час для гэтага вельмі індывідуальны“. Ленін прыкмячае: „Вельмі разумна“. Ленін падкрэслівае наступную думку Гегеля: „Кожнай эпосе адпаведны гэтулькі сваясаблівыя абставіны, яна ўяўляе з сябе гэтулькі індывідуальнае становішча, што толькі, выходзячы з яго самога, асноўваючыся на ім, павінна і адзіна магчыма меркаваць аб ёй“.

У сваіх нататках аб кнізе Лясаля, аб філёзофіі Гэракліта Цёмнага, ён паказвае нам, да якіх адмоўных вынікаў прыводзіць некрытычнае дапасаваньне Гегелеўскай дыялектыкі да гісторыі чалавечай думкі. „Лясаль топіць Гэракліта ў Гегелі... Ён укладае Гегеля ў Гэракліта“. Пры гэтым Ленін робіць наступную для нас, гісторыкаў, адзнаку: „Навуковасьці і тут (а яшчэ больш у гісторычнай частцы) надзвычай шмат, але гэтая навуковасьць ніжэйшага гатунку: задалі задачу—адшукаць гегелеўскае ў Гэракліце, — старацельны вучань выконвае яе „надзвычай добра“, перачытваючы ў сваіх старадаўніх (і новых) пісьменьнікаў усё на Гегеля і ўсё тлумачачы пад Гегеля“. Трэба толькі прыпамятаваць нашу дыскусію аб „Народнай волі“, каб зразумець, у якой ступені актуальна гэтае паказаньне Леніна, зробленае ім у сувязі з ідэялістычнай концэпцыяй Лясаля.

Ленін апавяшчае рашучую барацьбу ня толькі мяшчанскай спробе змазаць супярэчнасьці рэальнага гісторычнага процэсу, але і імкненьне ператварыць дыялектыку ў абстрактную гульню разуменьняў. Там, дзе

Гегель кажа аб звычайнай пясчотнасьці да рэчаў у людзей, якія не прыкмячаюць супярэчнасьцяй, якія імі рухаюць і барацьбу супярэчлівых сіл, ён піша ў думках: „Гэтая гіронія міла. Пяшчотнасьць з прыродай і гісторыяй (у філісьцераў)—імкненьне ачысьціць іх ад супярэчнасьцяй і барацьбы“.

Гісторычныя законы могуць быць прагледжаны толькі на вопыце практычнай барацьбы клясаў, пры ўважлівым аналізе конкрэтнага зьместу кожнага факту і зьявы, „вынікам“ з якіх служыць гэты закон.

І нарэшце Ленін адзначае: „Багацей за ўсё — самае конкрэтнае і самае суб'ектыўнае“. І як-бы прадбачачы тую дыскусію, якую мы мелі на філёзофскім фронце, ён адзначае: „Гегель жорстка бэсьціць формалізм, сум, пустату гульні ў дыялектыку“. Гэтая гульня ў дыялектыку прынесла нам, гісторыкам, нямала шкоды, яна перашкодзіла ўважлівай прапрацоўцы гісторычнага матэрыялізму, яна выхавала многіх і многіх гісторыкаў у няўменьні ставіць пытаньні конкрэтна; замест гэтага гісторыкі часта займаліся падменай конкрэтных супярэчнасьцяй конкрэтнай сапраўднасьці схэмай, што і парадзіла антыленінскія погляды на пытаньні грамадзкіх формацый, ролі гандлёвага капіталу, трактоўкі соцыяльных супярэчнасьцяй эпохі імпэрыялізму і г. д. У гісторычнай навуцы падобныя памылкі былі зьверх гэтага вынікам поўнага нігілізму ў разуменьні пытаньняў мэтодолёгіі гісторыі.

Улік конкрэтных гісторычных своеасаблівасьцяй кожнага данага этапу разьвіцьця клясавай барацьбы мае яшчэ і таму сур'ёзьнейшае значэньне, што гісторыя зьяўляецца найбольш політычнай з усіх грамадзкіх дысцыплін. Ленін заўсёды падкрэсьліваў цясьнейшую сувязь між гісторыяй і політыкай. Для таго, каб разабрацца ў політычных спрэчках сёньняшняга дня, неабходна ведаць, адкуль гэтыя спрэчкі ўзьніклі, як яны разьвіваліся і чые клясавыя інтарэсы прадстаўляюць вядучыя барацьбу бакі. Пры гэтым цікавасьць Леніна да гісторычных тэм зусім не абмяжоўвалася падзеямі апошніх год. Надзея Канстанцінаўна Крупская ў сваім артыкуле перад XI зьездам партыі адзначае, з якою пільнасьцю Ўладзімер Ільліч у Парыжы ў гады эміграцыі, папаўшы ў музэй, прысьвечаны рэволюцыі 1848 г., вывучаў усе выстаўленыя экспонаты рэволюцыі.

Літаратурная спадчына Леніна прадстаўляе сабою для гісторыка і ў тым ліку для гісторыка Захаду вялізарны рэзэрвуар, з якога можна чэрпаць ня толькі правільныя мэтодолёгічныя ўстаноўкі для вывучэньня гісторыі, але і мноства зусім конкрэтных характарыстык гісторыі клясавай барацьбы капіталістычнай Эўропы і Амэрыкі на працягу апошніх стагодзьдзяў.

Зьвернемся да артыкула Леніна „Тры вытокі і тры асноўныя часткі марксызму“, у якім Ільліч намеціў той шлях, па якім разьвівалася вучэньне Маркса з моманту свайго ўзьнікненьня. Ён з асаблівай пільнасьцю падкрэсьлівае ў гэтым артыкуле, што „ў марксызьме няма нічога сэктанцкага ў сэнсе якога-небудзь замкнутага, закасьцянелага

вучэньня, што ўзьнікла на баку ад шырокага шляху разьвіцьця сусьветнай цывілізацыі. Наадварот, уся геніяльнасьць Маркса менавіта ў тым, што ён даў адказ на пытаньні, якія перадавая думка чалавецтва ўжо паставіла. Яго вучэньне ўзьнікла як простае непасрэднае працягваньне вучэньня найвялікшых прадстаўнікоў філёзофіі, політэкономіі і соцыялізму". „Вучэньне Маркса, пісаў Ленін, моцна з усіх бакоў, таму што яно правільнае, яно поўна і стройна, даючы людзям суцэльнае сьветаўяўленьне, непрымірымае ні з якімі забабонамі, ні з якой рэакцыяй, ні з якой абаронай буржуазнага прыгнёту. Яно ёсьць законны пераемнік лепшага, што стварыла чалавецтва ў XIX стагодзьдзі ў тварах нямецкай філёзофіі, ангельскай політэкономіі, францускага соцыялізму".

У сваёй характарыстыцы „трэцяга вытоку" разьвіцьця соцыялістычнага руху (францускага соцыялізму) Ленін адзначае, што тое, што спрыяла яго ўзьнікненьню, былі тыя супярэчнасьці, якія выявіліся ў той момант, калі „вольнае" капіталістычнае грамадзтва пасьля нізрынуцьця прыгоньніцтва з відавочнасьцю паказала, што свабода азначае ў гэтым выпадку толькі новую сыстэму эксплёатацыі працоўных. У гэты час узьнік утопічны соцыялізм. Але ўтопічны соцыялізм ня змог знайсьці тэй грамадзкай сілы, якая была творцам новага грамадзтва. Адчыненьне гэтай „грамадзкай сілы" было вынікам нагляданьня над вопытамі рэволюцыі ня толькі мінулага, але і сучаснага. Гэтую думку Леніна неабходна асабліва падкрэсьліць. Ён піша ў тым-жа артыкуле: „Між тым буржуазныя рэволюцыі, якімі суправаджалася падзеньне фэўдалізму, прыгоньніцтва ўсюды ў Эўропе і асабліва ў Францыі, усё яскравей ускрывалі як аснову ўсяго разьвіцьця і яго рухаючую сілу—барацьбу клясаў". Клясавая барацьба вялася ня мірным шляхам, а ў жорсткай грамадзянскай вайне. Зразумець гэта, зрабіць, на падставе вывучэньня гісторыі клясавай барацьбы, вынікі, неабходныя для практычнай політыкі пролетарыяту і яго партыі ў сучасным, — такая задача гісторыі, намечаная асновапаложнікамі навуковага соцыялізму Марксам і Энгельсам. Людзі заўсёды былі, пісаў Ленін, і заўсёды будуць дурненькімі самаахвярамі маны і самаабману ў політыцы, покуль яны не навучацца за любымі моральнымі, рэлігійнымі, політычнымі, соцыяльнымі фразамі, заявамі, абяцаньнямі адшукваць інтарэсы тых ці іншых клясаў... А знайсьці ў самым акаляючым нас грамадзтве, прысьвяціць і організаваць для барацьбы такія сілы, якія маюць магчымасьць і па сваім грамадзкім становішчы павінны скласьці сілу, здольную зьмясьціць старое і стварыць новае".

Сувязь гісторыі з політыкай азначае, што партыя ставіць перад гісторычным дасьледваньнем вызначаныя політычныя задачы з тым, каб вынікі дасьледваньня маглі быць дапасаваны ў клясавай барацьбе пролетарыяту і яго партыі сёнешняга дня. Гэту думку Ленін і выказаў у сваёй рэцэнзіі на кніжку Пракоповіча „Рабочы рух на Захадзе". Ленін падкрэсьліў, што навука (у тым ліку і гісторычная навука) ня

толькі служыць мэтай партыі, але партыя вызначае тыя задачы дасьледваньня, якія стаяць перад гістарычнай навукай.

У нашай програме па гісторыі Захаду нам трэба будзе вывучаць гісторыю клясавай барацьбы ў капіталістычным сьвеце на працягу паўтара стагодзьдзяў. Мы ўлучым увагу гісторыі буржуазных рэволюцый (рэволюцыя ў 1789 г. у Францыі, рэволюцыя 1848 г. у Эўропе), першым спробам пролетарскіх паўстаньняў і г. д., але асяродак увагі будзе перанесены на гісторыю рабочага руху эпохі імпэрыялізму і гісторыю пасьляваеннай Эўропы. Дзесяцігодзьдзе пасьля вайны, паводле свайго значэньня і па насычанасьці рэволюцыйнымі падзеямі выключна гістарычнага значэньня, можна параўнаць з цэлымі стагодзьдзямі „мірнага разьвіцьця“ эўропэйскага грамадзтва. Нам, барацьбітом і будаўнікам соцыялізму, трэба разумець раней за ўсё падзеі гэтага дзесяцігодзьдзя, а гэта значыць, па Леніну, зразумець умовы іх узьнікненьня і разьвіцьця для таго, каб закончыць тую справу, якая пачата была Кастрычніцкай рэволюцыяй.

Успомнім тут тую пэрыодызацыю гісторыі рэволюцыйнага руху XIX—XX стагодзьдзя, якую мы знаходзім у Леніна. У артыкуле „Гістарычны лёс вучэньня Маркса“ Ленін пісаў: „Сусьветная гісторыя яскрава падзяляецца на тры галоўныя пэрыоды—ад эўропэйскай рэволюцыі 1848 г. да Парыскай Комуны, ад Парыскай Комуны да расійскай рэволюцыі 1905 г., і ад расійскай рэволюцыі“. Эўропэйскай рэволюцыі 1848 г. папярэднічала эпоха, пачатак якой адносіцца да Вялікай францускай рэволюцыі 1789 г., а пасьля рускай рэволюцыі 1905 г. мы маем шэраг этапаў рэволюцыйнага руху, кантам якіх зьяўляецца вайна 1914 г. і Кастрычніцкая рэволюцыя 1917 г. Паказаўшы ў сваім артыкуле на 1905 год, як пераломны ў гісторыі клясавай барацьбы капіталістычнага сьвету, Ленін ня толькі адзначыў сусьветнае гістарычнае значэньне першай рускай рэволюцыі, але і тое, што з гэтага моманту Захад з буржуазнымі рэволюцыямі скончыў, яму трэба было зрабіць пролетарскую рэволюцыю. Пасьля 1905 г. і рэволюцыі на Ўсходзе (Турцыя, Кітай, Пэрсія) сталі варушыцца па-новаму рэволюцыйнаму заходняэўропэйскія рабочыя рухі. У другім артыкуле „Трэці Інтэрнацыянал і яго галоўнае месца ў гісторыі“ Ленін удасканаліў сваю пэрыодызацыю гісторыі рэволюцыйных рухаў. Ён напісаў: „Першы Інтэрнацыянал (1864 — 1872) залажыў фундамант пролетарскай міжнароднай барацьбы за соцыялізм. Другі Інтэрнацыянал (1889—1914) быў эпохай падрыхтоўкі глебы для шырокага масавага распаўсюджваньня руху ў шэрагу краін.—Трэці Інтэрнацыянал успрыняў плады працы Другога Інтэрнацыяналу, адсек яго опортуністычную, соцыял-шовіністычную, буржуазную і дробнабуржуазную нікчэмнасьць і пачаў ажыцьцяўляць дыктатуру пролетарыяту“. Вытлумачыць гэты шлях рэволюцыйнага рабочага руху—вось задача, якая стаіць перад намі пры вывучэньні гісторыі клясавай барацьбы Заходняй Эўропы і Амэрыкі.

Да гэтага часу ў нашай гісторычнай літаратуры, і асабліва ў літаратуры па гісторыі Захаду, ня было ўдзелена дастатковай увагі вывучэньню конкрэтных выказваньняў Леніна па пытаньнях эўропэйскай гісторыі, але толькі такое вывучэньне дапамагло-б нам разьвязаць шэраг спрэчлівых пытаньняў і даць у карацейшы тэрмін сапраўды марксыцка-ленінскую гісторыю клясавай барацьбы на Захадзе навейшага часу. Трэба толькі праглядзець той матэрыял, які сабраны ў „Ленінскіх зборніках", каб угледзець, як самыя бурныя моманты гісторыі нашай рэволюцыі Ленін уважліва вывучаў, уважліва адшукваў у гісторычнай літаратуры паказаньні на той шлях практычнай дзейнасьці, які павінен быць ім выбраны. Там захаваліся ленінскія нататкі на кніжку Олара аб францускай рэволюцыі, на артыкулы, прысьвечаныя „вызваленчай вайне" Германіі пачатку XIX стагодзьдзя і г. д.

Артыкулы і нататкі эпохі рэволюцыі 1905 г. сьведчаць аб выключнай цікавасьці Уладзімера Ільліча да гісторыі Вялікай францускай рэволюцыі і эўропэйскага рэволюцыйнага руху XIX стагодзьдзя. Успомнім толькі, як Ленін у спрэчках з Мартынавым ставіў пытаньне аб тым, як тып рэволюцыі трэба будзе перажыць Расіі—„рэволюцыя 1789 г. альбо 1848 г.". У сваіх нататках ён падкрэслівае, што гутарка ідзе аб „тыпе рэволюцыі". Робіць ён гэта для таго, каб зьнішчыць усялякія непаразуменьні „аб магчымасьці паўтарэньня для Расіі беззваротна мінулай соцыяльна-палітычнай і міжнароднай сітуацыі 1789-1848 г.". Як-жа ён разьвязвае гэтае пытаньне? Для таго, каб вытлумачыць тое агульнае, якое было між мінулымі і нашымі рэволюцыямі, ён ставіць раней за ўсё проблему аб умовах і суадносінах клясавых сіл, якія характарызуюць кожную з гэтых рэволюцый. У Расіі рэволюцыя падобная да Вялікай францускай бліжэй за ўсё, як рэволюцыя тыпу 1848 г., пісаў Ленін,—раней за ўсё таму, што: „У нас пералом круцейшы, што ў нас між самаўладзтвам і палітычнай вольнасьцю ня было і няма ніякіх прамежных ступеняў (земства ня ўлічваецца). У нас дэспотызм азіяцкі нярушаны". Пэрспэктывы вялікага соцыяльнага перавароту дыктуюцца ў Расіі яшчэ і такімі гісторычнымі абставінамі, як вайна, якая робіць магчымым рэзкі крах, і, нарэшце, тым, што ў нашай рэволюцыі ёсьць у наяўнасьці ўдзел сьвядомых рэволюцыйных партый, чыя організацыя ў Расіі ў XX стагодзьдзі ў шмат разоў глыбейшая, як у 1789-1848 і 1871 г.г. Але ёсьць і об'ектыўныя гісторычныя ўмовы, і Ленін пільна падкрэслівае іх,—тыя, якія могуць прывесьці і да другога выніку, менавіта тое, што ўрад у Расіі мае куды большыя сілы супраціўленьня, як гэта было ў Францыі ў канцы XVIII стагодзьдзя; у Расіі антагонізм між пролетарыятам і буржуазіяй куды глыбейшы, як у папярэдняй рэволюцыі, і таму буржуазія будзе больш баяцца пролетарскай рэволюцыі і хутчэй кінецца ў абдымкі рэакцыі і г. д.

Уважліва вывучаючы гісторыю рэволюцыйнага руху XIX стагодзьдзя, Ленін пакінуў нам, скажам, падрабязны конспэкт дакладу,

прысьвечанага Парыскай Комуне. На жаль, да гэтага часу ніхто з гісторыкаў Захаду не скарыстаў гэты гатовы плян для таго, каб даць рабочай масе патрэбную навукова-популярную кнігу аб Парыскай Комуне.

Ленінская спадчына дае нам выключна багаты матэрыял для вывучэньня гісторыі рабочага руху і клясавай барацьбы ў Эўропе, за апошняе дзесяцігодзьдзе, напярэдадні імпэрыялістычнай вайны. М. Н. Пакроўскі казаў праўду, пацьвярджаючы, што „ў Леніна ёсьць схэмы і пляны, якія павінны легчы ў аснову прац цэлага шэрагу гісторыкаў марксыстаў. Трэба толькі прыглядзіцца, скажам, да пытаньня гісторыі ўзьнікненьня Трэцяй рэспублікі ў Францыі“. „Лібэральная буржуазія Францыі,—пісаў Ленін,—пачала знаходзіць сваю варожасьць да пасьлядоўнай дэмократыі яшчэ ў руху 1789-93 г. Задачаю дэмократыі было стварэньне зусім не буржуазнай монархіі, як гэта найлепш ведае Мартаў. І дэмократыя Францыі з рабочай клясай на чале, насупроць хістаньням здрадам, контррэволюцыйным настроям лібэральнай буржуазіі, стварыла пасьля доўгага шэрагу цяжкіх „кампаній“ той політычны лад, які стаў стойкім з 1871 г. У пачатку эпохі буржуазных рэволюцый лібэральная француская буржуазія была монархічнай і ў канцы доўгага пэрыоду буржуазнай рэволюцыі па меры рашучасьці і самастойнасьці выступленьняў пролетарыяту і дэмократычных буржуазных („лева-блёкісцкіх“, ня ў гнеў будзь сказана Мартаву) элемэнтаў, якія ўсё больш павялічваліся,— француская буржуазія была перароблена ў рэспубліканскую, перавыхавана, пераабучана, перароджана. У Прусіі і Германіі паны не выпускалі з сваіх рук гегемоніі на ўвесь час буржуазных рэволюцый і яна „выхоўвала“ буржуазію па вобразу і па падобію свайму. У Францыі гегемонію разоў з чатыры за ўсе 80 год буржуазных рэволюцый адваяваў сабе пролетарыят у розных спалучэньнях з „лева-блёкісцкімі“ элемэнтамі дробнай буржуазіі, у выніку буржуазія павінна была стварыць такі політычны лад, які-б задавальняў яе антыподу“ (том X, стар. 342—343).

Ленін паказвае, такім чынам, у гэтай характарыстыцы тое, што ў асноўным адрозьнівае социяльна-політычнае разьвіцьцё ў Германіі ад Францыі ў эпоху імпэрыялізму: ён высьвятляе нам, чаму ў Германіі захавалася монархія, а ў Францыі была створана рэспубліка. У асноўным гэта зводзіцца да ролі пролетарыяту і яго рэволюцыйнай барацьбы, да таго, на колькі пролетарыяту ў Францыі ўдалося ўцягнуць у орбіту свайго ўплыву шырачэйшыя колы дробнай буржуазіі, паказаць ціск на заможныя клясы і стварыць, такім чынам, больш дэмократычны парадак, як гэта было, скажам, створана ў Германіі.

Вывучэньне Леніна дапамагае нам, акрамя таго, разабрацца ў барацьбе плыняў у рабочым руху эпохі імпэрыялізму. Бо ўся барацьба з рускім экономізмам пачатку XIX стагодзьдзя з расійскімі меншавікамі была нічым іншым, як барацьбой з опортуністамі ў міжнародным социялістычным руху. У гэтым сэнсе ленінізм з моманту свайго

ўзьнікненьня быў зародкам III Інтэрнацыяналу ў эпоху II Інтэрнацыяналу.

Не запамятаем, што першы пэрыод дзейнасьці Леніна прыпадае на дзесяцігодзьдзе барацьбы з рэвізіёнізмам (1894-1904). Барацьбу з расійскай рознавыгляднасьцю рэвізіёнізму Ленін вядзе ўжо ў кнізе „Что такое друзья народа“, ён працягнуў яе ў першым і другім проекце програмы і брошуры „Задачы расійскай соцыял-дэмократыі“. Яна дасягнула свайго кульмінацыйнага пункту ў „Што рабіць“. Спрэчкі з Плеханавым аб програме партыі, раскол на II зьезьдзе, брошура „Крок наперад“ ёсьць працягваньне завяршэньня пачатковай фазы гэтай барацьбы.

Ленін высоўвае яшчэ супроць Н. Міхайлоўскага цяжкое абвінавачваньне ў зьневажаньні рэволюцыйнай дзейнасьці заходня-эуропэйскага пролетарыяту. Міхайлоўскі лічыць п. Скварцова марксыстам, але ласьне можа быць марксыстам той, хто не разумее, што сучасная дзяржава ёсьць клясавая дзяржава, здольная толькі падтрымліваць буржуазію і прыгнятаць пролетарыят. Ленін выступае супроць народніцкай програмы рэформы і пацьвярджае, што яны цалкам стаяць на глебе капіталістычнага грамадзтва і хочуць адчапіцца толькі цыраваньнем і падпраўкай яе, прычым рэформы гэтыя па думцы „Друзей народа“ ажыцьцёвіць сучасная дзяржава.

Барацьбу з рэвізіянізмам Ленін працягвае ў брошуры „Задачы рускай с.-д.“ Рэнэгацтва Струве саслужыла, па яго словах, бліскучую службу марксызму, „дапамагаючы, як на жывым прыкладзе дэмонстраваць перад усімі і кожным сапраўднае значэньне бэрнштэйніянства наогул і расійскага бэрнштэйніянства ў прыватнасьці“. Ленін катэгорычна падцьвярджае, што саюз з опозыцыйнымі групамі для пролетарыяту часовы саюз, што дробная буржуазія двуліка, што пролетарыят—авангард рэволюцыйнай барацьбы, таму што толькі ён „бязумоўна варожы абсолютызму і расійскаму чыноўніцтву, толькі ў пролетарыята няма ніякіх нітак яго з органамі дваранска-буржуазнага грамадзтва, толькі пролетарыят здольны на непрымірымую варожасьць і рашучую барацьбу з імі“. Такім чынам яшчэ за некалькі год да спрэчак з Плеханавым аб програме РСДРП, Ленін настойваў на вылучэньні пролетарыяту, які пасьля сваёй рэволюцыйнай консолідацыі будзе клікаць „усіх“ да зьяднаньня вакол чырвонага штандару. Для бацькі рэвізіёнізму Бэрнштэйна характэрна разьмежаваньне і супроцьстаўленьне задач пролетарскай барацьбы ў рамках існуючага грамадзтва програме максімум, як прывязка да гэтых задач. Цэнтр соцыял-дэмократыі аргумэнтаваў ад рэволюцыйнага соцыялізму, але быў бездапаможны пры разьвязаньні практычных задач буржуазнай эпохі. Для Леніна характэрны шуканьні рэволюцыйнай програмы дзейнасьці ў рамках існуючага парадку з мэтаю надрыхтоўкі рэволюцыі.

„Проект програмы нашай партыі“ (1900) працягвае барацьбу з рэвізіёнізмам у пытаньні аб тэорыі абядненьня. Полеміка, па словах Леніна, даказала поўную бездапаможнасьць рэвізіёнізму. Мы маем справу з жудасным, усё растучым фізычным жабрацтвам працоўных

там, дзе эксплёататарам не супроцьстаіць організаваная клясавая барацьба. Ён настойвае на ўключэньні ў програму слоў аб „росьце жабрацтва, прыгнёту і падняволеньня, прыніжэньня, эксплёатацыі", бо гэта выяўляе тэндэнцыю капіталістычнага ладу, служыць яскравым агітацыйным матэрыялам і, „па-трэцяе, яшчэ і таму, што гэтай дасканалай характарыстыкай пагібельнага дзеяньня капіталізму і неабходнасьці і нямінучасьці абурэньня рабочых мы адгарадзілі сябе ад тых двухсэнсовых людзей, якія, „спачуваючы" пролетарыяту і патрабуючы „рэформы" ў яго карысьць, імкнуцца заняць „залатую сярэдзіну" між пролетарыятам і буржуазіяй, між самаўладным урадам і рэволюцыянэрамі. Адгарадзіцца ад гэтых людзей менавіта ў сучасны момант асабліва неабходна, калі імкнуцца да адзінай зьяднанай рабочай партыі, якая вядзе рашучую і беззваротную барацьбу за палітычную свабоду і соцыялізм". У чым уласна розьніца гэтай крытыкі рэвізіёнізму ад крытыкі Каўцкага? Да гэтага часу было цяжка вылучыць цэнтральны пункт разыходжаньняў, але ўжо ў артыкуле „З чаго пачаць" (1901 г.) ён выступае больш рэльефна. Размова ідзе аб стварэньні організацыі для штурма цьвярдынь царызму. Праўда, покуль яшчэ ня сам „штурм", але падрыхтоўка да яго... Тым самым абмалёўваецца цэнтральнае палажэньне ленінізму: падрыхтоўка рэволюцыйных атрадаў і кіраўніцтва іх дзейнасьцю ў апошняй рашучай бойцы. Гэтая задача ва ўвесь свой рост стала яшчэ ў „Што рабіць". Гісторычнае значэньне кніжкі вялізарнае: гэта адзіны твор марксыцкай літаратуры, які крытыкуе рэвізіёнізм пад кутом погляду рэволюцыйнай практыкі „майстэрства паўстаньня".

Выходным пунктам для аўтара зьяўляецца палажэньне, што „ў сучаснай міжнароднай соцыял-дэмократыі ўтварыліся два напрамкі, барацьба між якімі то распальваецца, то ўспыхвае яркім полымем, то заціхае і тлее пад навалай уплываючых „рэзолюцый аб перамірыі". У чым сутнасьць „новага" напрамку, сказаў Бэрнштэйн, а паказаў францускі „соцыяліст" Мільеран. Характарна, што Ленін бачыць у гэтай сварцы пачатак канца мірнай эпохі. „Можа быць, — піша ён,—у гэтай першай сапраўды міжнароднай схватцы з соцыялістычным опортунізмам, міжнародная рэволюцыйная соцыял-дэмократыя дастаткова акрэпне, каб палажыць канец даўно ўжо пануючай у Эўропе палітычнай рэакцыі". Гэтую надзею ён выказваў неаднократць і пазьней Опортунізм не нацыянальнае, а інтэрнацыянальнае зьявішча. Размова ідзе аб барацьбе Гары і Жыронды ў шэрагах соцыял-дэмократыі. І Ленін зусім не падзяляе захапленьня тых, хто бачыць у прынятых рэзолюцыях супроць Бэрнштэйна прымірэньне двух напрамкаў. Ён лічыць лепшым „добрую сварку за дрэнны мір", адмаўляючы палажэньне, нібы-та рэвізіёнізм і рэволюцыйная соцыял-дэмократыя стаяць на аднэй і тэй-жа клясавай базе. Для Леніна маленькія тэорэтычныя разыходжаньні не пытаньне аб „адценку", з ім зьвязан лёс рэволюцыі. Задача рускага пролетарыяту крытычна ўспрымаць заходня-эўропэйскі вопыт. „Гісторыя паставіла цяпер перад намі бліжэйшую задачу, якая

зьяўляецца найбольш рэволюцыйнай з усіх бліжэйшых задач пролетарыяту якой-бы то ні было другой краіны. Ажыцьцяўленьне гэтай задачы, разбурэньне самай магутнай апоры ня толькі эўропэйскай, але таксама (можам мы сказаць цяпер) і азіяцкай рэакцыі зрабіла-б расійскі пролетарыят авангардам міжнароднага рэволюцыйнага пролетарыяту" („Што рабіць"). Як бачым, ужо ў 1902 г. Ленін яскрава *сформуляваў позыцыю расійскай соцыял-дэмократыі ў II Інтэрнацыянале. Ленін у 1902 г. высунуў адно з істотных палажэньняў бальшавізму:* клясавы пролетарскі рух як рух комуністычны, у якога на чале стаіць рэволюцыйная партыя.

З гэтым зьвязана ў Леніна ідэя аб стварэньні організацыі рэволюцыянэраў. Колектыў профрэволюцыянэраў павінен выканаць вялізарную задачу па падрыхтоўцы рэволюцыі. Бяссэнсова разглядаць прапанову Леніна як проект нормальнай і цягучай формы організацыі пролетарскага руху. Гэта выключна баявы штаб падрыхтоўкі і правядзеньня паўстаньня. Вось чаму, як мы ўгледзім гэта ніжэй, няправы ні „цэнтр", ні „левыя" ў германскай соцыял-дэмократыі, што не зразумелі організацыйных ідэй Леніна. Не забудзем пры гэтым, што Ленін мае на ўвазе вучэньне Маркса, але не блянкізм. Адсюль два палажэньні: „*Чым шырэй маса, якая стыхійна ўцягваецца ў барацьбу і якая складае базіс руху і ўдзельнічае ў ім, тым настойлівей неабходнасьць у такой організацыі* (профрэволюцыянэраў)... *тым шырэй будзе склад асоб з рабочай клясы і з астатніх клясаў грамадзтва, якія будуць мець магчымасьць удзельнічаць у руху і актыўна працаваць у ім*". У гэтай масавай барацьбе высунуты будуць народныя трыбуны, якія падымуць гонар рэволюцыянэраў на Русі. Але рэч ідзе ня толькі аб Расіі: Ленін мае на ўвазе і рэвізіёнізм і міжнародны крызіс марксызму. „Навуковы соцыялізм перастаў быць суцэльнай рэволюцыйнай тэорыяй, а ператварыўся ў мешаніну, у якой свабодна дабаўлялі вадкасьці з усялякага новага нямецкага падручніка лёзунг клясавая барацьба ня штурхаў наперад да ўсё больш шырокай, усё больш энэргічнай дзейнасьці, а служыў сродкам заспакаеньня, бо „экономічная барацьба непарыўна зьвязана з палітычнай"; ідэя партыі ня служыла заклікам да стварэньня баявой організацыі рэволюцыянэраў, а апраўдвала якуюсьці „рэволюцыйную канцылярщчыну" і дзіцячую гульню ў „дэмократычныя" формы. Ня вытрымлівае крытыкі спроба вытлумачыць гэтыя цьверджаньні Леніна як тэорэтычныя асьвятленьні рускай опортуністычнай практыкі: размова ідзе аб проблеме інтэрнацыянальнай. Ленін супроцьстаўляе ваяўнічы марксызм і яго партыю як рэволюцыйны авангард ар'ергарду опортуністаў.

Ленін у сваіх працах намеціў і асноўныя шляхі для вывучэньня гісторыі пасьляваеннага міру. На жаль, да гэтага часу з гэтага пункту гледжаньня намі яшчэ ня вывучана вядомая прамова Леніна на 2-м Конгрэсе Комуністычнага Інтэрнацыяналу, аб асноўных супярэчнасьцях, якія створаны Вэрсальскім мірам. „Да вайны,—казаў Ленін, у вядомай прамове, 600 мільёнаў чалавек было ў колёніях, а калі да гэ-

тага далучыць такія краіны, як Пэрсія, Турцыя, Кітай, дык паўтара мільярды чалавек знаходзіліся ў падпарадкаваньні некалькіх дзяржаў, правільней прывілеяваных груп гэтых дзяржаў. Вайна садзейнічала падзелу сьвету і атрымаўся такі малюнак: адна і адна чвэртка мільярду жыхароў прыгнечаных колёній—краіны, якіх дзеляць зажыва, як Пэрсія, Турцыя, Кітай, краіны, якія пераможаны і кінуты ў становішча колёній; ня больш аднэй чвэрткі мільярду—гэта краіны, якія ўцалелі на старым становішчы, але яны ўсе папалі ў экономічную залежнасьць Амэрыкі і на ўвесь час вайны былі ў ваеннай залежнасьці, бо вайна захапіла ўвесь сьвет, яна не дазволіла ніводнай дзяржаве заставацца нэўтральнай на справе. І мы маем, нарэшце, ня больш аднэй чвэрткі жыхароў у краінах, у якіх, разумеецца, толькі капіталісты карысталіся падзелам зямлі".

Гэтая агульная соцыяльна-экономічная і палітычная характарыстыка дае нам дасканалую ўстаноўку для вытлумачэньня ўсіх супярэчнасьцяй пасьляваеннай Эўропы і можа служыць для гісторыка надзейным фундамантам для яго конкрэтнага гісторычнага дасьледваньня. Мы пакідаем тут у баку шэраг рашаючых, паводле свайго значэньня, выказваньняў Леніна па гісторыі рэволюцыі пасьляваеннай Эўропы.

Падвядзем вынік. Ленін давёў і паказаў сваімі працамі тое вялізарнае значэньне, якое мае тэорэтычная навука ў рэволюцыйнай барацьбе міжнароднага пролетарыяту. Ён паказаў, што гісторычная навука дае ня толькі зброю ў рукі нашага ворага, але можа паслужыць вострай зброяй раней за ўсё ў нашых руках для організацыі пролетарскіх сіл у барацьбе супроць капіталістычнага грамадзтва, таксама і для справы соцыялістычнага будаўніцтва нашай краіны.

---

## Паходжаньне капіталістычнага грамадзтва.

(*Стэнограма радыё-лекцыі т. Гукоўскага*).

Мы жывем у героічную эпоху, калі Вялікім Кастрычнікам адчынілася паласа пролетарскіх рэволюцый. Будаўніцтва соцыялізму ідзе на вялізарных прасторах Савецкага Саюзу. Мы заканчваем закладку соцыялістычнага фундаманту, а ўвесь астатні капіталістычны сьвет, які дрыжыць у жорсткім крызісе, усё бліжэй падыходзіць да пэўнага пункту. Пачаўся грандыёзны рэволюцыйны ўздым. Наперадзе—нямінучая перамога. На зьмену капіталізму ідзе соцыялізм.

Зразумець законы, якія абумоўліваюць нямінучую зьмену капіталізму соцыялізмам нельга, ня ведаючы гісторыі капіталізму. А для гэтага мы павінны вывучыць капіталізм у яго ўзьнікненьні, у яго разьвіцьці і ў яго пагібелі.

Мэта нашай першай лекцыі па курсу гісторыі клясавай барацьбы вытлумачыць, як пачалося разьвіцьцё капіталістычнага грамадзтва.

Па словах Маркса „экономічная структура капіталістычнага грамадзтва вырасла з экономічнай структуры фэўдальнага грамадзтва.

Разлажэньне апошняй вызваліла элемэнты першай“ („Капітал“, т. I, разьдз. 24). Вось чаму перад намі ўзьнікае задача паглядзець, як з нетраў фэўдалізму вызваліліся народжаныя фэўдалізмам сілы, якія абумовілі яго ўласную пагібель.

Марксавая тэорыя соцыяльна-экономічнай формацыі вучыць нас, што на падставе кожнай соцыяльнай экономічнай формацыі ляжыць вызначаны спосаб вытворчасьці і што гэты спосаб вытворчасьці і абумоўлівае адпаведныя даныя формацыі, палітычныя, ідэолёгічныя „надстройкі“ формы дзяржавы, права, навуку, рэлігію і г. д.

Фэўдалізм—гэта раней за ўсё клясавае грамадзтва.

Асноўнымі клясамі ў той час былі зямляўласьнікі, або, як іх тады называлі „фэўдалы“, і эксплёатаваныя імі сяляне.

Які-ж спосаб вытворчасьці ляжыць у аснове фэўдальнага грамадзтва? Для характарыстыкі таго ці іншага спосабу вытворчасьці заўсёды, у першую чаргу, трэба глядзець, у якіх адносінах вытворцы знаходзяцца да прылад і сродкаў вытворчасьці.

Пры капіталістычным спосабе вытворчасьці вытворцы (рабочыя) адлучаны ад прылад і сродкаў вытворчасьці.

Зваротнае мы наглядаем пры фэўдальным спосабе вытворчасьці. Тут непасрэдны вытворца-селянін злучаны з сродкамі вытворчасьці: ён вядзе сваю ўласную гаспадарку, уладае прыладамі і сродкамі працы, якія належаць альбо яму асабіста, альбо атрыманы ім на кабальных умовах ад фэўдала. Напрыклад, фэўдальны селянін вельмі часта ў сваёй гаспадарцы карыстаецца рабочай жывёлай і інвэнтаром, якія атрыманы ад фэўдала ў форме пазычкі. Гэты бок фэўдальнага спосабу вытворчасьці прыводзіць да своеасаблівай формы эксплёатацыі. Дадатковы продукт, выраблены селянінам, сілаю прысвойваецца фэўдалам, а разам з дадатковым прысвойваецца іншы раз і частка неабходнага продукту.

Гэты прысвоены фэўдалам продукт Маркс называе фэўдальнай рэнтай і адрозьнівае тры формы фэўдальнай рэнты—адпрацовачную, рэнту продуктамі і рэнту грашовую. Іншы раз сяляне плацілі пану ў большасьці аброк: вызначаную долю ўраджаю, прыплоду дамашняе жывёлы або птушкі і г. д. (у гэтым выпадку фэўдал атрымлівае продуктовую рэнту). У другіх выпадках сяляне несьлі, галоўным чынам, паншчыну: яны абавязаны былі працаваць на пана пэўны лік дзён у месяц або тыдзень, пэўны лік тдняў у год (адпрацовачная рэнта). Іншы раз яны ўносілі фэўдалу грашовыя плацяжы (грашовая рэнта). Пры гэтым мы не сустракаем чыстых форм рэнты. Адзін які-небудзь від фэўдальнай рэнты мае пераважнасьць, але звычайна ён дапаўняецца існуючымі побач з ім другімі відамі рэнты.

Акрамя паншчыны і аброку, гэтых асноўных павіннасьцяй сялян, існавала яшчэ мноства ўсялякіх налогаў, павіннасьцяй і цяжараў сялянам, таксама ўсялякіх пераваг і прывілеяў паном. Пан, напрыклад, мог езьдзіць на паляваньне на сялянскае поле і часта няшчадна вы-

топтваў у час паляваньня ўсю ніву. Селянін ня меў права малоць хлеб у сваім млыне, а павінен быў везьці яго да пана і за памол плаціць вельмі высокую плату (так званыя „баналітэты“). Адну дзесятую долю ўсіх сваіх здабыткаў (т. зв. дзесяціна) селянін абавязан быў аддаваць на карысьць царквы. Потым сяляне неслі дарожную і вайсковую павіннасьць, плацілі высокія судовыя пошліны і ўсякія пасрэдныя падаткі на соль, на віно і г. д.

Справа яшчэ пагаршалася ад таго, што сельскагаспадарчая тэхніка была надзвычайна нізкая. Нават у лепшыя гады хлеба нехапала да канца году, найменшы неўраджай, пры адсутнічаньні якіх-бы та ні было запасаў, нямінуча ператвараўся ў страшэнную бяду, у голад. Такое было становішча сялян у фэўдальную эпоху.

Выходзячы з таго, што фэўдалы прымушалі сялян несьці паншчыну, плаціць аброкі і выконваць усе іншыя павіннасьці, карысталіся сілаю, дык адносіны між фэўдаламі і падлеглымі ад іх вытворцамі выступаюць перад намі, перш за ўсё, як адносіны панства і падначаленых. Падыйдзем цяпер да пытаньня з другога боку.

Пры капіталізьме рабочы асабіста вольны, але, пазбаўлены прыладаў і сродкаў вытворчасьці, ён экономічна вымушаны прадаваць сваю рабочую сілу, інакш ён памрэ з голаду. Капіталіст, такім чынам, эксплёатуе рабочага на падставе экономічнага прымусу. Інакш абстаіць справа пры фэўдальным спосабе вытворчасьці. Тут заўсёды мае месца тая ці іншая ступень асабістай залежнасьці вытворца ад фэодала. Іншы раз гэтая залежнасьць выступае ў параўнаўча слабой ступені, у другіх выпадках яна прыводзіць да прымацаваньня сялян да зямлі, да больш ці менш яскрава выяўленага нявольніцтва. Але ва ўсіх выпадках фэўдальная эксплёатацыя грунтуецца на па-за экономічным прымусе.

Далей, у той час, як капіталістычная ўласнасьць сама па сабе стварае магчымасьць прысваеньня дадатковай вартасьці, выробленай „свабодным“ рабочым,—фэўдальная ўласнасьць параджае прысваеньне дадатковага (альбо часткі неабходнага) продукта толькі ў моц непадзельна зьвязанага з гэтай уласнасьцю панства фэўдала над падначаленымі яму непасрэднымі вытворцамі.

Такія адрозьніваючыя рысы фэўдальнага спосабу вытворчасьці і ўласьцівых яму форм уласьніцтва і эксплёатацыі.

Пры якім-жа ўзроўні продукцыйных сіл вырастае фэўдальны спосаб вытворчасьці? Фэўдалізм зьяўляецца тады, калі земляробства і жывёлагадоўля дасягае досыць разьвітых форм. Жывёлаводы вядуць малочную гаспадарку, земляробы ўжываюць мэталічны плуг, карыстаюцца рабочаю сілаю дамашняе жывёлы. У пэўных прыродных умовах робяцца складаныя абваднядьныя пабудовы. Падобная тэхніка робіць магчымым атрыманьне ўжо не выпадковага, а зусім устойлівага дадатковага продукту, але гэты дадатковы продукт нязначны і атрыманьне яго патрабуе надзвычай упартай працы. Грамадзкі падзел працы знаходзіць яшчэ слабае распаўсюджаньне. Але фэўдальныя

продукцыйныя сілы ведаюць ужо рамесьніцкую спэцыялізацыю, хоць рамесьніцтва толькі яшчэ вылучаецца з сельскае гаспадаркі і апошняя непарыўна спалучаецца з тымі ці іншымі выглядамі хатніх заробкаў (выраб тканіны, скур, шмат якіх прылад працы, адзежы і інш.).

Тое-ж самае адносіцца і да панскае гаспадаркі. Значная частка прамысловых вырабаў выробляецца нявольніцкімі рамесьнікамі на панскім двары альбо атрымліваецца ў гатовым выглядзе ў якасьці аброку. Толькі нямногае куплялася ў вольных рамесьнікаў або купцоў, што прывозілі тавары з іншых краін, тавары, якія тут не выраблялiся (напр., заходня-эўропэйскія фэўдалы куплялі розныя тавары, якія ідуць з усходніх краін). З другога боку і фэўдалы мала што давалі: і продукты іх уласнай гаспадаркі, выробленыя на паншчыне, і тое, што атрымлівалася ад сялян у выглядзе аброку, у пераважнай сваёй масе спажывалася ў панскім маёнтку. Усё гэта надавала фэўдальнай гаспадарцы замкнуты харахтар; панствавала натуральная гаспадарка.

Важна для агульнага азнаямленьня з фэўдалізмам паказаць на характар панскага зямляўладаньня. Пераважная большасьць зямельных багацьцяў асяродкавалася ў руках каралёў, іх прыбліжаных. Гэта была радня пляменных правадыроў і вайсковых дружыньнікаў. Яна давала каралём і іх прыбліжаным надзвычайныя зямельныя багацьці бо зямля пераможаных у большасьці выпадкаў адбіралася ва ўласнасьць караля і яго бліжэйшых вайсковых прыхільнікаў. Адначасова разбуралася старое абшчыннае зямляўладаньне, прычым і тут на першым месцы стаяў прымусовы захоп зямель багатымі і моцнымі ў вайсковых адносінах фэўдаламі. Так, шляхам прыгнёту і рабункаў складалася буйнае зямляўладаньне.

У тыя часы, аднак, было вельмі цяжка весьці цэнтралізаваную буйную панскую гаспадарку. Гэтаму перашкаджала раней за ўсё нізкая сельскагаспадарчая тэхніка. Дый экономічна гэта было бессэнсова, бо вялізарныя масы сельскагаспадарчых продуктаў, якія атрымліваліся з буйнай панскай гаспадаркі, усёроўна ня было-куды падзець: пераважная большасьць насельніцтва займалася сама сельскаю гаспадаркаю і купляць хлеб ня было-б каму.

У такіх абставінах стварылася практыка раздаваць землі ва ўмоўнае ўладаньне. Каралі раздавалі землі ва ўмоўнае ўладаньне сваім бліжэйшым прыхільнікам. На Русі такі парадак называўся „пажалаваньнем“, зямля, якая перадавалася ва ўмоўнае ўладаньне,—„пажалаванай зямлёй“. У краінах-жа Заходняй Эўропы перадача зямлі ва ўмоўнае ўладаньне называлася „бэнэфіцыем“, што па-беларуску — азначае „дабрадзейства“.

Зямля давалася пад умову вайсковай службы і выкананьня некаторых іншых, другарадных паводле свайго значаньня, павіннасьцяй. З першага разу кароль меў права адбіраць у фэўдалаў зямлю, даную ва ўмоўнае ўладаньне, калі фэўдал ня нёс вайсковай службы альбо ня выконваў іншых абавязкаў, якія ляжалі на ім. Але з цягам часу ўладаньне зямлёю рабілася ўсё больш стойкім і фэўдал ператвараўся

ў сапраўднага ўласьніка зямлі, які меў права на ўсё жыцьцё ёю уладаць, перадаваць яе ў спадчыну і прадаваць.

Звычайна фэўдалы, атрымліваючы зямлю ва ўмоўнае ўладаньне, у сваю чаргу аддавалі яе менш моцным і менш багатым паном, на тых-жа падставах умоўнага ўладаньня. Іншы раз перадача з рук у рукі паўтаралася некалькі разоў і, нарэшце, складаліся свайго роду фэўдальныя драбіны, на ступенях якіх разьмяшчаліся фэўдалы рознага багацьця і рознай маемасьці.

Такія драбіны называліся фэўдальнай іерархіяй. У Заходняй Эўропе звычайна складалася пяць ступеняй фэўдальнай іерархіі: першая—каралі, другая—князі, герцогі і графы, трэцяя—віцэ-князі, віцэ-графы альбо віконты; чацьвертае — бароны, і пятае — дробна-маёнтніцкія дваране. Фэўдалы, якія стаялі на вышэйшай ступені драбін, лічыліся „сэньёрамі“; тыя-ж, што знаходзіліся ў залежнасьці ад іх адносін, фэўдалы ніжэйшага разьдзелу, называліся „васаламі“. Такім чынам, які-небудзь францускі віконт быў сэньёрам сваіх баронаў і ў сваю чаргу васалам свайго графа.

Нарэшце, ня гледзячы на раздачу зямель ва ўмоўныя ўладаньні у фэўдальную эпоху было пераважным усё-ж буйнае зямляўладаньне. Аднак, фэўдалы не вялі ўласнай буйнай гаспадаркі. У Заходняй Эўропе пан у эпоху найбольш разьвітага фэўдалізму (X і XI стагодзьдзі) рэдка калі засяваў больш аднэй чвэрткі сваёй зямлі. Звычайна ён раздаваў амаль усю зямлю сялянам у арэнду і атрымліваў ад іх вызначаны аброк. Такое спалучэньне буйнага зямляўладаньня і раздробленай распыленай сыстэмы вядзеньня гаспадаркі пры панаваньні натуральнай гаспадаркі звычайна называюць маёнтніцкім ці мэнор'яльным (ад ангельскага слова „мэнор“—маёнтак) ладам.

Такія характарныя рысы фэўдалізму. Аднак фэўдалізм нельга разглядаць як застойлівае, нярухомае становішча грамадзтва. Як і ўсякая грамадзкая формацыя, фэўдалізм мае свой рух. Ён нараджаецца і разьвіваецца, пераходзіць з аднэй ступені разьвіцьця на другую і ўнутры ў сябе параджае разьядаючыя яго супярэчнасьці, і, нарэшце, прыходзіць да пагібелі, даючы месца іншай грамадзкай формацыі. Продукцыйныя сілы фэўдальнага грамадзтва, хоць крайне паступова, але разьвіваюцца і іх разьвіцьцё ў тым галоўным чынам выяўляецца, што павялічваецца грамадзкі падзел працы. А гэта прыводзіла да разьвіцьця памену і да раскладаньня натуральнае гаспадаркі. Паступова зьменьваецца ўвесь малюнак фэўдальных гарадоў,—гэтых рассаднікаў прамысловай вытворчасьці і памену.

Можна адрозьніваць два тыпы гарадоў фэўдальнай эпохі. Буйныя гарады, якія вялі вялікі міжнародны гандаль, былі разьмешчаны звычайна на берагох вялікіх суднаходных рэчак альбо мораў, і гарады дробныя, раённага значэньня, з слаба разьвітым гандлем, якія былі галоўным чынам асяродкамі рамесьніцкай вытворчасьці.

Буйныя гарады былі асяродкамі грашовага звароту. Адсюль грошы прасочваліся ў дробныя раённыя гарады і ў панскія маёнткі. Уняд-

рэньне грошай у гаспадарчы абыход пана пабуджала апошняга пераводзіць натуральныя павіннасьці і аброкі сялян у грашовую форму, а гэта ў сваю чаргу прымушала сялян шукаць магчымасьці для продажу хлеба, каб даставаць грошы, неабходныя для платы аброкаў і падаткаў.

Іншую ролю адыгрывалі раённыя гарады. Яны зьяўляліся пунктамі, дзе можна было прадаць хлеб, бо ў гэтых гарадох асяродкавалася рамесьніцкае, „непашаннае“ насельніцтва. Дробныя гарады былі рынкамі для продажу сельскагаспадарчых продуктаў. Роля гэтых гарадоў у даным выпадку была тым большай, чым гусьцей яны былі разьмешчаны. У краіне з моцна разьвітым гарадзкім жыцьцём, напрыклад, у Англіі, Францыі альбо Германіі, дзе гарады ў фэўдальную эпоху разьмешчаны былі адзін ад аднаго на адлегласьці ўсяго толькі некалькік дзесяткаў вёрст, раскладаньне натуральнай гаспадаркі ішло вельмі шпаркімі крокамі. Там-жа, дзе гарадоў было мала, як, напрыклад, у Расіі, натуральная гаспадарка працягвала існаваць шмат даўжэй.

Пяройдзем цяпер да пытаньня аб палітычным ладзе ў эпоху фэўдалізму, калі распаданьне грамадзтва на клясы прыводзіла да вельмі важных вынікаў.

Вышэй мы бачылі, у якім цяжкім становішчы было фэўдальнае сялянства. Памылкова было-б думаць, што сяляне цішком пераносілі ўсю бяду, якую параджаў фэўдальны ўклад жыцьця. Даведзеныя да адчаю, яны часта спрабавалі скінуць з сябе цяжкі прыгнёт паноў. То тут, то там успыхвалі стыхійныя сялянскія паўстаньні. Але сяляне былі неарганізаваны, ня мелі магчымасьці плянамерна весьці барацьбу, ня мелі зброі, фэўдалам таму было лёгка задушыць кожнае сялянскае паўстаньне, яны гэта рабілі з выключнай няшчаднасьцю.

Такім чынам, экономічна пануючая кляса фэўдалаў сілаю зброі забясьпечвала сваю ўладу. Каб трымаць у падначаленьні сялян, фэўдалы стваралі асобную організацыю прымусу. Так складаліся першыя зародкі дзяржаўнага апарату. Фэўдалы мелі ў сваіх руках узброеную сілу. Яны прысвойвалі сабе права суду над падуладным насельніцтвам, яны зьбіралі падаткі, чаканілі монету, адным словам, рабілі ўсё тое, што напасьледку ў больш утончаных і складаных формах рабілася капіталістычнаю дзяржаваю.

Кожны фэўдал быў як-бы царком для свайго сялянскага насельніцтва ў сваёй акрузе. Чым вышэй фэодал стаяў у шэрагах фэўдальнай іерархіі, тым больш ён паходзіў на поўнаўладнага цара.

Характарнаю рысаю фэўдальнае дзяржавы была яе распыленасьць. Каралі хоць і стаялі на вяршыні фэўдальных драбін, але фактычна мелі вельмі нязначную ўладу над залежнымі ад іх фэўдаламі. Сваю вярхоўную ўладу каралі раздраблялі разам з раздачаю зямель ва ўмоўнае ўладаньне. У такіх выпадках звычайна выдаваліся асобныя граматы, так званыя „імунітэты“, што можна па-беларуску перакласьці як „грамату недатыкальнасьці“, у якіх каралі адмаўляліся ад тых ці іншых правоў на тэрыторыі сваіх фэўдалаў. Часьцей за ўсё фэўдал

атрымліваў права суду, іншы раз права чаканіць монету, таксама і іншыя дзяржаўныя правы.

Буйныя фэўдалы дамагаліся такой долі незалежнасьці, ня толькі дзякуючы добраахвотным адмовам ад улады з боку каралёў, але заўсёды на гэтай глебе ўзьнікала жорсткая барацьба, якая ператваралася ў самую сапраўдную вайну.

Барацьба фэўдалаў з каралямі ўскладнялася глыбокімі супярэчнасьцямі, якія зьявіліся між рознымі групамі фэодалаў. Ніжэйшыя разьдзелы фэўдалаў, малазямельныя, якія мелі патрэбу ў сялянскіх рабочых руках, ахвотна прымалі бок каралёў, з надзеяю пажывіцца за лік адабранай ад буйных фэўдалаў зямлі.

Нарэшце ў гэтай клясавай барацьбе вельмі дзейны ўдзел стала прымаць яшчэ адна сіла—гандлёвы капітал.

Асабліва буйны гандаль разьвіваўся ў тых гарадох, якія разьмешчаны былі на берагох мораў і суднаходных рэчак, гэта ёсьць, другімі словамі—на зручных шляхох зносін. У Заходняй Эўропе найбольш старажытным асяродкам міжнароднага гандлю быў басэйн Міжземнага мора. Тут ішоў гандаль між краінамі бліжэйшага Ўсходу і багацейшымі паўночна-італьянскімі гарадамі Вэнэцыяй, Генуяй, Пізай, Міланам, Флёрэнцыяй і інш. (так званы левантыйскі гандаль).

Значны штуршок Міжземнаморскаму гандлю далі грандыёзныя вайсковыя і гандлёвыя экспэдыцыі, якія адбываліся з канца XI ст. па XIII ст. Лёзунгам „крыжовых паходаў“ (так зваліся гэтыя экспэдыцыі) было вызваленьне „труны гасподняй“ у Ерусаліме „з рук няверных“ мусульманскіх народаў. Організатарамі крыжовых паходаў былі: багатае купецтва паўночна-італьянскіх гарадоў, буйныя фэўдалы каталіцкага духавенства, якія імкнуліся аўладаць гандлёвымі шляхамі, парабаваць багатыя вобласьці, захапіць новыя землі і ўтварыць новыя фэўдальныя княствы і каралеўствы. Каталіцкая царква разьлічвала яшчэ больш узмацніць свой аўторытэт распальваючы рэлігійнае пачуцьцё народаў. У руху ўдзельнічалі шматлікія дробныя фэўдалы, для якіх вайна была выгодным рамяством.

Пры гэтым значаньне „крыжовых паходаў“ не абмяжоўвалася аднэй Італіяй, а распаўсюджвалася на ўсю Заходнюю Эўропу, дапамагаючы разьвіцьцю гандлю, узмацненьню грашовага звароту, раскладаньню натуральнай гаспадаркі.

Аднак у канчатковым выніку „крыжовыя паходы“ канчаліся нядала: туркі зусім выгналі „крыжаносцаў“ з Азіі і ад італьянскага купецтва былі адрэзаны асабліва важныя ўсходнія раёны. Гэта дапамагала паступоваму ўпадку міжземнаморскага гандлю і ажыўленьню новых асяродкаў сусьветнага гандлю. Гандлёвыя звароты сталі разьвівацца на берагох Паўночнага і Бальтыцкага мораў. Тут ляжалі багатыя нямецкія гарады Брэмэн, Гамбург, Данцыг, Любэк і інш., яны вялі вельмі шырокі гандаль і мелі свае аддзяленьні ў Лёндоне, у Ноўгарадзе і ў шмат іншых гарадох. Нарэшце яны ўтварылі магутны гандлёвы саюз, які трымаў у сваіх руках увесь паўночна-эўропэйскі

гандаль. Гэта была так званая „Вялікая нямецкая ганза". У яе склад уваходзіла 90 гарадоў.

У сярэдзіне XV ст. паўднёва-эўропэйскі гандаль атрымаў яшчэ адзін вельмі цяжкі ўдар: туркі заваявалі Канстатынопаль і Чорнаморскае ўзьбярэжжа (1453 г.). Гэтая заваёва канчаткова адрэзала італьянскія гарады ад бліжэйшага Ўсходу і зрабіла яшчэ больш цяжкім пранікненьне гандлёвых караванаў у далёкую Індыю. Між тым Індыя ва ўяўленьні эўропэйскага купецтва малявалася як краіна казачнага багацьця. Часткова гэта было правільна, але многае дабаўлена было фантастычнымі апавяданьнямі тых купцоў, якія былі там. У сувязі з зачыненьнем туркамі старых гандлёвых шляхоў, ранейшае імкненьне знайсьці карацейшы шлях у Індыю стала яшчэ больш настойлівым. Географічныя ўяўленьні людзей таго часу давалі падставы думаць, што пры руху на захад можна будзе дайсьці да Індыі вакольным шляхам. Гэта паслужыла штуршком да організацыі розных экспэдыцый у шуканьнях морскага шляху Індыі. У 1492 годзе Хрыстофор Колюмб даплыў да новага мацерыка, невядомага эўропэйцам таго часу. Ім была адкрыта Амэрыка, якую ён памылкова прыняў за Індыю. Але мінула некалькі гадоў, у 1498 годзе партугальцам Васко дэ-Гама быў знойдзены морскі шлях у сапраўдную Індыю.

Амэрыка і Індыя зьявляліся вытокамі хутчэйшага абагачэньня тых гандлёвых кампаній, якім удалася ўпяршыню наладзіць сувязі з гэтымі краінамі. Эўропэйцы няшчадна рабавалі туземнае насельніцтва, гвалтам адбіралі ў яго за бясцэнак альбо зусім без усялякае аплаты ўсе продукты, якія можна было прадаваць на эўропэйскіх рынках. Самае шырокае распаўсюджаньне атрымаў у гэты час таксама гандаль нявольнікамі, які прыносіў асабліва хуткае абагачэньне спэцыялістам гэтай справы. Напрыклад, буйнейшы ангельскі порт Лівэрпуль дасяг вельмі вялікага росквіту, галоўным чынам, дзякуючы гандлю нявольнікамі. Тут была цэлая флётылія суднаў, якая спэцыяльна была занята нявольніцкім гандлем. Ад ангельцаў не адставалі голяндцы, а наперадзе і тых і другіх ішлі партугальцы і іспанцы.

З таго часу, як гандаль прыняў буйны міжнародны характар, грашовы зварот стаў пранікаць ва ўсе куткі Эўропы. Купцы пачалі адыгрываць цяпер вялізарную ролю ў гаспадарчым жыцьці грамадзтва і разам з банкірамі і квотнікамі ператварыліся ў найбагатшую грамадзкую клясу. Флёрэнтыйскія багатыры Мэдзічы мелі ў XV веку маемасьць ня менш, як 15 мільёнаў рублёў, а нямецкі гандлёвы банкірскі дом Фугераў праз сто гадоў у сярэдзіне XVI ст. меў ужо звыш 75 мільёнаў рублёў.

Такія шляхі разьвіцьця гандлю і грашовага звароту. Гандлёвы капітал вырастае на глебе фэўдальных адносін. Ён зьяўляецца продуктам процэсаў, тыповых для фэўдальнай формацыі. Пры фэўдалізьме асноўныя шляхі разьвіцьця продукцыйных сіл былі не ў галіне тэхнікі. Пры застойнай тэхніцы (а менавіта такая тэхніка тыповая для фэўдалізму) разьвіцьцё продукцыйных сіл выяўлялася ў форме павялічваю-

чагася грамадзкага падзелу працы. Вылучэньне рамяства з сельскае гаспадаркі, адасабленьне гораду ад вёскі, з адначасовым павялічэньнем менавое сувязі між імі,—вось у чым выяўлялася разьвіцьцё продукцыйных сіл фэўдальнай грамады. На гэтай базе, на базе фэўдальнага спосабу вытворчасьці і ўласьцівых яму продукцыйных сіл, расьце гандлёвы капітал.

Гандлёвы капітал (у даным выпадку гутарка ідзе аб купецкім і квотніцкім капітале) поўнасьцю авалодвае процэсам звароту тавараў (памен).

Раскладаючы натуральныя адносіны, характарныя для фэўдалізму, павялічваючы товарнасьць гаспадаркі, стварая на зьмену замкнутаму раённаму рынку фэўдальнай эпохі шырокі рынак нацыянальны, концэнтруючы грашовыя сродкі, гандлёвы капітал стварае ўмовы для ўстанаўленьня капіталістычных адносін.

„Не падлягае ніякаму сумненьню,—кажа Маркс,—што вялікія рэволюцыі, якія адбыліся ў гандлі ў XVI і XVII стагодзьдзі пасьля географічных адкрыцьцяў і якія хутка пасунулі наперад разьвіцьцё купецкага капіталу, складаюць галоўны момант у шэрагу тых, якія садзейнічалі пераходу фэўдальнаму спосабу вытворчасьці ў капіталістычны“.

Выгадаваны фэўдальным спосабам вытворчасьці гандлёвы капітал пачынае рабіць уплыў і на вытворчасьць як прамысловую, так і сельска-гаспадарчую. Але гэты ўплыў не заўсёды аднолькавы. У пэўных гісторычных абставінах гандлёвы капітал не пранікае сам у вытворчасьць, консэрвуе старыя фэўдальныя спосабы вытворчасьці. У другіх умовах ён рэволюцыянізуе вытворчасьць, прасочваючыся сам у яго і ператвараючыся пры гэтым з капіталу гандлёвага ў капітал прамысловы.

Тое-ж і ў адносінах і да сельскай гаспадаркі. У адных выпадках гандлёвы капітал, консэрвуючы фэўдальны спосаб вытворчасьці, стварае глебу для пышнага росквіту прыгоньніцтва, у другіх—ён дапамагае разбурэньню ўсіх форм фэўдальнай залежнасьці і ўстанаўленьні капіталістычнага спосабу вытворчасьці.

Паглядзім, як у новых умовах зьмяняліся формы прамысловай вытворчасьці і як перараджаўся аграрны лад.

Раней за ўсё адбывалася паўнейшае раскладаньне старой рамесьніцкай формы вытворчасьці.

Рамесьнікі пападалі ў залежнасьць ад купцоў. У былыя часы, калі рынак быў невялікі, рамесьнікі лёгка маглі ўлічваць патрэбы насельніцтва, працуючы бяз рызыкі вырабіць вельмі многа продуктаў, якія не маглі-б знайсьці сабе збыту. З пашырэньнем рынку павялічваліся памеры вытворчасьці, і гэта часта ставіла рамесьніка перад пагрозаю вырабіць больш, як яму трэба было прадаць у кірмашны дзень на рынку. Ня маючы запасных сродкаў, рамесьнік апыняўся ў вельмі цяжкім становішчы і быў вымушаны зьвяртацца да купца або квотніка за грашовую дапамогаю. Гэтым карысталіся скупшчыкі, якія за бяс-

цэнак скуплялі рамесьніцкія вырабы, з надзеяю перапрадаць іх на другім месцы альбо тут-жа, але па падвышанай цане.

З цягам часу перапродажы рамесьнікам сваіх вырабаў скупшчыку робяцца ўсё больш звычайнаю зьяваю. Далей, скупшчык ужо пераходзіць да задавальненьня рамесьніка сыравінай, яшчэ больш падначальвае яго свайму ўплыву.

Старыя патрыярхальныя ўмовы жыцьця фэўдальнага рамяства пачалі паступова зьнікаць, майстар пад нацiскам рынку ўсё больш павялічваў эксплёатацыю чаляднікаў і вучняў, ратуючыся ад конкурэнцыі. Майстры ўсяляк перашкаджалі доступу ў свае шэрагі новым рамесьнікам, і перад чаляднікамі зачыняўся шлях да самастойнасьці. Гэтыя абставіны працягнулі рэзкі кант між наёмнымі работнікамі рамяства і майстрамі-гаспадарамі ўстановы.

Нарэшце і між асобнымі галінамі рамяства пачалі праяўляцца экономічныя супярэчнасьці. Аддзелачныя цэхі, якія выпускалі гатовы продукт, пападалі ў становішча скупшчыкаў у адносінах да тых цэхаў якія дастаўлялі для іх „паўфабрыкат“. Так, напрыклад, скупшчыкі скуплялі вырабы ткачоў, якія звычайна не рабілі канчатковай аддзелкі тканіны. Нарэшце—члены гэтых аддзелачных цэхаў ператвараліся ў сапраўдных прадпрыемцаў.

Аднак, цэхавыя організацыі яшчэ доўгі час супраціўляліся хуткаму разлажэньню рамяства. Але ў гэты час ствараліся і новыя формы вытворчасьці, больш прыстасаваныя да пашыраных патрэб рынку: зьявілася так званая хатняя ці саматужная вытворчасьць, а ўсьлед за гэтым і мануфактура, вястун фабрычнай сыстэмы.

У тэхнічных адносінах саматужная ці хатняя прамысловасьць мала чым адрозьнівалася ад рамяства. Тут таксама работа адбывалася ўручную, звычкі работы і прылады захоўваліся ў сваім ранейшым выглядзе. Затое зусім па-новаму будаваліся экономічныя адносіны.

Пры хатняй прамысловасьці збыт гатовых вырабаў вытвараўся пры дапамозе маклера, які скупляў іх у саматужнікаў дзеля перапродажу. Пры гэтым скупшчык часта таксама задавольваў саматужнікаў сыравінай. Такім чынам работнік пападаў у поўную залежнасьць ад капіталіста-скупшчыка.

Пры хатняй прамысловасьці рамесьнікі звычайна яшчэ доўга захоўвалі свае старыя цэхавыя парадкі і організацыі. Формальна яны яшчэ заставаліся рамесьнікамі, але з экономічнага пункту гледжаньня яны ўжо ператвараліся ў работнікаў хатняй прамысловасьці, працуючы ў капіталіста-скупшчыка.

Цэхі распаўсюджвалі сваю ўвагу толькі на горад; вёска-ж ня ведала ніякіх цэхавых абмежаваньняў, таму тут саматужная прамысловасьць распаўсюдзілася асабліва шырока, прычым перавод сялянскіх павіннасьцяй у грашовую форму і наогул уцягненьне сялян у рыначныя адносіны стварала добрую глебу для разьвіцьця ў вёсцы адасобленай прамысловай вытворчасьці.

Хатняя або саматужная форма прамысловасьці атрымала ўсюды шырачэйшае распаўсюджаньне. На працягу шэрагу вякоў, асабліва ў XV, XVI, XVII і XVIII стагодзьдзях, яна была галоўнаю формаю прамысловай вытворчасьці.

Наступным этапам разьвіцьця прамысловасьці зьяўляецца мануфактура. Яна шмат чым адрозьніваецца ад папярэдніх форм прамысловасьці. Перш за ўсё пры мануфактуры іншая організацыя вытворчасьці. У мануфактурах працавала некалькі дзесяткаў рабочых, але сустракаліся такія прадпрыемствы, дзе лік рабочых вымяраўся сотнямі. Унутры мануфактуры разьвіваецца падзяленьне працы, з прычыны чаго ў многа раз павялічваецца продукцыйнасьць працы. Такім чынам мануфактура ўнесла вельмі істотныя зьмены ў тэхніку вытворчасьці.

Але значна важнейшыя былі зьмены экономічнага характару. Работнікі мануфактуры звычайна ня толькі ня мелі свае ўласнае сыравіны, але нават прылады, якія ўжываліся ў мануфактурнай вытворчасьці, таксама амаль заўсёды належалі прадпрыемцу. Гэта ставіла работніка мануфактуры ў становішча сапраўднага пролетара, а самую мануфактуру набліжала да фабрыкі.

Ад апошняй мануфактура адрозьнівалася толькі тым, што ня ведала машын. Як паказвае само слова „мануфактура“ (ад лацінскіх слоў: манус—рука і фактура—выкананьне)—гэта ручны спосаб вытворчасьці.

Звычайна мануфактурныя прадпрыемствы былі цясьнейшым чынам зьвязаны з шырокім колам дробных вытворцаў саматужнікаў, альбо, іншымі словамі, з капіталістычнаю хатняю прамысловасьцю. У мануфактурнай майстэрні вытворчы процэс не заўсёды адбываўся ад пачатку да канца. У большасьці выпадкаў некаторыя зьвеньні вытворчага процэсу (аддзелка гатовага продукту альбо, наадварот, першапачатковая апрацоўка сыравіны) з мануфактурнай майстэрні перадавалася саматужнікам акаляючага раёну. Дзякуючы гэтаму экономічнае значаньне мануфактуры на многа павялічвалася. Яна несла з сабою пачатак новай эпохі гісторыі гаспадаркі, зьяўляючыся першай стадыяй капіталістычнага спосабу вытворчасьці. Усьлед за мануфактурай ішла ўжо спадручная сыстэма, заснаваная ўжо на машыннай вытворчасьці.

Так гандлёвы капітал, ператвараючыся ў прамысловы, паступова перарадзіў усю прамысловасьць, поўнасьцю падначаліўшы яе свайму контролю і свайму ўплыву. Немалое ўзьдзейнічаньне рабіў гандлёвы капітал і на аграрны лад. Галоўным тут было зьяўленьне хлебных рынкаў і паступовае ператварэньне натуральнай гаспадаркі ў таварную. Гэтыя зьмены хваравіта адбіваліся на становішчы сялян. Паны, ганяючыся за павялічэньнем таварнае продукцыі свае гаспадаркі, як мага ўзмацнялі эксплёатацыю сялян. Аднак, у гэтых адносінах разьвіцьцё зямельных адносін ня ўсюды ішло аднолькава. Можна казаць аб двух шляхох аграрнага разьвіцьця эўропэйскіх народаў.

Адзін шлях—узмацненьне эксплёатацыі сялянства пры дапамозе яшчэ большага прыгону. Паны ўсё мацней павялічваюць паншчыну,

ускладаюць на сялян цяжкія аброкі, абмяжоўваюць розныя правы сялян, робяць цяжкім пераход ад аднаго пана да другога, і, нарэшце, канчаткова занявольваюць сялян. Гэта шлях пазаэкономічнага прымусу, калі сялян гвалтам прымушалі працаваць на пана. Асабліва яркім прыкладам прыгоннага разьвіцьця аграрных адносін можа служыць Расія.

Росквіт прыгоннае гаспадаркі ў Расіі быў вынікам некаторых своеасаблівасьцяй яе гісторычнага мінулага. Тут фэўдальныя адносіны ня мелі такога моцнага разьвіцьця, як у Зах. Эўропе, і ў прыватнасьці прыгоньніцтва ў эпоху фэўдалізму было распаўсюджана куды слабей. Калі-ж на Русі стаў павялічвацца лік гарадоў, інакш кажучы, калі зьявіліся першыя рынкі для збыту хлеба, паны сталі імкнуцца да павялічэньня сельскагаспадарчай продукцыі. Гэта было зьвязана са зьменамі тэхнікі сельскай гаспадаркі. Старая „падсечная“ сыстэма, калі пахаць „выдзіралі“ з-пад лесу і карысталіся ёю некалькі гадоў, пакуль яна ня спустошвалася поўнасьцю, а потым пераходзілі на новае месца,—не дапускала прымацаваньня насельніцтва да зямлі. Гэта было свайго роду „брадзячае зямлякарыстаньне“, пры якім землеробскае насельніцтва час-ад-часу пераходзіць з месца на месца.

Інакшай была справа пры замене „падсечнай“ сыстэмы „пералогам“; а потым і асабліва „трохпольлем“,—ужо зусім аседлым земляробствам, якое робіць запрыгоньваньне сялян тэхнічна магчымым.

Разам з тым, вышэйшая сельскагаспадарчая тэхніка патрабавала прыстасаваньня большае колькасьці рабочае жывёлы і больш удасканаленых прылад працы. Пры беднасьці сялянскага насельніцтва гэта прыводзіла да ўзмацненьня яго экономічнай залежнасьці ад буйных уласьнікаў зямлі. Пазычкі жывёлаю, прыладамі і насеньнем сялянам удавалася атрымаць толькі пад вялікія проценты, а гэта паступова прыводзіла да поўнага іх закабаленьня. Так паднявольваньне сялян падрыхтоўвалася экономічна.

Паскаралася-ж яно і распаўсюджвалася ўсё шырэй у сувязі з імкненьнем пана забясьпечыць за сабою рабочыя рукі, асабліва патрэбныя яму пры пашырэньні сельскагаспадарчай вытворчасьці. Пан сапраўды знаходзіўся пад страхам застацца без рабочых рук. Параўнаўчая рэдкасьць насельніцтва і вялікія зямельныя прасторы давалі магчымасьць сялянам, хаваючыся ад панскай эксплёатацыі, перайсьці на вольныя, амаль не заселеныя, паўднёвыя і паўднёва-ўсходнія стэпы.

Усе гэтыя прычыны і прывялі нарэшце да поўнага падняволеньня сялян.

Акрамя Расіі па прыгонным шляху ішло разьвіцьцё Польшчы, Усходняй Германіі і некаторых іншых краін.

Ня так разьвіваліся аграрныя адносіны ў краінах Заходняй Эўропы. У першую чаргу ў Англіі, а потым у Францыі, часткова і ў заходніх вобласьцях Германіі і некаторых іншых краінах. Тут прыгонная залежнасьць сялян існавала ўжо ў фэўдальную эпоху, а ў далейшым у эпоху разьвіцьця таварнага звароту, узьнікненьня капіталістычных адносін, паступова адбывалася распрыгоньваньне сялян.

Рашаючую ролю пры гэтым адыгрывала хуткае павялічэньне таварнасьці ўсёй сельскай гаспадаркі. Чым шырэйшы рабіўся рынак, тым важней для пана была большая продукцыйнасьць працы сялян. Калі на Русі зьяўленьне першых гарадзкіх рынкаў, у сувязі з рэдкасьцю насельніцтва і пры недахопе рабочых рук выклікала, як мы бачым, запрыгоньваньне дасюль вольнага сялянства, дык у Заходняй Эўропе, пры большай густаце насельніцтва і вялікай колькасьці рабочых рук і куды большай ёмістасьці рынкаў, паднявольная праца прыгоннага, якая практыкавалася даўно, ужо аказвалася мала продукцыйнай. Таму пану было выгадней мець справу з „вольным“ рабочым-батраком альбо з „вольным“ арандатарам. Гэта паступова прыводзіла ў большасьці краін Заходняй Эўропы або да поўнай ліквідацыі прыгонных адносін, альбо да частковага вызваленьня сялян.

Пры гэтым частка сялян ператваралася ў дробных самастойных уласьнікаў альбо дробных арандатараў панскіх зямель, галоўная-ж маса сялян абезьзямельвалася, інакш кажучы, сяляне вызваляліся ад прыгоннай залежнасьці, але разам з тым у значнай частцы пролетарызаваліся. Сяляне пазбаўляліся зямлі, гэтага асноўнага сродку вытворчасьці. Хай сабе яны лічыліся вольнымі, але яны ня мелі сродкаў для існаваньня і экономічна прымушаны былі прадаваць сваю працу, працуючы батракамі на землях паноў і ў сваіх заможных суседзяў. Частка з іх у шуканьні работы ўцякала ў горад.

Гэта быў капіталістычны шлях разьвіцьця, шлях экономічнага прымусу.

Шлях капіталістычнага разьвіцьця і распрыгоньваньня сялян ішоў не без перабояў і розных затрымак. Асобныя групоўкі паноў, слаба зьвязаныя з рыначнымі адносінамі, супраціўляліся распрыгоньваньню сялян і імкнуліся да захаваньня старых форм фэўдальна-прыгоньніцкае эксплёатацыі. Іншы раз гэтым паном фэўдальнага тыпу ўдавалася дабіцца посьпеху і яны ня толькі аднаўлялі розныя астачы фэўдальных прывілеяў, але і ажыцьцяўлялі частковае аднаўленьне прыгоннай залежнасьці. У асобных-жа краінах фэўдальная рэакцыя заходзіла вельмі далёка і прыводзіла нават да поўнага аднаўленьня прыгонных адносін (напрыклад, у Германіі).

Ва ўсіх гэтых выпадках у вёсцы распальвалася клясавая барацьба. Усюды ўспыхвалі сялянскія паўстаньні.

Вялізарны сялянскі рух, які ўзьнік у Англіі ў канцы XVI стагодзьдзя быў зьвязаны з імем правадыра сялян Уота Тойлера.

Гэты рух быў выкліканы імкненьнем ангельскіх паноў часткова аднавіць прыгонныя парадкі, якія амаль зьніклі прыблізна ў сярэдзіне XVI ст. Рух Уота Тойлера (ён пачаўся ў 1381 годзе) і быў задушаны з вялікай жорсткасьцю, але прыгонны лад у Англіі адноўлен ня быў. Канчатковае зьнікненьне прыгонных адносін у Англіі адносіцца да XVI ст. З таго часу тут адбыўся другі процэс, процэс масавага прымусовага абезьзямельваньня сялян, які прывёў іх да пролетарызацыі.

У Францыі таксама наглядаўся досыць шырокі процэс распрыгоньваньня сялян, які зьмяніўся хваляй прыгоннай рэакцыі і надзвычайным узмацненьнем эксплёатацыі сялянскіх мас. Становішча апошніх пагаршалася яшчэ цяжкімі бясконцымі войнамі, якія вяліся францускімі і ангельскімі фэўдаламі ў другой палове XIII і пачатку XIV ст. Усё гэта прывяло да масавага стыхійнага протэсту сялян, які вядомы ў гісторыі пад назваю „жакэры" (ад ганебнай клічкі францускіх сялян—ЖАК—прастак). Паўстаньне пачалося ў 1358 годзе. Яно было задушана з няшчаднай жорсткасьцю і не палегчыла цяжкага становішча сялян.

У Францыі процэс распрыгоньваньня сялян ішоў больш павольна як у Англіі. Многія перажыткі прыгонных фэўдальных адносін захаваліся ў гэтай краіне да канца XIII стагодзьдзя, г. ё. да Вялікай францускай рэволюцыі.

Яшчэ больш павольна адбываўся процэс распрыгоньваньня сялян у Германіі. Тут, пад уплывам разьвіцьця грашовага звароту, эксплёатацыя сялянства дасягла максымальнага разьвіцьця ў канцы XV і пачатку XVI ст. Гэта выклікала цэлую сэрыю сялянскіх паўстаньняў, што нарэшце вылiліся ў сапраўдную вайну, якая кончылася ў 1525 годзе поўным разгромам сялян. Гэтая „Вялікая сялянская вайна" ішла пад лёзунгам зьнішчэньня прыгоньніцтва, адмены і памяншэньня аброкаў і павіннасьцяй, якія ляжалі на сялянстве, звароту адабраных панамі сялянскіх абшчынных надзелаў. У руху ўдзельнічалі аднак не адны сяляне, у некаторых раёнах, напрыклад, у Франконіі, разам з сялянамі барацьбу вялі некаторыя прадстаўнікі дробнага дваранства, якія выступалі супроць буйнага фэўдальнага зямляўладаньня, прадстаўнікі гандлёвай буржуазіі, якая выступала супроць розных фэўдальных парадкаў, і, ў прыватнасьці, супроць палітычнага і экономічнага ўплыву каталіцкай царквы. Протэсты супроць царквы ішлі з розных клясаў і на час іх злучалі ў агульны рух, вядомы пад назвай „рэформацыі". Аднак, у той час, як буржуазія амаль абмяжоўвалася вузкімі патрабаваньнямі царкоўнай рэформы, маючы свайго ідэолёга Марціна Лютэра, сялянства ішло значна далей і патрабавала соцыяльных рэформ. Між іншым і сялянскія патрабаваньні ў большасьці выпадкаў знаходзіліся пад буржуазным уплывам і адзначаліся большай умеранасьцю (напрыклад, сялянская програма вядомая пад назвай „12 тэзісаў").

Але ў некаторых раёнах сяляне амаль поўнасьцю выходзілі з-пад буржуазных уплываў. Гэта здаралася там, дзе да руху далучаліся прадстаўнікі гарадзкой беднаты і асабліва ў горнапрамысловых раёнах. Пролетарскія і напаўпролетарскія групы надавалі руху комуністычнае адценьне, найбольш вядомым натхніцелем якіх быў Томас Мюнцэр.

Як ужо сказана, Вялікая сялянская вайна скончылася тым, што паўстаўшыя былі пераможаны. Пасьля гэтага прыгонны лад тут ня толькі ня быў паслаблены, але, наадварот, стаў разьвівацца яшчэ

мацней. У большасьці раёнаў Германіі, асабліва ў яе ўсходняй частцы прыгонныя адносіны праіснавалі аж да першай паловы XIX ст.

Розьніца ў лёсах сялянства Англіі, Францыі і Германіі тлумачыцца неаднолькавай шпаркасьцю разьвіцьця капіталістычных адносін. У Англіі сельская гаспадарка рана была ўцягнута ў міжнародны гандаль, асабліва з прычыны разьвіцьця шарсьцяной прамысловасьці і зьвязанае з ёю гадоўлі авечак. Вось таму тут капітал раней, як дзе-б там ні было, прасачыўся у аграрны лад і прынёс з сабою і распрыгоньваньне сялян і іх пролетарызацыю. У Францыі ўсе гэтыя процэсы разьвіваліся ня так шпарка, а ў Германіі яшчэ больш павольна, як у Францыі.

Пяройдзем цяпер да кароткага агляду іх процэсаў, якія адбываліся ў палітычнай організацыі грамадзтва ў эпоху разлажэньня фэўдалізму і нараджэньня капіталістычных адносін. Адрозьніваючай рысай палітычнага ладу ў эпоху разьвіцьця фэўдалізму была крайняя распыленасьць дзяржаўнай улады. У краінах з моцна разьвітымі фэўдальнымі адносінамі дзяржаўная ўлада распылялася да такой ступені, што кожны, калькі-небудзь буйны маёнтак ператвараўся амаль не ў самастойную дзяржаву. Прычынай такой распыленасьці дзяржаўнае ўлады была слабасьць менавых сувязяй, замкнутасьць паасобных дзяржаўных сьветаў—маёнтку ці невялічкага гораду з раёнам, які імкнуўся да яго.

Рыначныя адносіны ў фэўдальную эпоху засноўваліся на дробнай рамесьніцкай вытворчасьці. Цэнтрамі гэтых рыначных адносін служылі гарады. Яны задавольвалі вакольнае вясковае насельніцтва вырабамі рамесьніцкай вытворчасьці, а самі ў абмен атрымлівалі продукты сельскае гаспадаркі. Такім чынам для фэўдальнай эпохі тыповы абмежаваны гарадзкі рынак.

Калі-ж рамесьніцтва пачало выціскацца хатняй прамысловасьцю і мануфактурай, калі памеры прамысловай вытворчасьці на многа вырасьлі,—стары фэўдальны гарадзкі рынак аказаўся ўжо вельмі цесным. Зьявілася патрэба ў больш шырокім рынку збыту прамысловых вырабаў, у стварэньні нацыянальных рынкаў. І вось тут з асаблівай яскравасьцю адбілася ўся неадпаведнасьць старога фэўдальнага дзяржаўнага ладу з новымі экономічнымі ўмовамі.

Асабліва мучыліся ад нясталасьці фэўдальнага дзяржаўнага парадку прадстаўнікі падымаючайся буржуазіі. Прыпомнім, што кожная маленькая фэўдальная дзяржава мела права чаканіць сваю монету і зьбіраць мытныя зборы з прыежджых купцоў. Ужо адно гэта вельмі шкодзіла разьвіцьцю гандлю. А самавольства ў судох, а слабая дзяржаўная ўлада, якая зусім не забясьпечвала бясьпекі гандлёвых караванаў, а неадпаведнасьць шляхоў зносін, аб якіх уласна ня было каму нават клапаціцца,—усё гэта ўладна высоўвала перад буржуазіяй імкненьне да стварэньня моцнай, цэнтралізаванай дзяржаўнай улады.

Ня дзіва, што буржуазія ахвотна давала падтрыманьне таму з фэўдалаў, які ёй найбольш здаваўся моцным прэтэндэнтам на ролю

аб'яднаўцы дзяржаўнай улады. Між буржуазіяй і каралеўскаю ўладаю атрымалася цясьнейшая сувязь. Яны разам вялі барацьбу супроць ворагаў цэнтралізаванай дзяржавы, *супроць буйных фэўдалаў*. Буржуазія фінансавала каралеўскую ўладу, якая атрымоўвала магчымасьць ствараць вялікія арміі добра ўзброеных нанятых войск. У выніку гэтага ў фэўдалаў высьлізвала галоўная апора іх улады—вайсковая магутнасьць. Фэўдалы не маглі супроцьстаяць наёмным арміям каралеўскай улады ня толькі таму, што гэтыя ўлады перавышалі старое фэўдальнае войска колькасна, але галоўным чынам у моц перавароту ў тэхнічных асновах вайсковага майстэрства.

Перад коннаю арміяй закаваных у броню фэўдальных войск стаяла цяпер шматлікая пяхота, узброеная агністрэльнай зброяй.

На дапамогу каралём і буржуазіі ў іх барацьбе з фэўдаламі часта прыходзіла і дробнамаёнтніцкае дваранства, якое ахвотна ўступала ў шэрагі наёмных армій каралёў. Імкнучыся адцягаць у сваіх багатых і моцных суседзяў—буйных фэўдалаў—як можна больш зямлі і рабочых рук, дробнамаёнтніцкія дваране ахвотна прымалі ўдзел у барацьбе з буйнымі фэўдаламі.

Нарэшце, злучанымі намаганьнямі буржуазіі, дробнамаёнтніцкага дваранства і каралеўскае ўлады супраціўленьне буйных фэўдалаў было зломлена, расчысьціліся шляхі да стварэньня буйных дзяржаўных аб'яднаньняў. У Заходняй Эўропе працэс фармаваньня дзяржаў дасягдастаткова вялікіх вынікаў ужо прыблізна ў XV стагодзьдзі.

Да гэтага часу тут склаліся наступныя галоўнейшыя дзяржаўныя ўтварэньні: Англія (яна і раней, нават у фэўдальную эпоху, мела ў значнай ступені цэнтралізаваны дзяржаўны лад), Францыя, Іспанія, Португалія. Што-ж тычыцца Германіі і Італіі, дык у гэтых краінах працэс дзяржаўнага нацыянальнага аб'яднаньня затармазіўся на значна больш даўжэйшы тэрмін.

*У эпоху раскладаньня фэўдалізму і ўзьнікненьня капіталістычных* адносін звычайнай формай дзяржаўнай улады зьяўляецца абсолютызм.

Абсолютызмам, абсолютнай монархіяй альбо самаўладзтвам называюць такі дзяржаўны лад, дзе ўлада цара, насьледнага монарха, нічым не абмежавана, самаўладна. Улада цара носіць яскрава выяўлены асабісты характар. „Дзяржава—гэта я!"—заяўляў адзін з найбольш тыповых прадстаўнікоў абсолютызму, францускі кароль Людовік XIV. Аднак, асабістая па форме ўлада самаўладца па існасьці была ўладаю яскрава клясавай і служыла паслухмянай зброяй у руках экономічна пануючай клясы.

Дзяржава эпохі, якую мы абмалёўваем, адыгрывала ў вышэйшай ступені розную ролю ў працэсе так званага „першапачатковага накапленьня капіталу". Пад гэтым працэсам разумеюць прымусовае адлучэньне вытворцаў ад прылад і сродкаў вытворчасьці. Асновай працэсу першапачатковага накапленьня капіталу, яго мэтодам заўсёды быў голы прымус, бессаромнае рабаўніцтва, а таму злоснай насьмешкаю гучаць словы Маркса, калі ён рабаўніцтва называе такім нявінным

слоўцам, як „накапленьне". Недарма ён гаворыць ня проста аб першапачатковым накапленьні капіталу, а аб „так званым" першапачатковым накапленьні[1]).

Формы першапачатковага накапленьня капіталу былі розныя. Пакажам перш за ўсё на колёніяльнае рабаўніцтва, якое прыносіла колёсальнае абагачэньне эўропэйскай гандлёвай буржуазіі, якая імкнулася ў новаадкрытыя землі. Пры прыхільных адносінах дзяржавы організоўваліся спэцыяльныя колёніяльныя гандлёвыя кампаніі. Яны карысталіся неабмежаванымі правамі і шляхам спусташэньня тубыльцаў выкачвалі з колёній бязьлікія багацьці. Асабліва славутаю стала ў гэтых адносінах Голяндзкая і Ангельская ост-індыйская гандлёвая кампаніі.

Пры колёніяльным рабаўніцтве вялікую ролю адыгрывала прывядзеньне тубыльцаў да прыгоньніцтва. Вялізарная колькасьць няволь-нікаў вывозілася, напрыклад, з Афрыкі і накіроўвалася ў Амэрыку. Тут нявольніцкая праца шырока практыкавалася на баваўняных плянтацыях у паўднёвых штатах Паўночнай Амэрыкі, служачы асноваю для разьвіцьця капіталістычнай тэкстыльнай прамысловасьці. Адменена нявольніцтна было ў Амэрыцы толькі ў 1862 годзе.

За гэтым першапачатковае накапленьне адбывалася пры дапамозе абезьзямеленых сялян. У першую чаргу рабіўся падзел абшчынных зямель, а потым сяляне living рознымі спосабамі зганяліся з сваіх наседжаных надзелаў. Сялянскія землі адбіраліся панамі, а самі сяляне пролетарызаваліся.

Нарэшце, адзначым сыстэму монополіі. Гандлёвыя кампаніі, якія атрымалі ад дзяржавы монопольнае права на продаж шмат якіх самых неабходных жыцьцёвых сродкаў, мелі магчымасьць дыктаваць шырокім колам насельніцтва высокія цэны на продукты, што яшчэ больш садзейнічала абагачэньню груп монополістаў за кошт абядненьня большасьці насельніцтва.

Трэба таксама-ж паказаць, што процэс так званага першапачатковага накапленьня капіталу суправаджаўся звычайна юрыдычным аслабаненьнем сялян—зьнішчэньнем прыгоньніцкае залежнасьці. Вызваленьне такім чынам было двухбаковым: і ад прыгоньніцкай залежнасьці і ад сродкаў вытворчасьці.

У процэсе першапачатковага накапленьня маецца яшчэ адзін вельмі важны бок. Гэты процэс у значнай ступені паскараў утварэньне ўнутраных рынкаў для капіталістычнай вытворчасьці, якая нараджалася. На першы погляд пролетарызацыя і зьвязанае з ёю абядненьне сялянства павінна не пашыраць, а звузіць унутраны рынак, памяншаючы пакупную здольнасьць сялян. Але, як гэта было бліскуча даказана Леніным у яго спрэчках з народнікамі („Разьвіцьцё капіталізму ў

[1]) Маркс накіроўвае сваю насьмешку супроць тых буржуазных вучоных, якія вытлумачылі паходжаньне братэрства клясаў капіталістаў любоўю да працы і беражлівасьцю іх папярэднікаў. Маркс даказаў усю хлусьлівасьць гэтых салодзенькіх баек.

Расіі", разьдз. I), такі погляд зусім памылковы. Даказваючы справядлівасьць сьцьвярджэньня Маркса, што „экспропрыяцыя і выгнаньне часткі сельскага насельніцтва ня толькі аслабаняюць разам з рабочымі іх жыцьцёвыя сродкі і іх рабочы матэрыял для прамысловага капіталіста, але і ствараюць унутраны рынак" („Капітал", т. I), Ленін пісаў з гэтае прычыны: „Для рынку важны зусім не дабрабыт вытворца, а наліччa ў яго грашовых сродкаў; упадак дабрабыту патрыярхальнага селяніна, які вёў раней пераважна натуральную гаспадарку, зусім сумяшчальны з павялічэньнем у яго руках колькасьці грашовых знакаў, бо чым далей разараецца такі селянін, тым больш вымушан ён займацца продажам сваёй рабочай сілы, тым большую частку сваіх (хоць-бы і больш мізэрных) сродкаў існаваньня ён павінен набываць на рынку („Разьвіцьцё капіталізму ў Расіі", разьдз. I).

Якія-ж нарэшце вынікі працэсу першапачатковага накапленьня капіталу?—У выніку яго адбывалася новае клясавае распластаваньне грамадзтва: на адным полюсе зьяўляліся кадры пролетарызаванага насельніцтва, пазбаўленага прыладаў і сродкаў вытворчасьці і ўладаючага толькі сваёю рабочаю сілаю, на другім полюсе аказалася група эксплёататараў, у руках якой згрупаваны былі ўсе ўзрастаючыя багацьці, а галоўнае—асноўныя сродкі вытворчасьці,—гэта была кляса буржуазіі.

Што-ж ляжыць у аснове гэтага новага клясавага распластаваньня грамадзтва? Новыя формы эксплёатацыі, а значыцца і новы спосаб вытворчасьці. Пры фэўдальным спосабе вытворчасьці вытворца не адлучаны ад прылад і сродкаў вытворчасьці. Селянін вядзе сваю ўласную гаспадарку, і частка выробленага ім дадатковага продукту прымусова, не экономічным шляхам, прысвойваецца фэўдалам. Працэс-жа першапачатковага накапленьня капіталу ў тым іменна і заключаецца, што разбурае гэты фэўдальны спосаб вытворчасьці, адлучае вытворцаў ад сродкаў і прылад вытворчасьці, пролетарызуе масы і адчыняе шырокі шлях „свабоднаму" „экономічнаму" прымусу, ствараючы, іншымі словамі, прадпасылкі для капіталістычнага спосабу вытворчасьці.

Гэтая зьмена фэўдальнай соцыяльна-экономічнай формацыі новай формацыяй—капіталістычнай—у конкрэтна-гісторычных умовах працякае ў рознавыглядных формах. Мы ўжо сутыкаліся з living рознымі шляхамі аграрнага разьвіцьця, мы бачылі розныя формы стварэньня новай капіталістычнай прамысловасьці, зьвярталі ўвагу на рознавыгляднасьць формаў дзяржаўнай організацыі гэтай эпохі. Задача марксыцкай навукі выкрыць ва ўсёй гэтай шматвобразнасьці агульную законамернасьць, якая назіраецца ва ўсіх выпадках пераходу ад фэўдалізму да капіталізму, а гэта магчыма зрабіць толькі ўзброіўшыся вучэньнем аб соцыяльна-экономічных формацыях.

Вучэньне аб формацыях—адно з цэнтральных месц марксыцка-ленінскай гісторычнай тэорыі—надзвычайна важна і ў мэтодолёгічных і ў практычных адносінах.

Невыпадкова, што ў сучасны момант да пытаньня аб формацыях прыцягнута самая пільная ўвага гісторыкаў-марксыстаў. Тут за апошні час разгарнулася вострая дыскусія. Яна яшчэ поўнасьцю ня скончылася, і падводзіць яе канчатковыя вынікі яшчэ рана. Аднак ужо досыць яскрава вызначылася, што ў выніку гэтай дыскусіі цалкам акажуцца разьбітымі рэшткі багданаўскай мэтодолёгіі, якія працягваюць жыць у асяродку гісторыкаў-марксыстаў. У прыватнасьці ўжо зараз неабходна лічыць зусім бясспрэчнай прыемлемасьць канструяваньня нейкай асобнай формацыі паміж фэўдалізмам і капіталізмам—формацыі, якая якасна адрозьніваецца як ад першага, так і ад другога грамадзкага ладу. Іменна такую пераходную формацыю сьцьвярджае Багданаў у выглядзе „рамесьніцка-гарадзкога ладу“ і асобнай формацыі „гандлёвага капіталізму“; тое-ж самае робіць і С. Дуброўскі, які пад сьцягам барацьбы з Багданавым сам устанаўляе асобную формацыю пераходнага часу—„прыгоньніцтва“, прычым гэта прыгоньніцтва, па яго думцы, адрозьніваецца і ад фэўдалізму і ад капіталізму.

У дыскусіі, якая нядаўна адбывалася (у Соцыялёгічнай сэкцыі таварыства гісторыкаў марксыстаў, у Інстытуце чырвонай профэсуры і ў іншых навуковых установах), пункт погляду Дуброўскага падпаў найбольшаму абстрэлу. Дуброўскага перш за ўсё абвінавачваюць у мэханістычным багданаўска-бухарынскім тлумачэньні пытаньняў і ў скажэньні рэволюцыйна-марксыцкага разуменьня законаў руху грамадзкіх формацый і іх рэволюцыйнай зьмены. Мэханістычная пастаноўка пытаньня відна ў Дуброўскага ў яго чыста бухарынскім вызначэньні спосабу вытворчасьці: „Спосаб вытворчасьці вызначаецца парадкам вытворчасьці, матэрыяльнага жыцьця і расстаноўкай людзей у процэсе вытворчасьці, г. зн. вытворчымі адносінамі“. Справа, значыць, ня ў тым, як разьмеркаваны сродкі вытворчасьці паміж клясамі, а ў тым, як расстаўлены людзі ў самім процэсе вытворчасьці. Вастрыня крытыкі, накіраванай супроць тэорыі Дуброўскага, тлумачыцца тым, што і ў перажыванай намі пераходнай эпосе будаўніцтва соцыялізму і дыктатуры пролетарыяту ён бачыць асобную формацыю. А гэтае сьцьвярджэньне пры лёгічнай пасьлядоўнасьці ходу думак павінна прывесьці да зусім бязглуздых вынікаў: калі ў нас зараз асобная пераходная формацыя, дык адно з-двух—ці наступленьне наступнай формацыі соцыялізму запатрабуе другой соцыялістычнай рэволюцыі, ці пераход ад аднэй формацыі да наступнай магчымы павольным шляхам без соцыяльнай рэволюцыі.

Такое мэтодолёгічнае і палітычнае значэньне спрэчак, якія зараз адбываюцца.

Дыскусія аб соцыяльна-экономічных формацыях у цэлым яшчэ ня скончана, але прыватнае пытаньне гэтай дыскусіі—крытыка Дуброўскага—вырашана цалкам. Аднак наўрад ці можна лічыць пазбаўленымі ад памылак і некаторых крытыкаў Дуброўскага. У прыватнасьці, падкрэсьліваючы значэньне аналізу пераходнай эпохі ад фэўдалізму да капіталізму і паказваючы, што законамернасьць гэтага пераходу

не якраз такая-ж, як і пры пераходзе ад капіталізму да соцыялізму, опонэнты Дуброўскага іншы раз недаацэньваюць супроцьлегласьцяй аднаго і другога пераходнага пэрыоду. Нельга забываць, што пераход ад фэўдалізму да капіталізму—гэта зьмена аднэй антаганістычнай формацыі другой антаганістычнай-жа формацыяй, у той час, як пераход ад капіталізму да соцыялізму—гэта зьмена антаганістычнай формацыі формацыяй неантаганістычнай. Калі пры пераходзе ад фэўдалізму да капіталізму гутарка ідзе аб зьмене формаў эксплёатацыі, аб зьмене панаваньня аднэй эксплёататарскай клясы панаваньнем другой эксплёататарскай-жа клясы, то пераход ад капіталізму да соцыялізму адзначаецца поўным зьнішчэньнем усякіх форм эксплёатацыі чалавека чалавекам. У нетрах капіталізму няма і ня можа быць соцыялістычных адносін, хоць, вядома, складаюцца прадпасылкі соцыялістычнага ладу (концэнтрацыя прамысловасьці, рост пролетарыяту і г. д.); таму пры пераходзе ад капіталізму да соцыялізму няма месца раўнавазе двух гаспадарчых сыстэм. Адна кляса зьнішчае бяз ценю компромісаў самае існаваньне другое клясы.

Гэтая немагчымасьць якога-небудзь компромісу ў пераходную эпоху да соцыялізму асабліва яскрава выкрываецца ў пытаньні аб дзяржаве (дыктатура пролетарыяту—няўхільная, адзіна мысьлімая форма дзяржаўнае ўлады ў пераходны час). Адсюль-жа прадрашаецца пытаньне аб часе соцыялістычнай рэволюцыі: яна не завяршае пераходнага пэрыоду, а адкрывае яго. Зусім ня тое пры пераходзе ад фэўдалізму да капіталізму. Капіталістычныя адносіны складаюцца і існуюць у нетрах фэўдалізму і ў пераходную эпоху; не выключаючы, вядома, няўхільнага змаганьня паміж старымі фэўдальнымі і новымі капіталістычнымі спосабамі вытворчасьці, магчыма ўсё-ж працяглае існаваньне гэтых спосабаў вытворчасьці. Тут компромісы няўхільны і гісторычная рэчаіснасьць паказвае вялікую markup рознавыгляднасьць гэтых форм компромісу паміж эксплёататарскімі клясамі. Нарэшце, момант наступу буржуазнай рэволюцыі. Гэтая рэволюцыя не адкрывае пераходнай эпохі, а пачынаецца ў самы яе распад, або нават завяршае яе і ў большай ці меншай ступені руйнуе рэшткі фэўдалізму, ужо даўно ў асноўным зруйнаванага на працягу пераходнага часу. Толькі ўлічваючы ўсё сказанае, магчыма падыйсьці да высьвятленьня існасьці пераходнай эпохі ад фэўдалізму да капіталізму, г. ё. той эпохі, якую іншы раз ня зусім удала называюць эпохаю гандлёвага капіталу.

## ЗАДАНЬНЕ ПЕРШАЕ.

### Тэма: Заходняя Эўропа напярэдадні Вялікай францускай рэволюцыі.

### УВОДЗІНЫ.

Паставіўшы сваёй галоўнай задачай вывучэньне клясавае барацьбы ў заходня-эўропэйскім капіталістычным грамадзтве, мы павінны раней за ўсё азнаёміцца з пытаньнем аб тым, як узьнікла гэта грамадзтва, як утварыліся асноўныя клясы гэтага грамадзтва: буржуазія і пролетарыят. З прычыны таго, што „буржуазнае грамадзтва,—па выразу Маркса,—выйшла з нетраў грамадзтва фэўдальнага", дык нам неабходна зьвярнуцца некалькі назад, высьветліць, што ўяўляе з сябе фэўдалізм, якія былі яго характэрныя рысы і якія этапы ў сваім разьвіцьці ён прайшоў. Для ўсьведамленьня гэтага пытаньня неабходна ўважліва прачытаць папярэдні артыкул А. І. Гукоўскага „Паходжаньне капіталістычнага грамадзтва" і ўсьвядоміць сабе значэньне ўсіх такіх тэрмінаў як „фэўдалізм", „гандлёвы капітал" і г. д.

Зьява гэта для нас таму важная, што ў далейшым у гісторыі амаль усіх краін Заходняй Эўропы мы ня раз сустрэнемся з перажыткамі фэўдальнага ладу, у Францыі-ж пытаньне аб зьнішчэньні фэўдалізму і зьвязаных з ім асаблівасьцяй стаяла вельмі востра ў эпоху Вялікай францускай рэволюцыі, і, ня ведаючы іх, нам цяжка будзе разьбірацца ў складаных падзеях гэтае зьявы.

Пераход да прамысловага капіталізму адбыўся раней за ўсё ў Англіі, якая першая ад усіх краін зьнішчыла шляхам рэволюцыйных зрухаў рэшткі фэўдалізму ў сваім гаспадарчым жыцьці.

Эпоха першапачатковага накапленьня зьяўлялася першым штуршком у гэтых адносінах: агульны сэнс яе—ў „адлучэньні самастойных вытворцаў ад сродкаў вытворчасьці". Характарнымі для эпохі першапачатковага накапленьня зьяўляліся наступныя моманты: 1) эксплёатацыя колёніяльных багацьцяў, надзвычайнае паднявольваньне і рабаваньне тубыльцаў у колёніях, якія прыносілі вялізарныя прыбыткі эўропэйскаму купецтву; 2) абезьзямеленьне і пролетарызацыя сялянства ў вёсцы і рамесьніка ў прамысловасьці. 3) нацыянальныя запазычанасьці і падатковая палітыка, якія разаралі шырокія працоўныя масы,

з аднаго боку, і ўзбагачалі буржуазію, з другога. Найбольш яскрава ўсе гэтыя моманты адбіліся ў соцыяльных адносінах Англіі. Сярод тых, што прагнулі да ўзбагачэньня, краіна Англія ў сярэдзіне XVII стагодзьдзя заняла першае месца. Яе эканомічныя посьпехі, выгоднае географічнае становішча і політычны лад садзейнічалі таму, што ўжо ў XVIII стагодзьдзі яна ня ведала больш супраціўнікаў. Разам з тым зямельная спэкуляцыя, выкліканая аграрнай рэволюцыяй XVI ст., усё больш узбагачала ангельскую буржуазію, захоп-жа дробнага рамесьніцтва гандлёвым капіталам у XVII—XVIII ст. ст. і роўналежнае абмежаваньне зямлі ў вёсцы разарылі саматужніка і селяніна, ператварылі іх у пролетараў.

Так стварыліся прадпасылкі новага экономічнага ладу—вялізныя капіталы і кадры рабочае сілы; зараз трэба было іх практычна выкарыстаць. Гэта і зрабілі тэхнічныя вынаходніцтвы. Выкліканыя да жыцьця пашыраным попытам на тавары з боку спажыўцоў і ростам рыначных сувязяй, яны сапраўды адыгралі рэволюцыйную ролю: новыя машыны зьмянілі жыцьцёвыя ўмовы прамысловага пролетарыяту стварылі буйную капіталістычную прамысловасьць. Але гэта яшчэ ня тое, што мы разумеем пад прамысловым пераваротам. Апошні— зьява соцыяльна-рэволюцыйнага парадку; цэнтр цяжару яго ў стварэньні новых, народжаных у агні жорсткай клясавай барацьбы, клясаў грамадзтва—пролетарыяту і буржуазіі.

У той час, як у Англіі адбываўся прамысловы пераварот, яе суседка Францыя перажывала ня менш буйныя падзеі—Вялікую францускую рэволюцыю. Тут у гэтым заданьні мы павінны будзем высьветліць прычыны гэтай рэволюцыі, а для гэтага неабходна азнаёміцца з грамадзкімі ўмовамі Францыі XVIII стагодзьдзя, так званым „старым парадкам“.

У дарэволюцыйнай Францыі фэўдальныя перажыткі адчуваліся ў значнай ступені: сялянства ўжо ня было больш прыгонным (хоць мізэрныя рэшткі гэтых апошніх яшчэ там-сям наглядаліся), але фэўдальныя павіннасьці настолькі зьняволілі іх, што сэньёр ня шмат чаго страціў ад сваёй былой фэўдальнай улады. Селяніна побач з гэтым прыгнечвалі дзяржаўныя падаткі і царкоўная дзесяціна, якія па сутнасьці гаворачы, ішлі ўсе ў кішэню двараніна-памешчыка. Усё гэта толькі вяло да аб'яднаньня сялянства і звужэньня ўнутранога рынку, і тармазіла такім чынам, разьвіцьцё прамысловасьці.

Таксама ў прамысловасьці мы наглядаем дзьве зьявы: усё больш разьвіваецца капіталістычнае прадпрыемства і ўсё меншым робіцца ўплыў цэхаў. Рамесьніцтва падпадае пад уплыў скупшчыкаў, у выніку чаго рамесьнікі бяднеюць і зьнішчаюцца. Але-ж і буржуазія не застаецца задаволенай, яна ўсё яшчэ знаходзіцца пад ціскам цэхавай і дзяржаўнай рэглямэнтацыі, якая перашкаджае далейшаму прогрэсу.

Нарэшце, соцыяльна-політычны лад Францыі з яго прывілейным дваранствам і жорсткім абсолютызмам каралеўскай улады душыў усялякую праяву вольнай дзейнасьці з боку іншых клясаў і ў тым ліку

буржуазіі. Апошняя асабліва балюча адчувала гэта, бо адчувала сваю экономічную моц. Ня дзіўна, што іменна буржуазія стала на чале нездаволеных: толькі яна адна разумела пастаўленыя перад сабой мэты; яна бачыла перавагу сваіх гаспадарчых мэтодаў і політычных поглядаў над старымі, фэўдальнымі, і з гэтай прычыны тым больш імкнулася да зьмен. Астатнія клясавыя групоўкі, асабліва сялянства, як відаць, таксама імкнуліся да зьмены існуючага ладу, ад якога яны пакутвалі. І ўсё-ткі на першым этапе рэволыцыі буржуазія зьявілася гегемонам у будучых клясавых баёх.

### Мэты заданьня.

1. Высьветліць соцыяльнае значэньне і ход прамысловага перавароту ў Англіі, вызначыўшы яго прадпасылкі, прычыны і вынікі.
2. Паказаць соцыяльныя супярэчнасьці „старога парадку“ ў Францыі.
3. Высьветліць ролю напярэдадні рэволюцыі французскай буржуазіі і адносную вагу іншых клясаў у справе падрыхтоўкі Вялікай французскай рэволюцыі.

### Плян тэмы.

#### I. Эпоха першапачатковага накапленьня капіталу.

1. Разлажэньне фэўдальных адносін у заходня-эўропэйскіх гаспадарках.
2. Шляхі накапленьня капіталау—колёніяльная політыка і рабаваньне колёній.
3. Аграрная рэволюцыя і створеньне рабочага рынку.

#### II. Прамысловы пераварот у Англіі.

1. Разьвіцьцё гандлю, рынкаў і рост попыту спажыўцоў на тавары ў XVIII стагодзьдзі.
2. Ход прамысловага пераvароту.
3. Роля машыны ў экономічных адносінах.
4. Утварэньне клясаў капіталістычнага грамадзтва.

#### III. Прычыны Вялікай французскай рэволюцыі. Стары парадак у Францыі.

1. Гаспадарчы і політычны лад напярэдадні 1789 г.
2. Клясы і клясавае змаганьне напярэдадні рэволюцыі 1789 г.

### Мэтодычныя паказаньні да самастойнай распрацоўкі.

**Да разьдзелу I „Разлажэньне фэўдальных адносін у заходня-эўропэйскіх гаспадарках“.**

*Эпоха першапачатковага накапленьня.*

Пры прапрацоўцы гэтай часткі заданьня раней за ўсё неабходна адзначыць, што ўвесь процэс ломкі фэўдальнага ладу і нараджэньня капіталізму зусім не зьяўляецца паводле свайго характару не балючым,

як гэта любяць казаць прадстаўнікі буржуазнай гісторыяграфіі. Наадварот, гэты процэс праходзіў у абставінах жорсткай клясавай барацьбы, суправаджаўся крываваю эксплёатацыяй і разарэньнем працоўных мас буржуазіяй; недарма Маркс у гэтых адносінах называе эпоху першапачатковага накапленьня „крывавай рэволюцыяй", „капіталізм, кажа ён, пры сваім нараджэньні выціскае з усіх пораў сваіх кроў і бруд" („Капітал", т. 1, разьдз. 24).

Найбольшае пацьвярджэньне прымусовага характару гэтага процэсу слухач атрымае на вывучэньні аграрнай рэволюцыі і прамысловага перавароту XVIII стагодзьдзя ў Англіі. Мы разглядаем апошнія два пытаньні на прыкладзе Англіі, паколькі апошняя перажыла ломку старых адносін і стварэньне асноўных элемэнтаў новага грамадзтва—капіталу і рабочай сілы (буржуазія і пролетарыят) больш бурліва і шпарка, чым у іншых краінах, а, акрамя таго, і значна раней.

Як трэба пачаць прапрацоўку ўсіх гэтых пытаньняў? Перш за ўсё неабходна азнаёміцца з прычынамі разлажэньня фэўдалізму, высьветліць, як пранікненьне грашовых адносін у ранейшыя натуральныя гаспадаркі зводзіла яго на нішто, разбурала. У сувязі з разьвіцьцём грашовых адносін вялікае значэньне атрымоўвае гандлёвы капітал. Тут трэба быць вельмі асьцярожным, пастарацца правільна ацаніць яго ролю ў справе разбурэньня фэўдалізму, памятуючы пры гэтым, што хоць гандлёвы капітал і раскладае старыя фэўдальныя адносіны ў дзяржаве, але ён не ствараў (будучы капіталам не вытвараючым) новых спосабаў вытворчасьці, якія ўзьнікалі толькі пры наяўнасьці неабходных прадпасылак у самой вытворчасьці (Маркс, „Капітал", т. III).

Далей уважліва прапрацуйце пытаньне аб утварэньні неабходных элемэнтаў капіталістычнага грамадзтва. Азнаёміўшыся з прадпасылкамі колёніяльнай політыкі і мэтодамі прынявольваньня тубыльцаў, вы ўбачыце, як у выніку гэтага масавага абрабаваньня ствараліся вялікія капіталы, ускладзеныя потым у капіталістычную вытворчасьць. Шлях рабаваньня колёній—інакш кажучы, знадворны спосаб стварэньня буйных капіталаў. Побач з гэтым мы назіраем унутраны, калі можна так сказаць, спосаб капіталістычнага накапленьня: сыстэму нацыянальных запазычанасьцяй, крэдыту і падатковай політыкі, што давалі капіталістам вялікія грашовыя сродкі ў выглядзе процантаў на пазычаньне дзяржаўнай уладзе капіталы, акцызных пошлін, аблігацыі і г. д. Так ствараліся першыя элемэнты капіталістычнага грамадзтва—капітал і буржуазія.

Як формавалася рабочая сіла—другі элемэнт капіталізму, мы ўбачым на яскравым прыкладзе аграрнай рэволюцыі ў Англіі. Для гэтага нам неабходна папярэдне высьветліць аграрны лад Англіі да рэволюцыі XVI стагодзьдзя, важна ўстанавіць прычыны і характарныя рысы самой аграрнай рэволюцыі і, нарэшце, як капіталізм паступова ахапляе сельскую гаспадарку. Яскравым зьявішчам аграрнай рэволюцыі зьяўляецца так званае абмежаваньне, якое пусьціла сялян па сьвеце і зрабіла іх пролетарамі. Абмежаваньне трэба разумець, як вядомы дыялектычны процэс у першай сваёй фазе—барацьба памешчыкаў

за жывёлагадоўлю, патрэбную для шарсьцяное вытворчасьці; другая фаза— і ў трэцяй фазе—інтэнсіфікацыя пахатнае гаспадаркі для стварэньня буйных хлебных „фабрык“ у сувязі з павялічыўшымся попытам на хлеб. Апошняя фаза ладу ў сувязі з ростам прамысловага капіталізму ў краіне. Увесь процэс абмежаваньня выклікаў стварэньне кадраў вольнай рэзэрвовай арміі працы, якая потым знаходзіць сабе месца на фабрыцы ў якасьці наёмных рабочых пролетараў. Адгэтуль мы бачым, што ўзьнікненьне капіталізму суправаджаецца вялізарным процэсам зруйнаваньня, зьнішчэньньня дробных вытворцаў, што прыводзіла іх да ступені выміраньня. Такім чынам ўзьнікненьне капіталізму было куплена цаною выміраньня, гвалтоўным разарэньнем сялян і рамесьнікаў. Зусім іншымі процэсамі суправаджалася пролетарская рэволюцыя. Яна экспропрыявала невялічкія жменькі паразытаў.

Мэта прапрацоўкі гэтых пытаньняў, каб замацаваць у памяці ўсё прачытанае і адказаць на наступныя пытаньні:

1. Які ўплыў мела пранікненьне грашовых адносін у гаспадаркі на разлажэньне фэўдалізму.

2. Якую ролю адыграў гандлёвы капітал у разлажэньні фэўдалізму.

3. Якія рысы характарныя для эпохі першапачатковага накапленьня капіталу у Зах. Эўропе наогул і ў Англіі ў прыватнасьці.

Літаратура.

1 *Гукоўскі*, „Паходжаньне капіталістычнага ладу“ (лекцыя ў пачатку гэтага заданьня).

2. *Монасаў*, „Гісторыя рэволюцыйнага руху“ (стар. 3—12 да § „Эпоха набыцьця машын“).

3. *Лукін*, „Навейшая гісторыя Зах. Эўропы“ (гл. §§ 1 і 2).

4. *Арк. А—н*, „Гісторыя Заходняй Эўропы“ (АІШ стар. 5—20 на выбар).

Акрамя таго з вучэбна-дапаможнага матэрыялу да гэтага заданьня №№ 1 і 2 (для слухачоў пропагандыцкага аддзяленьня неабходна азнаёміцца з Марксам—„Капітал“, том I, разьдз. 24. Замест Лукіна і Арк. А—на можна прачытаць з Монасава „Зараджэньне прамысловага капіталізму ў Англіі“).

Да разьдзелу II. „Прамысловы пераварот у Англіі“.

Пры прапрацоўцы гэтага заданьня пастарайцеся зьвярнуць галоўную ўвагу на зьмены соцыяльна-гаспадарчага характару, эволюцыю мануфактуры, рост гандлю, рэволюцыянізуючую ролю машыны ў справе стварэньня фабрык, утварэньне новых клясаў у грамадзтве. Важна высьветліць тут асноўныя тэндэнцыі гэтага процэсу. Знаёміцца з пытаньнем вы пачнеце перш за ўсё з разгляданьня посьпехаў гандлю ў Зах. Эўропе, паглядзеце, якія былі прычыны, якія паставілі Англію на першае месца ў сусьветнай гаспадарцы таго часу, якія былі прадпасылкі яе пасьпяховай барацьбы з сваімі супраціўнікамі. Далей уявеце сабе, як адбіліся посьпехі ангельскага гандлю на прамысловасьці, прасачэце прычыны заняпаду рамяства, ролю гандлёвага капіталу ў вытворчасьці (скупшчык), формы мануфактуры, яе далейшы лёс.

Адсюль перайдзеце да пытаньня аб тэхнічных вынаходніцтвах, зразумейце, якія прычыны садзейнічалі іх узьнікненьню, падумайце, чаму абезьзямеленыя сяляне стварылі пашырэньне ўнутранага рынку. Пастарайцеся ў гэтых адносінах на прыкладзе Англіі давесьці правільнасьць гэтага тэзісу Маркса і Леніна: „чым далей разараецца селянін, тым больш вымушан ён да продажу свае рабочае сілы, тым большую частку сваіх (*хоць-бы і нікчэмных*) сродкаў існаваньня ён павінен набываць на рынку“ (Ленін, збор твораў, т. III).

Скончыўшы з гэтым пытаньнем, разьбярэцеся, у чым было рэволюцыйнае значэньне машын, якую ролю яна адыграла у справе ўтварэньня фабрычнага пролетарыяту. Нарэшце, прасачэце эволюцыю буржуа за гэты час і высьветліце асноўныя рысы ўтварэньня новых грамадзкіх клясаў за гэты час. У заключэньне падвядзеце вынік у сэнсе ўстанаўленьня асноўных рысаў і асаблівасьцяй прамысловага перавароту як рэволюцыйнага пераходу ад фэўдалізму да капіталізму.

Для замацаваньня ў памяці ўсяго прапрацаванага матэрыялу дайце адказ яшчэ на тры запытаньні:

1. Прадпасылкі прамысловага перавароту.

2. Разьвіцьцё прамысловасьці і тэхнічнага вынаходніцтва (рэволюцыйная роля машыны), у чым яна заключалася.

3. Соцыяльна-экономічныя вынікі прамысловага перавароту, якія яны былі.

**Літаратура.**

1. *Монасаў*, „Гісторыя рэволюцыйнага руху“, стар. 12—22.
2. *Лукін*, паказ. твор, стар. 68—80, 345—348, альбо
3. *Арк. А—н*, пак. твор, стар. 20—33.
Акрамя падручнікаў—з дапаможнага матэрыялу да гэтага заданьня №№ 3 і 4.

**Да разьдзелу III „Стары парадак у Францыі“.**

Азнаёміўшыся з прамысловым пераваротам у Англіі, можна перайсьці да вывучэньня прадпасылак і прычын Вялікай французскай рэволюцыі. Апошняе выцякае з соцыяльных супярэчнасьцяй, якія наглядаліся ў эпоху „старога парадку“.

Каб справіцца з гэтаю задачаю, трэба раней за ўсё памятаць, што хоць Францыя ў гаспадарчых адносінах была больш адсталаю, як Англія, але ўсё-ж капіталістычнае разьвіцьцё яе значна пасунулася наперад. Тут пастарайцеся прасачыць, якія менавіта фэўдальныя перажыткі перашкаджалі процэсу разьвіцьця капіталізму. У даным выпадку трэба зьвярнуць вялікую ўвагу на становішча французскага гандлю, прамысловасьці і сельскае гаспадаркі. Асабліва падумайце над асаблівасьцямі політычнага ладу Францыі, бо ён надзвычайна перашкаджаў разьвіцьцю капіталістычных адносін і стварыў супярэчнасьці, якія змагла разьвязаць толькі рэволюцыя.

Потым трэба зьвярнуцца да разгляду клясавых узаемаадносін, у той час высьветліць становішча асобных клясаў: буржуазіі, сялянства і дваранства. Не забудзьце, што яны не ўяўлялі адзінага ў соцыяльным сэнсе цэлага, таму добра разьбярэцеся, якія групоўкі наглядаліся ў тэй ці іншай клясе. Высьветліце адносную вагу кожнай соцыяльнай групы, яе месца ў агульнай сыстэме політычна-гаспадарчых адносін. Зьвярнеце ўвагу, што клясы тут выступаюць у юрыдычнай сваёй абалонцы,— іменна, як стан.

Праглядзеце потым, ці існаваў у Францыі старога парадку пролетарыят, наколькі ён быў колькасна вялікі і ці меў значэньне У гэтым выпадку ня блытайце тагачасных рамесьнікаў з сучаснымі пролетарамі, бо першыя прадстаўляюць дробную буржуазію (яе ніжэйшы пласт), і, ня гледзячы на сваё цяжкае экономічнае становішча, не змаглі вызваліцца ад дробна-буржуазных ілюзій, у прыватнасьці, ад абароны прыватнай уласнасьці. Факт вельмі важны ў сэнсе далейшага разуменьня дзейнасьці якобінцаў.

У заключэньне пазнаёмцеся з найбольш яскравымі плынямі ў францускай соцыяльна-політычнай думцы, паспрабуйце зрабіць іх аналіз і даць ім ацэнку. Побач з прадстаўнікамі буужуазнай ідэолёгіі зьвярнеце ўвагу на выказьнікаў інтарэсаў дробнай буржуазніі, асабліва Русо, які, ня гледзячы на шэраг сваіх рэволюцыйных дэмократычных палажэньняў, вядома, прадстаўляў адсталыя погляды, якія бачылі свой ідэал у адыходзе назад да патрыярхальных адносін ладу дробных вытворцаў, параўнаўча з капіталістычным ладам—рэакцыйнымі.

Гэты разьдзел кладзецца ў аснову вашай пісьмовай працы, вось чаму да яго патрэбна асабліва ўважліва аднесьціся.

Для замацаваньня ў памяці ўсяго прапрацаванага, адкажэце на наступныя пытаньні:

1. Якія былі асаблівасьці соцыяльна-політычнага і гаспадарчага ладу Францыі напярэдадні рэволюцыі.

2. У чым заключаліся клясавыя супярэчнасьці пры „старым парадку“.

3. Якія ідэолёгічныя формы прынялі гэтыя супярэчнасьці.

4. Што нямінуча выклікала рэволюцыйны выбух у Францыі напярэдадні 1789 году.

### Літаратура.

1. *Монасаў,* „Гісторыя рэволюцыйнага руху“, стар. 24—36.
2. *Арк. А—н,* паказаны твор, стар. 33—62 да слоў: „Генэральныя штаты“.
3. *Лукін,* пак. тв., гл. § 11, 12, разьдзел IV, § 21—22 да канца; § 2—14—16.

Акрамя гэтых падручнікаў—дапаможны матэрыял да гэтага заданьня № 5—10. (Для пропагандыцкага аддзяленьня прачытаць: *Мотьэза*—„Гісторыя вялікай францускай рэволюцыі“, том I, разьдз. 1—3 альбо на выбар: *Крапоткін*—„Гісторыя францускай рэволюцыі“ і *Г. Кунаў*—„Барацьба клясаў і партый у Вялікай францускай рэволюцыі“).

**Тэма для пісьмовай работы.**

## ПРЫЧЫНЫ ВЯЛІКАЙ ФРАНЦУСКАЙ РЭВОЛЮЦЫІ.

Плян працы.

1. Які быў экономічны і політычны лад Францыі да рэволюцыі.
2. Якія перашкоды ставіў „стары парадак“ разьвіцьцю капіталізму ў сельскай гаспадарцы, гандлю, прамысловасьці.
3. Якія былі адносіны розных соцыяльных груп да старога парадку.
4. Задачы надыходзячай рэволюцыі і яе соцыяльны характар.

## ВУЧЭБНА-ДАПАМОЖНЫ МАТЭРЫЯЛ.

### 1. Авечкі паелі людзей.

*(Томас Мор пра аграрную рэволюцыю).*

„Самая істотная прычына грамадзкае беднасьці хаваецца ў непамернай колькасьці „шляхетных“, якія, накшталт гуляшчых трутняў, жывяцца працай і потам сваіх сялян, даючы ім апрацоўваць сваё поле і высмоктваючы з арандатара ўсю яго кроў, каб павялічыць свае прыбыткі...

„Ёсьць яшчэ адна чыста мясцовая прычына, якая ўласьціва выключна Вялікабрытаніі. У чым яна хаваецца? У нязьмернай колькасьці авечых статкаў, якія цяпер пакрываюць усю Англію. Гэтыя сьмірныя і непераборлівыя жывёліны зьяўляюцца ў вас такімі жорсткімі і пражорлівымі, што кідаюцца на людзей і праганяюць іх з зямлі, з наседжаных месц, дамоў і вёсак... Сапраўды да ўсіх месц, дзе зьбіраецца далікатная і каштоўная авечая воўна, сьпяшаюцца шляхетныя багатыры і нават высокацаноўныя абаты, каб прысвоіць сабе вучастак зямлі. Ні прывілеі, ні прыбыткі з маёнткаў, нішто не здавальняе гэтых нікчэмных людзей, ім мала таго, што яны праводзяць сваё жыцьцё ў гультайстве і гульнях у цяжар грамадзтву і без карысьці дзяржаве. На адлегласьці шмат якіх міль навокал яны пазбаўляюць глебу ўсякае апрацоўкі і пертвараюць яе ў выгаў, яны раўняюць з зямлёй дамы і цэлыя вёскі, пакідаючы толькі цэрквы, але і гэта дзеля таго, каб рабіць у іх хлявы для бараноў; самая заселеная і добра апрацаваная зямля праз іх пертвараецца ў пустэчы. Бясспрэчна, яны турбуюцца, што будзе занадта шмат садоў і лесу і, такім чынам, зьвяры застануцца бяз выганаў.

„І вось такі прагавіты ўладар акружае сьцяной абшар у некалькі тысяч акраў зямлі; прыватных сялян выганяе з дамоў—адных ашуканствам, іншых—сілаю, у лепшым выпадку—доўгім уціскам і судовымі цыганінамі, так што, нарэшце, яны бываюць прымушаны прадаць сваю ўласнасьць. І вось гэтыя сем'і, больш багатыя на колькасьць, чымся на сродкі (бо земляробства патрабуе шмат рук) вандруюць па палёх і дарогах: мужчыны і жанчыны, удовы і сіраты, бацькі і маткі з малымі дзецьмі. З плачам пакідаюць гэтыя няшчасныя тую страху, пад якой яны нарадзіліся, зямлю, якая іх жывіла, і ня ведаюць, дзе шу-

кацць сабе прытулку. За капейкі яны збываюць сваё дабро, якое толькі маглі захапіць з сабою, усе рэчы, якія самі па сабе маюць малую каштоўнасьць. Дый то яшчэ добра. Пакупнік-жа і гэта мог адабраць ад іх. Калі і гэта слабая крыніца вычэрпваецца, на што, зразумела, ня лішне даводзіцца чакаць, што-ж ім застаецца далей?—зладзейства, а сьледам за ім—шыбеніца. Магчыма, ім лепей было-б цягнуць свой марны лёс у якасьці жабракоў? Але тады-ж ніхто не задумаўся-б кінуць іх у турму, як бяздомных людзей. А ў чым-жа іхняе злачынства? Ды толькі ў тым, што яны ня могуць адшукаць сабе ніякае працы, якой яны толькі дамагаюцца з усіх сіл. Ды і хто-б мог даць ім гэтую працу? Яны-ж толькі і могуць апрацоўваць поле, значыцца, там, дзе больш ня думаюць пра засевы і ўраджаі, працы ім няма. Аднаго пастуха досыць цяпер, каб пасьвіць статак на такім абшары, які раней патрабаваў на апрацоўку сотні рук. Які-ж маем вынік? Агульнае вялікае падаражаньне харчовых продуктаў. Але гэта яшчэ далёка ня ўсё. Пасьля павялічэньня выганаў пагалоўныя хваробы, як чума, зьнішчылі вялізарную колькасьць авечак. Сапраўды можна падумаць, што само неба карае з дапамогаю гэтага страшэннага мору няўтольную прагавітасьць гаспадароў, хоць у такіх выпадках куды больш справядліва было-б перакінуць гэтую хваробу на іх саміх. Сама цана на воўну так павялічылася, што беднякі, якія ў мінулыя часы выраблялі з яе сукно, цяпер ужо ня могуць яе купляць. І вось новая прычына вялікай колькасьці гультаёў. Нельга адмаўляць, што лік авечак павялічаецца з кожным днём у значнай меры, аднак, ня гледзячы на гэта, кошт на іх зусім ня зьменшыўся, бо хоць гандаль воўнаю афіцыйна і не зьяўляецца монаполіяй, фактычна-ж, аднак, знаходзіцца ў руках некалькіх багатых скупшчыкаў, якія могуць вычакаць і прадаюць яе з вялікаю карысьцю сабе".

(Фридлянд і Слуцкий. „История революционного движения Зап. Европы", ст. 36—37).

### 2. Парляманцкае рабаваньне сялян.

...„Прымусовая ўзурпацыя грамадзкае ўласнасьці, якая праходзіла са звычайным ператварэньнем пашы ў выганы, пачалася пад канец XV і цягнулася на працягу XVI стагодзьдзя. Аднак, у тыя часы працэс гэты адбываўся ў форме паасобных індывідуальных гвалтоўнасьцяй, з якімі законадаўства дарэмна змагалася на працягу 150 гадоў. У XVIII стагодзьдзі выяўляецца прогрэс у тых адносінах, што сам закон робіцца прыладай на рабаваньне народнае зямлі, хоць, побач з гэтым легальным мэтодам рабаваньня, буйныя фэрмы не адмаўляюцца ад ужываньня і ўласных маленькіх мэтодаў. Парляманцкаю формаю гэтага рабаваньня зьяўляюцца „законы пра абмежаваньне грамадзкае зямлі", г. зн. дэкрэты, з дапамогаю якіх зямельныя ўласьнікі самі сабе даравалі народную зямлю на правох прыватнае ўласнасьці—дэкрэты, якія экспропрыююць народ.—Як прыклад мэтоду, пануючага

ў XVIII ст., мы падамо тут „ачысткі“, вытвараныя гэрцогіняю Сузэрлянд. Як толькі ўлада трапіла ў рукі да гэтае асобы, вельмі адукаванай у галіне палітычнае экономіі, яна вырашыла безадкладна ўзяцца за радыкальнае экономічнае вылечваньне краіны і ператварыць у выганы ўсё графства, насельніцтва якога папярэднімі мерапрыемствамі аналёгічнага характару ўжо было зьменшана да 15.000 чал. З 1814 да 1820 году гэтыя 15000 жыхароў—каля 3.000 сямей—сыстэматычна выганяліся і выкараняліся. Усе іхнія вёскі былі зруйнаваны і спалены, усё поле ператворана ў выганы. Брытанскія салдаты былі пасланы для экзэкуцыі і справа даходзіла ў іх да сапраўдных баёў з мясцовымі жыхарамі. Адну старую жанчыну спалілі ў яе ўласнай хаце, бо яна адмовілася яе пакінуць. Такім чынам гэта дама прысвоіла сабе 794.000 акраў зямлі, якія спрадвеку былі ўласнасьцю клану. Выгнаным жыхаром яна дала на беразе мора каля 6.000 акраў зямлі, па 2 акры на ся‘мю. Гэтыя 6.000 акраў былі пусткай і не давалі ўласьніцы жаднага прыбытку. Гэрцогіня выявіла вельмі высокія шляхетныя пачуцьці і здала зямлю ў сярэднім па 2 шыл. 6 пэнсаў за акр тым самым членам клану, якія на працягу стагодзьдзяў пралівалі кроў за яе род. Усю нарабаваную ў клана зямлю яна падзяліла на 29 буйных фэрмаў, прызначаных на гадоўлю авечак, прычым у кожнай фэрме жыла адна адзіная сям‘я, у большасьці выпадкаў сям‘я парабка-ангельца. У 1825 годзе 15.000 гаэлаў ужо былі заменены 131.000 авечак. Частка тубыльцаў, выгнаных на морскі бераг, прабавала прахарчавацца рыбацтвам. Яны ператварыліся ў амфібіяў і жылі, паводле слоў аднаго ангельскага пісьменьніка, напалову на зямлі, напалову на вадзе, але і зямля і вада разам толькі напалову забясьпечвалі іхняе існаваньне“.

(Фридлянд и Слуцкий. „История революционных движений Зап. Европы“, ст. 38).

### 3. Капіталістычны росквіт Англіі пад канец XVIII стагодзьдзя.

... Калі мы, разгледзеўшы розныя артыкулы прыбытку, зьвернемся да больш простага дасьледваньня крыніц нашага дабрабыту, мы знойдзем іх у адпаведным росьце нашае фабрычнае прамысловасьці і нашага гандлю. Справаздачы, зробленыя паводле мытных дакумантаў, не зьяўляюцца зусім дакладнымі, але яны даюць магчымасьць вызначыць параўнаўчыя адносіны ў розныя пэрыоды. У 1782 г., у апошні год вайны, увоз паводле ацэнкі мытніц павялічыўся да 9.174.000 фунтаў. Ён штогод значна павялічаўся і ў 1790 г. дасягнуў 19.120.000 фунтаў.

Вываз продуктаў ангельскае фабрычнае прамысловасьці дае больш пэўны і больш важны крытэры на вызначэньне гандлёвага дабрабыту. Ацэнка прадметаў вывазу вызначалася ў 1782 г. у 9.919.000 фунтаў; у наступным годзе яна дасягнула 10.409.000 фунтаў; у 1790 годзе яна павялічылася да 14.921.000 фун. і ў мінулым г. складала 16.420.000 фун.

Калі мы аднясем сюды яшчэ вывезеныя замежныя рэчы, дык лічба вывазу ў 1782 г. будзе складаць 12.232.000 фунтаў, пасьля згоды яна ўзьнялася ў 1783 г. да 14.741.000 фунтаў; у 1790 г. яна даходзіла да 20.120.000 фун. Гэтыя дакуманты ў тым выглядзе, як яны існуюць (а яны ня могуць быць поўнымі), каштоўныя толькі як агляд замежнага гандлю гэтае краіны. Магчыма, што наш унутраны гандаль, які заўсёды меў вялікае значэньне для нашага багацьця, павялічыўся, па меншай меры, у такіх-жа адносінах. Я ня маю магчымасьці даць падрабязны параўнаўчы агляд нашае фабрычнае прамысловасьці за той самы пэрыод, але яе хуткі рост быў фактам агульнапрызнаным, і мясцовыя весткі джэнтльмэнаў розных частак краіны, перад якімі я гавару, робяць лішнімі ўсякія падрабязнасьці па гэтым пытаньні.

Констатаваўшы, такім чынам, павялічэньне нашых прыбыткаў і паказаўшы, што яно праходзіць з адпаведным ростам нашае фабрычнае прамысловасьці, высьветлім сабе, з прычыны якіх акалічнасьцяй адбываецца падобнае дзеяньне.

Адказ, які раней за ўсё і мімаволі прыходзіць на розум усім людзям краіны, будзе наступны: наш дабрабыт зьяўляецца вынікам прамысловасьці і прыроднае энэргіі нацыі. Але што-ж надала гэтай прамысловасьці і гэтай энэргіі здольнасьць дзейнічаць з такою сілаю і так абагнаць прыклады папярэдніх пэрыодаў? У гэтым спрыяючым дзеяньні вялізарны ўплыў адыгралі тэхнічныя ўдасканаленьні ў кожнай галіне прамысловасьці і ступень продукцыйнасьці працы, дасягнутая ўжываньнем машыннае вытворчасьці. Мы, апроч таго, наглядалі ў гэты пэрыод, больш чым раней, уплыў яшчэ аднэй акалічнасьці, якая спрыяла гэтай краіне дасягнуць гандлёвага пяршынства. Я гавару пра тую ступень крэдыту, якая, праз падвойную опэрацыю, дае нашым гандляром ільготныя ўмовы на пашырэньне сваіх опэрацый унутры краіны і робіць магчымым дамаганьне адпаведнае перавагі на замежных рынках. Гэта перавага была, галоўным чынам, відавочна на працягу другой паловы пэрыоду, пра які я гавару, і яна бесьперапынна павялічвала дабрабыт нацыі.

Апроч таго, дух эксплёатацыі і нажывы нашых гандляроў выявіўся з прычыны пашырэньня нашага суднаходзтва і рыбнае прамысловасьці і з прычыны заваёў новых рынкаў у розных краінах сьвету. Бясспрэчна, гэтым натугам спрыялі новыя адносіны з Францыяй, створаныя гандлёваю ўмоваю; хоць значэньне гэтых адносін паменшылася хваляваньнямі, якія тады былі і ў Францыі, але яны ўсё-такі зьяўляліся стымулам на разьвіцьцё прамысловасьці і дзейнасьці нашае краіны.

Але ёсьць яшчэ адна прычына, значна больш здавальняючая, чымся ўсе іншыя, бо яна адрозьніваецца сталасьцю і большаю паступовасьцю. Гэта—заўсёднае накапленьне капіталу, ягоная тэндэнцыя да павялічэньня, тэндэнцыя... якая заўсёды павінна праяўляцца і ўзрастаць у краіне, якая дасягнула пэўнае ступені гандлёвага дабрабыту.

Вось умовы, якія, мне здаецца, непасрэдна спрыяюць нашаму сучаснаму дабрабыту. Яны знаходзяцца ў сувязі з іншымі больш важнымі прычынамі...

Яны відавочна і няўхільна зьвязаны з ступеньню доўгачаснасьці згоды, працяг якое, надаючы спакой і ўпэўненасьць, павінен зрабіцца галоўным пунктам замежнае політыкі нашае краіны, з натуральнымі ўмовамі вольнага, але падпарадкаванага пэўным правілам ураду. Мы карысталіся перавагамі законаў нашае констытуцыі, зацьверджанай і ўстаноўленай яшчэ вядомымі хваляваньнямі мінулага стагодзьдзя. Вось вялікая і пераважная прычына, якая дала шырокі прастор і іншым спрыяючым умовам, пра якія я гаварыў... Вось жыцьцёвая сіла, якую мы павінны заўсёды ахоўваць. Калі гэта першая ўмова будзе захавана, усё астатняе ў нашай уладзе...

(Фридлянд и Слуцкий. „История революционнаго движения Зап. Европы“, ст. 50—1).

**4. Сьміт—супроць абмежаваньняў гандлёвае і прамысловае дзейнасьці.**

... Адзін з важнейшых сродкаў, што прапануецца мэркантыльнай сыстэмай з мэтай павялічыць у краіне колькасьць золата і срэбра, хаваецца ў выключным абмежаваньні ўвозу амаль усіх тавараў з краіны, з якой гандлёвы балянс лічыцца няпрыгодным...

... З дапамогаю гэткіх ісьцін пасьпелі прышчапіць грамадзянам думку, што іхні дабрабыт хаваецца ў тым, каб руйнаваць суседзяў: таму кожная краіна зайздроснымі вачыма глядзіць на дабрабыт усіх народаў, якія знаходзяцца ў гандлёвых зносінах, і ўсё, што складае выгаду апошніх, лічыць за сваю ўласную страту. Гандаль замест таго, каб выклікаць натуральную згоду і хаўрус, зрабіўся самаю найбольшаю крыніцаю злосьці і варожасьці.

Гэта вучэньне было першапачаткова вынадзейна і распаўсюджана духам монополіі. Першыя ягоныя пашыральнікі ня былі, зразумела, такія дурныя, як тыя, хто прыняў яго на веру. У кожнай краіне інтарэс ўсёй масы народу складаецца і павінен складацца з таго, каб купляць усё неабходнае ў бліжэйшых суседзяў і як мага танней... Але як інтарэс цэхавых майстроў якога-небудзь рамесьніцтва складаецца з недазволу жыхарам заказваць работу ў каго-б там ні было, апроч іх, так і карысьць гандляроў і фабрыкантаў кожнае краіны складаецца в захопу ў свае рукі монополіі на ўнутраным рынку; вось прычына непамерных мытаў і забарон, накладзеных у Вялікабрытаніі і ў большай частцы іншых эўропэйскіх дзяржаў амаль на ўсе тавары, што прывозілі чужаземцы.

На падставе гэтых поглядаў гандаль паміж Францыяй і Англіяй надупаў у адным і другім каралеўстве такому ўціску і ўсялякага роду абмежаваньням. А паміж тым, калі-б абодвы народы згадзіліся падпарадкавацца толькі сапраўды сваім інтарэсам, ня слухаючы голасу гандлёвае зайздрасьці, не асьляпляючы сябе нацыянальнымі забабо-

намі, дык гандаль з Францыяй мог-бы быць больш карысным для Вялікабрытаніі, чымся з якой іншаю краінаю і такім-жа чынам, гандаль з Валікабрытаніяй для Францыі... Гэты гандаль быў-бы, прынамсі, у тры разы карысьней за такі славуты гандаль з нашымі амэрыканскімі колёніямі, гадлёвыя звароты з якімі рэдка вытвараюцца за тры гады. Але часьцей на гэта патрабуецца 4 і 5 гадоў. Францыя з сваім 24 міл. насельніцтвам магла-б адкрыць нам, прынамсі, у 8 разоў больш шырокі, а ў выніку больш частых зваротаў у 24 разы, і апрача гэтага больш выгадны рынак, у параўнаньні з тым, што ўяўляе для нас Паўночная Амэрыка. Гандаль з Вялікабрытаніяй быў-бы таксама карысны для Францыі... Вось розьніца ў выгадах паміж гандлем, які па недаглядзе абодвых народаў знайшлі патрэбным абмежаваць, і паміж гандлем вольным і адчыненым...

Кожны чалавек, пакуль ён не парушае законаў справядлівасьці, мае бясспрэчнае права ісьці па шляху, паказаным яму ягонымі асабістымі інтарэсамі, і ўжываць паводле ўласнага погляду сваю працу і капітал. Клопаты аб карысьці натуральна і неабходна ўзбуджаюцца абраць іменна той шлях, які зьяўляецца найбольш карысным грамадзтву...

Імкнучыся да сваёй уласнай карысьці, чалавек часта працуе на агульную карысьць больш сапраўдным спосабам, чым калі-б ён імкнуўся да гэтай мэты... Дзяржаўны чалавек, які-б узяў на сябе працу паказваць прыватным асобам, як яны павінны скарыстоўваць свой капітал, мала таго, што ўзяўся-б за зусім бескарысную справу, але ён прысвоіў-бы сабе ўладу, якую было-б бязглуздасьцю даручыць ня толькі аднэй асобе, але якому-б там ня было савету або сэнату...

(Фридлянд и Слуцкий. „История революционного движения Зап. Европы“, ст. 46—48).

### 5. Ліст селяніна інтэнданту напярэдадні рэволюцыі.

З таго, што ў нашых краёх дваран мала, яшчэ не выплывае, што з зямлі, якая тут знаходзіцца, менш бяруць падаткаў; наадварот, амаль усе лены належаць сабору, епіскапату, катэдральнай царкве Сэн-Мартэн, нуармуцьерскім і сэн-жульенскім бэнэдыктынцам і іншым духоўным асобам, у якіх падаткі ніколі не пагашаюцца, прычым заўсёды ўсё вырастаюць старыя зацьвіўшыя пэргаміны,—колькі іх нафабрыкавана, вядома аднаму богу! Уся мясцовасьць абкладзена падаткамі. Большая частка зямлі плоціць штогод аброк у памеры аднае сёмае часткі пшаніцы ці вінаграду з моргу; адзін павінен плаціць чацьвертую частку з садавіны, якая аддаецца паном, другі пятую частку і г. д., прычым да гэтага заўсёды спаганяецца дзесятая частка, ці дванаццатая, ці трынаццатая. Усе гэтыя даніны да таго дзіўныя, што мне вядомы выпадкі аброку садавінаю, пачынаючы з чацьвертае часткі і канчаючы саракавою. Што загадаеце гаварыць пра ўсе гэтыя падаткі, якія спаганяюцца ва ўсіх формах: збожжам, зелянінаю, грашыма, птушкай, фондамі, дрэвам, садавінаю, сьвечкамі? Мне вядомы

такія дзівосныя формы аброку, якія ўносяцца, напрыклад, хлебам, воскам, яйкамі, сьвіньнямі без галавы, вясельнымі падарункамі, букетамі фіялак, залатымі шпорамі і г. д. Існуе яшчэ нязьлічонае мноства іншых сюзэрэнных правоў. Чаму не вызваляюць Францыю ад усіх гэтых бязглуздых падаткаў? Нарэшце, пачынаюць расплюшчваць вочы, ад мудрасьці сучаснага ўраду магчыма чакаць усяго. Ён працягне руку дапамогі бедным ахвярам вымаганьняў старое фіскальнае сыстэмы, якая насіла назву сюзэрэнных правоў, не належачых ні адабраньню з уласнасьці, ні продажу. Як, далей, адносіцца да тыраніі, якая месьціцца ў зборах, што спаганяюцца ў час куплі ці продажу? Пакупнік аддае свае апошнія грошы за набыцьцё вучастку зямлі і прымушаны аддаць грунтоўна кавалак за судовае зацьвярджэньне і дагаворы, за пераход ва ўладаньне, за протоколы адзін процант, за дасьледваньне і перадачу восем су з ліўра і г. д. Апроч таго, ён павінен паказаць дагавор свайму пану, які спаганяе з яго яшчэ проценты з каштоўнасьці купленага ці прададзенага; адны спаганяюць дваццатую, іншыя дзесятую частку каштоўнасьці, трэція патрабуюць пятую частку, а чацьвертыя—пятую частку і яшчэ пятую гэтае апошняе. Карацей кажучы, пазямельныя падаткі існуюць ва ўсіх варыянтах, і мне вядомы нават абшарнікі, якія спаганяюць трэцюю частку капіталу. Не, самыя дзікія і барбарскія народы ва ўсім сьвеце ніколі не дадумаліся да такіх жахлівых і шматлікіх формаў вымаганьня, якія сыпаліся на галовы нашых бацькоў з ласкі нашых тыранаў.

Нябожчык кароль дазваляў выкуп асноўных аброкаў з гарадзкога насельніцтва, як-жа ён ня ўключыў сюды вясковае? З гэтых апошніх ён павінен быў-бы пачаць! Чаму не даецца дазвол бедным сялянам разьбіць свае ланцугі, вызваліцца ад нязьлічоных сюзэрэнных і зямельных падаткаў і выкупіць іх? Яны-ж робяць столькі несправядлівасьці, а сюзэрэну прыносяць так мала карысьці. У выкупе не павінна быць розьніцы паміж горадам і вёскаю, паміж сюзэрэнамі і прыватнымі асобамі.

Інтэнданты царкоўных прыходаў рабуюць арандатараў пры ўсякай зьмене ўладара і накладаюць на іх контрыбуцыю. Мы маем у гэтых адносінах прыклад з самага бліжэйшага мінулага.

Інтэндант нашага новага архіепіскапа пасьля свайго прыезду скасаваў з усімі арандатарамі дагаворы, заключаныя імі з ягоным папярэднікам п. дэ-Флеры, абвясьціўшы іх несапраўднымі. Апрача гэтага, ён выставіў усіх тых арандатараў, якія не хацелі падвоіць свае арэндныя стаўкі і яшчэ раз заплаціць той вялікі кус, які яны ўжо ўвесьлі інтэнданту, п. дэ-Флеры. Такім чынам у іх адабралі тыя сем ці восем гадоў, на працягу якіх яны, паводле заключаных дагавароў, мелі права жыць на сваіх дварох, і прымусілі іх безадкладна, у багатую куцьцю, у самую цяжкую пару, бо ў гэтую пару году вельмі цяжка карміць жывёлу, пакінуць свае месцы, прычым яны ня ведалі, куды ім дзецца. Прускі кароль ня мог-бы зрабіць горш.

(Ландауэр. „Письма о французской революции“, ст. 144—5).

### 6. Становішча рабочае клясы напярэдадні рэволюцыі.

(*З справаздачы Роляна*).

Ролян дэ-ля-Плятрыер, пасьля славуты правадыр жырондыцкае партыі, займаў напярэдадні рэволюцыі пасаду інспэктара мануфактур, якая дазваляла яму ўважліва наглядаць за станам прамысловасьці і становішчам рабочых. Падаем урыўкі з ягонае справаздачы, чытаючы якія належыць, аднак, памятаць, што дадзенае ў ім апісаньне ўмоў працы францускіх рабочых выходзіць не ад іх саміх, а звыш, чаму да яго трэба адносіцца з некаторай асьцярожнасьцю.

... „У Пікардыі вырабляюць шарсьцяныя, аксамітныя, палатняныя матэрыі і вязаныя тканіны. З 25 тысяч кроснаў, якія ткуць у данай акрузе, на гарады прыпадае толькі 6.500, у тым ліку каля пяці тысяч у Ам'ене і тысячы ў Абэвіле. Частка гарадзкіх кроснаў і амаль усе вясковыя спыняюць сваю дзейнасьць у пэрыод жніва; касавіца, высечка лесу, сяўба і іншыя сельскагаспадарчыя працы таксама спыняюць ткацтва ў пераважнай большасьці вёсак; такім чынам, наогул можна лічыць, што кросны функцыянуюць усяго толькі восем месяцаў на год. Зразумела, трэба прызнаць, што з усіх мануфактур найбольш каштоўнымі і пастаўленымі ў самыя спрыяючыя ўмовы будуць якраз тыя, якія даюць працоўным магчымасьць займацца, калі гэта бывае патрэбна, землясробскаю работаю. Такая комбінацыя ня толькі спрыяе здароўю, але і падвойвае добры стан насельніцтва, бо мануфактура і земляробства ўзаемна падтрымліваюць адно аднаго. Насельніцтва заўсёды бывае шматлікім там, дзе магчыма існаваць, а існаваць магчыма ўсюды, дзе магчымы заработак. Наогул, можна лічыць, што на кожныя кросны прыпадае дзесяць чалавек, занятых вырабам тканін з тэй пары, як матэрыял выходзіць з рук земляроба, аж да таго моманту, калі матэрыя робіцца гатоваю на ўжытак.

Дапусьцім, што ў гэты лік уваходзяць два дарослых рабочых і дзьве дарослыя жанчыны ці дзяўчыны, якія заняты выключна гэтаю працаю; астатнія асобы—дзеці, старыя ці жанчыны, якія так заняты сямейнымі клопатамі, што іх праца можа быць прыроўнена толькі да дзіцячай працы: гэтая катэгорыя вельмі шматлікая. У гарадох мужчыны звычайна атрымліваюць па 20 су на дзень, жанчыны—па 10, а дзеці—па 5; на вёсках мужчыны ад 17 да 18, жанчыны ад 8 да 9, а дзеці па 3, па 4 ці па 5 су. Паводле нашага разьліку, на фабрыках у разглядаемай акрузе занята 250.000 асоб, якія даюць гэтаю працаю магчымасьць існаваць, ці зьяўляюцца крыніцаю дабрабыту яшчэ 250.000 чалавек, прычым іх штогодны заработак складае:

| | | |
|---|---|---|
| Для 50.000 работнікаў па 140 л. . . | 7.000.000 | ліўраў |
| „ 50.000 работніц . . . . . . . | 3.500.000 | „ |
| „ 100.000 дзяцей . . . . . . . . | 6.000.000 | „ |
| Агульная сума заработнай платы . . | 16.500.000 | „ |
| Прыбытак прадпрыемцаў і гандляроў | 2.500.000 | „ |

... На д'епскіх мануфактурах звычайныя работніцы зарабляюць ня больш 7—8 су, а добрыя работніцы—па 10, 11 і нават 15 су. Але такую ўзнагароду атрымліваюць толькі рэдка якія работніцы. Д'епскія гандляры не зьяўляюцца разам з тым і фабрыкантамі; яны не забясьпечваюць мярэжніц матэрыялам, а прадаюць яго ім і купляюць мярэжы па іхняй цане. Гэтаю вытворчасьцю занята каля 4.000 асоб—жанчын, дзяўчат і дзяцей. Выраб мярэжаў зьяўляецца амаль выключным заняткам жонак маракоў і рыбаловаў у тыя пэрыоды часу, якія ў іх застаюцца вольнымі ад працы, што зьвязана з рыбнаю лоўляю. У Пюі работніцы, што вырабляюць палатняныя мярэжы, зарабляюць ад 5 да 6 су на дзень, а работніцы, якія вырабляюць шаўковыя мярэжы—па 12. Фабрыкі ў Пюі могуць даць занятак прыблізна 6.000 рабочым, а разам з фабрыкамі, што знаходзяцца ў ваколіцах, ад 18 да 20 тысяч...

(Захер. „Французская революция в документах", ст. 31—32)

### 7. Абмежаваньні прамысловае дзейнасьці.

У XVIII стагодзьдзі, як і ў другой палове XVII, адміністрацыі даводзілася бязупынна аднаўляць і памнажаць загады, накіраваныя да ўрэгуляваньня вытворчасьці. Каб не пакідаць пералазкаў для ашуканьняў, яна зусім уціскала волю і ініцыятыву. Калі мода і вынаходлівасьць усё-ж бралі верх, яна выдавала новы загад; такім чынам законадаўства ўскладнялася і заблытвалася.

Напрыклад, загады, якія мелі дачыненьне да ткацкае справы, зьмяшчалі ў сабе сотні артыкулаў, у якіх да дробязяй прадпісвалася форма бярда і чаўнака, перакрыжаваньняў, асновы і колькасьць нітоў у кожным перакрыжаваньні, паказвалася, адкуль належыць атрымліваць сыры матэрыял. Калі пачалі карыстацца пры вырабе сукна жалезнымі часалкамі, фабрыканты сустрэлі перашкоду ў прамысловых статутах, дзе гаварылася толькі пра часалкі з чартапалоху. Аднойчы фабрыканты ў Лізіе пачалі вырабляць матэрыю для папоўскіх рыз чатырох узораў, і пакупнікі былі гэтым вельмі здаволены. Але статут дазваляў толькі два ўзоры, і вось зьявіўся загад, які прадпісваў фабрыкантам строга прытрымлівацца статуту і вырабляць тавар ня больш 24—25 аршын, у адваротным выпадку лішняе будзе адрэзвацца і аддавацца бедным майстровым.

Ролян дэ-Плятрыер (будучы жырондыст), які быў інспэктарам у Руане, паказаў міністру ў дакладной запісцы, якую падаў яму ў 1778 г., на вялікія злоўжываньні, да якіх вяла рэглямэнтацыя: „Я бачыў,—пісаў ён,—як у адну раніцу разрэзалі на кавалкі 80, 90, 100 кавалкаў сукна. Я бачыў гэтую сцэну кожны тыдзень на працягу некалькіх гадоў. Я бачыў, як у тыя самыя дні канфіскавалася большая ці меншая колькасьць штук сукна з больш ці менш вялікімі штрафамі; я бачыў, як іх прывязвалі да ганебнага колца, надпісаўшы імя фабрыканта, і пагражалі прывязаць яго самога ў выпадку, калі віна

паўтарыцца; я бачыў усё гэта ў Руане, і ўсё гэта рабілася на падставе статутаў ці паводле загаду міністра. І за што? Толькі за тое, што матэрыя была няроўная ці тканіна няправільная. Я бачыў, як агенты з цэлай зграяй памочнікаў рабілі пошукі ў фабрыкантаў, ставілі ўверх дном майстэрні, да сьмерці палохалі іхнія сем'і, разразалі правады на кроснах".

(Фридлянд и Слуцкий, „История революционного движения Зап. Европы", ст. 79—80).

### 8. Абмежаваньні ўнутранага гандлю за старым ладам.

Каралеўства было ва ўсіх кірунках зрэзана мытнымі лініямі, якія мелі ў даўжыню амаль ня 2.800 млн. Тавар, пасланы з Брэтані, Артуа ў Прованс, падлягаў васьмі заявам і васьмі аглядам, павінен быў сем разоў аплачвацца мытнымі зборамі і два разы перагружацца. Амаль такой самай колькасьці формальнасьцяй і плацяжоў падупадаў тавар, які накіроўваўся з Парыжу ў Овэрнь ці Дофінэ. Віны, якія перавозіліся з Керсі ў Пэрыгор, жалезныя вырабы, якія дастаўляліся з Пэрыгору ў Керсі, былі абкладзены „агіднымі аброкамі". Тавары, якія ішлі з Нормандыі на Пантуаз, на працягу чатырох міль, аплачваліся мытаю тры разы: у Сэнт-Дэні маставым зборам, у Эдыне—дарожным, ва Франконвіле—транзытным; апошні спаганяўся сэньёрам, які іншы раз павялічваў яго ў два разы і які па сутнасьці ня меў ніякага права на гэтую мыту, бо дзяржава яго вызваліла ад клапот аб спраўнасьці дарог.

Карта Лётарынгіі і Трох Епіскапстваў уяўляла з сябе малюнак блытаніны, якая падрывала гандаль і земляробства ды перашкаджала пракладцы дарог і канаваў... З прычыны застаў, што былі навакол кожнага гораду і кожнае вёскі, жыхар Туля, выходзячы з гораду, на кожным кроку сустракаў кордон ці мытніцу, у выніку чаго жыхары Лётарынгіі, Трох Епіскапстваў, Шампані, Бара і Эльзаса не маглі мець зносін паміж сабою, і страх раптоўных аглядаў, канцэлярshчыны і канфіскацыі паралізавалі гандаль. „Франш-Контэ"—провінцыя, якая „лічылася замежнай",—была зусім адрэзана ад усіх суседніх вобласьцяй, нават ад Эльзасу—„провінцыі, сапраўды замежнай".

Нават вельмі няпоўны пералік мерак даўжыні і вагі, што ўжываўся ў Францыі, заняў-бы вельмі шмат месца. Яны зьмяняліся з кожнай паштовай станцыяй. „Надзвычайная рознастайнасьць мер, якія ўжываліся ў розных частках аднаго і таго самага бальяжу", выклікала зьдзіўленьне. Каралеўскае земляробскае таварыства канстатавала ў 1790 годзе „значныя розьніцы ў межах аднаго і таго самага гораду, мястэчка ці вёскі".

(Фридлянд и Слуцкій. „История революционного движения Зап. Европы", ст. 75).

## 9. Прыгонны стан зямлі.

Яшчэ пяць умоў—спосабаў займаньня зямлі ў Францыі, дэталёва разабраных у шматлікіх нататках, што занатаваў я ва ўсіх провінцыях: Але заняло-б занадта шмат месца, каб я пачаў прыводзіць іх усе тут.

1) дробныя сялянскія вучасткі; 2) грашовая арэнда, як у Англіі; 3) фэўдальнае ўладаньне; 4) монополія зямлі, якая арандуецца агулам за грошы і потым здаецца ў арэнду сялянам; 5) фэрмэры, якія апрацоўваюць зямлю з паловы ці трэцяй часткі ўраджаю.

I. *Сялянскія дробныя гаспадаркі.* Сяляне ўсюды маюць дробныя вучасткі, такія дробныя, пра якія мы ў Англіі ня маем уяўленьня. Яны наглядаюцца ва ўсіх частках каралеўства, нават у провінцыях, дзе бываюць пераважна іншыя формы ўладаньня; але гэта форма вельмі распаўсюджана ў Кермы, у Лангедоку, у Пірынэях, Іврне, Гасконі, у частцы Гюпэні, у Эльзасе, Фландрыі і Лётарынгіі. У Фландрыі, у Эльзасе, на берагох Гароны і ў Бэарне я спаткаў шмат жыхароў, якія жывуць з дастаткам і якіх хутчэй можна назваць дробнымі фэрмэрамі, чым уласьнікамі; а ў Ніжняй Брэтані сустракаюцца нават і багатыя, але ў пераважнасьці яны бедныя і няшчасныя, што зьяўляецца вынікам занадта вялікага падзелу дробных фэрмаў паміж усімі іхнімі дзяцьмі.

У Лётарынгіі і прылягаючай да яе частцы Шампані яны няшчасныя; я ня раз бачыў гэтыя падзелы, даведзеныя да таго, што простае пладовае дрэва і дзьвесьце футаў зямлі складалі фэрму і ўсю гаспадарку сям'і.

II. *Грашовая арэнда* звычайна сустракаецца ў Пікардыі, у Артуа, у частцы Фляндрыі, у Нормандыі (за выключэньнем вобласьці Ко), у Іль-дэ-Франс і ў Босэ. Гэтая форма практыкуецца таксама ў провінцыях, дзе пераважваюць іншыя формы; але паводле памернага разьліку гатая форма ня існуе нават у шостай і сёмай частцы каралеўства.

III. *Фэўдальныя ўладаньні.* Гэта—лены, якія раздаюцца памешчыкамі прыходу з захаваньнем рэштак: аброку, сэрвітутаў, з правам пазбаўленьня ўладаньня за невыкананьне ленных адносін і г. д. Гэтая форма вельмі пашырана ў Лімузэне, Бэры, ля-Маршэ, у Брэтані і г. д., дзе яна сустракаецца ва ўсёй краіне; аднак, яна сустракаецца ва ўсіх частках каралеўства, у ваколіцы Бэрдова, Батана і г. д. У Бэры чуваць былі вялікія скаргі на гэтыя цяжары. Спосаб спагнаньня іх, напэўна, зьяўляецца значнай часткай зла, чаму яны ўсюды і адчуваюцца больш цяжкімі, чымся гэта магло-б здавацца. Сьцьвярджаюць, што судовыя пастановы вельмі строгія ў адносінах да арандатара на карысьць памешчыка.

IV. *Монополія.* Гэты спосаб практыкуецца звычайна ў розных провінцыях, дзе ёсьць фэрмэры; багатыя людзі бяруць у арэнду вялікія абшары зямлі, якую яны ад сябе здаюць дробнымі вучасткамі фэрмэрам, што даюць ім палову ўраджаю. Я чуў шмат скаргаў з гэтай прычыны ў Ля-Маршэ, Бэры, Пуату і Ангулюа. Іншыя провінцыі таксама

не абышлі гэтае практыкі. Яна, відавочна, выплывае з цяжкасьцяй, якія ўласьцівы фэрмэрскай сыстэме апрацоўкі. Гэта агідны спосаб, добра вядомы ў Ірляндыі, адкуль гэтыя пасярэднікі амаль што ўсе выгнаны:

V. *„Фэрмэры“*. Арэнда фэрмамі складае, магчыма, сем восьмых зямель Францыі. Яна ахоплівае амаль усю Салонь, Бэры, Марш, Лімузэн, Бургундыю, Бурбонэ, Нівэрнуа, Овэрнь і г. г. Яна сустракаецца нават у Брэтані, Мэнэ, Провансе і ва ўсіх паўднёвых провінцыях. У Шампані ёсьць шмат зямель, здадзеных з трэцяй часткі продуктаў; але звычайна яна здаецца з палавіны. Уласьнік звычайна дае жывёлу і палову насеньня, а фэрмэр дае сваю працу, прылады і плаціць падатак; але ў некаторых кантонах уласьнік дае частку гэтага выдатку. У Бэры ёсьць фэрмэры, якія арандуюць зямлю з палавіны, некаторыя з трэцяй часткі і нават з чвэрткі ўраджаю ў Русільжыне, ад Аксы да Флейранс, некаторыя ўласьнікі плацяць усе падаткі. Каля Эгільона, на Гароне фэрмэры даюць палову жывёлы. Каля Фалеза ў Нормандыі я бачыў фэрмэраў у такіх мясцох, дзе цяжка было спадзявацца, што стрэнеш іх на фэрмах, якія ўтрымліваліся самім уласьнікам; вынікам гэтага зьяўляецца тое, што фэрмы гэтых уласьнікаў апрацаваны горш усіх навакольных фэрмаў.

Гэтая ганебная акалічнасьць не патрабуе комэнтарыяў. У Нанжы Іль-дэ-Франс я бачыў дагавор, у якіх уласьнік падрадзіўся даць жывёлу, збрую, прылады і плаціць падаткі; фэрмэр даваў сваю працу і плаціў падушны падатак. Уласьнік павінен быў рабіць рамонт дому і дзьвярэй; фэрмэр—вокны. Уласьнік даваў насеньне ў першым годзе, фэрмэр—у апошнім; у прамежныя гады яны давалі іх па палове. Ураджай, які прадаваўся за грошы, дзяліўся паміж імі. Масла і сыр, якімі без абмежаваньня карысталася сям'я фэрмэра, зварочваліся платаю шасьці франкаў з каровы. У Бурбоне ўласьнік дае ўсе віды жывёлы, і тым ня менш фэрмэр прадае, абменьвае і купляе паводле сваіх меркаваньняў, прычым кіраўнічы адзначае ўсе гэтыя зьмены, таму што ўласьнік атрымлівае палову выручкі ад продажу і плоціць палову выдаткаў на пакупкі. Фурманкі арандатара павінны прывозіць палову зерня ў сьвірны замчышча, а потым вярнуцца туды-ж па салому. Вынікі гэтае бяссэнсоўнае сыстэмы надзвычайныя: зямля, якая ў Англіі здавалася-б па дванаццаць ліўраў, тут каштуе ня больш трох ліўраў, уключаючы жывёлу.

На першы погляд здаецца, што ўласьнікі больш за ўсё бядуюць ад фэрмэрскае сыстэмы апрацоўкі. Але пры бліжэйшым знаёмстве мы бачым, што арандатары пакутуюць ад вялікае нястачы, некаторыя нават зьяўляюцца жабракамі. У Ватане, у Бэры мяне запэўнялі, што фэрмэры амаль кожны год прымушаны пазычаць хлеб у памешчыка да новага ўраджаю. У сутнасьці, ня варта пазычаць гэты хлеб, таму што гэта мешаніна жыта і ячменю; я яго часта каштаваў і таму ад душы шкадую гэтых няшчасных беднякоў. Але простыя людзі тут не ядуць пшанічнага хлеба. Пры гэтай нястачы фэрмэраў пра становішча

памешчыка льга судзіць па рэнце, якую ён атрымлівае. У Сальбры, у Салоні ўласьнік атрымлівае каля 800 ліўраў на сваю долю за плошчу. на якой харчуецца 700 авечак. Уся рэнта з зямлі і жывёлы не перавышае, такім чынам, 24 су з кожнае авечкі. У Лімузэне на фэрмэраў глядзяць, як на наймітаў, якім можна адмовіць ва ўсякі час і якія прымушаны лічыцца з усімі капрызамі сваіх паноў. Мяркуюць, што палова арандатараў знаходзіцца ў даўгу ва ўласьніка, так што ён часта прымушаны адмовіць ім, пры страце гэтых даўгоў, рызыкуючы інакш тым, што зямля яго застанецца неапрацаваная.

З усіх формаў арэнды зямель самай дрэннай зьяўляецца форма дробных фэрмаў. Больш яна сустралаецца ў Пікардыі, але гэта не зьяўляецца агульнаю формаю ў адсталых частках каралеўства. Падзел фэрмаў і насельніцтва такі вялікі, што, выходзячы адгэтуль нястатак у некаторых мясцох даходзіць да крайніх межаў. Калі вы трапіце ў якінебудзь горад у кірмашовы дзень, вас зьдзіўляе бязьдзейнасьць народу. Вы сустракаеце цэлыя групы сялян. У Ландывізіо, у Брэтані я спаткаў чалавека, які прайшоў дзьве з паловай мілі, каб прынесьці на рынак двое куранят, якія не каштавалі, паводле яго слоў, 24 су. У Авранце я спаткаў людзей, якія везьлі кожны на кані каля чатырох мераў морскае травы. Недалёка ад Ізэгейма, у Эльзасе, я бачыў жанчын у часе жніва, калі іхняя праца цанілася роўна з працай мужчын, якія каля гасьцінца зьбіралі траву сваім каровам.

(Фридлянд и Слуцкий, „История революционного движения Зап. Европы", ст. 80—82).

## 10. Фізыякраты.

... Фізыякратызм—гэта першая сыстэма, якая аналізуе капіталістычную вытворчасьць і выяўляе ў выглядзе спрадвечных натуральных законаў вытворчасьці тыя ўмовы, у якіх утвараецца капітал і ў якіх ён вытварае. З другога боку, гэтая сыстэма зьяўляецца як-бы буржуазным аднаўленьнем фэўдальнай сыстэмы панаваньня зямельнае ўласнасьці; тыя галіны прамысловасьці, у якіх капітал у першы раз самастойна разьвіваецца, здаюцца ёй, наадварот, „нявытворчымі" галінамі, простымі дадаткамі земляробства. Першая ўмова разьвіцьця капіталу ёсьць адлучэньне зямельнае ўласнасьці ад працы, супроцьстаўленьне зямлі, гэтай карэннай умовы працы, вольнаму, рабочаму як самастойнай сіле, якая групуецца ў руках асобнае клясы. І калі справа ўяўляецца з гэтага боку, дык зямляўласьнік—сапраўдны капіталіст і зн. прысваяльнік дадатковае працы. Такім чынам фэўдалізм аднаўляецца і тлумачыцца пад відам буржуазнае вытворчасьці; земляробства-ж здаецца тэй галінай вытворчасьці, у якой толькі і мае месца капіталізм, г. зн. вытворчасьць дадатковае вартасьці. І ў той час, як фэўдалізм прымае, з прычыны гэтага, буржуазны выгляд, буржуазнае грамадзтва атрымлівае фэўдальны выгляд. Гэты выгляд ашукаў пасьлядоўнікаў, што належалі да дваранства, доктара Кенэ, і перш за ўсё патрыярхальнага дзівака Мірабо старэйшага.

У тых фізыякратаў, якія мелі больш шырокі розум, асабліва Цюрго, гэта зданьнёвае ўяўленьне зусім зьнікае і фізыякратычная сыстэма зьяўляецца ў іх выяўленьнем новага капіталістычнага грамадзтва, якое прабівае сабе шлях у рамках фэўдалізму. Яна адпавядае, выходзіць, тэй эпосе буржўазнага грамадзтва, калі яна выбіваецца з фэўдальнага. Таму яна і ўзьнікае спачатку ў Францыі, краіне пераважна земляробскай, а не ў Англіі, краіне, галоўным чынам, прамысловасьці, гандлю, мораплаваньня. Натуральна, што ў гэтай апошняй увага перш за ўсё была накіравана на процэс звароту, на тую акалічнасьць, што толькі як выяўленьне грамадзкае працы, толькі ў выніку свайго ператварэньня ў грошы, продукт набывае вартасьць, робіцца таварам. Таму, пакуль справа ідзе не пра форму вартасьці, але пра яе велічыню і пра яе ўзрастаньне, увага прыцягваецца тут перш за ўсё апісанай Сьцюартам адноснай вартасьцю. Але калі гутарка ідзе аб тым, каб давесьці, што дадатковая вартасьць ствараецца ў сфэры вытворчасьці, тады давядзецца зьвярнуцца перш за ўсё да тэй галіны вытворчасьці, у якой стварэньне дадатковае вартасьці выяўляецца незалежна ад процэсаў звароту, г. зн. да земляробства. Таму ініцыятыва новага вучэньня належала краіне, у якой пераважала земляробства. Уласьцівыя фізыякратам ідэі сустракаюцца дзе-ні-дзе і ў папярэдніх больш раньніх пісьменьнікаў, як, напрыклад, часткова ў самой Францыі ў Боагільбэра. Але толькі ў фізыякратаў яны робяцца сыстэмаю, якая стварае цэлую эпоху.

Загое самае прычыны ў вывадах, зробленых самымі фізыякратамі, зданьнёвае выхваленьне зямляўладаньня ператвараецца ў ягонае экономічнае адмаўленьне і ў сьцьвярджэньне капіталістычнае вытворчасьці. Усе падаткі пераносяцца на зямельную рэнту, ці іншымі словамі: зямельная ўласнасьць часткова конфіскуецца, мера, якую імкнулася правесьці, ня гледзячы на протэст Рэдэрэра і іншых, француская рэволюцыйнае законадаўства, і якая ўяўляе з сябе канчатковы вывад з сучаснае, удасканаленае Рыкардо, політычнае экономіі. Падаткі цалкам ускладаюцца на зямельную рэнту, бо яна зьяўляецца адзінаю дадатковаю вартасьцю, і таму што, у выніку гэтага, усякае абкладаньне іншых формаў прыбытку зводзіцца, нарэшце, да абкладаньня зямельнае ўласнасьці, але зводзіцца ўскосным, г. зн. шкодным у экономічным сэнсе, шляхам, на страту вытворчасьці. Пры такім выключным абкладаньні зямельнае ўласнасьці цяжар падаткаў, а значыцца і ўсякае дзяржаўнае ўмешваньне, было адхілена ад прамысловасьці, і такім чынам яна зусім вызвалялася ад гэтага апошняга. І гэта робіцца нібы ў інтарэсах зямляўладаньня, а не прамысловасьці.

З гэтым зьвязана вольная конкурэнцыя, адхіленьне ад прамысловасьці ўсякага дзяржаўнага ўмяшаньня, монополій і г. д. З тае прычыны, што прамысловасьць, паводле думкі фізыякратаў, нічога не стварае, а толькі ператварае ў іншую форму вартасьці, што атрымліваецца ёю ад земляробства, таму што яна не дадае да гэтых вартасьцяй ніякай новай вартасьці, а зварочвае перададзеныя ёй вар-

тасьці ў выглядзе эквіваленту, толькі зьмяняючы іхнюю форму,—дык натуральна, зьяўляецца пажаданым, каб гэты процэс вытвараўся без перашкод і абыходзіўся паводле магчымасьці больш танна: а гэта дасягаецца толькі вольнай конкурэнцыяй, пры якой капіталістычная вытворчасьць прадстаўляецца самой сабе. Такім чынам, вызваленьне буржуазнага грамадзтва ад абсолютнае монархіі, узьнятай на руінах фэўдальнага грамадзтва, робіцца толькі ў інтарэсах фэўдальнага зямляўласьніка, ператвораная ў капіталіста, які імкнецца толькі да абагачэньня. Капіталісты зьяўляюцца капіталістамі толькі ў інтарэсах зямляўладаньня, зусім таксама, як пазьнейшая сталая політычная экономія дазваляе ім быць капіталістамі толькі ў інтарэсах рабочае клясы.

(К. Маркс. „Теория прибавочной ценности, т. I).

---



# ГЕОГРАФІЯ.

Аддзяленьне падрыхтоўчае.

*Курс вядуць: Т. А. ЕЗАВІТ і М. Т. ЛОЙКА.*

Прадметам курсу па географіі для падрыхтоўчага аддзяленьня згодна нашай програмы, зьяўляецца азнаямленьне з фізычнай географіяй і набыцьцё кароткіх ведаў з політычнай географіі. Выходзячы з гэтага, мы нашу програму разьбілі на два аддзелы:

I—Фізыка-географічны агляд земнай кулі.

II—Політыка-географічны агляд зямлі.

Мэта I аддзелу—каротка пазнаёміць таварышоў завочнікаў з фізычнай географіяй. Аддзел гэты паддзяляецца на чатыры заданьні.

У першым заданьні мы знаёмімся з зямлёю як з сусьветным целам; мы вывучаем яе форму, велічыню, рухі, будову. Тут-жа мы азнаёмліваемся з географічнаю картаю.

У другім заданьні мы разглядаем сухазем'е і воду. Тут мы павінны будзем уявіць сабе, як разьмешчана сухазем'е і вада, на якія яны дзеляцца часткі, якое экономічнае значэньне мае абрыс (форма) берагоў, рухі морскае вады і г. д.

У трэцім заданьні мы вывучаем рэльеф зямлі і разьмяшчэньне на зямлі грунтовых вод: рэк, вазёр, крыніц і г. д.

У чацьвертым заданьні мы азнаёмліваемся з кліматам, расьліннасьцю, жывёламі, глебаю, з насельніцтвам і яго разьмяшчэньнем на земнай кулі.

Кажучы карацей,—мы ў першым заданьні вывучаем галоўнейшыя элемэнты матэматычнай географіі, у другім і трэцім—так званыя азональныя ці непаясныя фактары фізычнай географіі, і ў чацьвертым заданьні—зональныя—паясныя фактары і насельніцтва.

Мэта II аддзелу програмы—азнаёміцца з політычнаю картаю, інакш кажучы, азнаёміцца з тым, як разьмешчаны на зямлі асобныя дзяржавы. Пры гэтым галоўная ўвага зьвяртаецца на СССР і буйныя ім-

пэрыялістычныя дзяржавы. Пра іх трэба ведаць ня толькі, дзе яны знаходзяцца, а ўмець даць кароценькі фізыка-географічны агляд гэтых дзяржаў.

Другі аддзел падзяляецца на тры заданьні. У першым заданьні мы разгледзім СССР, а ў апошніх двух заданьнях—чатыры імпэрыялістычныя групы.

Будуючы так нашу програму, мы выходзілі з таго асноўнага меркаваньня, што програма па географіі дакомвузаўскай падрыхтоўкі павінна падрыхтаваць таварышоў завочнікаў у далейшым да праходжаньня курсу экономічнай географіі, політычнай экономіі, гісторыі клясавай барацьбы. Для пасьпяховага вывучэньня курсаў вышэйпаказаных дысцыплін абавязкова патрэбна распрацоўка асноўных пытаньняў нашае програмы.

**Літаратура да праходжаньня програмы.**

1. Наш вучэбна-дапаможны матэрыял, які будзе друкавацца ў часопісі „Завочны Комвузавец".

2. „Географический атлас в 16 таблицах под редакцией Ю. М. Шокальского"—год выданьня 1930, цана 75 к.

3. Неабходна, каб таварышы завочнікі мелі контурныя ці блянкавыя карты, каб маглі карыстацца глёбусам, без якога нельга мець правільнага ўяўленьня аб форме, велічыні, палажэньні земнае кулі ў адносінах да сонца ў розныя поры году і г. д.

*Неабавязковая літаратура*: Л. Синицкий, „Краткий курс всеобщего землеведения", выд. ГИЗ'а, цана 1 р. 10 к.

---

# ПРОГРАМА ПА ГЕОГРАФІІ ДЛЯ ДАКОМВУЗАЎСКАЙ ПАДРЫХТОЎКІ НА 1931 г.

## АДДЗЕЛ ПЕРШЫ.

## Фізыка-географічны агляд земнае кулі.

### *ЗАДАНЬНЕ 1.*

**Зямля, яе рухі, географічная карта.** (18 гадзін).

*1. Горызонт і краі сьвету.*

*2. Форма і велічыня зямлі.* Зямля, як куля, довады, кулявіднасьці зямлі. Глёбус, як модэль зямлі.

*3. Рухі зямлі і градусная сетка.* Рух зямлі наўкола восі. Градусная сетка. Рух зямлі навакол сонца, цеплавыя паясы, поры году. Сонечная сыстэма.

4. *Географічная карта.* Плян, малюнак, карта. Будова географічнай карты. Чытаньне карты фізычнай, палітычнай, экономічнай.

## *ЗАДАНЬНЕ 2.*

### Агляд паверхні зямлі. (14 гадзін).

1. *Сухазем'е і вада на паверхні зямлі.* Суадносіны паміж сухазем'ем і вадою. Матэрыкі і акіяны.

2. *Акіяны і іх часткі.* Лік акіянаў. Моры, затокі, пратокі. Умець пералічыць і паказаць на карце акіяны, галоўныя моры, затокі, пратокі. Глыбіня і дно акіянаў, мораў. Якасьць морскае вады і яе рухі. Экономічнае і стратэгічнае значэньне пратокаў.

3. *Часткі сухазем'я.* Часткі сьвету. Паўвостраў, востраў, перашыяк. Умець паказаць на карце і пералічыць галоўныя паўвостравы, астравы, перашыйкі.

## *ЗАДАНЬНЕ 3.*

### Тыповыя формы рэльефу сухазем'я і грунтовыя воды. (16 гадзін).

1. *Формы рэльефу.* Горы, нізіны, плоскаўзвышшы, вульканы. Землятрасеньні. Падыманьне і апусканьне земнае кары. Зьмены рэльефу земнае паверхні. Умець пералічыць і паказаць на карце галоўныя горы, плоскаўзвышшы, нізіны.

2. *Карысныя выкапні ў зямлі.* Жалезныя, медныя, марганцавыя і іншыя руды. Каменны вугаль. Нафта. Солі.

3. *Грунтовыя воды.* Крыніцы, руччы, балоты, рэкі. Умець пералічыць і паказаць па карце галоўныя рэкі, вазёры на земнай кулі. Гаспадарчае значэньне рэк, вазёр, балот, мінэральных крыніц (шляхі зносін, крыніцы энэргіі і г. д.).

## *ЗАДАНЬНЕ 4.*

### Клімат, фізыка-географічныя ляндшафты і насельніцтва. (20 гадзін).

1. *Клімат і ад чаго ён залежыць.* Награваньне паветра над сухазем'ем і вадою, атмосфэрны ціск і вятры (брызы, пасаты, мусоны, цыклёны). Морскія плыні. Атмосфэрныя ападкі. Пагода і клімат.

2. *Кліматы земнае кулі. Кліматычная карта зямлі.*

3. *Расьліннасьць, жывёлы і глеба* (карта глебаў земнае кулі).

4. *Фізыка-географічныя ляндшафты.* Полярная пустыня, тундра, тайга, мешаны і лістовы лес, лесастэп, стэп, пустыня, падтропічная вобласьць, саваны, тропічны лес, горныя ляндшафты. Зьмены прыродных ляндшафтаў пад уплывам тэхнікі чалавека.

5. *Насельніцтва земнае кулі.* Лік насельніцтва, гушчыня, заняткі.

---

АДДЗЕЛ ДРУГІ.

# Політыка-географічны агляд зямлі.

## *ЗАДАНЬНЕ 5.*

### Саюз савецкіх соцыялістычных рэспублік. (18 гадз.).

1. *Політычная карта СССР.* Самастойныя саюзныя рэспублікі— БССР, УССР, РСФСР, ЗСФСР, Тур. ССР, Узб. ССР, Тад. ССР.

2. *Кароткі фізыка-географічны агляд СССР:* географічнае палажэньне, тэрыторыя, лік і гушчыня насельніцтва, рэльеф, найвялікшыя рэкі; карта раёнаў кам. вугалю, жалезнае руды, нафты. Буйныя прамысловыя і партовыя гарады (Масква, Ленінград, Харкаў, Архангельск, Уладзівасток, Сталінград, Растоў н/Доне, Адэса.

3. *Суадносіны СССР з імпэрыялістычнымі дзяржавамі.*

## *ЗАДАНЬНЕ 6.*

### Брытанская і Цэнтральна-Эўропэйскія імпэрыялістычныя групы. (18 гадз.).

1. *Англія як імпэрыялістыстычная дзяржава.* Кароткі фізыка-географічны агляд Англіі (географічнае палажэньне, тэрыторыя, лік і гушчыня насельніцтва, раёны каменнага вугалю і жалезнае руды, вадзяныя шляхі, найвялікшыя прамысловыя і партовыя гарады).

2. *Галоўныя колёніі Англіі* (доміньёны, уласна колёніі, протэктараты, мандатныя тэрыторыі).

3. *Дзяржавы Пірынэйскага і Скандынаўскага паўвострава і дробныя дзяржавы берагоў Нямецкага і Бальтыцкага мораў.* Назвы гэтых дзяржаў і месца на карце.

4. *Кароткі фізыка-географічны агляд дзяржаў Пярэдняй Азіі* (Турцыя, Пэрсыя, Аўганістан) *і Голяндзкай Індыі.*

5. *Апорныя пункты ангельскага імпэрыялізму на сусьветных шляхох і пункты супярэчнасьцяй з іншымі дзяржавамі.*

---

1. *Францыя, Германія, Італія як найбольш буйныя імпэрыялістычныя дзяржавы Зах. Эўропы.* Кароткі фізыка-географічны агляд кожнае дзяржавы.

2. *Польшча, Румынія, Вэнгрыя, Чэха-Славаччына, дзяржавы Балканскага паўвострава і Альпійскіх гораў.* Месца азначаных дзяржаў на карце.

3. *Супярэчнасьці паміж буйнымі імпэрыялістычнымі дзяржавамі Цэнтральнай Эўропы* (Францыя, Германія, Італія) і з іншымі імпэрыялістычнымі дзяржавамі.

## *ЗАДАНЬНЕ 7.*

**Амэрыканская і Далёка-ўсходнія імпэрыялістычныя групы.** (13 гадз.).

*1. Паўночна-амэрыканскія злучаныя штаты як імпэрыялістычная дзяржава.* Кароткі фізыка-географічны агляд Злучаных Штатаў.

*2. Колёніі і тэрыторыі імпэрыялістычнага ўплыву Злучаных штатаў.* Востравы: Порта-Рыка, Піліпінскія, дзяржавы Цэнтральнай і Паўднёвай Амэрыкі (умець паказаць на карце і ўказаць галоўнейшыя прыродныя багацьці дзяржаў: Мэксікі, Нікарагуа, Панамы, Вэнэцуэлі, Бразіліі, Аргентыны, Чылі).

*3. Апорныя пункты амэрыканскага імпэрыялізму і пункты супярэчнасьцяй з брытанскім і японскім імпэрыялізмам.*

---

*1. Японія, як імпэрыялістычная дзяржава Далёкага Ўсходу.*

*2. Кітай, як паўколёнія і месца супярэчнасьцяй імпэрыялістычных дзяржаў.* Кароткі фізыка-географічны агляд Японіі і Кітаю.

*3. Колёніі Японіі і яе супярэчнасьці з іншымі імпэрыялістычнымі дзяржавамі.*

---

## ЗАДАНЬНЕ ПЕРШАЕ.

### ТЭМА: Зямля, яе рухі і геаграфічная карта.

### УСТУП.

Перш, чым прыступіць да вывучэньня курсу географіі, неабходна высьветліць два пытаньні: 1) што вывучае географія, 2) для чаго патрэбна вывучэньне географіі.

Назва „географія" ўзята з грэцкае мовы. Калі гэта слова перакласьці на беларускую мову, дык яно будзе азначаць: *гео*—зямля, *графо*—апісваю, інакш кажучы, апісаньне зямлі ці зямляапісаньне. Географія вывучае палажэньне нашае зямлі ў сусьветных прасторах, дае нам разуменьне аб сухазем'і, вадзе, якія пакрываюць зямлю, аб атмосфэры, аб выкапнях, расьлінах, жывёлах і, нарэшце, аб чалавеку і яго гаспадарчай дзейнасьці. Абхопліваючы такі шырокі матэрыял, географія падзяляецца на спэцыяльныя часткі: фізычную географію, палітычную і экономічную географію. Фізычная географія мае пераважна справу з зямлёю, яе паверхняю, кліматам, расьліннасьцю, жывёламі. Прадметам палітычнай географіі зьяўляецца азнаямленьне з тым, як і дзе разьмешчаны на зямлі асобныя дзяржавы. Экономічная географія галоўным чынам займаецца разглядам разьмяшчэньня гаспадарчай дзейнасьці людзей у абшарах, па тэрыторыі. Мэтаю яе зьяўляецца выяўленьне характэрнага ў разьвіцьці паасобных экономічных раёнаў і спэцыфічных асаблівасьцяй клясавай барацьбы ў іх.

Мэтаю нашага першага заданьня па фізычнай географіі зьяўляецца *вывучэньне зямлі як сусьветнага цела і паняцьце аб геаграфічнай карце.*

Перш чым азнаёміцца з зямлёю як з сусьветным целам і прыступіць да распрацоўкі пытаньня аб геаграфічнай карце, неабходна выявіць, што такое горызонт і краі сьвету. Гэта дапаможа нам распрацаваць асноўныя пытаньні нашага заданьня. Выходзячы з пастаўленае мэты, мы раім распрацаваць заданьне паводле наступнага пляну.

**Плян тэмы:**

1. Горызонт і краі сьвету.
2. Форма і велічыня зямлі.
3. Рух зямлі наўкола васі і градусная сетка.

4. Географічная карта.
5. Рух зямлі наўкола сонца і сонечная сыстэма.
6. Утварэньне і будова зямлі.

**Літаратура і дапаможнікі.**

1. Вучэбна-дапаможны матэрыял у канцы заданьня.
2. Глёбус. Для выпрацоўкі правільнага ўяўленьня велічыні і палажэньня земнае кулі ў адносінах да сонца глёбус зьяўляецца лепшай дапамогай, бо ён ёсьць модэль земнае кулі (у каго няма глёбуса— раім карыстацца ім у школе, клюбе).
3. „Географический атлас в 16 таблицах под редакцией *Шокальского*, стар. 1, 2, 3, 4. (Трэба падпісаць у атлясе старонкі. Усяго ў ім старонак 16).

Увага. Падручнікі і дапаможнікі па ўсім курсе географіі паказаны ў канцы паясьняльнай запіскі да програмы.

## Мэтодычныя паказаньні да самастойнай распрацоўкі.

Наша парада, як распрацоўваць заданьне. Перш за ўсё неабходна прачытаць уступ да заданьня і высьветліць тую асноўную мэту, якая ставіцца ў заданьні для вырашэньня. Пасьля гэтага патрэбна азнаёміцца з плянам ці разьдзеламі тэмы заданьня і падрыхтаваць літаратуру і дапаможнікі, якія вызначаны для распрацоўкі заданьня. Калі ўсё гэта зроблена, можна прыступаць да распрацоўкі паасобных разьдзелаў тэмы. Па кожным разьдзеле тэмы ў заданьні вызначан той вучэбны матэрыял, які трэба прачытаць. Раім матэрыял гэты чытаць не сьпяшаючыся, абдумваючы кожнае слова, кожную фразу. Можна чытаць голасна, калі дазваляюць умовы. Пры чытаньні ўважліва трэба разглядаць усе малюнкі, табліцы, якія сустракаюцца. Калі паасобныя артыкулы ў вучэбным матэрыяле вялікія і іх за раз прачытаць цяжка, можна чытаць па частках. Пасьля таго, як вызначаны па разьдзеле вучэбны матэрыял прачытаны, прачытайце пытаньні для самаправеркі, якія напісаны ў канцы кожнага разьдзелу пляну. Калі вы ня можаце даць адказу на некаторыя пытаньні, дык чытайце незразумелыя месцы другі, трэці раз. Калі і пасьля гэтага паасобныя пытаньні застануцца для вас незразумелымі—запішэце іх у сшытак і зьвярнецеся за консультацыяй.

Пасьля таго, як усе разьдзелы пляну вамі распрацаваны, дык як вынік працы неабходна выканаць пісьмовую контрольную работу, тэма якое зьмяшчаецца ў канцы заданьня. Праца гэта перасылаецца ў канцылярыю Завочнакурсавога сэктару Комвузу для рэцэнзіі.

Зьвяртаем асаблівую ўвагу на неабходнасьць уважлівага разгляду малюнкаў, карт, схэм, якія сустракаюцца ў вучэбным матэрыяле. Гэта дапамагае распрацоўцы заданьня.

## Да разьдзелу I пляну—Горызонт і краі сьвету.

Асноўнымі пытаньнямі, якія паўстаюць у першым разьдзеле, зьяўляюцца наступныя:

1. Што такое горызонт?
2. Якія ёсьць краі горызонту?
3. Якімі спосабамі знаходзяць краі гарызонту ці краі сьвету?

Разабрацца ў азначаных пытаньнях лёгка. Трэба толькі ўважліва прачытаць па вучэбна-дапаможным матэрыяле артыкул: „Горызонт і краі сьвету“ да канца і разгледзець малюнкі, якія зьмешчаны ў тэксьце артыкулу. Прачытаўшы артыкул, папрактыкуйцеся знаходзіць на небе сузор‘е (созвездие) „Вялікую мядзьведзіцу“ і Полярную зорку. Шукаць іх трэба ў зорны вечар на паўночнай палове неба.

### Пытаньні для самаправеркі.

Прачытаўшы па вучэбна-дапаможным матэрыяле артыкул: „Горызонт і краі сьвету“, адкажэце на пытаньні:

1. Што завецца горызонтам?
2. Назавеце галоўныя і другарадныя краі сьвету?
3. У які бок (управа, улева, уверх, уніз) на горызонце, які намалёван у вучэбна-дапаможным матэрыяле (гл. мал. 1) будуць галоўныя краі сьвету?
4. Як знайсьці краі сьвету па паўдзённай цені?
5. Як знайсьці поўнач у зорную ноч?
6. Як знаходзяць краі сьвету пры дапамозе компасу?
7. Што такое магнітныя полюсы?
8. У якім напрамку варочаецца магнітная стрэлка на магнітным полюсе?
9. Чаму компас зьяўляецца неабходнай прыладай на караблёх і аэроплянах?

---

## Да разьдзелу II пляну—Форма і велічыня зямлі.

Сучасная навука мае дакладныя весткі аб форме і велічыні зямлі. Аб гэтым даволі яскрава сказана і ў вучэбна-дапаможным матэрыяле. Чытаючы вучэбна-дапаможны матэрыял, неабходна зьвярнуць увагу на спосабы, якімі даказваецца, што зямля мае форму кулі. Пры распрацоўцы гэтага разьдзелу прыдзецца сустракацца з такімі разуменьнямі (паняцьцямі), як радыус, дыямэтр. Высьветлім гэта на малюнку 1. Перад намі круг. Такі круг атрымаецца калі кулю разрэзаць на дзьве роўныя часткі. Лінія, якая абмяжоўвае плошчу круга, завецца акружынай. Лінія, якая злучае два процілеглыя пункты акру-



Мал. 1

жыны і праходзіць праз цэнтр круга, завецца дыямэтрам. Лінія, якая злучае цэнтр круга з пунктам акружыны, завецца радыусам.

### Пытаньні для самаправеркі.

Прачытаўшы па вучэбна-дапаможным матэрыяле артыкул „Форма і велічыня зямлі“, адкажэце на пытаньні:

1. Прывядзеце, якія ёсьць довады кулявіднасьці зямлі?
2. Чаму людзі, якія жывуць па той бок зямное кулі, ня падаюць з зямлі?
3. Чаму паветра, якое абкружае зямлю, не адлятае ад зямлі ў сусьветную прастору?
4. Чаму высокія горы, якія знаходзяцца на паверхні зямлі, не парушаюць кулявіднасьці зямлі?

## Да разьдзелу III пляну.—Рух зямлі наўкола восі і градусная сетка.

Асноўная мэта трэцяга разьдзелу нашага пляну—высьветліць наступныя пытаньні.

1. Як адбываецца рух зямлі наўкола васі і ад чаго бывае дзень і ноч?
2. Што мы завем градуснай сеткай і для чаго патрэбна навучыцца чытаць градусную сетку?

Для распрацоўкі гэтых двух пытаньняў па вучэбна-дапаможным матэрыяле неабходна прачытаць артыкулы: 1) „Рух зямлі наўкола восі“, 2) „Градусная сетка“. Зьвяртаем асаблівую ўвагу на апошняе пытаньне—адносна градуснай сеткі. У вучэбным матэрыяле па гэтым пытаньні давядзецца сустрэцца з многімі назвамі, як напрыклад: „глёбус“, „мэрыдыяны“, „экватар“, „географічная даўжыня“, „географічная шырыня“ і г. д. Ва ўсіх гэтых назвах трэба добра разабрацца. Трэба таксама добра разабрацца і ў пытаньні таго практычнага значэньня, якое мае вывучэньне градуснай сеткі. Каб пасьпяхова выканаць усё гэта, неабходна пры чытаньні вучэбна-дапаможнага матэрыялу ўважліва разглядаць усе малюнкі і абавязкова распрацаваць ніжэйзьмешчаныя пытаньні для самаправеркі. Пытаньні гэтыя, каб лягчэй у іх было разабрацца, мы разьбіваем на дзьве часткі, згодна двум мэтавым пытаньням, якія нам патрэбна высьветліць у трэцім разьдзеле. Адзначым іх літарамі „А“ і „Б“.

А. Рух зямлі наўкола восі.

Б. Градусная сетка.

### Пытаньні для самаправеркі.

#### А. Рух зямлі наўкола восі.

1. Чым выклікаецца зьмена дня і ночы на зямлі?
2. Чаму мы не заўважаем руху зямлі?
3. Якія пункты на зямлі завуцца полюсамі?
4. Як адрозьніць на зямлі паўночны полюс ад паўднёвага?

5. Дзе праводзіцца на зямлі экватар?

6. Па якім кірунку праводзяцца на зямлі паралелі і мэрыдыяны?

7. Які мэрыдыян зьяўляецца пачатковым?

8. Што завецца глёбусам?

9. Праглядзеце і пералічэце, якія лініі праводзяцца на глёбусе.

10. Па атлясе Шакальскага на 1-ай стар. праглядзеце малюнкі пад загалоўкам: „Паралелі“, „Мэрыдыяны“ і скажэце;

а) ад якое лініі ідзе лік паралеляй?

б) па якіх двух напрамках ідзе лік паралеляй?

в) ад якое лініі ідзе лік мэрыдыянаў?

г) па якіх двух напрамках ідзе лік мэрыдыянаў?

11. Па якіх напрамках адзначаюцца краі сьвету (усход, захад, поўнач, поўдзень) на глёбусе?

12. Каб папасьці з *БССР* на бераг *Чорнага мора,* трэба ехаць *на поўдзень,* каб папасьці на бераг (сярэдняга цячэньня) *ракі Волгі,* трэба ехаць *на ўсход,* каб папасьці ў г. Ленінград, трэба ехаць *на поўнач.* На падставе гэтага адкажэце, у які бок (уверх, уніз, управа, улева) ад *БССР* на глёбусе знаходзіцца Чорнае мора, Волга, Ленінград?

13. Чаму ў краінах, якія ляжаць на ўсход ад нас, раней будзе ўсходзіць сонца?

14. У г. Уладзівастоку будзе поўнач (12 г. ночы), якая гадзіна ў гэты час будзе ў нас?

15. Што такое паясны час?

16. Чаму пры пераездзе з Сталінграду ў Менск гадзіньнік трэба адагнаць назад на 1 гадзіну?

17. За што ў 1600 г. быў спалены царквою жывым на агні прадстаўнік навукі Джыордано Бруно?

### Б. Градусная сетка.

1. Чаму сетка, якая ўтвараецца на зямлі ад перасячэньня паралеляй, экватара з мэрыдыянамі завецца градуснай?

2. Чаму градусы мэрыдыянаў роўныя, а паралеляй няроўныя?

3. Як вылічыць лінейную даўжыню аднаго градуса паралелі?

4. Разглядзеце малюнак 6 (вучэбна-дапаможны матэрыял) і скажэце:

а) што завецца географічнаю даўжынёю і шырынёю?

б) якая даўжыня завецца ўсходняй, а якая заходняй?

в) якая шырыня завецца паўночнай, а якая паўднёвай?

г) чаму месца, якое абазначана на малюнку зоркаю, мы павінны сказаць, што знаходзіцца пад 60° усходняе даўжыні і пад 30° паўночнае шырыні?

д) знайдзеце географічнае палажэньне месца, якое на малюнку адзначана кружком.

### Да разьдзелу IV пляну—Географічная карта.

Усе мы бачылі географічную карту. Даволі разгарнуць атляс Шакальскага, які мы раілі ў якасьці дапамогі для праходжаньня про-

грамы па географіі, як мы ўбачым цэлы рад карт. На адных з гэтых карт намалявана ўся паверхня зямлі, як на карце—стар. 2, 3, дзе яна адзначана ў выглядзе двух кругоў ці як кажуць *паўкуляй*. На другіх картах намаляваны паасобныя часткі паверхні зямлі. Наша мэта высьветліць такія асноўныя пытаньні:

1. Што такое географічная карта і як яе чытаць?

2. Што завецца маштабам і як ім карыстацца?

Для вывучэньня адзначаных пытаньняў неабходна па вучэбна-дапаможным матэрыяле прачытаць артыкул: „Географічная карта" і распрацаваць з дапамогаю атлясу Шакальскага пытаньні для самаправеркі.

Пытаньне карыстаньня картаю і маштабам мае вялікае значэньне для ваенізацыі, паколькі ў вайсковай справе прыходзіцца заўсёды ўжываць карту і карыстацца маштабам.

**Пытаньні для самаправеркі.**

1. Што мы завем географічнаю картаю?

2. Чаму толькі глёбус зьяўляецца правільным адбіткам паверхні зямлі?

3. Якая карта завецца паўкулямі?

4. Праглядзеце карты па атлясе Шакальскага на старонках 4, 5, 14 і скажэце, чым розьняцца між сабою карты: фізычная, палітычная, экономічная?

5. Што завецца маштабам?

6. Якая розьніца між лінейным і лічбовым маштабам?

7. На карце атлясу Шакальскага (стар. 7) вылічце па лінейным маштабе адлегласьць між Ленінградам і Масквою, між Менскам і Масквою. (Гарады гэтыя знаходзяцца ў паўночна-заходнім куту карты).

**Да разьдзелу V пляну—Рух зямлі наўкол сонца і сонечная сыстэма.**

Асноўнымі пытаньнямі, якія патрэбна высьветліць у гэтым разьдзеле, зьяўляюцца:

1. Як адбываецца рух зямлі наўкола сонца і ад чаго бываюць поры году?

2. Якія на зямлі ёсьць цеплавыя паясы?

3. Які выгляд мае сонечная сыстэма?

4. Як трэба растлумачыць фазы месяца, а таксама сонечнае і месячнае зацямненьне?

Для распрацоўкі пытаньняў па вучэбна-дапаможным матэрыяле неабходна прачытаць артыкулы: 1) „Гадавы рух зямлі ў сувязі з падзелам яе на цеплавыя паясы," 2) „Паняцьце аб сонечнай сыстэме. Пры чытаньні артыкулаў патрэбна ўважліва разглядзець усе малюнкі, якія зьмешчаны ў тэксьце, а таксама малюнкі на першай стар. атлясу Шакальскага пад загалоўкам: „Лунное затмение", „Солнечное затмение", „Времена года" і „Пояса земли". Каб лепш зразумець, ад чаго на зямлі бываюць поры году, раім прарабіць яшчэ такі досьлед: у цём-

ным пакоі запаліць сьвечку ці лямпу і абносіць наўкола лямпы глёбус (адбітак зямлі на кулі) зьлева направа. Глёбус, калі яго няма, можна замяніць звычайнаю куляю (шарам), напрыклад гумавым мячом. Пры гэтым на мячы трэба адзначыць крэйдаю полюсы, экватар. Абносячы кулю, неабходна глядзець, каб вось кулі была некалькі нахілена і каб куля была ў аднэй плошчы з агнём лямпы. Абносіць кулю наўкола лямпы можна на адлегласьці мэтра. Пры абнясеньні ўважліва сачэце, як цень з верхняе паловы кулі будзе пераходзіць на ніжнюю і потым наадварот, а таксама глядзеце, на якія часткі кулі праменьні ад лямпы будуць падаць проста, а на якія коса.

## Пытаньні для самаправеркі.

**А. Гадавы рух зямлі і падзел на цеплавыя паясы.**

1. У колькі часу зямля адзін раз абыходзіць наўкола сонца?

2. Як завецца той шлях, па якім зямля рухаецца наўкола сонца?

3. Якую форму мае гэты шлях?

4. Пакажэце орбіту зямлі на малюнку 7 (глядзі вучэбна-дапаможн. матэрыял).

5. Разглядзеце малюнак 7 і скажэце, які напрамак мае земная вось у адносінах да орбіты ў часе руху зямлі наўкола сонца?

6. Як асьвятляліся-б паасобныя часткі земнае кулі, калі-б вось зямлі да плошчы орбіты стаяла пэрпэндыкулярна?

7. Разглядзеце малюнак 7 (вучэбна-дапаможны матэрыял) і скажэце:

а) у якіх частках земнае кулі сонца бывае проста над галавою, (у зэніце) ці іначай гаворачы, на якія часткі зямлі праменьні сонца падаюць проста?

б) як завуцца лініі, якія абмяжоўваюць часткі зямлі, на якія праменьні сонца падаюць проста?

в) што паказваюць полярныя кругі?

г) ад чаго на зямлі бываюць поры году?

д) у якім палажэньні знаходзіцца зямля ў часы веснавога роўнадзенства і асеньняга роўнадзенства (20 сакавіка, 23 верасьня)?

е) у якім палажэньні знаходзіцца зямля ў самы кароткі і самы доўгі дзень у паўночнай палове земнае кулі (22 сьнежня, 22 чэрвеня)?

ж) калі ў паўночнай паўкулі будзе зіма, якая пара году будзе ў паўднёвай паўкулі?

8. Разглядзеце па вучэбна-дапаможным матэрыяле мал. 8 і скажэце, чаму праменьні сонца, калі яны падаюць проста, мацней награваюць зямлю, чым тады, калі яны падаюць коса?

9. Разглядзеце па вучэбна-дапаможным матэрыяле мал. 9 і па атлясе малюнак: „Пояса земли“, (ст. 1) і скажэце, колькі на зямлі

ёсьць цеплавых паясоў, як яны завуцца і паміж якімі лініямі кожны з іх знаходзіцца?

10. У якім цеплавым поясе мы жывем?

11. У які бок ад нас знаходзіцца гарачы пояс і паўднёвы халодны пояс?

**Б. Сонечная сыстэма.**

1. Чаму з зямлі сонца здаецца невялічкім кругам?

2. Разглядзеце малюнак 10-ты і пералічэце плянэты ў парадку іх адлегласьці ад сонца.

3. Між якімі плянэтамі рухаецца наша зямля?

4. Разглядзеце малюнак 11-ты і растлумачце фазы (квадры) месяцу.

5. Чаму ў часы поўніку мы месяц увесь бачым, а ў часы маладзіку ня бачым?

6. Разглядзеце на 1-й стар. атлясу Шакальскага малюнкі: „Лунное затмение“, „Солнечное затмение“ і скажэце, у якім палажэньні знаходзіцца зямля, месяц, сонца пры сонечным зацямненьні і пры месячным зацямненьні?

7. У колькі часу сьвет даходзіць да зямлі ад самае блізкае зоркі?

**Да разьдзелу VI пляну—Утварэньне і будова зямлі.**

Прачытаўшы па вучэбна-дапаможным матэрыяле артыкул: „Паходжаньне зямлі і яе абалонак“, адкажэце на пытаньні:

1. Якая навуковая тэорыя ёсьць адносна паходжаньня зямлі і ў чым яе сутнасьць?

Як на паверхні зямлі ўтварылася земная пара, акіяны, моры?

3. Чым можна даказаць, што асяродак зямлі і зараз знаходзіцца ў распаленым выглядзе?

## Тэма для пісьмовай работы: „Зямля і яе рухі“.

**Плян працы.**

1. Якую форму і велічыню мае зямля?

2. Якія рухі робіць зямля?

3. Ад чаго на зямлі бываюць зьмены дня і ночы?

4. Паводле якое прычыны ўсход сонца раней бывае ў мясцох, якія ляжаць на ўсход ад нас?

5. Што зьяўляецца прычынай пораў году на зямлі?

6. Чаму паверхня зямлі ня ўсюды награецца аднолькава?

7. На якія цеплавыя паясы падзеляецца паверхня зямлі?

8. Як завуцца лініі, якія разьдзяляюць цеплавыя паясы і што яны паказваюць?

9. Ад чаго бывае зацямненьне сонца і месяцу?

10. Якія яшчэ плянэты апроч зямлі рухаюцца навокал сонца?

Просьба адказы на кожнае пытаньне даваць так, каб між адказамі мелася сувязь і каб такім чынам атрымалася апавяданьне. Пісаць просім чытэльна, чыста і ясна, каб лёгка было чытаць. Пры гэтым неабходна пакідаць палі для рэцэнзэнтаў (кіраўнікоў), якія будуць пераглядаць вашы працы. У дадатак да пісьмовай працы просім разьвязаць два практычныя пытаньні і адказ на іх разам з пісьмоваю працаю прыслаць для рэцэнзіі.

1. Па атлясе Шакальскага на карце—„Европа политическая" (стар. 5) найдзеце г. Менск і запішэце адказ на пытаньне: Пад якім градусам геаграфічнае даўжыні і шырыні знаходзіцца г. Менск?

2. На тэй-жа карце паводле маштабу вылічце і запішэце адказ на пытаньне: Колькі кілёмэтраў будзе між Менскам і Ленінградам, калі лічыць па простай лініі?

---

# ВУЧЭБНА-ДАПАМОЖНЫ МАТЭРЫЯЛ.

## 1. Горызонт і краі сьвету.

(*Да 1-га разьдзелу пляну*).

Калі выйсьці на роўную адкрытую мясцовасьць і глянуць наўкола сябе, дык можна заўважыць, што мы стаімо сярод вялікага круга, на краі якога як-бы абапіраецца нябеснае скляпеньне. Акружына ці край гэтага кругу завецца *горызонтам.*

Кожную раніцу сонца ўсходзіць з-пад горызонту і рухаецца па небе, асьвятляючы і саграваючы зямлю. Той край горызонту, дзе сонца ўсходзіць, завецца *ўсходнім краем* або проста *ўсходам,* супроцьлеглы край горызонту завецца *захадам.* Край горызонту, над якім сонца бывае ў поўдзень, завецца *поўднем,* а супроцьлеглы яму край—*поўначчу.* Усход, захад, поўдзень, поўнач інача завуцца краямі сьвету. Адзначаныя краі сьвету ці краі горызонту завуцца *галоўнымі.* Апроч галоўных краёў сьвету ёсьць *другарадныя,* якія ляжаць між галоўнымі краямі: так, між усходам і поўднем ляжыць *паўднёвы ўсход,* між поўднем і захадам — *паўднёвы захад,* між захадам і поўначчу—*паўночны захад,* між поўначчу і ўсходам—*паўночны ўсход.*



Мал. 1. Краі сьвету.

Горызонт звычайна рысуюць у выглядзе акружыны, пры гэтым поўнач заўсёды адзначаецца ўверсе акружыны, поўдзень—унізе, усход—направа, захад — налева. Другарадныя краі горызонту азначаюцца між імі. Назвы краёў сьвету адзначаюцца беларускімі, расійскімі, а часьцей пачатковымі літарамі нямецкіх слоў: N—поўнач (норд па-нямецку),

S—поўдзень (зюд), O—усход (ост), W—захад (вест), NO—паўночны ўсход, SO—паўднёвы ўсход, SW—паўднёвы захад, NW—паўночны захад (глядзі малюнак 1).

Уменьне знаходзіць краі сьвету мае вялікае практычнае значэньне: яно дапамагае орыентавацца ў навакольнай мясцовасьці. Калі мы можам знайсьці краі сьвету, дык мы можам дакладна ўказаць, у які бок, напрыклад, наш колгас, горад ляжыць ад другога колгасу, гораду. Калі-б маракі ня ўмелі знаходзіць краі сьвету, дык яны не маглі-б праводзіць караблі па морах і акіянах у намечаныя прыстані. Калі паляўнічы, які знаходзіцца ў вялікім незнаёмым лесе, ня можа знайсьці краёў сьвету, дык ён лёгка можа заблудзіцца і ня выйсьці ў патрэбнае месца.

Краі сьвету можна знайсьці па сонцы, а ноччу па полярнай зорцы *, калі неба не закрыта хмарамі і ва ўсякі час—пры дапамозе прылады *компасу*.



Мал. 2. Магнітная стрэлка компасу.

Компас — гэта сталёвая намагнічаная стрэлка, якая круціцца на кароценькай тонкай іголцы (шпяньку) (глядзі мал. 2). Уласьцівасьць гэтае стрэлкі тая, што яна адным канцом заўсёды сама паварочваецца на поўнач, а другім на поўдзень. Паўночны канец стрэлкі звычайна зарысоўваюць у чорны колер. Зьмяшчаюць стрэлку часта ў круглую каробку, на дне якое ў выглядзе зоркі нарысаваны кірункі краёў сьвету. Гэты рысунак завецца „розаю вятроў“.



Мал. 3 Сузор'е „Вялікая Мядзьведзіца“.

Вышэй мы сказалі, што канцы стрэлкі компасу накіраваны на поўнач і поўдзень. Тыя пункты на поўначы і поўдні, да якіх накіроўваюцца стрэлкі компасу, завуцца *магнітнымі полюсамі.* Магнітныя полюсы прыцягваюць стрэлку компасу. Магнітныя полюсы не супадаюць з географічнымі полюсамі. Паўночны, напрыклад, магнітны полюс знаходзіцца ў полярнай частцы Паўночнай Амэрыкі на паўвостраве Буціа. На магнітных полюсах канцы стрэлкі компасу варочаюцца ў вэртыкальнай роўніцы: уверх—уніз. У некаторых мясцох земнае кулі, дзе ў зямлі ёсьць вялікія залежы жалезнае руды, стрэлка

---

*) У зорысты вечар на паўночнай палове неба можна бачыць сем яркіх зор, якія разьмешчаны на выгляд каўша (глядзі малюнак № 3). Гэта будзе сузор'е—*Вялікая мядзьведзіца*. Калі ўмоўна цераз дзьве крайнія зоры правесьці лінію і працягнуць яе далей у бок, у які павернут коўш Мядзьведзіцы, дык гэтая лінія сустрэне яркую зорку, так званую *Полярную зорку*. Полярная зорка заўсёды будзе на поўначы.

компасу адхіляецца ад правільнага кірунку ў напрамку жалезнае руды. Гэта зьявішча завецца *магнітнай аномаліяй.* У нас вядома магнітная аномалія недалёка ад г. Курску, дзе знойдзены вялізарныя залежы жалезнае руды. Ведаючы па компасе, дзе будзе поўнач, поўдзень, лёгка знайсьці любы край сьвету. (У які бок—правы, левы будзе ўсход, калі стаць тварам да кірунку чорнага канца стрэлкі компасу?). Компас зьяўляецца неабходнай прыладай на караблёх, аэропляцах, пры вымерваньнях на зямлі. (Чаму?).

## 2. Форма і велічыня зямлі.

*(Да II разьдзелу пляну).*

Людзі нават адукаваныя доўгі час лічылі, што паверхня зямлі ня круглая, а плоская. Незразумелым для людзей зьяўлялася таксама і тое, што калі зямля мае форму кулі (шара), дык чаму ня падаюць з гэтае кулі рэчы, якія знаходзяцца на споднім баку зямлі і як могуць існаваць людзі, якія ходзяць уніз галавою і г. д. Незразумелым зьяўлялася і тое, на чым трымаецца земная куля. У канцы*) XV і пачатку XVI стагодзьдзя навукаю было дасканала ўстаноўлена, што зямля па сваёй форме зьяўляецца куляю.

Доказам таго, што зямля ёсьць куля, зьяўляецца ўсемясцовая пукатасьць (выпукласьць) земнае паверхні. Калі мы падыходзім да гораду, дык на краі горызонту мы спачатку ўгледзім верхавіны высокіх прадметаў (вярхі фабрычных комінаў, радыёмачтаў), а потым больш нізкія прадметы, як дрэвы, будынкі і г. д. Наадварот, калі мы адыходзім ад гораду, дык за краем горызонту спачатку хаваюцца нізкія прадметы, а потым высокія. Тое самае бывае, калі стаяць на беразе мора і сачыць за адыходзячым караблём. Спачатку з нашых вачэй хаваецца ніжэйшая, сярэдняя частка, а потым верхняя частка і верхавіны мачтаў. Гэтыя назіраньні ўпэўніваюць, што як паверхня сухазем'я, так і паверхня вады пукатая. Пукатую ці круглую ўсюды паверхню мае толькі куля. Значыцца зямля, як прадмет, што мае ўсюды круглую паверхню, мае форму кулі.

Кулявіднасьць зямлі даказваецца яшчэ назіраньнямі над зорамі. Полярную зорку мы заўсёды бачым на поўначы неба на некаторай вышыні над горызонтам. Калі ісьці па простай лініі на поўнач, дык Полярная зорка будзе падымацца ўсё вышэй і вышэй і ўрэшце яна стане ў зэніце, гэта значыцца проста над галавою. Калі ісьці на поўдзень у адваротным кірунку, дык Полярная зорка будзе ўсё апушчацца, пакуль не схаваецца за горызонтам. Аб кулявіднасьці зямлі гавораць ускосна кругасьветныя падарожжы.

Сутнасьць кругасьветнага падарожжа заключаецца ў тым, што калі выехаць з якога-кольвек месца зямлі і ехаць усё наперад па

*) Аб тым, што зямля мае форму кулі, старадаўняя навука ведала за 2000 гадоў да нашага часу, а потым гэтая думка была забыта.

адным напрамку, дык мы ніколі не даедзем да краю зямлі, а вернемся на тое-ж месца, з якога выехалі, толькі з супроцьлеглага боку. Першае такое кругасьветнае падарожжа было зроблена Магеланам у пачатку XVI стагодзьдзя. Само па сабе кругасьветнае падарожжа не магло зьявіцца доказам кулявіднасьці зямлі, але яно ўпэўнівае, што ў часы такога падарожжа людзі з розных месц бачаць не адны і тыя-ж зоры, што ўсюды над галавою людзей будзе неба, што зямля ні на што не апіраецца і што яна трымаецца ў сусьветных прасторах так, як трымаюцца месяц, сонца, зоры.

Усе рэчы, якія знаходзяцца на зямлі, прыцягваюцца да яе цэнтру і ня могуць упасьці ў акружаючыя прасторы. Людзі, якія жывуць на розных бакох зямлі, таксама прыцягваюцца да цэнтру зямлі. Усюды яны бачаць над сабою блакітнае неба, якое ў выглядзе скляпеньня раскінулася над зямлёю. Неба здаецца нам блакітным з тае прычыны, што земная куля на значную вышыню абкружана пластом паветра, якое таксама прыцягваецца да цэнтру зямлі і якое ў сваёй масе мае блакітны колер.

Земная куля вельмі вялікая. Аб велічыні яе гаворыць тое, што радыус (лінія, якая злучае пункт паверхні кулі з яе цэнтрам) зямлі, ці інакш кажучы адлегласьць ад паверхні зямлі да яе цэнтру, раўняецца 6.400 кілёмэтрам. Самыя высокія горы на паверхні зямлі не перашкаджаюць ёй быць кулявіднаю, бо іх вышыня ў параўнаньні з велічынёю зямлі зусім нязначная. Найвышэйшая гара на зямлі (каля 9 кілём.) Эвэрэст складае толькі $^{1}/_{750}$ частку земнага радыусу. Калі-б вышыню гэтае гары трэба было адзначыць на кулі з радыусам у паўтара мэтры, дык і тады-б яна зьяўлялася маленькім струпікам вышынёю крыху больш за таўшчыню звычайнае паперы.

### 3. Рух зямлі наўкола восі.

*(Да III разьдзелу пляну).*

Людзі доўгі час думалі, што зьмена дня і ночы адбываецца з прычыны руху сонца наўкола зямлі. Калі мы назіраем за сонцам, дык нам і здаецца так, што сонца рухаецца наўкола зямлі з усходу на захад, асьвятляючы то адзін, то другі бок зямлі. На самай справе зьмена дня і ночы адбываецца ня з прычыны руху сонца наўкола зямлі, чаго ня бывае, а з прычыны таго, што зямля круціцца наўкола самой сябе, ці, як кажуць, наўкола свае восі, накшталт таго, як круціцца ваўчок. Рух гэты зямля робіць з захаду на ўсход. Пры гэтым кручэньні яна падстаўляе пад праменьні сонца то адзін, то другі свой бок. Ад гэтага і бывае дзень і ноч. Знаходзячыся на зямлі, мы не заўважваем яе руху, усяроўна, як часта, едучы ў вагоне па чыгунцы і гледзячы ў вакно, мы не заўважваем руху вагону. Нам здаецца, што вагон стаіць на месцы, а насустрач нам бягуць тэлеграфныя слупы, дрэвы і г. д. Калі-ж прыняць пад увагу, што зямля круціцца ў сусьветных прасторах бяз усякіх штуршкоў, што разам

з зямлёю круціцца акружаючае зямлю паветра, прадметы, якія знаходзяцца на зямлі, дык ня дзіўна, што мы руху зямлі не заўважаем.

Першы рух зямлі даказаў вучоны Копэрнік у палове XVI ст. Ён напісаў кнігу, у якой давёў, што рух сонца наўкола зямлі з усходу на захад—зьявішча, якое нам здаецца і адбываецца яно з прычыны кручэньня зямлі наўкола восі з захаду на ўсход. Вучэньне Копэрніка царква прызнала богапраціўным. Толькі сьмерць вызваліла Копэрніка ад гвалтаў царквы, а яго пасьлядоўнік Джыордано Бруно ў 1600 г. быў спалены царквою жывым на агні.

На ўсякай кулі, якая круціцца, ёсьць два нярухомыя супроць леглыя пункты, якія зьяўляюцца канцамі восі кулі, што круціцца. Такія нярухомыя пункты ёсьць і ў земнай кулі. Завуцца яны полюсамі. Пры гэтым адзін з гэтых пунктаў, які абернуты да Полярнай зоркі, завецца *паўночным полюсам*, а супроцьлеглы яму пункт завецца паўднёвым полюсам (глядзі мал. 4). Пры вярценьні зямлі наўкола свае восі, як вышэй мы гаварылі, полюсы застаюцца нярухомымі, а ўсе астатнія пункты на паверхні земнае кулі апісваюць кругі. Кругі гэтыя, чым далей ад полюсаў, усё павялічваюцца. Завуцца яны *паралелямі*. Самы большы з гэтых кругоў, які праходзіць пасярэдзіне




Мал. 4. Экватар, полюсы, мэрыдыяны і вось земнае кулі.

зямлі на роўнай адлегласьці ад абодвых полюсаў, завецца *экватарам*. Экватар падзяляе зямлю на дзьве палавінкі ці дзьве *паўкулі—паўночную і паўднёвую*. Праз абодвы полюсы ў напрамку паўдзённае цені таксама праводзяцца кругі, якія перасякаюць экватар, паралелі. Завуцца яны *мэрыдыянамі*. Мэрыдыянам лічыцца палова такога кругу (глядзі мал. 4) Адзін з мэрыдыянаў, які праходзіць праз горад Англіі—Грынвіч, недалёка ад Лёндону, завецца галоўным. Па мэрыдыяне падзяляюць зямлю на дзьве паўкулі—*заходнюю і ўсходнюю*. Калі вымерыць зямлю па экватары і па крузе мэрыдыян, дык атрымаецца, што даўжыня экватару (40.076 кіл.) будзе большая, чым даўжыня круга мэрыдыян (40.007 кіл.). Тлумачыцца гэта тым, што ў напрамку полюсаў зямля крыху сплюснута.

Вядомая рэч, ні паралеляй, ні мэрыдыянаў ніхто на зямлі на самай справе не праводзіў. Правядзеньне іх трэба дапушчаць умоўна. Навука праз вымярэньні заўсёды можа ўказаць, якая паралель і які мэрыдыян праходзяць праз тую ці іншую мясцовасьць зямлі.

Каб лепш пазнаёміцца з рухам зямлі і з тымі лініямі, якія праводзяцца на паверхні зямлі, неабходна пазнаёміцца з так званым *глёбусам*. Глёбус гэта ёсьць найбольш правільны паказ земнае кулі ў яе сапраўдным выглядзе, інакш кажучы глёбус—гэта модэль зямлі. Глёбус, як і зямля, кулявіднае формы. Ён круціцца на мэталёвым

стрыжні, які завецца восьсю глёбуса. Канцы восі глёбуса, як і канцы восі зямлі, завуцца полюсамі. Верхні полюс зьяўляецца паўночным, а ніжні—паўднёвым. На аднолькавай адлегласьці ад полюсаў, сярод глёбуса праводзіцца экватар. Паралельна экватару ў паўночным і паўднёвым напрамках ад яго праводзяцца паралельныя кругі. Праз абодвы полюсы праводзяцца мэрыдыяны. Усяго паралельных кругоў на земнай кулі налічваецца 180, а мэрыдыянаў 360, бо адзін мэрыдыян складае палову круга. Усіх паралеляй і мэрыдыянаў на глёбусе не праводзяць, а звычайна іх праводзяць праз дзесяць. Лік паралеляй ідзе ад экватара. Экватар абазначаецца лічбаю „О", а ўверх і ўніз (на поўнач і поўдзень) ад экватара адзначаюцца лічбамі паралелі 10, 20, 30 і г. д. Мэрыдыян, як мы гаварылі вышэй, які праходзіць праз Грынвіч, лічыцца галоўным. Ён на глёбусе адзначаецца лічбаю „О", а ад яго направа і налева (на ўсход і захад) адзначаюцца лічбамі іншыя мэрыдыяны—10, 20, 30 і г. д. (Аб гэтым падрабязна будзе ісьці гутарка ў артыкуле: „Градусная сетка").

Краі сьвету на глёбусе разьмяшчаюцца так: направа будзе ўсход, налева—захад, уверх—поўнач, уніз—поўдзень. Знойдзем на глёбусе г. Менск. Ён ляжыць прыблізна на 54 паралелі на поўнач ад экватара. Хто езьдзіў з Менску ў Маскву, ведае, што Масква ад Менску знаходзіцца на ўсход, адсюль, калі на глебусе знайсьці Менск і шукаць Маскву, дык трэба шукаць яе направа ад Менску, Ленінград знаходзіцца на поўнач ад Менску; на глёбусе ён будзе ляжаць уверх ад Менску. Адэса знаходзіцца на поўдзень ад Менску, а на глёбусе будзе—унізе. Бэрлін, сталіца Германіі, знаходзіцца на захад ад Менску, а на глёбусе будзе—налева.


Мал. 5. Дзень і ноч.

Каб пры дапамозе глёбусу відавочна паказаць зьмену дня і ночы на зямлі, добра прапрацаваць досьлед, які паказан на малюнку (глядзі мал. 5). У цёмным пакоі трэба запаліць сьвечку ці лямпу. На адным узроўні з агнём сьвечкі трэба паставіць глёбус і рухаць яго наўкола восі зьлева направа (гэта значыцца з захаду на ўсход). Агонь сьвечкі будзе асьвятляць то адзін, то другі бок глёбусу.

На асьветленым баку будзе дзень, а на супроцьлеглым — ноч. Падобнае адбываецца і ў прыродзе пры круцэньні нашае зямлі наўкола восі.

Свой поўны абарот наўкола восі земная куля робіць за 24 *гадзіны ці суткі*, з прычыны чаго і самы гэты рух завецца *сутачным*. Вышэй мы гаварылі, што кручэньне зямлі наўкола восі адбываецца з захаду на ўсход. Адсюль зразумела, чаму на розных мэрыдыянах поўдзень будзе не ў адзін час. У мясцох, якія ляжаць на ўсход, поўдзень будзе раней, чым у мясцох, якія знаходзяцца на захад. Вы чулі, што ў нашым Саюзе далёка на ўсходзе знаходзіцца г. Уладзівасток. Каб з Менску папасьці ва Ўладзівасток, трэба праехаць на ўсход больш 10.000 кілёмэтраў. Значыцца пры кручэньні зямлі з захаду на ўсход Уладзівасток, які знаходзіцца далёка на ўсход ад Менску, раней асьвятліцца сонцам. Там усход сонца будзе раней, раней будзе і поўдзень. Калі ва Ўладзівастоку будзе поўдзень (12 гадз. дня), у Менску будзе толькі 5 гадзін раніцы. Калі ў Менску будзе поўдзень (12 гадзін дня), ва Ўладзівастоку будзе ўжо 7 гадзін вечара.

Час, мы ведаем, вымяраецца гадзіньнікам. Адсюль гадзіньнік на розных мэрыдыянах у адзін і той-жа момант будзе паказваць не адзін час. Калі, напрыклад, гадзіньнік у Менску будзе паказваць поўдзень (12 г. дня), дык ва Ўладзівастоку ён у гэты момант будзе паказваць 7 гадз. вечара. Значыцца, калі-б мы выехалі па чыгунцы з Менску ў 12 г. дня і праз 10 дзён прыехалі ва Ўладзівасток, пры ўмове, што ў дарозе мы нашага гадзіньніка не пераганялі-б, дык прыехаўшы ва Ўладзівасток нам прышлося-б гадзіньнік пацагнаць на 7 гадзін наперад. Адваротнае, вядома, прышлося б зрабіць, калі-б мы ехалі з Уладзівастоку ў Менск. Тут гадзіньнік прышлося-б адганяць на 7 гадз. Мы для прыкладу ўзялі два гарады Менск і Ўладзівасток, якія знаходзяцца адзін ад другога на вялікай адлегласьці. Можна ўзяць два пункты на меншай адлегласьці. Усяроўна, калі яны ляжаць на розных мэрыдыянах, час у іх будзе розны. Калі ў Ленінградзе будзе, напрыклад, 12 гадз., дык у Маскве будзе 12 г. 29 м., у Саратаве 1 гадз. 3 м. дня і г. д. Адсюль выходзіць, калі пераяжджаць з аднаго месца ў другое на ўсход ці на захад, трэба пераганяць стрэлку гадзіньніка на вядомы лік мінут, гадзін, што зьяўляецца вельмі нязручным пры зносінах і асабліва пры складаньні раскладу руху цягнікоў на чыгунцы. З гэтае прычыны яшчэ ў канцы XIX стагодзьдзя некаторыя краіны перайшлі на так званы *паясны час*, сутнасьць якога ў тым, што ўся паверхня зямлі падзяляецца на 24 паясы. Шырыня кожнага поясу раўняецца 15 градусам ($360° : 24 = 15°$). У межах аднаго-ж і таго-ж поясу прынята лічыць адзін і той-жа час, пры гэтым час таго мэрыдыяна, які праходзіць праз сярэдзіну данага поясу. Час двух сумежных паясоў будзе розьніцца між сабою на 1 г., бо ўсіх паясоў 24. Паясны час дэкрэтам Савету народных камісараў уведзен і ў СССР. Пры гэтым на тэрыторыі СССР праходзіць 11 паясоў. Менск знаходзіцца ў самым заходнім поясе СССР. Пры пераезьдзе з аднаго поясу ў другі, на ўсход, ці захад, гадзіньнік пераганяецца наперад, ці назад на 1 гадз. Напрыклад, Менск ляжыць

у першым поясе з Захаду СССР, г. Сталінград—у другім, Сьвярдлоўск—у трэцім. Адсюль пры пераезьдзе з Менску ў Сталінград гадзіньнік пераганяецца наперад на 1 г., а пры пераезьдзе ў Сьвярдлоўск на 2 г. і г. д. Мы бачым, што і пры паясным часе даводзіцца пераганяць гадзіньнік, але зручнасьць тут будзе тая, што пераганяньне гадзіньніка робіцца на круглы лік гадзін і ня трэба такім чынам блытацца з мінутамі — гэта першае, а другое, што пераганяньне робіцца на вялікай адлегласьці.

### 4. Градусная сетка.

*(Да III разьдзелу пляну).*

У папярэднім артыкуле мы ўжо пазнаёміліся з тымі лініямі, якія праводзяцца на зямлі і глёбусе. Мы ведаем, што на зямлі праводзіцца 180 кругоў, якія завуцца пералелямі, ведаем, што ў напрамку ад аднаго полюсу да другога праводзіцца 360 паўкругоў, якія завуцца мэрыдыянамі. Паралелі (у тым ліку і экватар) і мэрыдыяны, перасякаючыся між сабою, утвараюць градусную сетку. Градуснай гэтая сетка завецца таму, што кожная з ліній, як экватар, паралелі, складаюць акружыны, якія пры перасячэньні мэрыдыянамі падзяляюцца на 360 частак. Кожныя два мэрыдыяны таксама складаюць акружыны, якія перасякаюцца паралелямі і падзяляюцца зноў такі на 360 частак. Адна-ж трохсот шасьцідзесятая частка акружыны завецца градусам. Адсюль і тая сетка кругоў, якая праводзіцца на зямлі, завецца градуснай сеткай. Градусная сетка праводзіцца як на глёбусе, так і на любой географічнай карце. Кожны градус падзяляецца на 60 частак ці як іх завуць іначай на 60 мінут (60′), а кожная мінута падзяляецца на 60 частак ці 60 сэкунд (60″)*).

Вылічана, што лінейная даўжыня аднаго градусу мэрыдыяна роўна прыблізна 111 кілёмэтрам. Лінейная велічыня экватара будзе крыху большая, паколькі, як заўважалася намі раней, земная куля ў напрамку ад полюса да полюса зьлёгку прыплюснута. Але калі прыняць пад увагу, што прыплюшчанасьць гэта ў параўнаньні з велічынёю зямлі вельмі нязначная, дык лінейную даўжыню градуса экватара можна таксама лічыць прыблізна за 111 кілёмэтраў. Вядомая рэч, што лінейная велічыня градусаў паралеляй зьмяншаецца ў напрамку да полюсаў. Каб вызначыць даўжыню аднаго градуса якой-небудзь паралелі, адкладаюць на глёбусе цыркулем (або стужачкай) даўжыню гэтага градусу, затым пераносяць цыркуль на экватар і глядзяць, якую частку градуса экватара займе ўзяты градус паралелі. Ведаючы даўжыню аднаго градуса экватара (111 кілём.) лёгка зрабіць патрэбны разьлік.

*) Скарочана градус азначаецца значком „°“, мінута′, сэкунда″. Напрыклад, 360° 60″ 60′, трэба чытаць 360 градусаў, 60 мінут, 60 сэкунд.

У артыкуле: „Рухі зямлі“, разглядаючы глёбус, мы зазначылі, што адзін з мэрыдыянаў лічыцца галоўным ці пачатковым. Па міжнароднай згодзе галоўным мэрыдыянам прынята лічыць Грынвіцкі, які праходзіць праз горад Грынвіч (каля Лёндану).

Галоўны мэрыдыян азначаецца лічбаю „О“ і ад яго на ўсход (на карце направа) і захад (на карце налева) адлічваюцца іншыя мэрыдыяны— 10, 20, 30 і г. д. да 180. Паралелі-ж, як мы ведаем, лічацца ад экватара на поўнач і поўдзень (на карце ўверх, уніз)—10, 20 30 і г. д. да 90.

Па градуснай сетцы вызначаюць адлегласьць месца ад пачатковага мэрыдыяна ці экватара. Адлегласьць гэта вызначаецца звычайна лікам градусаў, мінут і сэкунд. Пры гэтым трэба добра памятаць, што адлегласьць месца ад экватара на поўнач ці паўдня завецца географічнаю *шырынёю*, адлегласьць-жа месца ад пачатковага мэрыдыяна на ўсход ці захад завецца географічнаю *даўжынёю*. Шырыня, як гэта відаць з папярэдняга, бывае паўночная, калі месца знаходзіцца на поўнач ад экватара і паўднёвая, калі месца ляжыць на паўдня ад экватара. Таксама і даўжыня бывае ўсходняя, калі месца ляжыць на ўсход ад пачатковага мэрыдыяна і заходняя, калі месца ляжыць на захад ад пачатковага мэрыдыяна.

Адсюль, калі нам кажуць, што месца знаходзіцца пад 30-м градусам паўночнае шырыні і 60-м градусам усходняй даўжыні, дык яго трэба шукаць на перасячэньні 30 паралелі з 60-м мэрыдыянам на поўнач ад экватара і на ўсход ад пачатковага мэрыдыяна. (Гл. мал. 6). Каб лепш зразумець, як практычна на карце знаходзіць географічную шырыню і даўжыню якоганебудзь месца, разгледзім такі прыклад: Па атлясу Шакальскага знойдзем карту: „Азия политическая“ (старонка 7-я). На карце мы бачым градусную сетку. Унізе карты праходзіць экватар, які азначан лічбаю „О“. Ад яго ўверх і ўніз (на поўнач і поўдзень) адзначаны лічбамі паралелі: 10, 20 і г. д. (глядзеце з бакоў карты). Уверсе карты, дзе напісана: „Северное полярное море“, мы бачым галоўны мэрыдыян, які адзначаны лічбаю „О“. Ад яго ўправа і ўлева (на ўсход і захад) ідуць лічбы: 10, 20, 30 і г. д., якімі паказаны іншыя мэрыдыяны.



Мал. 6
Градусная сетка на глёбусе.

Знойдзем у левым куту карты зьверху гор. Ленінград і вызначым яго географічныя даўжыню і шырыню. Пачнем з географічнае шырыні. Шырыня, як мы ведаем, паказвае адлегласьць месца ад экватара на поўнач ці поўдзень і вызначаецца паралелямі. Ленінград, мы бачым, знаходзіцца на поўнач (на карце ўверх) ад экватара. Глядзімо і бачым, што праз Ленінград праходзіць 60-я паралель—адсюль мы і гаворым, што Ленінград знаходзіцца пад 60-м градусам паўночнае шырыні.

Знойдзем географічную даўжыню Ленінграда. Географічная даўжыня, як мы ведаем, паказвае адлегласьць месца ад галоўнага мэрыдыяну на ўсход ці захад (на карце ўправа ці ўлева) і вызначаецца мэрыдыянамі. Глядзімо па карце і бачым, што блізка ля Ленінграду праходзіць 30-ы мэрыдыян і Ленінград знаходзіцца між 30 і 40-м мэрыдыянамі. Дзелім адлегласьць між 30 і 40 мэрыдыянам на 10 частак (як вы ведаеце, мэрыдыяны на карце ўсе звычайна не праводзяцца, а праводзяцца праз 10, 15 і г. д.) і знаходзім, што Ленінград ляжыць прыблізна пад 31-м градусам усходняе даўжыні (даўжыня ўсходняя, бо Ленінград ляжыць управа (на ўсход) ад галоўнага мэрыдыяну). Такім чынам, Ленінград знаходзіцца пад 60-м градусам паўночнае шырыні і пад 31-м градусам усходняе даўжыні. Так знаходзіцца на карце географічнае палажэньне любога месца.

Вельмі важна навучыцца чытаць градусную сетку, для чаго трэба добра навучыцца знаходзіць на карце географічную даўжыню і шырыню таго ці іншага месца. Наколькі важна ўмець разьбірацца ў граднснай сетцы, гаворыць такі прыклад.

Вы чулі і чыталі па газэтах адносна экспэдыцый нашых ледаколаў „Красіна“ і „Малыгіна“, якія былі організаваны Асоавіяхэмам для росшукаў пацярпеўшай аварыю ў Полярным моры каля паўночнага полюсу экспэдыцыі Нобіле. Экспэдыцыя гэта была ўтворана фашыстоўскай Італіяй для падарожжа на паўночны полюс. Кожны дзень у газэтах друкавалася, што „Малыгін“, „Красін“ знаходзяцца пад такім-та градусам паўночнай шырыні, пад такім-та градусам усходняй даўжыні. Ведаючы па карце, як знаходзіць географічную даўжыню і шырыню, можна-б было, чытаючы газэту, узяць карту і знайсьці тое месца, дзе знаходзіліся „Красін“, „Малыгін“. Умець знаходзіць географічную даўжыню і шырыню таго ці іншага месца, гэта значыць умець знаходзіць географічнае палажэньне месца.

### 5. Географічная карта.

*(Да IV разьдзелу пляну).*

Паверхню земнае кулі малююць *на глёбусе.* Глёбус зьяўляецца самым *правільным* адбіткам паверхні зямлі. Гэта ёсьць *модэль зямлі.* Але, каб падрабязна намаляваць земную паверхню, патрэбна было-б зрабіць глёбус аграмаднай велічыні. Такі глёбус, па-першае, дорага каштуе, а, па-другое, нязручны для карыстаньня. Каб на глёбусе, напрыклад, намаляваць падрабязна абшары БССР, дык патрэбна было-б мець справу з глёбусам велічынёю ў 4 павярховы дом.

З гэтае прычыны земную паверхню малююць на лістох паперы. Лісты паперы з адзначэньнем на іх усяе ці часткі поверхні зямлі завуцца *географічнаю картаю.* Географічныя карты, на якіх адзначаецца ўся паверхня зямлі, могуць быць рознай формы. Часта паверхню зямлі малююць у выглядзе двух кругоў, якія завуць паўкулямі, бо

на адным кругу малюецца адна палова земнае кулі, а на другім— другая палова.

Вельмі часта паверхня ўсяе зямлі малюецца ў разгорнутым выглядзе на карце просталінейнае формы ў так званай Мэркартэрскай проекцыі (па імі выдатнага картографа, які жыў у Голяндыі ў XVI стагодзьдзі). Ёсьць і іншыя формы пабудовы географічнае карты ўсяе зямлі. Аднак ні адна з гэтых форм не дае дасканала правільнага адбітку паверхні зямлі, бо зямля мае форму кулі, яе паверхня выпуклая, а такая паверхня можа быць правільна адбіта толькі на глёбусе, які таксама мае выпуклую паверхню. Вось чаму вывучэньне глёбуса неабходна для правільнага ўяўленьня аб нашай зямлі. Ёсьць карты не ўсяе зямлі, а паасобных яе частак, як, напрыклад, карты частак сьвету (Азія, Эўропа, Амэрыка), тых ці іншых краін, дзяржаў (СССР, Японія і г. д.).

Карта паходзіць на плян, бо і плян дае адбітак плошчы, якую займае тая ці іншая адзінка, горад, колгас і г. д. Але карта значна *адрозьніваецца ад пляну. Карта малюецца ў шмат меншым маштабе*, чым плян, на пляне няма градуснае сеткі. З гэтае прычыны на пляне паўночны кірунак, напрыклад, адзначаецца не мэрыдыянамі, як на карце, а стрэлкай. Пры зьёмцы плянаў не зьвяртаецца ўвага на крывізну зямное паверхні, што для карты вельмі важна, бо невялікая частка земнае паверхні (горад, саўгас), якая адбіваецца на пляне, можа быць намалявана, як маючая простую плошчу.

На кожнай географічнай карце, як і на пляне, ёсьць *маштаб*. Маштаб—гэта мерка, якая паказвае, у колькі разоў паменшана сапраўдная велічыня тае рэчы, якая вымерваецца і наносіцца на карту або плян. Напрыклад, перад намі ляжыць якая-небудзь географічная карта. У тым ці іншым куту карты мы заўсёды знойдзем надпіс „маштаб“. Пад надпісам мы ўгледзім лінейку, падзеленую звычайна на сантымэтры. Пры гэтым лічбаю паказана, за які лік кілёмэтраў або мэтраў прыняты на карце сантымэтр. Калі, напрыклад, адзін сантымэтр прыняты будзе за 100 кілёмэтраў, дык гэта азначае, што ўсякая адлегласьць, якая на карце будзе мець даўжыню ў адзін сантымэтр, у сапраўднасьці будзе мець даўжыню 100 *км*. Адсюль па маштабе на карце заўсёды можна вылічыць сапраўдную адлегласьць аднаго месца ад другога. Трэба толькі для гэтага ўзяць стужачкай ці лінейкай адлажыць маленькую мерку (напр., адзін сантымэтр) між пунктамі, сярод якіх мы вылічваем адлегласьць. Пры гэтым трэба па маштабе глядзець, за якую вялікую мерку (кілёмэтр, 10 *км*, 100 *км* і г. д.) узяты сантымэтр пры складаньні карты. Колькі разоў адкладзецца між пунктамі сантымэтр, столькі разоў будзе па 10, 100 *км* і г. д. Такі маштаб, які адзначаецца простай лініяй, завецца *лінейным маштабам*. Апроч лінейнага маштабу ўжываецца яшчэ маштаб лічбовы, дзе ня лініяй, а проста лікам паказана, у колькі разоў па карце паменшана адлегласьць. Калі, напрыклад, па лічбовым маштабе трэба паказаць, што адлегласьць на карце паменшана паводле сапраўднае

ў 100.000 разоў, дык лічбовы маштаб будзе мець выгляд 1:100.000 ці $\frac{1}{100000}$. Каб па такім маштабе вылічыць сапраўдную адлегласьць, трэба ўзяць любую мерку—сантымэтр, цалю, вяршок і адкладваць яго між пунктамі, сярод якімі мы вымяраем адлегласьць. Калі, напрыклад, сантымэтр укладзецца між пунктамі 5 разоў, дык пры лічбовым маштабе $\frac{1}{100000}$ мы сапраўдную адлегласьць будзем мець 5×100.000= =500.000 сантымэтраў ці 500.000:100.000 (1 *км*=100.000 *см*)=5 кілёмэтраў. Лічбовы маштаб зручны тым, што тут вымерваньні можна рабіць любою меркаю (сантымэтрам, цаляю і г. д.), але вялікая яго нязручнасьць тая ў параўнаньні з лінейным, што даводзіцца, вымераўшы адлегласьць, потым рабіць часам складаныя вылічэньні.

Ведаць, як карыстацца маштабам, мае вялікае значэньне для ваенізацыі, бо ў вайсковай справе часта прыходзіцца па карце з дапамогай маштабу хутка вымяраць, на якой адлегласьці знаходзіцца вораг ад таго ці іншага пункту. Каб навучыцца карыстацца маштабам, трэба ўзяць якую-небудзь геаграфічную карту і папрактыкавацца вымяраць адлегласьці.

На геаграфічных картах праводзяць горы, рэкі, якія ёсьць на паверхні зямлі. На іх адзначаюць чыгункі, месцы выкапняў і іншых багацьцяў, месцы знаходжаньня дзяржаў, гарадоў і г. д. Усё гэта на картах адзначаецца ўмоўнымі знакамі. Горы, напрыклад, на карце малююцца густою цёмнаю хварбаю ці густымі штрыхамі, нізіны звычайна ахварбоўваюцца ў зялёны колер, рэкі адзначаюцца зьвілістымі лініямі, моры, акіяны, блакітнаю хварбаю, гарады—кропкамі, кружкамі, выкапныя багацьці—знакам, якія для кожнае карты могуць быць рознымі. Звычайна, калі на карце добра адзначан характар паверхні *мясцовасьці, рэкі, вазёры, кліматычныя, расьлінныя, жывёльныя* паясы і іншыя прыродныя фактары, карта завецца *фізычнаю.* Калі на карце адзначан палітычны падзел тэрыторыі, як межы дзяржаў, іх адміністрацыйныя цэнтры, стратэгічныя пункты, карту завуць *палітычнай.* Калі на карце адзначаны прыродныя багацьці, а таксама разьмяшчэньне гаспадарчае дзейнасьці людзей, карта зьяўляецца *эканамічнай.* Часта на картах прыродныя, гаспадарчыя і палітычныя фактары адзначаюцца злучана,—тады атрымліваецца мешаная карта, як фізыка-экономічная, палітыка-экономічная.

---

## 6. Гадавы рух зямлі ў сувязі з падзелам яе на цеплавыя паясы.

(*Да V разьдзелу*).

### а) Гадавы рух зямлі і поры году.

Зямля, круцячыся навакол сваёй восі, мае таксама паступовы рух навакол сонца. Гэты рух завецца *гадавым*, бо свой кругавы шлях навакол сонца зямля робіць у год, а ўласна ў 365 сутак 5 гадз. 48 мі-

нут і 46 сэкунд. Для вылічэньня часу даўжыня году прымаецца за 365 сутак 6 гадзін, прычым тры *простых* гады маюць па 365 сутак, а 4-ы высакосны—366 сутак. У працягу свайго гадавога звароту навакол сонца зямля робіць каля сваёй восі 365¼ сутачных зваротаў.

Гадавы шлях зямлі навакол сонца завецца *земнаю арбітаю*. Яна мае форму так званага *эліпсу*, трохі прыплюшчанага круга (глядзі мал. 7).

Зямля ляціць па сваёй орбіце шмат хутчэй, чым артылерыйскі знарад (28 кілёмэтраў у сэкунду). Мы не заўважаем гэтай страшэннай хуткасьці, як не заўважваем сутачнага руху, бо зямля імчыцца ў пустой сусьветнай прасторы і ўсё, што акружае нас, нясецца з намі*).

Пры гадавым руху зямлі па орбіце, да сонца паступова раней паварачваецца то паўночная, то паўднёвая паўкуля і адбываецца зьмена пораў году: вясна (21 сакавіка па 22 чэрвеня), лета (22 чэрвеня па 23 верасьня), восень (23 верасьня па 22 сьнежня) і зіма (22 сьнежня па 21 сакавіка).




Мал. 7. Рух наўкола сонца пры нахіленым палажэньні зямное восі.

Якое палажэньне займае земная вось пры руху зямлі па орбіце? Каб яна была заўсёды пэрпэндыкулярна да роўніцы (плошчы) земнай орбіты (да экліптыкі), дык сонечныя праменьні падалі-б заўсёды на экватар адвесна, дзень усюды і цэлы год быў-бы роўны з ноччу, а на полюсах быў-бы вечны змрок. Калі-б земная вось ляжала ў роўніцы орбіты, застаючыся паверненаю адным канцом да Полярнай зоркі, тады быў-бы момант, калі ва ўсей паўночнай паўкулі быў-бы дзень і сонца ў поўдзень знаходзілася-б у зэніце над паўночным полюсам, а на ўсім паўднёвым—ноч; а затым настаў-бы другі момант, калі ўся паўднёвая паўкуля была-б асьветлена, а паўночная была-б у цяні. Ні таго ні другога на зямлі не наглядаецца, адсюль выходзіць, што земная вось нахілена да роўніцы орбіты. Калі-б нахіл земнай восі мяняўся, дык Полярная зорка мяняла-б сваё палажэньне над горызонтам, мяняліся-б і шляхі зор, чаго таксама нідзе і ніколі ня бывае.

Такім чынам *нахіл і палажэньне земнай восі* за ўвесь час гадовага руху зямлі *застаецца нязьменным*: увесь час яна накіравана паўночным полюсам да Полярнай зоркі, а паўднёвым—да супроцьлеглага

*) Усе целы, якія хутка рухаюцца па кругу, імкнуцца адляцець у бок у напрамку лініі, датычнай (касацельнай) да гэтага круга. На земную кулю дзейнічаюць дзьве сілы: адна (сіла цягаценьня) цагне зямлю да сонца, якое шмат большае за зямлю, другая адцягвае зямлю ад сонца. Сілы гэтыя роўныя, таму зямля, як і іншыя плянэты, ня падае на сонца і не адлятае ад яго.

пункту на небе: астранамічнымі вымярэньнямі ўстаноўлена, што земная вось, утварае з роўніцаю орбіты кут у 66$^1/_2$ градусы і адхілена ад пэрпэндыкулярнага палажэньня на 23$^1/_2$ градусы. Ад нахілу і нязьменнага палажэньня земнай восі адбываецца зьмена пор году, розьніца ў даўжыні дзён і ночаў на розных шыротах і розьніца цеплавых паясоў, на якія дзеліцца паверхня земнай кулі. Калі-б нахіл земнай восі быў іншым, чым цяпер, дык сонечнае цяпло і сьвет на зямлі разьмяркоўваліся-б інакш і ўвесь малюнак прыроды і жыцьця людзей на зямлі быў-бы другі.

Разгледзім уважліва малюнак 7, паясьняючы зьмену пораў году.

Заўважым, што сонца асьвятляе толькі палову земнай кулі і што сонца ў поўдзень бывае ў зэніце, інакш кажучы, праменьні яго падаюць на зямлю адвесна толькі ў межах між дзьвюма паралелямі, якія знаходзяцца кожная на 23$^1/_2$° на поўнач і на поўдзень ад экватару. Паўночная паралель завецца *паўночным* тропікам, альбо тропікам *Рака* (сузор'е), паўднёвая—паўднёвым тропікам альбо тропікам *Казярога* (сузор'е). Акрамя тропікаў, заўважым на земнай кулі яшчэ дзьве паралелі; паўночны полярны круг, які ляжыць на 66$^1/_2$ градусаў ад экватару і на 23$^1/_2$° ад паўночнага полюса, і паўднёвы полярны круг, які знаходзіцца на такіх-жа адлегласьцях ад экватару і паўднёвага полюсу.

22 чэрвеня зямля знаходзіцца на левым канцы доўгай восі орбіты (гл. мал. 7, фіг. I), сонечныя праменьні падаюць адвесна на паўночны тропік, уся прастора ўнутры паўночнага полярнага кругу асьветлена, а нутро паўднёвага полярнага кругу знаходзіцца ў цяні. У гэты дзень на паўночным полярным крузе сонца застаецца на небе 24 гадзіны і ў палове ночы сьвеціць з поўначы, а на паўднёвым полярным крузе столькі-ж часу цягнецца ноч. Такім чынам полярныя кругі—гэта такія паралелі, на якіх раз у год дзень і ноч цягнуцца цэлыя суткі. 22 чэрвеня ў паўночнай паўкулі пачынаецца лета, а ў паўднёвай—зіма. Паўночная паўкуля летам больш асьветлена сонцам, чым паўднёвая, сонца ў поўдзень падымаецца вышэй, дзень даўжэй ночы, але паступова ўбывее.

Каля 23 верасьня зямля будзе на ніжэйшым (гл. мал. 7, фіг. II) канцы кароткай восі орбіты. Сонечныя праменьні ў гэты час падаюць адвесна на экватар, мяжа паміж асьветленаю і неасьветленаю часткаю зямной кулі праходзіць праз полюсы і на ўсёй зямлі дзень будзе ровен ночы (асеньняе роўнадзенства). У паўночнай паўкулі пачынаецца восень, і дні паступова ўбываюць, а ў паўднёвай—вясна.

22-га сьнежня зямля прыдзе на правы (гл. мал. 7, фіг. III) канец доўгай восі орбіты. Сонечныя праменьні ў гэты час падаюць адвесна на паўднёвы тропік і разьмеркаваньне сьвятла і цяпла атрымоўваецца адваротнае таму, якое было ў чэрвені: паўднёвая паўкуля больш асьветлена і больш саграецца сонцам, чым паўночная. У паўночнай паўкулі пачынаецца зіма, але дні паступова прыбываюць, а ў паўднёвай—лета.

21 сакавіка (асеньняе роўнадзенства) зямля прыдзе ў пункт орбіты, процілеглы асеньняй (глядзі мал. 7, фігуру IV) на верхнім канцы кароткай восі. Сонечныя праменьні ў гэты час падаюць адвесна на экватар і ўсюды дзень будзе роўны ночы. У паўночнай паўкулі пачынаецца вясна, паўднёвая вышыня сонца павялічваецца і дні прыбываюць, а ў паўднёвай—пачынаецца восень.

Хоць на экватары паўднёвыя сонечныя праменьні падаюць адвесна толькі два разы ў годзе, але дзень заўсёды роўны ночы, таму экватар завуць роўнадзеннай лініяй.

### б) Цеплавыя паясы.

З прычыны нахіленасьці земнай восі, на розныя месцы паверхні зямлі сонечныя праменьні падаюць пад рознымі вугламі, таму асьвятляюць і саграюць зямлю неаднолькава. Чым больш напрамак праменьняў набліжаецца да адвеснага, тым больш дадзеная плошча атрымоўвае цяплыні. Вядома, што раніцаю і ўвечары сонечныя праменьні ўтвараюць з зямною паверхняю вострыя вуглы і грэюць шмат слабей, чым у поўдзень, калі вуглы іх падзеньня шмат большыя. Пучкі сонечных праменьняў аднолькавай таўшчыні каля полюсаў ахопяць шмат больш месца, чым каля экватару, і таму будуць награваць зямлю слабей (мал. 8).




**Мал. 8. Верхні пучок праменьняў захоплівае больш месца, чым ніжні, хоць абодвы пучкі маюць аднолькавую шырыню.**

Апроч вышыні сонца, награваньне зямлі залежыць ад даўжыні дня і ночы: зямля нграецца толькі ўдзень, а ўночы толькі астые. Летам у нас горача таму, што сонца ходзіць высока, бываюць доўгія дні і кароткія ночы. Зімою ў нас холадна таму, што сонца падымаецца нявысока і слаба награе зямлю, якая моцна астые за доўгую зімовую ноч.




Мал. 10. Пяць кліматычных паясоў.

У залежнасьці ад кута падзеньня праменьняў земная паверхня дзеліцца на 5 цеплавых паясоў: гарачы або тропічны, два мерных і два халодных (гл. мал. 9).

Гарачы або тропічны пояс ляжыць паабапал экватару паміж паўночным і паўднёвым тропікамі, займаючы 0,4 усяе паверхні зямлі. Награваемы адвеснымі або ўтвараючымі з паверхняю зямлі вялікія куты сонечнымі праменьнямі гарачы пояс атрымоўвае найбольшую колькасьць цяплыні. Над кожным месцам гэтага поясу сонца два разы ў год бывае ў зэніце (над галавою). На экватары паўдзённае сонца ня бывае над горызонтам ніжэй 66,5°, інакш кажучы, бывае вышэй чым у Ленінградзе 22 чэрвеня. На ўскрайках гарачага поясу (каля тропікаў) найменшая паўдзённая вышыня сонца амаль такая-ж як у Ленінградзе і Маскве ў час роўнадзенства. У нас паўднёвыя схілы гор і ўзгоркаў лепш награюцца сонцам. Расьліннасьць на іх будзе багацейшая, чым на паўночных схілах. У гарачым-жа поясе, у выніку вялікай вышыні сонца, такой розьніцы не заўважваецца.

На экватары на працягу ўсяго году дзень і ноч роўныя, а на тропіках даўжыня самага кароткага дня $10^1/_2$ гадз. Зімы ў гарачым поясе ня бывае, там заўсёды цяплей, чым у нас летам, і сьнег выпадае толькі на вельмі высокіх горах.

Між тропікамі і полярнымі кругамі ляжаць мерныя паясы—паўночны і паўднёвы. Яны займаюць $^1/_2$ паверхні зямной кулі. У мерных паясох сонца нідзе ня бывае ў зэніце (над галавою) і кут падзеньня сонечных праменьняў зьмяншаецца з набліжэньнем да полярных кругоў.

У тым-жа напрамку ўбывае гадавая колькасьць сонечнай цяплыні. У бліжэйшых да тропікаў частках мерных паясоў (у падтропічных) амаль таксама цёпла, як і ў гарачым поясе, але чым далей ад тропікаў, тым становіцца халадней і зімою замярзае вада. З прычыны таго, што паўдзённая вышыня сонца і даўжыня яго дзённага шляху ў працягу году ў мерных паясох моцна зьменьваецца, дык тут прыкметна большая розьніца паміж цёплымі і халоднымі месяцамі і адбываецца зьмена пораў году: вясны, лета, восені, зімы. Калі ў паўночным мерным поясе бывае лета і восень, у паўднёвым—зіма і вясна. Чым бліжэй да полярных кругоў, тым больш халодным становіцца лета, даўжэйшымі і больш суровымі робяцца зімы, карацейшымі, летнія і даўжэйшымі зімнія ночы. Па суседзтве з паўночным тропікам найдаўжэйшы дзень—$13^1/_2$ гадзін, у Ленінградзе—$18^1/_2$ гадз.

Халодныя паясы—паўночны і паўднёвы ляжаць унутры полярных кругаў, займаючы каля 0,1 усёй паверхні зямлі. Зімою сонца сюды не заглядвае: суткі на полярных кругох (калі ня відаць сонца) бываюць больш 2-х месяцаў на 70-й паралеі, больш 4-х м-цаў—на 80-й і паўгода на полюсах. Праўда, летам сонца столькі-ж часу не заходзіць і ў палове ночы сьвеціць з поўначы. Але падымаецца сонца ў полярных краёх нявысока; яго косыя праменьні коўзаюцца па зямлі і не пасьпяваюць як сьлед нагрэць зямлю і мора. Таму навокал полюсаў ляжаць на сухазем'і і плаваюць па моры вечныя сьнягі і лёд.

„Я. И. Руднев“ стар. 35—42

## 7. Паняцьце аб сонечнай сыстэме.

*(Да V разьдзелу пляну).*

Сонца, плянэты і іх спадарожнікі. ...Наша зямля, сонца, месяц і зоры знаходзяцца ў бясконцым і беспавятровым сусьветным прасторы.

А. Сонца.

Сонца, якое абагравае і асьвятляе зямлю, з зямлі здаецца плоскім кругам, але яно мае форму кулі. Разглядаючы сонца праз цьмяное шкло, мы заўважым на ім цёмныя плямы, якія паволі рухаюцца з заходняга краю да ўсходняга, хаваюцца і праз 25—28 сутак зьяўляюцца на тым-жа месцы, дзе былі раней. Плямы маюць лейкападобную форму і зьяўляюцца ў выніку віхравых рухаў у матэрыі сонца. Плямы то прападаюць, то зьяўляюцца зноў—у найбольшай колькасьці праз кожныя 11 гадоў. Месцамі на паверхні сонца зьяўляюцца вялізарныя выступы (протубэранцы)—вынік выбухаў распаленых газаў. Праз тэлескоп паверхня сонца здаецца ўкрытай бліскучымі зярнятамі ад 200 да 2.000 *км* у папярочніку (гэтыя памеры вылічаны астрономамі). Зярняткі гэтыя то хутка растуць, то зноў зьяўляюцца, як воблакі над зямлёю. Але гэтыя сонечныя воблакі складаюцца не з вадзяное пары, а з распаленых газаў і даюць зямлі сьвятло і цяплыню. Колькасьць цяплыні, якую дае зямлі сонца, за год магла-б растапіць на паверхні зямной кулі пласт лёду 24-мэтравай таўшчыні.

Рух сонечных плям даводзіць, што сонца, як і зямля, круціцца наўкола восі; а з прычыны таго, што яно пры гэтым заўсёды мае выгляд круга, робяць вывад, што сонца мае форму кулі. Куля сонца вельмі вялікая: яна амаль у 1.300.000 разоў большая за зямлю*).

Зямля ў параўнаньні з сонцам здалася-б дробненькай гарошынкай побач з гарбузом. Сонца здаецца нам невялікім таму, што яно аддалена ад зямлі на 149.000.000 кілёмэтраў. На праезд гэтай адлегласьці з хуткасьцю 100 кілёмэтраў за гадзіну патрабавалася-б бесьперапыннай язды каля 150 гадоў. Знарад гарматы, пралятаючы $1/2$ кілёмэтра ў сэкунду, даляцеў-бы да сонца з зямлі толькі праз 20 з лішнім гадоў.

Тэмпэратура сонца (6.000°) вышэй тэй тэмпэратуры, пры якой усе вядомыя нам цьвёрдыя целы ня толькі растопліваюцца, але ператвараюцца ў газы**). Таму ўсе матэрыі на сонцы знаходзяцца ў стане распаленых газаў. Сонца складзена з такіх-жа мэталяў, газаў і іншых матэрый, якія маюцца на зямлі.

Сонечная энэргія—яго цяплыня і сьвятло—зьяўляюцца крыніцамі руху і жыцьця на паверхні зямлі. Сонца награвае ваду ў морах, акіянах і зьяўляецца прычынаю ўтварэньня воблакаў і хмар; яно награ-

---

*) Маса сонца (вага яго) толькі ў 329.000 разоў большая за масу зямлі.

**) Жалеза топіцца пры 1600°, плаціна пры 1800°, пры 3500° большасьць цьвёрдых цел пераходзіць у распалены газападобны стан.

вае паветра і зьяўляецца прычынаю ветру, які разносіць па зямлі воблакі і хмары, з якіх падае дождж і сьнег, якія ў сваю чаргу даюць ваду для рэк і вазёр на зямлі. Бяз сонечнае цяплыні і сьвятла ня могуць жыць ні расьліны, ні жывёлы, ні людзі. Сонечная цяплыня і вытвараная ёю работа выражаецца сотнямі тысяч мільярдаў конскіх сіл.

### б) Плянэты.

Наўкола сонца рухаюцца на рознай адлегласьці кулявідныя нябесныя целы—*плянэты.* Шляхі плянэт навокал сонца ўяўляюць з сябе амаль кругі і завуцца *орбітамі.* Шляхі ўсіх плянэт ляжаць у аднэй роўніцы (плошчы), якая завецца *экліптыкай.* Наша зямля—адна з такіх плянэт і разам з імі рухаецца навакол сонца. Асьвятляемыя сонцам плянэты здаюцца з зямлі зорамі і па выглядзе мала ад іх адрозьніваюцца.

Галоўная прыкметная для вока розьніца плянэт у тым, што яны ў працягу году мяняюць сваё палажэньне між зорамі, таму і назвалі іх старадаўныя грэкі плянэтамі, інакш *блудзячымі.* Завуцца плянэты імёнамі старадаўніх рымскіх багоў. З зямлі простым вокам відаць пяць плянэт (Мэркуры, Вэнэра, Марс, Юпітэр і Сатурн). Наша зямля з другой плянэты здалася-б нам невялікім нябесным сьвяцілам. Ад сонца плянэты ідуць у такім парадку: 1) Мэркуры, 2) Вэнэра, 3) Зямля, 4) Марс, 5) малыя плянэты—іх некалькі сот, 6) Юпітэр, 7) Сатурн, 8) Уран, 9) Нэптун. Бліжэйшая да сонца плянэта Мэркуры робіць поўны абыход навокал сонца ў 88 земных сутак. Час павароту зямлі навокал сонца—365 сутак 6 гадзін, ці год. Нэптун, які ад сонца ў 31 раз з лішкам далей, чым зямля, робіць свой абыход у 165 земных год. Памеры ўсіх плянэт у параўнаньні з сонцам нязначныя *). Самая большая плянэта—Юпітэр, папярочнік якога ў 11 разоў даўжэйшы зямнага, робіць свой шлях навокал сонца амаль у 12 год. Паверхня Юпітэра, відаць, яшчэ ня зусім астыла, і, апроч сонечнага водблеску, ён сьвеціць уласным слабым сьвятлом. Яшчэ менш астыў Сатурн, паверхня якога знаходзіцца ў растопленым стане. Наша



Мал. 10. Разьмяшчэньне орбіт плянэт у сонечнай сыстэме. Адносная адлегласьць не адпавядае сапраўднасьці.

*) Агульная маса (вага) усіх плянэт каля $\frac{14}{10000}$ масы сонца.

зямля па велічыні роўна Вэнэры, большая за Марс і Мэркуры і меншая за ўсе іншыя вялікія плянэты.

Вэнэра мае цьвёрдую паверхню і абкружана атмосфэраю. Гэту плянэту можна бачыць адразу пасьля захаду і перад усходам сонца ў выглядзе яркай, блакітнаватай, прыгожай зоркі (ранішняя і вячэрняя зорка). Усе плянэты верцяцца навакол сваіх восяй, але даўжыня сутак не на ўсіх плянэтах раўняецца 24 гадзінам. Толькі ў Марса суткі *крыху* даўжэйшыя за земныя. І наогул гэта плянэта больш другіх падобна на зямлю. (Глядзі мал. 10).

### в) Спадарожнікі плянэт.

**Месяц**. Наўкола ўсіх вялікіх плянэт, акрамя Мэркурыя і Вэнэры верцяцца, падобна да таго, як плянэты наўкола сонца, невялікія (параўнаўча з імі) кулявідныя целы, якія завуцца *спадарожнікамі*.




Мал. 11. Тлумачэньне паходжаньня фазаў месяцу.

У Юпітэра 9 спадарожнікаў, з якіх рух 4-х можна бачыць праз добры бінокль; Сатурн абкружаны плоскім колам дробных спадарожнікаў. Спадарожнік зямлі — месяц. Ён верціцца навокал зямлі і ў той-жа час рухаецца разам з зямлёю навокал сонца. Калі паглядзець на месяц праз бінокль, дык лёгка ўпэўніцца, што ён мае кулявідную форму. Куля месяца ў 50 разоў меншая, чым куля зямлі. Месяц—самае блізкае да зямлі нябеснае цела. Адлегласьць месяца ад зямлі—380.000 кілёмэтраў (60 земных радыусаў). Месяц нам здаецца сьветлым таму, што асьвятляецца сонцам. Адны месцы на месяцы асьветлены больш, другія менш. Сьветлыя плямы—гэта ўзвышшы і горы, а цёмныя—нізіны і катлавіны. Свой шлях навокал зямлі месяц праходзіць за $27^1/_2$ сутак, прычым за гэты час толькі адзін раз паварочваецца навокал сваёй восі, таму з зямлі відна толькі адна палова месяца.

Такім чынам дзень на месяцы цягнецца амаль 14 сутак і столькі-ж часу цягнецца ноч. Асьветленая палова месяца за гэты час моцна награецца, а неасьветленая астывае. На месяцы няма паветра, вады і іншых вадкасьцяў, інакш яны, выпарваючыся, утваралі-б воблакі. З зямлі месяца спачатку ня відаць, потым ён паказваецца ў выглядзе

сьветлага сярпа, паверненага пукатым бокам на захад (маладзік), затым паўкруга (1-я чвэртка), круга (поўнік), паўкруга, паверненага пукатым бокам на ўсход (апошняя чвэртка). Гэтыя перамены завуцца *фазамі месяца*. Яны тлумачацца тым, што месяц, рухаючыся навокал зямлі, прымае розныя палажэньні адносна зямлі і сонца, у выніку чаго з зямлі мы бачым, то ўсю асьветленую сонцам палавіну (поўнік), то частку гэтай палавіны (1-я і апошняя чвэртка) у выглядзе поўкруга і сярпа (глядзі мал. 11).

**Зацямненьні сонца і месяца** бываюць тады, калі сонца, зямля і месяц знаходзяцца на аднэй простай лініі. Пры сонечным зацямненьні месяц знаходзіцца паміж зямлёю і сонцам, засланяючы сонца; пры зацямненьні месяца—зямля засланяе сонца ад месяца і кідае на яго (месяц) свой цень.

Месяц сваім прыцягненьнем падымае ваду ў морах і акіянах, утвараючы *прылівы* ў адных мясцох і *адлівы*—у другіх. Прылівы і адлівы маюць важнае значэньне для суднаходзтва.

Да сонечнай сыстэмы належаць, акрамя плянэт і іх спадарожнікаў, яшчэ *комэты* і *падаючыя зоры*. Комэты рэдка зьяўляюцца на небе ў выглядзе празрыстага сьветлага ядра, з больш ці менш доўгім сьвецячымся хвастом. Комэты рухаюцца навокал сонца, то блізка падыходзячы да яго, то адыходзячы на вялічэзныя адлегласьці, адны комэты зноў варочаюцца, другія гінуць бясьсьледна. Падаючыя зоры, якія мы часта бачым, гэта невялічкія асколкі магчыма разбуранай плянэты, якія, пападаючы ў земную атмосфэру, ад трэньня наясьніваюцца і сьвецяцца. Некаторыя з гэтых асколкаў іншы раз падаюць на зямлю і завуцца *аэролітамі* (паветравымі каменьнямі). Аэроліты складаюцца звычайна або з чыстага жалеза, або з жалеза, зьлітага з каменьнямі.

### г) Зоры.

Сонечная сыстэма, інакш сонца з плянэтамі, знаходзіцца на вялічэзнай адлегласьці ад зор. Адлегласьці гэтыя такія вялікія, што вымяраюцца хуткасьцю сьвятла, якое пралятае 300.000 кілёмэтраў у сэкунду. Ад сонца да зямлі сьвятло даходзіць у 8 мінут, ад бліжэйшай зары—праз $4^{1}/_{2}$ гады, ад Полярнай—праз 47 гадоў; ёсьць зоры, ад якіх сьвет бяжыць па тысячы гадоў і больш. Мы бачым зоры не такімі, якімі яны здаюцца ў данаю хвіліну, а якімі былі раней. Іншая зорка можа ўжо згасла, але сьвятло ад яе ідзе да нас і мы яе бачым.

Простым вокам відаць на небе каля 6.000 зор, а праз тэлескоп (вялікія падзорныя трубы) іх налічваецца больш 100 мільёнаў. Разсеены зоры на небе няроўнамерна. У адных мясцох іх мала або няма зусім, у другіх—вельмі шмат. Туманная паласа, якая завецца *млечным шляхам* і якая аперазае неба з захаду на ўсход, складзена з бясконцага ліку зор. Зоры—такія-ж распаленыя самасьвецячыя кулі, як і сонца. Ёсьць зоры, якія ня толькі ў 100 разоў (зара Сірыус), але ў

мільёны разоў большыя за сонца... На зорах ёсьць тыя-ж мэталі, газы і іншыя матэрыі, як на зямлі і на сонцы. Сусьвет збудаваны, так сказаць, з аднаго матэрыялу.

„Я. И. Руднев", стар. 48—49.

### Паходжаньне зямлі і яе абалонак.

*(Да разьдзелу VI пляну).*

З таго, што мы ведаем аб фізычным стане сонца і плянэт, можна зрабіць вывад, што целы сонечнай сыстэмы аднаго паходжаньня і знаходзяцца на розных ступенях свайго агульнага разьвіцьця і паступовага ахалоджваньня. Сонца—вадкая і газападобная куля, але, відаць, ужо крыху ахалоджаная, бо яно сьвеціць ня белым, а жаўтаватым колерам. Наступную ступень ахалоджаньня прадстаўляюць Сатурн і Юпітэр, паверхня якіх хоць і пакрылася цьвярдою абалонкаю, але яны яшчэ сьвецяць. Трэцюю ступень прадстаўляюць плянэты (Вэнэра, Марс), на якіх утварылася цьвёрдая кара, акіяны, атмосфэра, а на зямлі ўзьнікла жыцьцё расьлін і жывёл. З плянэт Марс, відаць, ужо старэе, і акіяны на ім зьнікаюць. Нарэшце такія целы, як Мэркуры і месяц, ужо састарэліся, вады і паветра на іх няма, ня можа быць і жыцьця.

Думаюць, што ўсе целы сонечнай сыстэмы ўтварыліся з вадкае газападобнае матэрыі*).

Зямля, аддзяліўшыся ад сонца, была калісьці распаленым газападобным целам, маленькаю зоркаю, якая сьвяціла і грэла, як сонца. Паступова астываючы, зямля ператварылася ў агнёвавадкую кулю, на паверхні якой утварылася тонкая кара. Пад напорам газаў гэта кара часта разрывалася і расьсякалася шчылінамі, праз якія выліваліся, а потым застывалі растопленыя масы, даючы пачатак узвышшам на зямлі; адны часткі першапачатковай зямной кары апускаліся і ўтваралі ўпадзіны, другія падымаліся.

Са зьяўленьнем зямнай кары над ёю зьявілася газападобная абалонка ці першапачатковая атмосфэра, якая складалася з розных матэрый, потым—паветра, а ў ім вадзяная пара. Пара згушчалася ў хмары і падала на зямлю дажджом. Дождж спачатку выпараўся, даткнуўшыся гарачай кары, зноў ператвараўся ў хмары, якія засьцілалі сонца. Але з цягам часу нізкія месцы на зямлі паступова запоў-

*) Думка аб тым, што зямля знаходзілася ў агнявавадкім стане, была выказана ў XVII стагодзьдзі вучонымі Дэкартам і Лейбніцам. У XVIII ст. Кант і Ляплас, незалежна адзін ад другога, распрацавалі гіпотэзу (навуковае дапушчэньне) аб паходжаньні сонечнай сыстэмы. Гэта гіпотэза навучае, што пярвічная газападобная маса ўтварыла кулю, якая ў выніку хуткага кручэньня руху сплюшчылася каля полюсаў і аддзяліла на экватары некалькі колаў, якія разарваліся і ўтварылі плянэты. Плянэты рухаюцца навокал цэнтральнага ядра альбо сонца ў ранейшым напрамку. З прычыны таго, што спадарожнікі некаторых плянэт рухаюцца ў адваротным напрамку, дык пытаньне аб паходжаньні сонечнай сыстэмы і ў сучасны момант распрацоўваецца навукай.

ніліся гарачаю салонаю вадою, утварыўшаю першыя моры і акіяны. З цягам часу астыла земная кара і воды першапачатковых мораў і акіянаў. Атмосфэра аслабанілася ад лішкаў вадзяной пары, і сонечныя праменьні сталі асьвятляць і абаграваць зямлю. Тады ў вадзе і на сухазем'і зьявіліся і пачалі сваё разьвіцьцё расьліны і жывёлы. Але і пасьля гэтага розныя часткі земнай кары то ўздымаліся, то апушчаліся,ператвараючыся то ў мора, то ў сухазем'е. Прайшлі сотні мільёнаў гадоў, пакуль паверхня зямлі прыняла свой сучасны выгляд і склаліся тры асноўныя абалонкі зямной кулі: сухазем'е, вада, паветра і, нарэшце, чацьвертая абалонка—расьлінны і жывёльны сьвет.

Гэтыя абалонкі земнай кулі паміж сабою цесна зьвязаны і робяць адна на другую ўзаемны ўплыў. Нутро земнай кулі яшчэ застаецца ў распаленым стане, што даказваецца гарачымі крыніцамі, вульканічнымі выбухамі і хуткім нарастаньнем тэмпэратуры з глыбінёю. На зямлі адбываюцца зямлятрасеньні і павольныя апусканьні частак земнай кары. У залежнасьці ад будовы земнай кулі, ад ваганьняў тэмпэратуры, працы ветру, вады і лёду, жыцьцёвай дзейнасьці расьлін, жывёл і людзей, від земнай паверхні—„зямлі“—працягвае бесьперапынна мяняцца.

# ЗЬМЕСТ

